# Партал ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны”




***tbm-mova.by***

# ЛЕТАПІС

## дзейнасці Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”

## 2009 - 2014

Менск
2014

УДК
ББК

Інфармацыйна - даведачнае выданне.

**Летапіс Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”. 2009 - 2014.**

Сабраны Сакратарыятам ТБМ паводле звестак, знойдзеных у СМІ, у архівах арганізацый Таварыства, у пратаколах з’ездаў, радаў і сакратарыятаў. Утрымоўвае інфармацыю пра дзейнасць ТБМ за перыяд ад 23 ліпеня 2009 года да 27 чэрвеня 2014 года - 25-х угодкаў ТБМ. — Мн., 2014. 168 с. Размножана на правах рукапісу.

Укладальнік: Святлана Багданкевіч.
Рэдактар: Алег Трусаў.
Тэхнічны рэдактар: Станіслаў Суднік.

***Летапіс дзейнасці Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". 2009 - 2014 -*** *гэта фактычна 3-е выданне "Летапісу ТБМ". Першая спроба такога выдання была зроблена да 15-годдзя Таварыства. Другое выданне выйшла да 20-годдзя ТБМ. У сёлетнім выданні было вырашана не паўтараць дастаткова поўнае 2-е выданне, а сканцэнтравацца на дзейнасці ТБМ у наступныя пасля 20-годдзя пяць гадоў, тым больш, што тэрмін у пяць гадоў можна паказаць больш поўна і аб'ектыўна. У перспектыве плануецца выдаваць летапісы кожныя пяць гадоў, каб паспрабаваць выдаць "Поўны летапіс ТБМ" за 50 гадоў, а можа, і "Энцыклапедыю ТБМ".*

*Асноўнымі крыніцамі для складання 3-га выдання "Летапісу..." зноў служылі сродкі масавай інфармацыі і ў першую чаргу газета "Наша слова". Таму пераважная большасць падзей, пра якія пісала газета, знайшла сваё адлюстраванне ў "Летапісе...". Выкарыстоўваліся таксама газета "Новы час", стужка навінаў БелаПАН, інтэрнэт-сайты СМІ і грамадскіх арганізацый. Выкарыстоўвалася інфармацыя, прадстаўленая кіраўнікамі арганізацый ТБМ з месцаў.*

*Безумоўна, не так проста ўлажыць у кароткія радкі кронікі штодзённую дзейнасць кожнай арганізацыі і кожнага сябра Таварыства. Нельга адлюстраваць уплыў*

*Таварыства на беларускае грамадства або яго аўтарытэт у краіне. Але зусім відавочна, што падсумаванне дзейнасці ТБМ, якое ўдаецца рабіць у "Летапісах...", павінна меець значную карысць для наступнага планавання і ажыццяўлення новых мерапрыемстваў. З дапамогай "Летапісаў..." кожны кіраўнік арганізацыі, кожны сябар ТБМ можа дастаткова лёгка з'арыентавацца ў агульнай сітуацыі, якая складваецца з беларускай мовай у краіне, разабрацца, якія ініцыятывы і мерапрыемствы ТБМ мелі станоўчыя наступствы, якія правалiлiся з-за недахопу сілаў, што можна і пажадана зрабіць у кожным сектары грамадскага жыцця, што можа зрабіць канкрэтная арганізацыя, што можа зрабіць кожны шараговы сябар арганізацыі.*

*Ясна, што гэтым "Летапісам ..." мы падводзім яшчэ адну даволі выразную рысу ўжо пад 25-гадовай гісторыяй змагання за мову. Так гэтыя 25 гадоў - ужо гісторыя. Але яны - і тая платформа, адштурхнуўшыся ад якой, ТБМ пойдзе далей.*

*Трэба адзначыць, што ТБМ - адзіная грамадская арганізацыя ў сённяшняй Беларусі, якая здолела зрабіць свой 25-гадовы жыццяпіс. І трэба таксама засведчыць, што гэты жыццяпіс - не пералік заяваў і пастановаў, а кроніка менавіта дзейнасці і дзеянняў, не прычытанняў на тэму: "Мова гіне", а канкрэтных справаў па яе абароне, папулярызацыі, развіцці.*

*У якасці дадатку ў кнізе змешчаны артыкул доктара гістарычных навук, прафесара Леаніда Лыча "Таварыству беларускай мовы - 25 гадоў!".*

# *2009 год*

**23 ліпеня** да Старшыні ТБМ Алега Трусава звярнуўся са скаргай актыўны сябар ТБМ, вядомы мовазнаўца і педагог Вінцук Вячорка аб пераследзе па моўнай прыкмеце яго сына Францішка Вячоркі, які праходзіць тэрміновую службу ў войску ў горадзе Мазыры. ТБМ, паводле Статута *"...прадстаўляе і абараняе правы і законныя інтарэсы сваіх сяброў у дзяржаўных, гаспадарчых і грамадскіх органах і іншых арганізацыях"*.

Францішак Вячорка, сябра ТБМ, беларускамоўны юнак і ў войску выкарыстоўваў сваё канстытуцыйнае права карыстацца адной з дзвюх дзяржаўных моў - сваёй роднай беларускай, аддаваў каманды па-беларуску. За такія свае паводзіны ў рускамоўным войску Ф. Вячорка атрымліваў зняваґі і абразы, дысцыплінарныя спагнанні, пагрозы, пакаранні, адчуваў пастаянны псіхалагічны ціск. У беларускім войску не было на той час беларускамоўных версіяў Статутаў для Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь.

**24 ліпеня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з лістом да Міністра абароны Рэспублікі Беларусь сп. Л.С. Мальцава. Ён выказаў занепакоенасць у тым, што *"...нягледзячы на папярэднія абяцанні, у беларускім войску адсутнічаюць беларускамоўныя статуты, адпаведныя інструкцыі і слоўнікі, а дзяржаўная беларуская мова не толькі не выкарыстоўваецца, але часам і зневажаецца асобнымі вайскоўцамі"*. Старшыня ТБМ нагадаў, што ў 20-х гадах мінулага стагоддзя ў некаторых вайсковых частках на тэрыторыі БССР у Чырвонай Арміі беларуская мова выкарыстоўвалася вельмі шырока, так што славуты савецкі маршал Георгій Жукаў добра яе вывучыў, калі ў той час праходзіў вайсковую службу ў горадзе Слуцку. Пра гэта ён з гонарам пісаў у сваіх успамінах. Можа, і Міністру абароны РБ А.С. Мальцаву варта было б узяць прыклад з легендарнага маршала і перайсці на беларускую мову, тады і большасць афіцэраў і салдатаў на Беларусі будуць з павагай да яе ставіцца.

З лістом перасылаецца дадатак - заява В. Вячоркі.

**26 ліпеня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ праведзена традыцыйнае набажэнства ў памяць паўстанцаў 1863 года каля крыжоў паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі Лідскага раёна.

**19 жніўня** прыйшоў афіцыйны адказ на зварот Старшыні ТБМ

Алега Трусава з Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь за подпісам выканаўца абавязкаў памочніка Міністра абароны па ідэалагічнай рабоце ва Узброеных сілах, начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны палкоўніка У.М. Макарава.

У лісце паведамляецца, што ў Міністэрстве абароны разгледжаны зварот Старшыні ТБМ і праведзена праверка па ўсёй інфармацыі, выкладзенай ў ім.

Выснова такая, што *"ваеннае ведамства не можа пагадзіцца са сцверджаннем пра ігнараванне і непавагу да роднай мовы ў беларускім войску". "Тым больш,* - сцвярджае аўтар ліста, *- не адпавядаюць рэчаіснасці абвінавачванні ў пераследаванні вайскоўцаў за выкарыстанне беларускай мовы"*. Дысцыплінарнае ж спагнанне на радавога Вячорку Ф.В. *"накладзена не за ўжыванне ім беларускай мовы, а за нетактоўныя паводзіны са старэйшым па воінскім званні, няведанне і нежаданне выконваць патрабаванні агульнавайсковых статутаў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь"*.

Газета ТБМ "Наша слова" на пачатку навучальнага года надрукавала зварот старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы да настаўнікаў Беларусі. Асноўная тэма яе звароту - двухмоўе ў Беларусі. *"Я жыву ў двухмоўнай Канадзе*, - піша яна, - *і з сумам бачу розніцу між беларускім і канадскім двухмоўем"*. Калі ў Канадзе ангельскай і французскай мовам дадзены аднолькавы статус, і кожны канадзец можа дабіцца, чаго жадае, на адной з гэтых дзвюх галоўных моваў Канады, то ў Беларусі насамрэч няма двухмоўя. *"Калі беларус не можа карыстацца сваёй мовай у войску, у любой урадавай установе, у судзе, у шпіталі, у самалёце, у цягніку, калі трэба ведаць расейскую мову, каб зразумець, што гаворыць старшыня дзяржавы па тэлебачанні, або па-просту каб зразумець, пра што гаворыць беларускае радыё, справа тут не ў двухмоўі, а ў чужамоўнай акупацыі нашага краю"*. Спн. Сурвіла напамінае, што Старшыня Таварыства беларускай мовы нядаўна казаў, што хапіла б аднаго званка, каб адрадзіць нашу мову. *"Вы маглі б гэта зрабіць,* - звяртаецца яна да беларускіх настаўнікаў, *- нават без таго званка. Пакажыце прыкладам новаму пакаленню, што Вы паважаеце сваю мову, што любіце ўсё беларускае, што любіце свой прыгожы край, пакажыце Вашым вучням, што ЯНЫ могуць зрабіць, каб жыла беларуская Беларусь! Тады вашае жыццё не будзе змарнаванае, а Вашая праца станецца Вашым укладам у адраджэнне краю..." "Трэба ратаваць тое, што яшчэ засталося беларускім. Уключна з мовай, якую яшчэ МОЖАМ выратаваць"*.

**У жніўні** ў Лідзе выдадзены першы і адзіны ў свеце падручнік стэнаграфіі на беларускай мове. Аўтар - старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік. Навуковы рэдактар - доктар філалагічных навук, прафесар Павел Сцяцко. Лідскі каледж адзінае месца ў свеце, дзе ўжо шосты год чытаецца беларускамоўны курс стэнаграфіі.

**У жніўні** цераз Лідскую гарадскую арганізацыю ТБМ у Лідскі гістарычна-мастацкі музей перавезена калекцыя партрэтаў беларускіх пісьменнікаў з Менска.

**2 верасня** Сакратарыят ТБМ выказаў падзяку Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі за аказаную дапамогу пры падпісцы на беларускія выданні. Дзякуючы ФПБ Таварыства беларускай мовы падпісала на паўгода на газету "Наша слова" гімназію № 14 у Менску, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, гістарычна-археалагічны музей у Мсціславе, раённыя бібліятэкі ў г.п. Шуміліна, у гарадах Нясвіж, Крычаў, Любань, Нароўля, Жабінка, Кобрын, Буда-Кашалёва, Краснаполле і Мсціслаў.

З 1 верасня (на 4 месяцы) падпісаны ўсе беларускамоўныя школы і гімназіі ў Менску, а таксама бібліятэкі ў Ганцавічах, Маларыце, Століне, Бешанковічах, Дуброўне, Клецку, Старых Дарогах, Брагіне, Добрушы, Ельску, Калінкавічах, Рэчыцы, Хойніках, Чачэрску, Бабруйску, Бялынічах, Дрыбіне, Кіраўску, Чавусах, Магілёве, Клічаве і Клімавічах.

**15 верасня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшла сустрэча з Міхасём Скоблам і Крысцінай Лялько;

**15 верасня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ прайшлі сустрэчы ў Ёдкаўскай і Першамайскай школах з Міхасём Скоблам і Крысцінай Лялько;

**27 верасня** ў Менску прайшлі ўрачыстасці з нагоды 20-годдзя Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

У 11.00 пачалося працоўна-святочнае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ.

Рада ўшанавала хвілінай маўчання тых сяброў ТБМ, хто пайшоў ад нас за гэтыя 20 гадоў, заслухала даклад Старшыні ТБМ

Алега Трусава.

Рада Таварыства беларускай мовы прыняла шэраг зваротаў.

1. Зварот да Кіраўніка беларускай дзяржавы з прапановай уключыць на разгляд парламента змены ў Закон аб мовах.

2. Зварот да Кіраўніка беларускай дзяржавы пра абвяшчэнне 2010 года Годам роднай мовы.

3. Зварот да грамадзян Беларусі з нагоды Перапісу насельніцтва.

Рада прыняла пастанову аб зменах у складзе Сакратарыяту ТБМ.

Адбылося ўручэнне падзяк і юбілейных значкоў актывістам ТБМ. На Радзе шмат не гаварылася пра дзейнасць ТБМ за ўсе тыя 20 гадоў, таму што да юбілейнага паседжання быў выдадзены "Летапіс ТБМ. 1989-2009". Летапіс сабраны Сакратарыятам ТБМ і рэдакцыяй газеты "Наша слова" паводле звестак, знойдзеных у СМІ, у архівах арганізацый Таварыства, у пратаколах з'ездаў, радаў і сакратарыятаў. Ён утрымлівае інфармацыю пра дзейнасць ТБМ за перыяд ад Устаноўчага з'езду 27 чэрвеня 1989 года да 31 жніўня 2009 года.

Укладальнікі: С. Багданкевіч, Т. Вабішчэвіч, Ю. Карчагіна, І. Марачкіна, С. Суднік, А. Трусаў, Дз. Тушынкскі.

Рэдактар - Алег Трусаў.

На паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ быў прэзентаваны першы ў гісторыі навучальны дапаможнік па стэнаграфіі на беларускай мове. Аўтар дапаможніка - Станіслаў Суднік.

ТБМ праведзена велізарная праца па падрыхтоўцы да 20-годдзя. Акрамя летапісу быў выдадзены Статут ТБМ у апошняй рэдакцыі, са складам цяперашняй Рады; быў выдадзены юбілейны канверт, юбілейны каляндарык і юбілейны значок, былі надрукаваны спецыяльныя юбілейныя бланкі падзякаў.

Мастацкая частка ў 13.00 пачалася з паказу фільмаў пра трох старшыняў ТБМ: Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Алега Трусава, знятых у розныя часы, рознымі рэжысёрамі і аператарамі.

Пасля фільмаў выступілі: бард Аляксей Галіч і гурт "Тутэйшая шляхта".

Ад дыпламатычнага корпуса вітаў сяброў ТБМ (і на выдатнай беларускай мове) амбасадар Швецыі Стэфан Эрыксан.

**30 верасня** ў Лідскай цэнтральнай бібліятэцы прайшла прэзентацыя кнігі намесніка старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Міхася Мельніка “Лодка жыцця”. Бралі ўдзел каля 60 навучэнцаў Лідскага каледжа;

**6 кастрычніка** скончыла сваю працу юрыдычная школа ТБМ. Заняткі юрыдычнай школы "Ведаем свае правы" праходзілі на сядзібе арганізацыі з траўня месяца. Сябры Таварыства і проста зацікаўленыя асобы прыходзілі на сустрэчы з юрыстамі, каб вывучыць заканадаўства нашай краіны, прааналізаваць яго слабыя месцы, а такама абмеркаваць розныя жыццёвыя сітуацыі, звязаныя з моўнымі правамі. Адбыліся цікавыя і карысныя заняткі, прысвечаныя Перапісу, а таксама абмеркаванню эфектыўных формаў і метадаў у адстойванні сваіх моўных правоў. У часе практычных заняткаў былі распрацаваны розныя віды зваротаў грамадзян да дзяржаўных уладных структур, адказных асобаў, установ.

На апошнім занятку адбыўся круглы стол "Нашы прапановы па паляпшэнні моўнага заканадаўства". Абмеркаваны пытанні беларускай мовы ў банках, а таксама афармлення шыльдаў, інфармацыйных абвестак, якія ўтрымліваюць назвы чыгуначных станцый.

Усе прапановы былі запісаны і перададзены ў Сакратарыят ТБМ, каб іх можна было скарыстаць падчас далейшай практычнай дзейнасці арганізацыі.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да сяброў ТБМ праз газету "Наша слова" за **7 кастрычніка 2009 г**. з просьбай да 15 снежня пераслаць свае прапановы для ўключэння ў план работы ТБМ на наступны год, а таксама даслаць на рахунак арганізацыі сяброўскія складкі за год, хто яшчэ не зрабіў гэтага.

"Назаві беларускую мову роднай!" - з такім заклікам беларуская інтэлігенцыя звярнулася праз газету "Наша слова" (і іншыя СМІ) да грамадзянаў Беларусі напярэдадні чарговага перапісу насельніцтва, адным з пунктаў якога пастаўлена пытанне пра родную мову. У звароце падкрэслена, што "беларуская мова - гэта неад'емная частка нашай культуры і гарантыя нашай будычыні як унікальнага еўрапейскага народу". Звяртаецца ўвага на тое, што "адказ "беларуская" на пытанні перапісчыкаў аб роднай мове і мове штодзённага ўжытку мае не толькі сімвалічнае, але і практычнае значэнне. Ад колькасці людзей, якія ў адказах назавуць беларускую мову, будзе залежаць далейшая палітыка дзяржавы..."

Падпісаліся пад зваротам больш за 50 чалавек, вядомыя ў краіне людзі, пісьменнікі, навукоўцы, мастакі, музыканты, артысты. Радзім Гарэцкі, акадэмік НАН Беларусі, Рыгор Барадулін, Народны паэт Беларусі, Ніл Гілевіч, Народны паэт Беларусі, Генадзь Бураўкін, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, Алег Трусаў, Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны", Барыс Пятровіч, рэдактар

літаратурнага часопіса "Дзеяслоў", Зміцер Вайцюшкевіч, спявак, кампазітар, Аляксей Марачкін, кіраўнік творчай суполкі "Пагоня" пры Беларускім саюзе мастакоў, Андрусь Такінданг і гурт "Recha" і інш.

**8 кастрычніка** прыйшоў афіцыйны адказ на імя Старшыні ТБМ Алега Трусава. У ім паведамляецца, што Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сумесна з зацікаўленымі асобамі якраз прапрацоўвае пытанне аб тым, якой асноўнай тэматыцы будзе прысвечаны наступны год у краіне. "Прапановы Рады ТБМ будуць таксама разгледжаны" - абяцаў аўтар ліста сп. С.І. Буко.

Адказ неадназначны, таму грамадскія арганізацыі заклікалі грамадзян Беларусі падтрымаць гэтую ініцыятыву зборам подпісаў.

Абвяшчэнне наступнага года Годам роднай мовы мусіць пацягнуць за сабой распрацоўку і рэалізацыю на дзяржаўным узроўні канкрэтных захадаў па папулярызацыі беларускай мовы і беларуска-моўнай культуры ў грамадстве, пашырэнне сферы яе ўжытку. Калі б гэтую ідэю ўдалося ўвасобіць, яна магла б прынесці добры плён. Таму рабіліся ўсе гэтыя намаганні, якія, на жаль, аказаліся марнымі.

**14 кастрычніка** ў Беларусі пачаўся другі ў суверэннай гісторыі перапіс насельніцтва. Газета "Наша слова" ў гэты дзень прысвяціла першую паласу адзначанай падзеі. Тэкст, звернуты да чытачоў пададзены пад загалоўкам: "Назаві беларускую мову роднай!" Заклік гэты набывае значэнне лозунга для адстойвання роднай мовы ў працэсе перапісу. Тут даецца тлумачэнне, што такое "родная мова": не толькі "мова, засвоеная першай у раннім дзяцінстве", але мова нацыі, народа, да якога чалавек належыць. Чалавек мае магчымасць самастойна вызначаць сваю родную мову, прызнаючы беларускую мову роднай мовай, можа тым самым аказаць ёй так патрэбную ў наш час падтрымку. "Выкарыстайце магчымасць падтрымаць мову, якая зрабіла нас самабытнымі ў свеце". "Пацвердзім вернасць сваім продкам". "У будучыню маем ісці з беларускай мовай!" - заклікае беларусаў "Наша слова".

"Гэта патрэбна мне, маёй сям'і, маёй краіне", - так ставіцца да роднай беларускай мовы кожны грамадзянін Беларусі. Падчас перапісу ён павінен патрабаваць беларускамоўныя анкеты і не даць сябе ашукаць і заблытаць хітрымі пытаннямі, бо ў розных акалічнасцях не страчвае свайго права адказаць з годнасцю: "Я - беларус. Мова мая - беларуская. Краіна мая - Беларусь".

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Таварыства

беларускай мовы імя Францішка Скарыны распачалі **з 14 кастрычніка** кампанію па зборы подпісаў за абвяшчэнне наступнага года Годам роднай мовы.

Гэтая ініцыятыва была агучана на Пятым з'ездзе беларусаў свету і падтрымана Радай Таварыства беларускай мовы. "Бацькаўшчына" і ТБМ накіравалі зварот да Прэзідэнта Беларусі з тым, каб ён выдаў адпаведны ўказ.

**18 кастрычніка** Магілёўская гарадская арганізацыя ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" зладзіла чарговую вандроўку, удзел у якой прынялі каля 50 магілёўцаў. Падарожжа адбылося па маршруце Магілёў - Вейна - Гразівец - Лясная - Слаўгарад - Блакітная Крыніца - Магілёў. У праграму падарожжа ўвайшла сустрэча ў г. Слаўгарадзе з паэтам, публіцыстам Феліксам Шкірманковым, які прачытаў падчас сустрэчы некалькі сваіх вершаў, прысвечаных роздуму над лёсам краіны. Прысутныя скарысталіся магчымасцю набыць ягоныя паэтычныя кніжкі з аўтографам аўтара.

**21 кастрычніка** суполка "Рубон" Наваполацкай гарадской арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" і ініцыятыва "Будзьма" арганізавалі дзве сустрэчы з вядомым беларускім бардам Тацянай Беланогай: у гарадской гімназіі № 2 і ў бібліятэцы імя Якуба Коласа.

Падчас сустрэчаў Тацяна выконвала песні на ўласныя вершы, на вершы Марыі Беланогай, Яўгеніі Янішчыц, распавяла свой шлях да творчасці, беларускай мовы і літаратуры, пра свае вандроўкі і канцэрты па Беларусі і іншых шматлікіх краінах свету. Пад канец спявачка арганізавала гульню ў асацыяцыі. Тыя, хто выйграў, атрымалі падарункі ад ТБМ - дыскі, паштоўкі.

**24 кастрычніка** ў Вільні на 68 годзе жыцця памёр старшыня Таварыства беларускай мовы Віленскага краю Юры Гіль. У Літве цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў яго высілкамі шмат было зроблена па захаванні культурнай спадчыны і гістарычнай памяці беларусаў у гэтай краіне. Сакратарыят ТБМ выказаў спачуванне ўсёй Беларусі ў сувязі са смерцю яе вернага сына Юрыя Гіля. Усё жыццё ён працаваў і працаваў для Бацькаўшчыны. "Кожна год, кожны дзень, кожную хвіліну. Шмат зрабіў, шмат не дарабіў, упаў на адвечным шляху да сваёй Беларусі..."

**27 кастрычніка** ў Наваполацку адбылася прэзентацыя часопі-

са "Палітычная сфера", арганізаваная суполкай "Рубон" Наваполацкай гарадской арганізацыі ТБМ. Прэзентаваў часопіс яго рэдактар, палітолаг, аглядальнік, доктар паліталагічных навук Андрэй Казакевіч. У ходзе гэтага мерапрыемства была прэзентавана манаграфія Крысціны Гамулкі "Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фармаванняў".

Удзел у прэзентацыі прынялі больш, як 20 чалавек. Аўтары найлепшых пытанняў атрымалі ад А. Казакевіча і ТБМ кнігі і часопісы ў падарунак.

Магілёўская гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы сумесна з клубам "Натхненне" і гарадской Цэнтральнай бібліятэкай арганізавала кінаклуб, у рамках якога адзін раз у месяц ладзіцца прагляд беларускамоўных фільмаў і фільмаў проста ці ўскосна звязаных з гісторыяй нашай краіны. **29 кастрычніка** сябры кінаклуба мелі магчымасць паглядзець фільм "Катынь", у якім Анджэй Вайда распавядае аб масавым знішчэнні насельніцтва пасля раздзелу Польшчы паміж СССР і гітлераўскай Германіяй.

**У канцы кастрычніка** да Старшыні ТБМ Алега Трусава звярнуліся студэнты БДМУ (медыцынскага ўніверсітэта). "Даволі шмат студэнтаў у нашым універсітэце хочуць навучацца на беларускай мове, але галоўная нашая праблема - адсутнасць матэрыяльнай базы для навучання". Патрэбны падручнікі, метадычныя матэрыялы і дапаможнікі на беларускай мове; студэнты-стаматолагі не маюць распрацаванай стаматалагічнай тэрміналогіі (прафесійных слоўнікаў). Вось яны і звярнуліся ў Таварыства беларускай мовы па дапамогу.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст, у якім была выкладзена гэтая праблема, рэктару Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта сп. Беспальчуку П.І.

"Мы вельмі просім Вас забяспечыць стварэнне вучэбных матэрыялаў на беларускай мове і ў першую чаргу - тэрміналагічных слоўнікаў з базавай лексікай па кожнай дысцыпліне, зацверджанай вучэбным планам".

Адказ рэктара БДМУ сп. П.І. Беспальчука Старшыні Таварыства беларускай мовы ў цэлым станоўчы. Ён з разуменнем паставіўся да жадання студэнтаў вучыцца на роднай беларускай мове. Піша, што студэнты-стаматолагі могуць карыстацца (і карыстаюцца) беларускай мовай на занятках. Ёсць выкладчыкі, якія размаўляюць па-беларуску. У бібліятэцы ўніверсітэта налічваецца 7470 выданняў на беларускай мове, з іх 20 тычацца медыцынскай тэматыкі. Аднак спецыяльнага

слоўніка па стаматалагічнай тэрміналогіі там няма, яго папросту не існуе.

Гэтае пытанне разглядаецца на метадычнай камісіі стаматалагічных дысцыплін. Калі будзе прынятае станоўчае рашэнне наконт падрыхтоўкі і выдання слоўніка, працаваць над ім будуць і выкладчыкі, і тыя ж беларускамоўныя студэнты, запэўніў рэктар.

**Кастрычнік 2009 г.** Сябры Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў Наваполацку сведчаць аб тым, што пры правядзенні перапісу складваюцца ўмовы для парушэнння закона аб мовах. Перапісчыкі кажуць, што бланкаў перапісных лістоў на беларускай мове ў іх няма, да іх яны ўвогуле не паступалі. У гэтых абставінах беларускамоўных грамадзянаў угаворваюць згадзіцца на рускамоўныя перапісныя лісты.

Зусім інакшыя звесткі з Ліды.

Перапіс праведзены ў Лідскім дзіцячым доме, перапісаны 71 чалавек. На 40 чалавек запоўнены беларускамоўныя бланкі, на 31 - рускамоўныя. Выпадкаў, каб не было беларускамоўных бланкаў, у Лідзе пакуль не адзначана. Але часта ўзнікаюць праблемы іншага кшталту - людзі патрабуюць ад перапісчыкаў, каб тыя размаўлялі пабеларуску, што не для кожнага перапісчыка з'яўляецца лёгкай справай.

Па неафіцыйных звестках з лідскіх мікраraёнаў за першыя дні перапісу беларускую мову называюць роднай каля 70 адсоткаў апытаных.

**1 лістапада** ў Лідзе адбыўся бардаўскі канцэрт "Музычныя зазімкі". Выступалі Алесь Камоцкі, Зміцер Казлоўскі і Таццяна Беланогая. Паслухаць добрыя беларускія спевы прыйшло каля 80 чалавек. Сустрэча ладзілася моладзевым крылом Лідскай гарадской арганізацыі "ТБМ імя Ф. Скарыны" у межах кампаніі "Будзьма!"

**3 лістапада** ў сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны адбылася сустрэча грамадскасці з дырэктарам Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі доктарам філалагічных навук Аляксандрам Аляксандравічам Лукашанцам. Сустрэчы была запланавана ў межах дзеяння праекта "Дыялог", які ТБМ выконвае пры фінансавай падтрымцы Дзярждэпартамента ЗША, і які быў зарэгістраваны ў Дэпартаменце па гуманітарнай дапамозе Рэспублікі Беларусь напярэдадні 20-годдзя ТБМ.

Сустрэча са сп. Лукашанцам была прысвечана зменам у бела-

рускім правапісе. У сваім выступе А.А. Лукашанец закрануў пытанне пра складаныя абставіны развіцця беларускай мовы, грунтоўна распавёў прысутным аб усіх акалічнасцях фармавання яе сучаснай літаратурнай формы. Найбольшую частку сваёй прамовы Аляксандр Аляксандравіч адвёў для паведамлення пра тую працу, якая праводзілася навукоўцамі розных пакаленняў на працягу 20 стагоддзя па ўнармаванні беларускага правапісу. Напрыканцы свайго выступу сп. Лукашанец закрануў асобныя акалічнасці і вострыя пытанні, што мелі месца пры выпрацоўцы зменаў, пакладзеных у аснову Закона аб правапісе беларускай мовы, які ўступіць у дзеянне з верасня 2010 года. Разгляд канцэптуальных зменаў у правапісе дамоўлена перанесці на наступныя сустрэчы.

**4 лістапада** праз газету "Наша слова" сябры Рады ТБМ Фрунзенскага раёна г. Менска, а таксама сябры Сакратарыяту ТБМ імя Ф. Скарыны павіншавалі аднаго з сваіх найбольш адданых і актыўных сяброў - выкладчыка, кандыдата філалагічных навук Віктара Андрэевіча Бекіша з 80-гадовым юбілеем, адзначыўшы яго грамадскі чын падзякай. У артыкуле, прысвечаным юбіляру, яго жыццю і дзейнасці, аўтарства Лілеі Чэчат і Алеся Чэчата, асабліва адзначана ТБМ-аўская дзейнасць сп. Бекіша. У найбольш складаны для беларускай справы час ён узначаліў Фрунзенскую раённую арганізацыю ТБМ г. Менска (1997 - 2000 гг.). Прыклаў шмат намаганняў, каб зарэгістраваць яе ў органах выканаўчай улады, ажывіць працу суполак на прадпрыемствах і ў школах раёна. Пры ім арганізацыя вырасла колькасна, налічвала 680 чалавек.

**10 лістапада** ў сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны адбылося пасяджэнне моладзевага дыскусійнага клуба на тэму "Эканамічнае развіццё Беларусі" з удзелам у якасці асноўнага выступоўцы і эксперта Ярaслава Раманчука. Мерапрыемства праходзіла ў межах праекта "Дыялог".

Старшыня ТБМ Алег Трусаў атрымаў афіцыйны адказ з Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на сваю прапанову выпусціць паштовую марку і мастацкі канверт да 400-годдзя Гальшанкскага замка. Намеснік Міністра спн. Н.С. Гаўрылава паведаміла, што "ўлічваючы значнасць гэтай падзеі, Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь прыняло рашэнне дапоўніць тэматычны план выдання дзяржаўных знакаў паштовай аплаты на 2010 год выпускам мастацкага канверта з выявай Гальшанскага замка.

**13 лістапада** на сядзібе ТБМ па вул. Румянцава адбылася сустрэча з наменікам старшыні ТБМ, Старшынёй Менскай гарадской арганізацыі ТБМ Аленай Анісім. Тэма сустрэчы: "Дзейнасць Таварыства беларускай мовы ў юбілейны год: здзейсненае і задуманае". Сустрэча ажыццяўлялася па лініі агульнанацыянальнай кампаніі "Будзьма беларусамі!"

**14 лістапада** ў Менску праходзіў Беларускі еўрапейскі форум. Форум гэты меў на мэце садзейнічаць дыялогу Беларусі з Еўразвязам. Ён быў арганізаваны рухам "За свабоду" пад кіраўніцтвам Аляксандра Мілінкевіча і Незалежніцкім блокам, які нядаўна паўстаў у Менску.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў у сваім выступе на форуме адзначыў, што "тут шмат сяброў ТБМ, мінімум палова ўдзелькаў - гэта сябры нашай арганізацыі... Я ўпэўнены, што большая палова з тых, хто будзе выступаць, будуць выступаць па-беларуску".

І ўдзельнікі форуму не схібілі. Не палова, а ўсе беларускія выступоўцы прамаўлялі па-беларуску, што станоўча адрознівала гэты форум ад папярэдніх.

У Лідзе актывісты ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" раздавалі мінакам ватна-марлевыя павязкі шматразовага карыстання і ўлёткі з пажаданнямі добрага здароўя і кароткімі правіламі карыстання гэтымі павязкамі. Таксама адзначалася, што "лепшымі лекамі ад хваробы душы, якая назваецца "Іван без роду і племені", была, ёсць і будзе беларуская мова".

Людзі, якія атрымлівалі павязкі, рэагавалі на гэта ўсмешкамі і падзякмі. Шмат хто адказваў па-беларуску.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў паслаў віншаванне галоўнаму рэдактару "Краязнаўчай газеты" сп. Уладзіміру Гілепу з выхадам 300-га нумара адной з найцікавейшых і запатрабаваных для свайго кола чытачоў газет нашай краіны - "Краязнаўчай газеты".

**18 лістапада** ў Лідскай цэнтральнай бібліятэкцы з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ прайшла прэзентацыя кнігі Сяргея Астраўца “Каты Ёзафа Ратцынгера”;

**22 лістапада** ў Баранавічах па ініцыятыве сяброў Таварыства беларускай мовы, у межах кампаніі "Будзьма" адбылася сустрэча з літаратарам Анатолем Тарасам. Аддзел культуры Баранавіцкага гарвыканкама адмовіўся даць памяшканне Цэнтральнай бібліятэкі, таму

сустрэча адбылася на прыватнай кватэры. У ёй прынялі ўдзел 46 чалавек. Аўтар-выдавец прывёз з сабой шмат сваіх кніг, якія былі расхапаны імгненна.

Сакратарыят ТБМ звяртае ўвагу свядомых беларусаў на выдадзены сёлета вялікім накладам (13 000 асобнікаў) і пакуль яшчэ цалкам не рэалізаваны беларускі каляндар "Родны край", які ўтрымлівае шмат цікавага пра Беларусь, яе гісторыю, культуру, прыроду, карысныя парады па вядзенні хатняй гаспадаркі, выхаванні дзяцей, парады садаводу і агародніку, рэцэпты народнай медыцыны і шмат чаго іншага.

"Шаноўныя беларусы! - звяртаецца да людзей Сакратарыят ТБМ. - Падарыце беларускі каляндар "Родны край" сваім сваякам, сябрам, знаёмым. Добры і арыгінальны падарунак, і пры тым каштуе нядорага".

**23 лістапада** адбылося чарговае паседжанне Сакратарыяту ТБМ. Разглядаліся наступныя пытанні:

1. Аб змене рэдактара часопіса "Верасень".
2. Разгляд праекта плана работы ТБМ на 2010 год.
3. Аб правядзенні навукова-практычнай канферэнцыі "Сучасны стан беларускай мовы і далейшая дзейнасць грамадскіх арганізацый па яго паляпшэнні".
4. Аб вызначэнні даты склікання чарговай Рады ТБМ.
5. Прыём новых сяброў.
6. Рознае.

Па першым пункце - змене рэдактара часопіса "Верасень" - вырашылі Кацярыну Маркоўскую па яе заяве вызваліць ад пасады і прызначыць рэдактарам часопіса сябра ТБМ Эдуарда Акуліна. Па другім пытанні - Праект Плана працы ТБМ прыняць за аснову і надрукаваць у "Нашым слове". Па трэцім - навукова-практычную канферэнцыю правесці 24 студзеня 2020 г. у Менску, Старшынём арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы канферэнцыі прызначыць А. Трусава. Па чацвёртым - Раду ТБМ вырашылі правесці 24 студзеня 2010 г. Па пятым - прынялі ў ТБМ 7 чалавек, усе з Менска.

**У апошнюю суботу лістапада (28)** актывісты Лідскага ТБМ бралі ўдзел у літаратурнай сустрэчы з маленькімі сябрамі клуба "Спадчына" ў вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна. На сустрэчу былі запрошаны паэт, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік, а таксама паэт і сябра Лідскай гарадской рады ТБМ Кірыл

Сыцько.

Гістарычна-патрыятычны клуб "Спадчына" быў заснаваны настаўніцай Дварэцкай школы Наталляй Ляўкевіч. Першая частка імпрэзы - расповяды дзетак пра сваю дзейнасць, акцыі, сустрэчы, падарожжы. Сярод гэтых дзяцей растуць беларускія паэты. Прагучалі іх першыя вершы, якія спадар Сыцько назваў цудоўнымі. Паколькі ён плануе аднавіць выданне газеты моладзі ТБМ "Прадмова", прапанаваў дасылаць свае творы на яго паштовую скрыню для друку.

Другая частка імпрэзы ўяўляла сабой чытанне вершаў і размову са слухачамі. Літаратурная сустрэча праходзіла жыва і цікава: слухалі цудоўныя вершы, пасля паэтаў завалілі пытаннямі: пра мову, культуру, творчасць, асабістыя моманты жыцця. Госці з Ліды падаравалі клубу свае зборнікі вершаў, нумары "Лідскага летапісца" і інш.

Пасля гаспадары запрасілі гасцей на гарбату, за якой прайшла надзвычай прыемная гадзіна ў свабоднай сяброўскай атмасферы.

Кінаклубам пры Магілёўскай суполцы ТБМ імя Ф.Скарыны, клубам "Натхненне" пры Палацы культуры вобласці і Цэнтральнай гарадской бібліятэкай арганізаваны прагляд экранізацыі рамана Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" - з нагоды дня нараджэння аўтара рамана. Удзельнікамі імпрэзы сталі каля 40 чалавек.

Фільм гэты ў свой час прайшоў праз шматлікія праўкі, зведаў цэнзарскія нажніцы, але пасля ўсяго так і не дайшоў да гледача, 22 гады праляжаў на паліцы і быў паказаны толькі пасля смерці аўтара. Пакаленне, якому прызначалася прыпавесць, так і не пачула яе.

Пасля прагляду адбылося абмеркаванне фільма і творчасці Уладзіміра Караткевіча. Перагорнута яшчэ адна старонка беларускага кіно.

**2 снежня** Лідчыну наведалі выбітныя майстры беларускага паэтычнага слова Леанід Дранько-Майсюк і Эдуард Акулін. Першая сустрэча адбылася ў актавай зале Лідскага каледжа - у фармаце ўрока сучаснай беларускай літаратуры; другая - у Крупаўскай сярэдняй школе Лідскага раёна ў памяшканні адчыненага сёлета музея Ігната Дамейкі і гісторыі школы. Абедзьве сустрэчы вызначаліся высокім мастацкім і патрыятычным узроўнем.

Паэтычныя імпрэзы арганізаваныя Лідскай гарадской арганізацыяй ТБМ імя Ф. Скарыны і рэдакцыяй часопіса "Верасень".

Прайшоў тыдзень роднай мовы ў Лідскай СШ № 11. У сераду

**9 снежня** ў школу былі запрошаны сябры Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ і літаб'яднання "Суквецце" - паэты Міхась Мельнік, Станіслаў Суднік, Валеры Мацулевіч, Алена Маляўская і бард Сяржук Чарняк. У школе да іх далучылася паэтэса і завуч школы Ганна Рэлікоўская.

Гучалі вершы і песні на беларускай мове і пра беларускую мову.

**13 снежня** лідскія арганізацыі ТБМ адзначалі сваё 20-годдзе. 20 гадоў таму 16 снежня 1989 г. у Лідзе адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Лідскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы. У 1997 годзе дзейнасць ТБМ была пашырана на Лідскі раён і была ўтворана Лідская арганізацыя ТБМ. Гарадская таксама была захавана. Сёння спісавы склад абедзвюх арганізацый - каля 700 чалавек.

Святочная імпрэза праходзіла ў канферэнцзале Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы. Прысутнічала звыш 60 чалавек, у тым ліку першы старшыня Лідскага ТБМ Міхась Мельнік, старшыня Лідскай арганізацыі ТБМ Лявон Анацка, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік, ветэраны руху, моладзь, госці. З Менска прыехалі Старшыня ТБМ Алег Трусаў і першы намеснік старшыні Алена Анісім. З Дварца Дзятлаўскага раёна - сябры клуба "Спадчына".

Падчас імпрэзы адбылася прэзентацыя кнігі А. Трусава "Невядомая нам краіна Беларусь у яе этнаграфічных межах".

Алена Анісім прэзентавала праграму "Дыялог", якую вядзе ТБМ галоўным чынам у Менску.

Імпрэза была святочная, але гэта не перашкодзіла звярнуццца да кіраўніцтва раёна па праблеме выцяснення беларускай мовы з лідскіх СМІ.

**16 снежня** ў Дзітвянскай сярэдняй школе (на Лідчыне) адбылася літаратурна-музычная сустрэча з удзелам вядомага лідскага барда Сяржука Чарняка і маладога паэта Лідчыны, сябра раённай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Кірыла Сыцько. Сустрэча ладзілася ў межах тыдня роднай мовы.

**20 снежня** ў сядзібе ТБМ адбылася сустрэча зацікаўленай моладзі з намеснікам старшыні ТБМ Аленай Анісім.

На імпрэзу прыехалі моладзевыя актывісты з розных рэгіёнаў Беларусі: з Гарадзеншчыны, Віцебшчыны, Гомельшчыны, з Магілёва, а таксама студэнты менскіх ВНУ.

Пад час сустрэчы былі абмеркаваны пытанні эфектыўнасці

розных формаў працы па пашырэнні ўжывання беларускай мовы ў моладзевым асяродку і ў грамадстве з цэлым. Прапаноўваліся такія формы дзейнасці, як, напрыклад, арганізацыя інтэлектуальных гульняў ("Што, дзе, калі?") па-беларуску, распрацоўка віктарыны па гісторыі ТБМ і інш. Моладзь прыйшла да высновы аб неабходнасці стварэння пляцоўкі для камунікавання ў сеціве. Каардынатарам дзейнасці моладзі ТБМ абраны Кірыл Сыцько з Ліды.

Напрыканцы імпрэзы выступіла спявачка Тацяна Беланогая.

**У снежні 2009 года** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ адна з новых вуліц г. Ліды атрымала імя Ігната Дамейкі.

**Напрыканцы 2009 года** Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў даў інтэрв'ю БелаПАН, фрагменты якога надрукавала "Наша слова", № 52 за 30 снежня пад загалоўкам "Таварыству беларускай мовы - 20 гадоў". Старшыня ТБМ выказвае свае думкі пра дзейнасць Таварыства і лёс беларускай мовы:

Расце павага людзей да беларускай мовы, гісторыі і культуры.

Упершыню за апошнія гады назіраецца такі масавы ўступ моладзі ў аб'яднанне.

Вынікі сацыялагічнага даследавання, праведзеныя ў жніўні лабараторыяй "Новак" і Інстытутам стратэгічных даследаванняў BISS, сведчаць, што 52 % апытаных з павагай ставяцца да беларускай мовы, і толькі 8 % назвалі яе "бруднай" і "калгаснай".

Аб змене адносінаў насельніцтва да роднай мовы сведчыць вяртанне старажытных тапонімаў на мапу, узвядзенне помнікаў і мемарыяльных знакаў дзеячам нацыянальнай гісторыі і культуры. Помнік Францішку Багушэвічу чакаў у Смаргоні з 60-х гадоў свайго ўвасаблення.

Да 20-годдзя ТБМ выпушчана шмат сувенірнай прадукцыі (каляндарыкі, сцяжкі, паштоўкі), кніга "Летапіс ТБМ. 1989 - 2009").

Сярод асноўных дасягненняў - павелічэнне колькасці беларускамоўных праграм на тэлебачанні, выпускі навінаў па-беларуску, адмысловая перадача на АНТ, прысвечаная гісторыі роднай мовы ў словах.

ТБМ заснавала новы літаратурны часопіс "Верасень". ТБМ разам з "Бацькаўшчынай" трэці месяц збірае подпісы дзеля абвяшчэння 2010 года Годам беларускай мовы. ТБМ распрацавала праект "Дыялог", у межах якога ўжо прайшоў шэраг мерапрыемстваў і запланавана канферэнцыя на тэму "Што зрабіць, каб палепшыць стан бела-

рускай мовы ў нашым жыцці?"

Дзейнасць ТБМ уключае шмат іншых мерапрыемстваў: беларускамоўныя дыктоўкі, святкаванне юбілеяў, сустрэчы, вандроўкі, курсы, гурткі і да т.п.

# *2010 год*

**13 студзеня** ў Магілёве "Беларускае пяцiборства". У гэтым, ужо дзевятым пяцiборстве, было адзначана павелiчэнне колькасцi яго ўдзельнiкаў на трэць у параўнаннi з мiнулым годам, у спаборнiцтве прынялi ўдзел 36 навучэнцаў школ, гiмназiй i лiцэяў Магiлёўшчыны. Пераможцамi сталi Жыркевiч Насця, навучэнка 8 класа Бабруйскай гiмназii № 3 - I месца; Клепча Змiцер, навучэнец 11 класа абласнога лiцэя № 3 - II месца, Верашчака Вiталь, дзевяцiкласнiк Чавускай школы № 2 - III месца.

**20 студзеня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ адбылася прэзентацыя часопіса "Верасень" на Лідчыне. Удзел бралі Эдуард Акулін і Леанід Дранько-Майсюк Імпрэзы прайшлі ў Міной-таўскай сярэдняй школе, у СШ № 16 г. Ліды і ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

**21 студзеня** ў Лідзе з ініцыятывы Лідскай гарадской арганіза-цыі ТБМ пачала працу Школа краязнаўства з задачай краязнаўчай адукацыі лідскай моладзі. На першым занятку былі Уладзімір Арлоў і Зміцер Бартосік. Школа адпрацавала да ліпеня 2010 года.

**21 студзеня** з ініцыятывы Бярозаўскай гарадской арганізацыі ТБМ адбылася сустрэча з У. Арловым і З. Бартосікам у Бярозаўцы Лідскага раёна.

**24 студзеня** ў Менску ў дольнай зале Чырвонага касцёла прайшла канферэнцыя ТБМ "Сучасны стан беларускай мовы і далей-шая дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў па яго паляпшэнні".

У канферэнцыі акрамя сяброў ТБМ з усіх рэгіёнаў Беларусі прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, нацыянальнай акадэміі навук, амбасадар Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан.

**24 студзеня** ў Менску адбылося паседжанне рэспубліканскай

Рады ТБМ імя Ф. Скарыны. Рада зацвердзіла план дзейнасці ТБМ на 2010 год, прыняла заяву "Закону аб мовах у Беларусі - 20 гадоў". Рада правяла змены ў складзе Сакратарыяту ТБМ. У склад Сакратарыяту былі ўведзены Эдуард Акулін і Алесь Чэчат.

Сакратарыят ТБМ ад **9 лютага** 2010 года прыняў Пастанову Сакратарыяту ТБМ "Аб правядзенні III Агульнанацыянальнай беларускай дыктоўкі".

Сакратарыят ТБМ ад **9 лютага** прыняў Пастанову Сакратарыяту ТБМ "Аб правядзенні Рэспубліканскага агляду-конкурсу перыядычнага друку па ўжыванні беларускай мовы "З беларускім словам у жыцці".

Мэта агляду-конкурсу:

- заахвочванне рэдакцый да паўнавартаснага выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы на старонках газет, папулярызацыя беларускай культуры і гісторыі Беларусі;
- інфармаванне органаў улады, грамадскасці аб стане ўжывання беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі вобласці.

Агляд-конкурс вырашана правесці па трох катэгорыях:

- абласныя, гарадскія газеты;
- раённыя газеты;
- недзяржаўныя выданні.

Вынікі агляду-конкурсу запланавана падвесці да 30 кастрычніка 2010 года, узнагароджанне намінантаў правесці да 1 снежня 2010 года.

**12 лютага** - Паседжанне Сакратарыяту ТБМ прыняло заяву Сакратарыяту "Ўдзел у выбарах можа дапамагчы ў распаўсюдзе беларускай мовы".

**18 лютага** ў рамках Школы краязнаўства ў Лідзе адбылася сустрэча з доктарам гістарычных навук прафесарам А. Краўцэвічам і прэзентацыя яго кнігі “Рыцары і дойліды Гародні”.

**21 лютага**, у Міжнародны дзень роднай мовы ў Менску, у Чырвоным касцёле прайшла трэцяя агульнанацыянальная беларуская дыктоўка. Акцыя прымеркаваная таксама да 20-годдзя прыняцця ў Беларусі Закона аб мовах. Адрывак з твору Уладзіміра Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі" пісалі болей, як 50 чалавек, у тым ліку амбасадары Ўкраіны і Швецыі Ігар Ліхавы і Стэфан Эрыксан. Чыталі дыктоўку намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы Алена Анісім і кіраўнік Фрунзенскай раённай арганізацыі ТБМ г. Менска

Алесь Чэчат.

Пасля заканчэння дыктоўкі прайшла прэзентацыя выданняў ТБМ. Былі прадстаўленыя газеты "Наша слова" і "Новы час", часопісы "Лідскі летапісец" і "Верасень". Прэзентаваны ўсе, выпушчаныя ўжо еўраграматыкі, а таксама "Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы" на 42000 слоў, падрыхтаваны сябрамі ТБМ Аленай і Лявонам Баршчэўскімі, выдадзены ў адпаведнасці з новымі правіламі.

Акрамя Менска трэцяя Агунанацыянальная дыктоўка праходзіла **21 лютага** ў Магілёве, Лідзе і іншых населеных пунктах. **20 лютага** дыктоўка праводзілася ў г. Бярозаўцы Лідскага р-на і ў в. Дварэц Дзятлаўскага р-на.

Міжнародны дзень роднай мовы адзначылі на першам нацыянальным тэлеканале, усе выпускі праграмаў "Навіны" і "Ў цэнтры ўвагі" 21 лютага ішлі па-беларуску.

**17 сакавіка** 2010 года выйшаў юбілейны нумар газеты (штотыднёвіка) "Наша слова", якому споўнілася 20 гадоў. У нумары змешчаны шэраг матэрыялаў, прысвечаных гэтай падзеі (вершы "Каб дзень пачынаў" Васіля Зуёнка, "Пагонічы" Генадзя Тумаша, артыкулы "На пульсе часу" Уладзіслава Завальнюка, "ТБМ і "Наша слова" акадэміка Радзіма Гарэцкага, "Юбілей "Нашага слова" доктара гістарычных навук, прафесара Анатоля Грыцкевіча, "Люстэрка руху за мову" пісьменніцы, сябра Рады ТБМ Марыі Баравік, "Наша слова" ў Лідзе" галоўнага рэдактара "Нашага слова" Станіслава Судніка.

Чарговыя этапы правядзення Агульнанацыянальнай дыктоўкі.

У сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны у Менску прайшла беларуская дыктоўка **15 сакавіка**, у 16-ю гадавіну прыняцця Канстытуцыі, паводле якой беларуская мова атрымала статус адзінай дзяржаўнай. Завяршальны этап акцыі прайшоў там жа вечарам 25 сакавіка, прысвечаны 92-м угодкам заснавання БНР, якое ўпершыню абвясціла беларускую мову дзяржаўнай.

**21 сакавіка** ў Віцебску адбылася чарговая VII справаздачна-выбарная канферэнцыя абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

У справаздачным дакладзе старшыні Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Іосіфа Навумчыка былі вызначаныя асноўныя кірункі працы арганізацыі за справаздачны перыяд. Гэта, у першую чаргу, ушанаванне памяці вялікага земляка, пісьменніка Васіля Быка-

ва. Адзначаны чынны ўдзел сяброў арганізацыі ў штогадовых сустрэчах у Дзень нараджэння пісьменніка на яго малой радзіме ў вёсцы Бычкі, усталяванне мемарыяльнай дошкі на будынку былой музычнай школы, дзе ў свой час вучыўся Васіль Быкаў. Гэта і пастаяннае ліставанне з кіраўніцтвам аўтобуснага, трамвайна-тралейбуснага паркаў, Віцебскім аддзелам Беларускай чыгункі, якое прынесла ўжо станоўчыя вынікі ў справе беларусізацыі гарадскога транспарту і чыгункі. Асобнае месца ў дакладзе і яго абмеркаванні заняло падвядзенне вынікаў агляду конкурсу рэгіянальнага друку. Названы лепшыя дзяржаўныя і недзяржаўныя перыядычныя выданні, якія карыстаюцца пераважна беларускай мовай. Калектывы і журналісты атрымалі памятныя ўзнагароды, падзякі абласной рады.

Пасля спрэчак па дакладзе, выступаў з прапановамі дэлегатаў і гасцей адбыліся выбары новага складу абласной рады, рэвізійнай камісіі, сакратарыята. Старшынёй Віцебскай абласной рады на чарговы тэрмін абраны І.А. Навумчык.

**21 сакавіка** праведзена III Агульнанацыянальная дыктоўка Асіповіцкай раённай арганізацыі ТБМ. Тэксты дыктоўкі былі распаўсюджаны ва ўсіх школах горада і раёна, у культустановах. У некаторых школах дыктоўку пісалі ва ўмовах поўнай канспірацыі. Большасць кіраўнікоў устаноў і арганізацый не асмеліліся даць на яе дазвол.

III Агульнанацыянальная дыктоўка праведзена ў 15 сярэдніх і базавых школах Пінскага раёна. Да акцыі далучана і дарослае насельніцтва, у прыватнасці, дыктоўку напісалі працаўнікі М. Плотніцкага лясніцтва, работнікі Лагішынскай бальніцы.

**25 сакавіка** ў Віцебску Агульнанацыянальную дыктоўку пісаў Барыс Хамайда, уладкаваўшыся ля помніка Уладзіміру Караткевічу - па прадмове да нарысу Ул. Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі". Дыктоўка была перарвана міліцыяй, а Барыса Хамайду пасадзілі ў міліцэйскую машыну і завезлі спачатку ў пастарунак, потым у суд. Суддзя Кастрычніцкага раёна вынес яму папярэджанне.

**25 сакавіка** сябры ТБМ з Ліды і Бярозаўкі наведвалі магілу міністра БНР генерала Кіпрыяна Кандратовіча ў Воранаве і ўскладалі кветкі.

У 12-тым нумары "Нашага слова" за **25 сакавіка** змешчана "Пасланне старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы з нагоды Дня Волі", а таксама матэрыялы, прысвечаныя юбілею "Нашага слова": "Першай

газеце ТБМ - 20", падпісаны старшынёй ТБМ Алегам Трусавым і "Выспа ў моры нігілізму", сябра Рады ТБМ, доктара біялагічных навук Язэпа Стэпановіча.

**31 сакавіка** Сакратарыят ТБМ прыняў "Зварот да абітурыентаў Беларусі з нагоды ўступных экзаменаў" з заклікам абіраць беларускую мову падчас абавязковага тэставання.

**15 красавіка** Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны правяло круглы стол "Моўная сітуацыя ў краіне напярэдадні ўступлення ў сілу Закона аб зменах у правапісе беларускай мовы" з удзелам прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў, СМІ і грамадскасці.

У выніку сустрэчы яе ўдзельнікі сфармулявалі некалькі ініцыятыў, у якіх ТБМ гатова браць удзел ці спрыяць іх ажыццяўленню ў дзяржаўных установах.

**2 траўня** Магілёўская гарадская арганізацыя ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" арганізавала вандроўку, прысвечаную 90-годдзю выдатнага паэта Аляксея Пысіна. Удзельнікі падарожжа наведалі райцэнтры Чавусы, Чэрыкаў і Краснаполле, а таксама малую радзіму А. Пысіна - вёску Палуж на Краснапольшчыне, дзе створаны музей паэта.

Газета "Наша слова" за **5 траўня** апублікавала ліст старшыні "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алега Трусава, адрасаваны Дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь Мальцаву Л.С., а таксама ў Адміністрацыю Прэзідэнта, з прапановамі па вяртанні ў беларускія сілавыя структуры дзяржаўнай беларускай мовы. "Мы лічым, - зазначана ў лісце, - што беларусізацыя сілавых структур Рэспублікі Беларусь наблізіць іх да народа і будзе садзейнічаць павышэнню ўзроўню патрыятызму ў гэтых структурах, паслужыць пад'ёму міжнароднага аўтарытэту нашай краіны.

Са свайго боку грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" гатова аказаць любой зацікаўленай структуры магчымую дапамогу".

У гэтым жа нумары "Нашага слова" змешчаны адказ Дзяржаўнага сакратарыята Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь ад 21.04.2010 г., падпісаны намеснікам сакратара Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь А.Л. Ялфімавым. Сп. Ялфімаў паведамляе, што прапановы старшыні ТБМ разгледжаныя ў Дзяржаўным сакратарыяце Савета

бяспекі. Сэнс адказу вызначаецца тым, што "пытанні ўжывання беларускай і рускай моў урэгуляваныя дзеючым заканадаўствам". І, значыць, "...поўны перавод дзейнасці сілавых структур на беларускую мову на сучасным этапе з'яўляецца эканамічна і практычна немэтазгодным, а таксама супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь".

**19 чэрвеня**, у Дзень нараджэння Васіля Быкава на яго радзіме, у вёсцы Бычкі Ўшацкага раёна, адбыліся прысвечаныя вялікаму пісьменніку Літаратурныя чытанні. Імпрэза ладзілася Віцебскай абласной арганізацыяй ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" пры актыўным удзеле абласной філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Акрамя арганізатараў з абласнога цэнтра ў чытаннях бралі ўдзел сябры Таварыства з Полацка і Наваполацка, Оршы і Барані, Глыбокага і Паставаў, Шаркаўшчыны і Верхнядзвінска, Гарадка і Бешанковічаў і інш. месцаў вобласці.

**20 чэрвеня** Сакратарыят ТБМ прыняў зварот "Не трэба цурацца роднай мовы", у якім заклікаў усіх удзельнікаў выбарчай прэзідэнцкай кампаніі карыстацца ў працэсе агітацыі роднай беларускай мовай. "З беларускім народам трэба гаварыць па-беларуску", - такімі словамі завяршаюць свой зварот сябры Сакратарыяту.

**27 чэрвеня** у кавярні "Фальварак "Добрыя мыслі" г. Менска моладзь наладзіла электраакустычны канцэрт "Свае песні на беларускай мове", прымеркаваны да 21-х угодкаў ТБМ. У канцэрце прынялі ўдзел Алесь Камоцкі, Вольга Акуліч, Дар'я Каданская, дуэт Раман Яраш і Андрусь Касценя. На імпрэзу былі запрошаны і прынялі ў ёй чынны ўдзел першы старшыня і адзін з заснавальнікаў ТБМ Ніл Гілевіч і яго дзейны старшыня Алег Трусаў. Арганізатарамі імпрэзы былі сябар аб'яднанай суполкі ТБМ Кастрычніцкага раёна Менска Юльян Місюкевіч і студэнтка ЮДУ КІМ  Каця Далідовіч.

**28 чэрвеня** баранавіцкія сябры ТБМ прынялі ўдзел у святочным фэсце, прысвечаным 350 угодкам Палонкаўскай бітвы 1660 года, у якой аб'яднанае беларуска-украінска-польскае войска пад кіраўніцтвам гетманаў Паўла Сапегі і Стафана Чарнецкага разбіла маскоўскага ваяводу Івана Хаванскага. Удзельнікі фэсту прыбралі тэрыторыю, краязнаўцы Віктар Сырыца і Міхась Бернат распавялі пра гісторыю гэтай слаўнай бітвы, гучалі вершы, песні, рыцары з клубу "Шляхетная застава" прадэманстравалі сваё майстэрства. Усклалі кветкі і запалілі знічы ля каменя-валуна на Палонкаўскім полі.

**У канцы чэрвеня 2010 года** навучэнцы групаў 65 да, 6 с, 7 ск, 5 дак, 89 па, 84 т Лідскага каледжа здавалі экзамены за курс сярэдняй школы. Дзеці мусілі пісаць пераказ па-беларуску або па-руску. І звыш 90% выбралі беларускую мову. Канкрэтна ў групе 65 да (дашкольная адукацыя) усе 27 чалавек пісалі пераказ па-беларуску, у групе 6 с (будаўнікі) па беларуску пісалі 21 чалавек з 24, у групе 7 ск (будаўнікі) беларускую мову для экзамена выбралі 24 чалавекі з 27. Выкладалі беларускую мову ў гэтых групах Анаровіч Т.І. і Мельнік М.І. Ва ўсіх гэтых групах дзейнічаюць суполкі ТБМ.

У мястэчку Новая Мыш, дзе ўсталяваны помнік пачынальніку новай беларускай літаратуры Яну Чачоту, выступілі гісторыкі Міхась Бернат, Здзіслаў Сіцька, Валер Палікарпаў з аповедамі пра жыццё і творчасць аўтара "Вясковых песень", а таксама пра дзейнасць мясцовых філаматаў і філарэтаў.

Міністэрства сувязі і інфармацыі па прапанове "Таварыства беларускай мовы" выпусціла адмысловую марку "600-годдзе перамогі пад Грунвальдам". Спецгашэнне маркі праведзена **15 ліпеня 2010 г.** на Мсціслаўскім паштамце дзеля ўшанавання памяці Мсціслаўскага князя Сямёна Лунгвена, намесніка Вялікага князя Вітаўта на Грунвальдскім полі.

**22 ліпеня** ў Магілёве ў памяшканні гарадской Ратушы з ініцыятывы Магілёўскай суполкі ТБМ адбылася ўрачыстая імпрэза, прысвечаная 600-годдзю перамогі пад Грунвальдам. Арганізатар - аддзел ідэалагічнай працы гарвыканкама. Удзельнічалі ва ўрачыстасці ваяры народнага рыцарскага клуба "Барысфен", ансамбль старадаўняй музыкі "Віёла", а таксама гісторыкі. Дзяўчаты з Таварыства беларускай мовы выткалі харугву з Пагоняй для рыцарскага клуба.

**25 ліпеня** з ініцыятывы арганізацый ТБМ праведзены традыцыйнае набажэнства ў памяць паўстанцаў 1863 года каля крыжоў паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі. Ксёндз Рышард з Белагруды маліўся пад крыжамі таксама за герояў Грунвальда. Была разгорнута велізарная харугва з “Пагоняй”.

"Наша слова" № 31 (**за 4 жніўня 2010 г**.) апублікавала адказ Упраўлення адукацыі г. Гродна (№ 29 ад 05.06.2010) на ліст старшыні ТБМ Алега Трусава з прапановай адкрыць у г. Гродна некалькі беларускамоўных дзіцячых садкоў і беларускамоўную гімназію, паколькі

з такімі просьбамі неаднаразова звярталіся ў ТБМ бацькі дзяцей. (Ліст А. Трусава таксама прыводзіцца). Начальнік упраўлення А.І. Сягоднік у сваім адказе падае статыстычныя дадзеныя па Гарадзенскай вобласці адносна мовы адукацыі і выхавання ў дашкольных установах і школах. Што да Гародні, дзе на сённяшні дзень няма ні адной школы з беларускай мовай навучання, то гэта спадар Сягоднік тлумачыць адсутнасцю заяваў бацькоў, якія жадалі б вучыць дзяцей на мове сваёй краіны, па-беларуску. Што да адкрыцця беларускамоўных груп у дзіцячых садках, то заяваў з такімі просьбамі таксама замала.

**20 жніўня** ў межах праекта ТБМ "Дыялог" у Мсціславе ў памяшканні дома культуры адбылася сустрэча старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы" Алега Трусава з ягонымі землякамі, мсціслаўскай інтэлігенцыяй - настаўнікамі, краязнаўцамі, журналістамі, аматарамі старадаўняй гісторыі. Сваё выступленне сп. Трусаў прысвяціў герою бітвы пад Грунвальдам легендарнаму князю Лунгвену Мсціслаўскаму. Прапанавана назваць імем князя Лунгвена адну з вуліц горада і ўстанавіць яму ў Мсціславе помнік.

**20 жніўня** ў гарадской бібліятэцы Магілёва адбылася сустрэча старшыні ТБМ Алега Трусава з сябрамі Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ і гараджанамі. Сустрэча прайшла ў рамках праекту "Дыялог". У першай частцы сустрэчы праведзена абмеркаванне вынікаў паездкі Алега Трусава ў Ірландыю, моўнай сітуацыі ў гэтай краіне і метадам дзейнасці дзяржавы і грамадскасці па абароне і адраджэнні гэльскай мовы. Другая частка сустрэчы была прысвечана 600-м угодкам Грунвальдскай бітвы.

**30 жніўня** ў сядзібе ТБМ адбылася прэзентацыя другога нумара часопіса "Верасень". Як вядома, менавіта Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выступіла з ініцыятывай заснавання новага перыёдыка для моладзі, галоўным рэдактарам часопіса быў прызначаны вядомы паэт і бард, сябар ТБМ Эдуард Акулін. На імпрэзе прысутнічалі чытачы і аўтары другога нумара. 2 верасня прэзентацыя была праведзена ў менскай СШ № 32.

**31 жніўня** Сакратарыятам ТБМ прынята заява "Родная мова не павінна стаць для беларусаў замежнай". У ёй Сакратарыят ТБМ патрабуе ад уладаў распрацаваць і ў бліжэйшы час прыняць закон аб абароне і дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы, як гэта зроблена ў многіх краінах, што дбаюць пра захаванне і развіццё культуры свайго

народа.

Лідскія арганізацыі ТБМ вялі працу па наданні лідскім вуліцам беларускіх назваў. Моладзь ТБМ правяла збор подпісаў. **У жніўні 2010 года** частка вуліцы Камсамольскай стала вуліцай Замкавай, частка вуліцы Энгельса стала вуліцай Грунвальдскай, бульвар Чапаева стаў бульварам князя Гедыміна. Не вырашаным засталося пытанне з вуліцай Янкі Купалы, ад якой застаўся адзін дом - Раённы палац культуры.

**2 верасня** ў 16-20 у Гародні на плошчу Леніна выйшлі прафесар Алесь Астроўскі, ягоная жонка Аксана і іх дзеці Янка і Света, разгарнуўшы плакаты "Хочам вучыцца па-беларуску", "Этнацыд - ціхае забойства народу". Да іх далучыўся журналіст Уладзімір Хільмановіч з плакатам "У Гародні ў школах няма ніводнага беларускага класа. У якой краіне мы жывём?" Удзельнікі пікету былі затрыманы міліцыяй.

**5 верасня** на сядзібе ТБМ у рамках праекту "Дыялог" адбыўся сход моладзевай камісіі ТБМ ("Моладзь ТБМ"). На паседжанні быў падведзены вынік за паўгода існавання і спланавана дзейнасць на наступныя месяцы.

**6-8 верасня па** запрашэнні Віцебскай абласной рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны адбыліся сустрэчы вядомага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Генадзя Бураўкіна з сябрамі ТБМ і прыхільнікамі роднага слова ў Паставах і ў Віцебску. Разам са старшынём абласной рады ТБМ Іосіфам Навумчыкам і старшынём рэвізійнай камісіі Анатолем Родзікам Генадзь Мікалаевіч наведаў рэдакцыі Шумілінскай і Пастаўскай раённых газет, якія па выніках агляду-конкурсу рэгіянальнага друку апынуліся сярод лепшых.

**8 верасня** распачалі сваю дзейнасць курсы беларускай мовы "10 крокаў, каб загаварыць па-беларуску". Арганізатары курсаў - ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і культурна-асветніцкая ўстанова "Новае грамадства"", выкладчык - Аляксей Шэін. Гэтыя бясплатныя курсы гутарковай мовы для тых, хто хоча пачаць размаўляць на роднай мове, разлічаны на 10 заняткаў.

**8 верасня** ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Ларысы Геніюш. Арганізавалі імпрэзу сябры Таварыства беларускай мовы сумесна з калектывам бібліятэкі. Вядоўцам і апавяданнікам пра жыццё

і творчасць Ларысы Геніюш быў паэт і даследнік літаратуры Міхась Скобла.

**22 верасня** ў Лідзе ў Доміку Таўлая адкрыўся літаратурны музей. Афармлены ён цалкам па-беларуску. За адкрыццё гэтага музея 16 гадоў (з 1994 года) вялі змаганне Лідскія арганізацыі ТБМ.

**22 верасня** ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы правялі прэзентацыю кніг сяброў Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ: аповесці (3-й) Алеся Нічыпара “Цмокава скура” і кнігі вершаў Івана Гушчынскага “Ідзі і вяртайся”.

**27 верасня** Сакратарыят ТБМ прыняў "Зварот да ўдзельнікаў выбарчай кампаніі, асабліва да кандыдатаў у прэзідэнты". "Прэзідэнт Беларусі павінен прамаўляць па-беларуску". У Звароце адзначаецца, што па выніках апошняга перапісу, нягледзячы на праведзеную русіфікацыю, больш за палову грамадзян Беларусі лічаць беларускую мову роднай, больш за 2 млн. штодзённа размаўляюць па-беларуску. І гэта трэба ўлічваць падчас выбараў. Прапануецца ўключыць ў перадвыбарчыя праграмы канкрэтны механізм вяртання дзяржаўнай беларускай мовы ва ўсе сферы жыцця, а таксама адкрыццё Нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай выкладання.

**27 верасня** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот да ўраду Рэспублікі Беларусь "Вярніце беларускую мову ва ўстановы адукацыі".

У Звароце даводзіцца, што ўрад краіны фактычна стварыў непераадольныя цяжкасці для атрымання адукацыі на дзяржаўнай беларускай мове і тым самым парушыў узятыя на сябе абавязацельствы па забяспячэнні роўнага доступу да атрымання адукацыі ўсім грамадзянам Рэспублікі Беларусь.

Сакратарыят выказвае шэраг патрабаванняў, выкананне якіх дасць магчымасць устанавіць законнае раўнапраўе дзвюх дзяржаўных моваў у сферы адукацыі.

**28 верасня** ў Дольнай зале Чырвонага касцёла адбылася прэзентацыя зборніка матэрыялаў праведзенай у студзені 2010 года ГА "Таварыства беларускай мовы" навуковай канферэнцыі "Сучасны стан беларускай мовы і дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў па яго паляпшэнні".

**28 верасня** ў Дольнай зале Чырвонага касцёла адбылася прэ-

зентацыя выданняў ТБМ "Беларуска-англійскі ды анлійска-беларускі размоўнік", часопіс "Верасень", календары, у тым ліку каляндарык да 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча, дыскі беларускіх выканаўцаў, у тым ліку "Дзіцячы альбом".

У сядзібе "Таварыства беларускай мовы" ў Менску прэзентаваны дыск "Дзіцячы альбом, частка першая", на якім запісана 27 дзіцячых беларускіх народных песень. Выканаўцы асноўных вакальных партыяў Адась Матафонаў (9 гадоў) і Тамаш Сідарэвіч (12 гадоў).

**Верасень 2010 года.** Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выдала беларуска-англійскі размоўнік. Выданне ажыццёўлена ў межах праекта "Дыялог", падтрыманага Дзяржэдэпартаментам ЗША. Асноўную працу па ўкладанні размоўніка зрабілі сябры суполкі "Нашчадкі". Сябры Сакратарыята ТБМ Дзяніс Тушынскі і Ўладзімір Кошчанка дапоўнілі і адрэдагавалі іншамоўную частку размоўніка.

**29 кастрычніка** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот да кіраўніка беларускай дзяржавы "Зробім наступны 2011 год "Годам Роднай мовы!" з прапановай абвясціць 2011 год "Годам Роднай мовы", а ўраду Беларусі распрацаваць і ажыццявіць канкрэтную праграму дзяржаўнай падтрымкі беларускай мовы ў розных сферах грамадскага жыцця.

ТБМ выступіла з гэтай прапановай, паколькі назіраецца небяспечнае пагаршэнне стану беларускай мовы ў Беларусі, што засведчылі і лічбы апошняга перапісу; гэта вынік нядбайных адносінаў беларускай улады да захавання і пашырэння дзяржаўнай беларускай мовы, найперш у сферы адукацыі.

Таварыства беларускай мовы заклікала сваіх сяброў і ўсіх неабыякавых грамадзян Беларусі да збору подпісаў у падтрымку прапановы абвяшчэння 2011 года "Годам Роднай мовы". "Наша слова" надрукавала падпісны ліст, які прапануецца запоўніць і даслаць на адрас Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**31 кастрычніка** ў Лідзе ў гарадскім парку пасля 15-гадовага змагання грамадскіх арганізацый, у тым ліку ТБМ, устаноўлены і асвечаны камень на магіле героя паўстання 1863 года ксендза Адама Фалькоўскага. Адам Фалькоўскі пробашч касцёла ў Ішчалне быў расстраляны ў Лідзе за зачытанне Маніфеста паўстання.

**Кастрычнік 2010 г.** Згодна з пастановай Сакратарыята ТБМ ад 9 лютага 2010 г. Віцебская абласная арганізацыя правяла агляд-

конкурс перыядычнага друку па ўжыванні беларускай мовы "З беларускім словам у жыцці". Вынікі зацверджаны на пасяджэнні рады 30 кастрычніка.

Агляд-конкурс праводзіўся па трох катэгорыях:

- раённыя газеты;
- абласныя, гарадскія газеты;
- недзяржаўныя выданні.

У склад журы ўвайшлі кіраўнікі абласной арганізацыі ТБМ, грамадскія дзеячы, пісьменнікі, прафесійныя журналісты, выкладчыкі ВНУ, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры. Аналізавалася мова друкаваных выданняў Віцебшчыны за перыяд з 1-га красавіка па 1-га кастрычніка 2010 г. Сярод раённых выданняў I прэмія прысуджана "Браслаўскай звяздзе" (гал. рэд.  - Казімір Пятушка) і шумілінскай раёнцы "Герой працы" (гал. рэд. - Аліна Пятрова). У названых выданнях не менш за 90 % інфармацыі даецца па-беларуску. II месца прысуджана газетам "Родныя вытокі" Докшыцкага раёна (рэдактар - Нэлі Бяляўская) і "Міёрскія навіны" (гал. рэд. - Леанід Матэленак). III месца падзялілі шаркаўшчынская газета "Кліч Радзімы" (гал. рэд. - Эдуард Корсак) і "Пастаўскі край" (гал. рэд. - Фаіна Касаткіна).

Адзначаны дастаткова высокі ўзровень ужывання беларускай мовы "Веснікам Глыбоччыны" (гал. рэд. - Ганна Капшуль) і "Дняпроўскай праўдай" (Дубровенскі раён, гал. рэд. - Лідзія Чапялова) палепшылася сітуацыя з мовай у "Гарадоцкім весніку" (гал. рэд. - Андрэй Захараў), а таксама ў газеце "Лепельскі край" (гал. рэд. - Уладзімір Шаўчэнка).

У намінацыі "абласныя і градаскія газеты" прынятае рашэнне пераможцаў не аб'яўляць, бо ніводнае выданне не вытрымлівае хаця б мінімальных патрабаванняў. Усе газеты, што выдаюцца ў Віцебску, карыстаюцца амаль выключна рускай мовай, хоць фармальна лічацца двухмоўнымі.

Сярод недзяржаўных выданняў па-за канкурэнцыяй - газета "Вольнае Глыбокае". Тут па-беларуску даюцца не толькі ўласныя матэрыялы, але і рэклама, прыватныя абвесткі, віншаванні (гал. рэд. - Уладзімір Скрабатун). Магчыма, таму газета карыстаецца вялікай папулярнасцю. Незалежная газета "Віцебскі праспект" (гал. рэд. - Георгій Капылоў) здала свае пазіцыі ў параўнанні з мінулым годам.

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" абвясціла Рэспубліканскі конкурс "Ведаем свой край". Мэта конкурсу -  сабраць адметныя назвы, якія бытуюць у кожнай мясцовасці. Гэта могуць быць назвы ўзгоркаў, мясцінаў у лесе, паплавоў, балотаў і інш.

Матэрыялы прымаюцца ад 1 снежня 2010 г. да чэрвеня 2011 г. Падвядзенне вынікаў конкурсу і ўзнагароджанне пераможцаў плануецца правесці ў канцы верасня 2011 г.

**5 лістапада** ў офісе "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" адбылася прэзентацыя зборнікаў паэзіі "Зорка гасцюе ў месяца" і "На вас глядзіць мая душа" паэткі з вёскі Падсвілле Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці Марыі Баравік, актывісткі БНФ. У прэзентацыі ўзяла ўдзел паэтка і спявачка Марыя Новікава, дачка Марыі Баравік. Яна з'яўляецца рэдактарам гэтых дзвюх кніжак паэткі. Марыя Новікава выканала свае песні на вершы маці і на свае ўласныя. У прэзентацыі ўзялі ўдзел таксама вядомыя паэты Анатоль Вярцінскі і Сяргей Панізнік.

**17 лістапада** ў Лідска цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ праведзена прэзентацыя 2-га тома часопіса "Асоба і час".

**24 лістапада** сябрамі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ праведзена літаратурная сустрэча да 80-х угодкаў Уладзіміра Караткевіча ў в. Ходараўцы Лідскага р-на.

**27 лістапада** ў малой зале Лідскага палаца культуры сябры ТБМ прынялі ўдзел у прэзентацыя зборніка песень на вершы Рычарда Грушы "Беларуская зорка";

**28 лістапада** ў Менску адбылося чарговае паседжанне Рады ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. На парадак дня Рады былі вынесены наступныя пытанні:

1. Справаздачны даклад Старшыні ТБМ Алега Трусава за 2010 год.
2. Даклад намесніка Старшыні ТБМ Алены Анісім аб выкананні праекта "Дыялог".
3. Абмеркаванне плана работы ТБМ на 2011 год.
4. Аб зменах у складзе Сакратарыята ТБМ і рэдкалегіі газеты "Наша слова".
5. Зварот Рады ТБМ да ўдзельнікаў IV Усебеларускага народнага сходу.
6. Аб памерах сяброўскіх складак сяброў ТБМ у 2011 годзе.
7. Аб аднаўленні дзейнасці Тапанімічнай камісіі ТБМ.

Унесены змены ў склад Сакратарыята ТБМ, рэдкалегіі газеты

"Наша слова". У склад рэдкалегіі ўвайшлі Юрась Бабіч і Юрась Казлоўскі. Старшынёй Тапанімічнай камісіі ТБМ абраны Вінцук Вячорка.

**28 лістапада** на пасяджэнні Рады ТБМ прыняты "Зварот Рады ТБМ да ўдзельнікаў IV Усебеларускага народнага сходу".

У "Звароце" адзначаецца, што, нягледзячы на тое, што фармат Усебеларускага сходу не прапісаны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, яму фактычна нададзена вызначальная роля ў вырашэнні далейшага шляху развіцця краіны. Значыць, ён можа ўплываць і на вырашэнне моўнага пытання ў краіне. Палітыка сённяшняга кіраўніцтва Беларусі прывяла да выцяснення беларускай мовы з афіцыйнай сферы яе ўжытку, выцяснення яе з сістэмы адукацыі, змяншэння колькасці яе актыўных носьбітаў (згодна дадзеных апошняга перапісу - на 1 мільён чалавек).

У "Звароце" падкрэсліваецца, што пытанне захавання і развіцця беларускай мовы - гэта пытанне захавання беларускай дзяржаўнасці. Таму ТБМ звяртаецца да Ўсебеларускага народнага сходу з прапановай "аб'ектыўна і строга прааналізаваць нацыянальную палітыку ў Рэспубліцы Беларусь і неадкладна прыняць практычныя захады па зябеспячэнні беларускай мове яе статусу дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі. Для гэтага ... неабходна тэрмінова прыняць закон аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы і аб'явіць наступны год Годам беларускай мовы".

**Лістапад 2010 г.** Па ініцыятыве кіраўніцтва рэспубліканскага і магілёўскага ТБМ мсціслаўскія ўлады ўстанавілі на замчышчы горада Мсціслава памятны знак - у гонар 600-годдзя Грунвальдскай перамогі - князю Сямёну Лунгвену, намесніку Вялікага князя Вітаўта на Грунвальдскім полі, начальніку левага фланга войска ВКЛ.

**10 снежня** "Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрыманы афіцыйны адказ з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на сваю прапанову аб'явіць 2011 год Годам роднай мовы. У ім сказана: "На гэты час сабраны прапановы зацікаўленых дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў (у тым ліку Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны), грамадзян аб вызначэнні тэматыкі 2011 года. Вынікі іх вывучэння і абагульнення будуць улічаныя пры вырашэнні дадзенага пытання".

Адказ падпісаў начальнік галоўнага ўпраўлення па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб С.І. Буко.

**12 снежня** ў Полацкім Цэнтры рамёстваў і нацыянальных культур адбылася творчая сустрэча з віцебскімі літаратарамі, сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімірам Папковічам, Міхасём Мірановічам і вядомай паэткай з Падсвілля Марыяй Баравік. Імпрэза стала магчымай, дзякуючы намаганням кіраўніка Полацкай гарадской арганізацыі ТБМ сп-ні Валянціне Крук і пры актыўным удзеле кіраўніцтва абласной рады. Пасля сустрэчы была зладжана экскурсія па Музеі кнігадрукавання, які сёлета ў верасні святкаваў свой 20-гадовы юбілей.

**15 снежня** Сакратарыят ТБМ выказаў праз газету "Наша слова" падзяку Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі за аказанне спонсарскай дапамогі для падпіскі на беларускмоўныя выданні, у тым ліку на газету "Наша слова". ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на падставе дагавора дабрачыннай (спонсарскай) дапамогі атрымала ад яе 950 000 беларускіх рублёў; гэтыя сродкі выкарыстаны на падпіску шэрагу цэнтральных раённых бібліятэк краіны, школ, бібліятэк, гімназій г. Менска і г. Заслаўе, бібліятэкі "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны", на беларускамоўныя перыядычныя выданні, а таксама шэрагу раённых цэнтральных бібліятэк на газету "Наша слова".

Таварыства беларускай мовы адзначыла праз газету "Наша слова", што адзіным кандыдатам у прэзідэнты Беларусі, у праграме якога першым пунктам стаіць родная мова, з'яўляецца Рыгор Кастусёў ("Наша слова", № 50 за 15 снежня 2010 г.).

**17 снежня** Сакратарыят ТБМ прыняў заяву "Тры гады адзінаму беларускамоўнаму каналу", у якой адзначыў, што ідэя стварэння спадарожнікавага беларускамоўнага канала была агучана Таварыствам беларускай мовы ў стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі яшчэ ад пачатку 2000 гадоў. Са стварэннем у 2007 годзе беларускамоўнага тэлеканала БЕЛСАТ яна змагла рэалізавацца, дзякуючы намаганням сяброў ТБМ, польскіх і беларускіх журналістаў, падтрымцы польскай дзяржавы і міжнародных фундатараў. За гэтыя тры гады кола гледачоў тэлеканала перавысіла 700000 і працягвае расці. Таварыства беларускай мовы віншуе калектыў тэлеканала БЕЛСАТ і зычыць яму плёну ў працы.

У сядзібе ТБМ адбылася вечарына, прысвечаная 80-годдзю выдатнага драматурга, празаіка, публіцыста, кінадраматурга і сцэнары-

ста, грамадскага дзеяча Алеся Петрашкевіча, падрыхтаваная Партызанскай радай ТБМ імя Ф. Скарыны. Сам юбіляр на вечарыне прысутнічаць не мог па стане здароўя. Прысутнічала дачка Таццяна і ўнукі. Прынялі ўдзел у імпрэзе старшыня ТБМ Алег Трусаў, рэктар Белдзяржуніверсітэта культуры і мастацтва Барыс Святлоў, прафесар гэтага ж універсітэта культуры Лідзія Савік, пісьменнік Васіль Якавенка, паэт, публіцыст і літаратузнаўца Яўген Гучок. На імпрэзе гучала музыка беларускіх дудароў у выкананні ўніверсітэцкага калектыву "Гуды" пад кіраўніцтвам Ігара Мангушава, а таксама ўрывак з п'есы "Напісанае застаецца" пра Францішка Скарыну ў выкананні загадчыка кафедры тэатральнага мастацтва Расціслава Бузука і студэнтаў.

Суполка "Рубон" Наваполацкай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны завязала добрыя стасункі з дзіцячым садком № 10 г. Наваполацка. **У канцы снежня** дзеткам былі перададзены беларускамоўныя кніжкі, мультфільмы.

**У снежні 2010 года** Гарадзенская гарадская арганізацыя ТБМ зрабіла справаздачу аб сваёй дзейнасці ў 2010 годзе.

Асноўныя кірункі дзейнасці арганізацыі за гэты перыяд:

- сувязь ТБМ з аддзеламі адукацыі і культуры гарвыканкама;
- змаганне за беларускія класы, наведванне бацькоўскіх сходаў у школах;
- усталяванне беларускай аўдыёінфармацыі ў гарадскіх тралейбусах і аўтобусах;
- правядзенне беларускай дыктоўкі;
- падрыхтоўка і выпуск беларускага настольнага перакіднога календара;
- арганізацыя і правядзенне сустрэч з пісьменнікамі, прэзентацыі кніг гарадзенкіх аўтараў;
- адзначэнне 100-годдзя Ларысы Геніюш;
- правядзенне "круглага стала", прысвечанага развіццю краязнаўства на Гарадзеншчыне;
- арганізацыя падпіскі на "Наша слова";
- збор складак.

# *2011 год*

**На пачатку студзеня 2011 г.** адбылася сустрэча старшыні ТБМ Алега Трусава з новым кіраўніком Белтэлерадыёкампаніі Генадзем

Давыдзькам. Падчас яе абмяркоўваліся пытанні беларусізацыі дзяржаўных тэлеканалаў.

Алег Трусаў прапанаваў на працягу года зрабіць адзін з тэлеканалаў цалкам беларускамоўным. Гэтую ідэю кіраўнік БТ адхіліў як маларэальную для такога тэрміну, але абяцаў з 1 лютага перавесці навіны на Першым нацыянальным канале ў двухмоўны фармат. Быў выказаны намер беларусізаваць спадарожнікавы канал "Беларусь-ТБ", які вяшчае на замежжа.

Выказана згода кіраўніка БТ на трансляцыю беларускамоўных праграм па гісторыі і культуры нашай краіны. Абмяркоўвалася прапанова зрабіць моладзевае беларускамоўнае ток-шоў, магчымасць перакладаць і дубляваць па-беларуску новыя мультфільмы для дзяцей. Што да беларускамоўных фільмаў на DVD ад Белтэлерадыёкампаніі, то для іх пакуль бракуе сродкаў, як было заяўлена чыноўнікам.

**12 студзеня** ў Магілёве адбылося "Беларускае пяціборства-Х", юбілейнае. Праводзілася яно ва ўмовах дэфіцыту сродкаў на яго арганізацыю і пры рэкорднай колькасці ўдзельнікаў (18 дзяўчат і 24 хлопцы). Праграма ўтрымлівала 4 традыцыйныя заданні і дадатковае пятае (па беларускай мове). Першае месца заняла адзінаццацікласніца Магілёўскай гімназіі № 1 Фешчукова Юля; на другім - леташняя пераможца Жыркевіч Насця, на трэцім месцы - адзінаццацікласнік з Бабруйскай гімназіі № 3 Емяльянаў Павел.

На жаль, гэтае спаборніцтва за 10 гадоў так і засталося адметнасцю адной Магілёўскай вобласці, вывесці яго на ўзровень усёй краіны пакуль не ўдалося. Калі эстафеты не падхопіць іншая вобласць або сталіца, то ў наступным годзе яно ўжо не адбудзецца, - засцерагаюцца арганізатары мерапрыемства.

**30 студзеня** ў Менску прайшла чарговая Рада ТБМ. На парадак дня Рады былі вынесены наступныя пытанні:

1. Абмеркаванне прыняцця плана работы ТБМ на 2011 год.

2. Прызначэнне даты з'езду, вызначэнне квоты дэлегатаў на з'езд ад арганізацыйных структур ТБМ.

3. Абмеркаванне канцэпцыі Закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы".

4. Рознае.

4.1 Аб святкаванні выхаду 1000-га нумара газеты "Наша слова".

4.2 Аб правядзенні IV Агульнанацыянальнай дыктоўкі.

4.3 Аб святкаванні Дня роднай мовы 21 лютага 2011 г.

Рада зацвердзіла план работы ГА ТБМ імя Ф. Скарыны на 2011

год.

Рада вызначыла дату чарговага XI з'езду ТБМ.

Рада стварыла рабочую групу па дапрацоўцы канцэпцыі Закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы". У склад увайшло 7 чалавек. Групу ўзначаліў Лявон Баршчэўскі.

Абмеркавана сітуацыя выдання 25-томавага збору твораў Уладзіміра Караткевіча.

**30 студзеня** на пасяджэнні Рады ТБМ імя Ф. Скарыны прынята Пастанова Рады ТБМ імя Ф. Скарыны "Аб даце склікання чарговага XI з'езду ТБМ і аб працэдуры вылучэння дэлегатаў на з'езд".

**У канцы студзеня** Лідская гарадская арганізацыя ТБМ завяршыла з працу па Лідскім замку, каб не дапусціць яго гістарычна неабгрунтаванай забудовы надуманымі аб’ектамі. Па ініцыятыве ТБМ прайшлі тры этапы грамадскіх слуханняў. У выніку зняты з пасады аўтар праекту, адменена будаўніцтва трыбун, спынена будаўніцтва дома кашталяна.

**2 лютага** выйшаў 1000 нумар штотыднёвіка "Наша слова".

У юбілейным матэрыяле Рады ТБМ адзначана: *"Наша слова" - цэнтральны орган ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", першы з тыднёвікаў, заснаваных у найноўшы час беларускай гісторыі, выходзіць на гэтую сур'ёзную лічбу 1000".*

Рада ТБМ нагадвае, што Першы ўстаноўчы з'езд ТБМ адбыўся ў Менску 27 чэрвеня 1989 года, а ўжо ў сакавіку 1990 г. пачаў выходзіць штомесячны бюлетэнь "Наша слова". Старшынём рэдакцыйнай калегіі бюлетэня стаў старшыня ТБМ, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Напачатку "Наша слова" рыхтавалася на грамадскіх асновах, цяжар гэтай працы ўзяў на сябе Генадзь Тумаш. Але ўжо са студзеня 1991 года бюлетэнь ператварыўся ў васьміпалосную ўсебеларускую што-тыднёвую газету, галоўным рэдактарам стаў вядомы пісьменнік Эрнест Ялугін. Паступова роля і аўтарытэт "Нашага слова" ўзрасталі, наклад газеты дасягнуў больш за 8000 асобнікаў.

Пасля рэферэндуму 1995 г. моўная сітуацыя ў краіне змянілася. У 1997 годзе урад адмовіў у дзяржаўным фінансаванні газеты. Дзякуючы рашучай пазіцыі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, выхад газеты "Наша слова" на прыватныя сродкі быў адноўлены ў лістападзе 1997 г. у Лідзе, дзе і выдаецца да гэтага часу. Ад 1997 года і да сёння газету ўзначальвае паэт і публіцыст Станіслаў Суднік.

Газета мае асветніцкае і інструктыўнае значэнне для аргані-

зацый ТБМ, яна адлюстроўвае працу свядомых патрыётаў на карысць беларушчыны, і асабліва беларускай мовы, яднае, звязвае духоўна сяброў і прыхільнікаў ТБМ.

**16 лютага** Магілёўскі гарадскі выканаўчы камітэт прыняў рашэнне, у адпаведнасці з якім у гістарычным цэнтры Магілёва не будзе будавацца офісны будынак, што пакідае магчымасць аднаўлення касцёла св. Ксаверыя. Магілёўская ТБМ адстаяла магчымасць рэгенерацыі помніка архітэктуры 18 стагоддзя.

**17 лютага** прынята "Заява Сакратарыяту ТБМ з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы", у якой Сакратарыят звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі, а таксама прыхільнікаў беларушчыны за мяжой з просьбай выказаць у гэты дзень, 21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы, сваю падтрымку жывому беларускаму слову. Ён заклікае беларусаў прыняць удзел у IV Усебеларускай дыктоўцы, усюды, дзе толькі можна (у сям'і, на працы, у крамах і навучальных установах, у грамадскім транспарце) прамаўляць па-беларуску, запаўняць па-беларуску розныя бланкі, квіткі, афіцыйныя паперы і інш., дасылаць напісаныя па-беларуску лісты і паштоўкі.

**19-20 лютага** стартавала 4-я Агульнанацыянальная дыктоўка на Гарадзеншчыне.

**19 лютага** дыктоўку пісалі ў в. Дварэц Дзятлаўскага раёна. Сабраліся ў асноўным вучні мясцовай школы. Малодшыя дзеці пісалі празаічны тэкст паводле М. Багдановіча, старэйшыя - і празаічны тэкст, і верш.

**19 лютага** дыктоўка прайшла ў чытальнай зале гарадской бібліятэкі г. Бярозаўкі Лідскага раёна. Пісалі тэкст паводле У. Караткевіча "Беларусы - гэта мы" і верш М. Багдановіча.

**20 лютага** людзі сабраліся для напісання дыктоўкі ў чытальнай зале Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы горада Ліды. Прыйшло 15 чалавек. Тэксты для дыктоўкі бралі тыя самыя.

**20 лютага**, напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы, Магілёўская гарадская арганізацыя ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і клуб "Натхненне" правялі IV Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку, удзел у якой прынялі больш

за 60 чалавек. У якасці тэксту дыктоўкі выбрана эсэ Максіма Багдановіча "Хто мы такія?"

**21 лютага** ў Віцебску, як і па ўсёй краіне, прыхільнікі беларускага слова адзначылі Дзень роднай мовы. Галоўным у святкаванні было напісанне 4-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі на тэкст Максіма Багдановіча. Супольна пісалі дыктоўку сябры Сакратарыяту абласной рады, студэнты медыцынскага ўніверсітэта і тыя, хто далучыўся да акцыі ўпершыню. Прынялі ўдзел у напісанні дыктоўкі пераможцы абласнога этапу Рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове. Пісалі яе і ў студэнцкіх інтэрнатах.

Галоўнай падзеяй святкавання Дня роднай мовы на факультэце беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава стала публічная лекцыя дацэнта кафедры беларускага мовазнаўства спадарыні Алены Дзядовай на тэму "Менталітэт народа і родная мова".

**21 лютага**, у Міжнародны дзень роднай мовы ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" правяла першы этап чацвёртай агульнабеларускай дыктоўкі ў Менску. Прысвечаная 120-годдзю паэта, дыктоўка адбылася ў літаратурным музеі Максіма Багдановіча пры ўдзеле вялікай колькасці людзей, пісалася яна ў два заходы. Па традыцыі ў акцыі прыняў удзел амбасадар Швецыі Стэфан Эрыксан, да яго далучыўся прадстаўнік расейскай амбасады ў Беларусі. Тэкстам дыктоўкі гэтым разам выбралі вядомы верш Максіма Багдановіча "Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы..."

**21 лютага** ў Міжнародны дзень роднай мовы дыктоўка праводзілася ў Салігорску на прыватнай кватэры. Прынялі ўдзел 8 чалавек розных узростаў - ад вучняў школы да пенсіянераў. 22 лютага праведзена дыктоўка з сябрамі Савета грамадскай арганізацыі пенсіянераў Беларускага незалежнага прафсаюза.

Гомельскае гарадское таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Гомельская спецыялізаваная славянская бібліятэка зладзілі **21 лютага 2011 г.** імпрэзу, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы. Прынялі ў ёй удзел паэт, вядоўца тэлеперадачы "Вучымся размаўляць па-беларуску" Святаслаў Крупенька, спявачка (бард) і філолаг Вальжына Цярэшчанка. Гучалі песні, вершы. Галоўнай мэтай сустрэчы было напісанне IV Агульнанацыянальнай дыктоўкі на тэксты твораў Максіма Багдановіча. Разам з усёй краінай у Гомелі

дыктоўку напісала каля 30 чалавек - студэнты гомельскіх ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў адукацыі Гомеля. Дыктаваў Святаслаў Крупенька.

**21 лютага** баранавіцкія сябры ТБМ павіншавалі з Міжнародным днём роднай мовы адзіны беларускамоўны клас у горадзе, створаны ў 2010 годзе ў СШ № 14. У класе навучаюцца тры дзяўчынкі-першакласніцы. Дзецям падараваныя беларускія чытанкі, лялькі-васілінкі з сімвалічнымі валошкамі, а таксама святочны каравай з надпісам "З днём роднай мовы".

**У канцы лютага** ТБМ атрымала адказ з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на зварот старшыні ТБМ Алега Трусава аб сітуацыі з дарожнымі знакамі ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці. Сп. Трусаў у сваім звароце спасылаецца на неаднаразовыя скаргі мясцовых жыхароў, абураных тым, што з шыльдаў зніклі назвы населеных пунктаў на беларускай мове. Звароты да старшыні Глыбоцкага райвыканкама пакуль ніякага выніку не далі, засталіся без адказу.

Начальнік галоўнага ўпраўлення па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь С.Буко паведамляе, што зварот старшыні ТБМ разгледжаны ў Адміністрацыі Прэзідэнта РБ. Прызнана, што пытанне аб замене дарожных знакаў з назвамі населеных пунктаў на рускай мове ўзнята правільна. Адзначана, што замена дарожных знакаў вырашаецца планава па меры неабходнасці замены знакаў. У мінулым годзе ў Глыбоцкім раёне заменена 14 знакаў з назвамі населеных пунктаў і 2 знакі з назвамі рэк, усе надпісы зроблены на беларускай мове, плануецца замяніць яшчэ 52 знакі, таксама на беларускамоўныя.

**23 сакавіка** ў "Нашым слове" апублікавана справаздача Полацкай гарадской арганізацыі ТБМ аб дзейнасці ў 2010 годзе.

**25 сакавіка** у менскай сядзібе ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" прайшоў трэці, заключны этап IV Агульнанацыянальнай дыктоўкі па беларускай мове, прысвечаны 93-й гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Тэкст Максіма Багдановіча "Хто мы такія?" чытала старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ, мовазнаўца Алена Анісім. Каля 30 чалавек прымалі ўдзел у напісанні дыктоўкі.

**25 сакавіка** ў сядзібе ГА "Таварыства беларускай мовы імя

Францішка Скарыны" адкрылася выстава жывапісу сябра суполкі "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў, старшыні сталічнай Партызанскай раённай рады ТБМ Алеся Цыркунова. Выстава была прымеркавана да 93-й гадавіны абвяшчэння БНР. Экспазіцыя ўтрымлівала 12 партрэтаў вядомых дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэння, у тым ліку Альфрэда Ромера, Рамана Скірмунта, Аўгена Калубовіча, Марыі Магдалены Радзівіл, Уладзіміра Дубоўкі, Міхася Ткачова, Надзеі Дземідовіч, Антося і Алеся Фурсаў і інш.

**У лютым 2011 г.** старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" сп. Алег Трусаў накіраваў ліст Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь сп. Маскевічу С.А. у падтрымку настаўніцы Талькаўскай сярэдняй школы Пухавіцкага раёна Наталлі Ільініч, з якой не быў падоўжаны працоўны кантракт па надуманых палітычных прычынах. У лісце адзначаецца, што спн. Ільініч з'яўляецца адной з самых вядомых і паважаных настаўнікаў гісторыі ў раёне, праводзіць краязнаўчую працу, з'яўляецца актыўным сябрам ТБМ, мае заслужаны аўтарытэт. На імя дырэктара Талькаўскай школы неаднаразова звярталіся жыхары Пухавіцкага раёна з просьбамі пакінуць яе на працы.

**У пачатку сакавіка** атрыманы адказ ад намесніка міністра сп. Фарыно К.С. з паведамленнем, што ліст сп. Трусава і адказ Міністэрства належыць пераслаць у аддзел адукацыі Пухавіцкага райвыканкама.

Менскі абласны выканаўчы камітэт Упраўлення адукацыі даслаў у "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ліст, падпісаны начальнікам упраўлення Т.І. Данілевічам, у якім ён тлумачыць прыняцце рашэння дырэктарам Талькаўскай сярэдняй школы аб непрацягу працоўнага кантракту з настаўніцай Наталляй Ільініч тым, што яна мела дысцыплінарнае спагнанне. Яна ж так і не здолела аспрэчыць такое рашэнне праз суд.

Старшыня Лідскай раённай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Лявон Анацка, незаконна звольнены з працы на абутковай фабрыцы, праз суд дамогся свайго аднаўлення на працы на ранейшым месцы.

**24 сакавіка** Сакратарыят ТБМ прыняў два звароты.

Зварот Сакратарыяту ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да грамадзян Беларусі "Падтрымаем "Народную волю" і "Нашу ніву" выказвае падтрымку гэтым незалежным

выданням, судовы пераслед якіх парушае правы падпісчыкаў і чытачоў, пярэчыць дзяржаўным інтарэсам. "Мы звяртаемся да Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь з заклікам спыніць недарэчны працэс і даць магчымасць журналістам выконваць свой прафесійны абавязак", - сказана ў Звароце.

У Звароце Сакратарыята ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" "Забяспечым беларускім дзецям навучанне і выхаванне па-беларуску" адзначаецца, што пасля рэферэндуму па мове і сімволіцы і адпаведных зменаў у Канстытуцыі і "Законе аб мовах" сістэма бесперапыннай беларускамоўнай адукацыі ў Беларусі прыйшла ў заняпад. ТБМ прапануе стварыць Усебеларускі бацькоўскі камітэт з мэтай забяспечыць навучанне сваіх дзяцей па-беларуску - у дзіцячых садках, потым - у школе, далей - у ВНУ, праз адкрыццё беларускамоўных плыняў і груп. Сакратарыят ТБМ заклікае ствараць такія камітэты ў іншых гарадах, а потым аб'яднаць іх у адзіную структуру.

**24 сакавіка** старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст Кіраўніку справаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. У.У. Макею, у якім выказаў занепакоенасць скасаваннем ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы (РІВШ) курса "Афіцыйна-дзелавая лексіка і стылістыка", які чытаўся ў Акадэміі кіравання пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь для кіраўнікоў розных узроўняў.

**31 сакавіка** старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. У.У. Макея, каб нагадаць - у сувязі з пераходам на міжнародныя пасведчанні кіроўцаў аўтатранспарту - што не вырашана праблема з выкарыстаннем беларускай мовы супрацоўнікамі ДАІ. Калі беларускамоўнае пасведчанне кіроўцы можа атрымаць пры жаданні кожны, то беларускамоўны тэхнічны пашпарт пакуль не існуе, як і Правілы дарожнага руху.

На свой ліст старшыня ТБМ атрымаў адказ начальніка Упраўлення Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі Ю.А. Літвіна, дзе адзначаюцца тыя праблемы і цяжкасці, якія неабходна будзе вырашыць у працэсе далейшай беларусізацыі ў сферы аўтатранспарту.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў **у канцы сакавіка** атрымаў адказ з Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на ліст з прапановай выпусціць паштовыя маркі з выявамі замкаў Беларусі. Намеснік міністра М.М. Струкаў паведамляе, што запланаваны новы выпуск паштовых марак прадугледжвае 12 марак на тэму помнікаў

архітэктуры. Улічыўшы прапанову ТБМ, прынята рашэнне тры паштовыя маркі з гэтай серыі прысвяціць замкам Беларусі - Мірскаму, Нясвіжскаму і Лідскаму.

**18 красавіка** старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У.У. Макею з мэтай звярнуць увагу на беларускую лацінку ў афармленні беларускіх прозвішчаў у пашпартах і іншых дакументах. У ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" прайшло грамадскае абмеркаванне гэтай праблемы, падчас якога высветлілася, што ў краіне адсутнічае нарматыўны стандарт па передачы беларускіх прозвішчаў сродкамі лацінскай графікі. Між тым, беларуская лацінка зацверджана ў жніўні 2007 года на 9-й канферэнцыі ААН у Нью-Ёрку ў якасці міжнароднага стандарту для беларускіх прозвішчаў і геаграфічных аб'ектаў.

У адказе Міністэрства ўнутраных спраў (2.06), падпісаным начальнікам Дэпартамента А.Ю. Бегуном, адзначаецца, што "напісанне ўстановачных дадзеных у пашпарце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца ў адпаведнасці з міжнароднымі патрабаваннямі да машынасчытваных дакументаў".

**27 красавіка** паэты Эдуард Акулін і Леанід Дранько-Майсюк наведалі Полацк і Наваполацк, дзе Наваполацкай суполкай ТБМ "Рубон" былі арганізаваныя тры сустрэчы: у Полацкай гімназіі № 2, у гімназіі № 2 Наваполацка і ў Наваполацкай гарадской бібліятэцы імя Якуба Коласа.

Кіраўніцтва і актывісты ТБМ далучыліся да абароны сядзібы БНФ. Сотня грамадскіх лідэраў падпісала зварот з заклікам абараніць управу Партыі БНФ на Машэрава, 8, над якой навісла пагроза высялення. Сярод іншых зварот падпісалі старшыня ТБМ Алег Трусаў, а таксама сябры Рады ТБМ Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Уладзімір Арлоў, Алена Макоўская, Генадзь Бураўкін, Аляксей Марачкін і інш.

**12 траўня** атрыманы адказ на гэты ліст, падпісаны Першым намеснікам Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Радзьковым А.М. У лісце паведамляецца, што зварот А. Трусава ўважліва разгледжаны разам з Міністэрствам адукацыі і кіраўніцтвам акадэміі, і цяпер гэты курс выкладаецца на ўсіх спецыяльнасцях перападрыхтоўкі кадраў акадэміі на працягу 24 гадзін.

**25 траўня** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот да абітурыентаў і

іх бацькоў "Абяром на тэстах беларускую мову". Сакратарыят прапанаваў пры тэставанні абітурыентам абіраць мову Купалы і Коласа, Багушэвіча і Багдановіча, Караткевіча і Быкава, а таксама папярэдзіў, каб не баяліся новых зменаў у беларускім правапісе, бо ў гэтым годзе ў заданнях па тэставанні яны не ўлічваюцца.

**26 траўня** старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з лістом да старшыні Менскага гарвыканкама сп. М.А. Ладуцькі з прапановай наладзіць сустрэчу з кіраўніцтвам ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і адказнымі работнікамі сістэмы адукацыі г. Менска, якія курыруюць беларускамоўнае навучанне ў горадзе (паколькі ёсць скаргі бацькоў на няякаснае беларускамоўнае выхаванне, у прыватнасці, у дзіцячым садку № 534, які мае статус беларускамоўнага).

У адказ атрыманы ліст ад старшыні камітэта па адукацыі Менскага гарадскога выканаўчага камітэта У.К. Шчэрбы, у якім ён дае згоду на такую сустрэчу, разам з тым падае пералік мерапрыемстваў, якія праводзіліся з садку № 534 Фрунзенскага раёна г. Менска для ажыццяўлення беларускамоўнага навучання і выхавання.

**28 траўня** ў Лідскім гістарычна мастацкім музеі з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ прайшла імпрэза “Хай радасць з вачэй вашых бліснe. Песні філаматаў і філарэтаў”.

**3 чэрвеня** старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі сп. У.П. Андрэйчанку з просьбай падрыхтаваць неабходныя змены ў заканадаўства, каб усе нарматыўныя акты ў нашай краіне адразу прымаліся на дзвюх дзяржаўных мовах, як гэта робіцца ў цывізаваным свеце, калі краіна мае некалькі дзяржаўных моваў. Найперш ТБМ просіць паспрыяць у з'яўленні "Правілаў дарожнага руху" на беларускай мове.

Прапанова была разгледжана ў Пастаяннай камісіі па адукацыі і культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, пра што паведаміў Старшыня камісіі сп. У.М. Здановіч у сваім лісце А.Трусаву ад 5.07.2012 г. У адказе Пастаяннай камісіі адзначаецца: *"Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь разглядае і прымае праекты законаў на той з дзяржаўных моў, на якой яны ўносяцца на разгляд суб'ектамі права заканадаўчай ініцыятывы... Змяненне існага парадку... не прывядзе да чаканага выніку, паколькі зробіць заканадаўчы працэс груваcткім, працяглым па часе, прывядзе да значнага павелічэння дзяржаўных*

*выдаткаў".*

Што да тэксту "Правілаў дарожнага руху", зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, то ў яго нельга "ўносіць якія б то ні было змены". Таварыству беларускай мовы можна прапанаваць перакласці тэкст правіл на беларускую мову і апублікаваць яго, "але гэты тэкст будзе мець неафіцыйны хвapaктар".

**24 чэрвеня** старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да дырэктара Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследа-ванняў Рэспублікі Беларусь сп. В.Д. Іпатава з прапановай падрыхтоўкі супрацоўнікамі гэтай установы афіцыйнай версіі "Правілаў дарожнага руху" на беларускай мове і накіраваць яе для разгляду ў Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь.

Адказ Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў, падпісаны намеснікам дырэктара (ад 4 ліпеня 2011 г.) пацвярджае, што афіцыйны пераклад "Правілаў дарожнага руху" можна ажыццявіць толькі шляхам падрыхтоўкі адпаведнага акта Кіраўніком дзяржавы.

Разам з тым, у лісце пералічаныя тыя зрухі, якія адбываюцца паступова ў вобласці нарматворчай дзейнасці. Паведамляецца, што "Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь распрацаваны і распрацоўваецца Эталонны банк дадзеных прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь "Эталон 6.1", у які інтэграваны машынны перакладчык з рускай на беларускую мову і наадварот. Гэта садзейнічае разуменню зместу нарматыўнага прававога акта на любой з дзяржаўных моў".

**24 чэрвеня** ў Лідскім Фарным касцёле па замове Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ упершыню адслужана памінальная імша па ксендзы Адаме Фалькоўскім.

**У чэрвені 2011 г**. сябры Гарадзенскай абласной рады "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" звярнуліся да бацькоў будучых першакласнікаў, якія абіраюць для сваіх дзяцей беларускамоўнае навучанне, з прапановай падаваць заявы ў СШ № 32 Ленінскага раёна Гародні, дзе створаныя ўсе ўмовы для адкрыцця беларускага класа.

**6 ліпеня** прыняты "Зварот Таварыства беларускай мовы да маладых спецыялістаў". У гэтым звароце Сакратарыят ТБМ заклікае выпускнікоў ВНУ і сярэдніх спецыяльных устаноў карыстацца ў сваёй

прафесійнай дзейнасці роднай беларускай мовай, якая здольная паспрыяць дасягненню поспеху ў любой сферы, а таксама дапамагчы адчуць сябе годнымі еўрапейцамі.

**12 ліпеня** "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" направіла ліст у падтрымку газеты "Наша ніва". "На сённяшні дзень, - адзначаецца ў лісце, - "Наша ніва" з'яўляецца надзвычай важным, запатрабаваным у грамадстве выданнем, якое прапагандуе сапраўдныя каштоўнасці - любоў да сваёй роднай мовы, веданне гісторыі і культуры беларускага народа". Ліст падпісала намеснік старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" А.М. Анісім.

**24 ліпеня** баранавіцкія сябры Таварыства беларускай мовы і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі адзначылі 215-я ўгодкі з дня народзінаў пачынальніка беларускай літаратуры, паэта і аўтара 6 зборнікаў "Вясковых песень" Яна Чачота. Удзельнікі турыстычнай вандроўкі наведалі вёску Новая Мыш, дзе ўсталяваны помнік вясковаму лірніку, пасля - вёску Крывошын (Ляхавіцкі раён), дзе прайшлі дзіцячыя гады паэта. Мясцовыя грамадскія актывісты ўсталявалі памятную шыльду ў гонар Яна Чачота ў Рэпіхаўскім парку. У вандроўцы прынялі ўдзел прафесар Леанард Дарашэвіч і бард Аляксей Жбанаў. Яны распавялі пра творчасць Яна Чачота і правялі інтэлектуальную віктарыну. Барды Аляксей Жбанаў, Зміцер Занеўскі, Цімох Акудовіч арганізавалі міні-канцэрт.

**31 ліпеня** ва ўрочышчы "Крыжы" паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна адбылося набажэнства ў памяць паўстанцаў 1863 года. Пасля імшы былі запалены знічы на магілах паўстанцаў у Лідзе (кс. Адама Фалькоўскага і Валерыі Цехановіч). Імпрэзу арганізавала Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны.

**3 жніўня** "Наша слова" змясціла віншаванне Сакратарыяту ТБМ і рэдакцыі газеты "Наша слова" штотыднёвіку "Культура" з выхадам 1000 "нумара".

**3 жніўня** газета "Наша слова" апублікавала артыкул Яраслава Грынкевіча "Дыялог з уладамі як форма жыццядзейнасці ТБМ". Гэты матэрыял з'явіўся ў адказ на паляміку, якая ўзнікла ў СМІ ў сувязі з выказваннем старшыні ТБМ Алега Трусава ў газеце "Народная воля":

"З любой уладай варта ісці на дыялог у любой сітуацыі. Лепш дыялог, чым рэвалюцыя і грамадзянская вайна". Гэтыя словы выклікалі пытанні і каментары, часта рэзкія і крытычныя.

Яраслаў Грынкевіч выступіў у падтрымку тактыкі дыялогу. "Ужо многія гады, - адзначаецца ў артыкуле, - ТБМ вядзе з уладамі дыялог, як на дзяржаўным узроўні, так і на рэгіянальным, так і на ўзроўні асобных сяброў арганізацыі. Напісаны многія сотні лістоў, атрыманы сотні адказаў". Аўтар пералічвае тыя эпізоды з гэтай перапіскі, калі запыты і патрабаванні Таварыства беларускай мовы прынеслі станоўчыя вынікі, спрыялі вырашэнню тых ці іншых праблем. Часам поспехі, якіх удалося дасягнуць пры дапамозе такой тактыкі, выглядаюць дробнымі, нязначнымі, але ў нашай сённяшняй сітуацыі гэта той рэальны пазітыў, які назапашваецца і дапамагае прыблізіць лепшыя часы, чаго нельга дасягнуць канфрантацыяй і зацятым маўчаннем.

Баранавіцкія грамадскія актывісты дамагліся добраўпарадкавання тэрыторыі ля Крыжа сталінскіх ахвяраў у гарадскім скверы па вуліцы Смаленскай. Зроблена агароджа з каменнай пліткі, працоўныя ЖКГ скасілі траву і падрэзалі кусты, пасадзілі кветкі, паставілі металёвыя заглушкі на крыжы і выканалі рамонт асфальтавых ходнікаў наўкол крыжа. Добраўпарадкаванне тэрыторыі ля Крыжа сталінскіх ахвяраў 2 разы на год традыцыйна ажыццяўляюць прадстаўнікі недзяржаўных грамадскіх арганізацый горада. Але выкананне адзначаных работ стала магчымым пасля таго, як грамадскія актывісты ТБМ напісалі калектыўны ліст у ЖКГ і сабралі больш за 100 подпісаў грамадзян горада.

**28 жніўня** ў Гародні прайшлі справаздачна-выбарчыя канферэнцыі Гарадзенскай абласной і Гарадзенскай гарадской арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Былі заслуханы справаздачныя даклады старшынь арганізацый і старшынь рэвізійных камісій. Дзейнасць арганізацый абмеркавана падчас выступаў дэлегатаў з Гародні і рэгіёнаў. Абраныя рады і рэвізійныя камісіі абедзвюх арганізацый.

У склад Гарадзенскай абласной рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" былі абраныя Алесь Крой (Гародня), Станіслаў Суднік (Ліда), Аляксей Пяткевіч (Гародня), Алесь Місцюковіч (Гародня), Таццяна Трафімчык (Слонім), Віталь Карнялюк (Гародня), Святлана Тарасава (Гародня), Іван Буднік (Гарадзенскі р-н), Міхась Вераціла (Ваўкавыскі р-н). Старшынёй рады абраны

Алесь Крой.

У склад Гарадзенскай гарадской рады абраны Аляксей Пяткевіч, Барыс Нямчук, Таццяна Канопкіна, Віктар Парфёненка, Святлана Тарасава. Старшынём рады абраны Аляксей Пяткевіч.

Абраныя дэлегаты на з'езд ТБМ у кастрычніку. Ад абласной рады дэлегатамі з'езду сталі А. Крой, І. Трафімчык, І. Буднік, В. Карнялюк, М. Вераціла, ад гарадской арганізацыі - А. Пяткевіч, В. Парфёненка, С. Тарасава, Н. Кануннікава.

**30 жніўня** на паседжанні Сакратарыяту ТБМ прыняты Зварот Сакратарыяту ТБМ да грамадзянаў Беларусі "Звяртаемся да ўсіх пабеларуску". У ім паведамляецца, што ў выніку шматгадовых намаганняў Таварыства беларускай мовы ў ліпені гэтага года прыняты закон "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб", у якім у артыкуле 18 замацавана права грамадзян атрымаць адказ на мове звароту.

Такім чынам, звяртаючыся ва ўсе дзяржаўныя інстанцыі толькі па-беларуску, мы можам значна пашырыць ужыванне беларускай мовы ў дзяржаўных структурах, сярод чынавенства розных узроўняў.

**У пачатку верасня** падведзеныя вынікі чарговага этапа барацьбы ТБМ за беларускія першыя класы.

Два беларускія класы адкрыты ў Гародні. Па адным класе на раён горада, у 32-й і 34-й СШ.

У Берасці пачаў працу беларускамоўны клас, утвораны з ініцыятывы бацькоў. Атрымаўся клас з пяці вучняў на базе пачатковай школы № 34, навучанне ў якой праходзіць па пяты клас, пасля дзеці пераходзяць у гімназію № 2.

Два першыя класы з беларускай мовай навучання з'явіліся пасля перапынку ў Ашмянах - на базе СШ № 2 і СШ № 3. Адзін беларускі клас адкрыўся ў Смаргоні - на базе СШ № 1.

У Лідзе барацьба ішла за адкрыццё беларускамоўных класаў у дзевяці школах. У выніку адкрыты два 1-шыя беларускія класы (12-я школа - 3 вучні і 15-я школа - 4 вучні), захаваны беларускі 1-шы клас у Першамайскім (9 вучняў) і адкрыты чатыры беларускія групы ў рускамоўных садках (№ 26, № 35, № 38 г. Ліды і № 2 г. Бярозаўкі).

Не набралі неабходнай колькасці заяваў таксама ў Астраўцы і ў Маладзечне, але ёсць падставы спадзявацца, што ў будучым беларускія класы тут адчыняцца.

**14 верасня** ў Наваполацк па запрашэнні суполкі "Рубон" Наваполацкай гарадской арганізацыі "Таварыства беларускай мовы

імя Францішка Скарыны" завітаў са сталіцы малады паэт і перакладчык Віталь Рыжкоў. Ён выступіў перад аматарамі беларускай мовы, літаратуры і культуры з вершамі з прэзентаванай ім кнігі "Дзверы, замкнёныя на ключы". Сам Віталь, яго манера выступу, вершы і цікавыя разважанні пра літаратуру і жыццё не пакінулі абыякавымі нікога са слухачоў.

Сустрэчы адбыліся ў Наваполацкім дзяржаўным ліцэі і бібліятэцы імя Якуба Коласа.

**17 верасня** ў Менску адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Старшынём Менскай абласной арганізацыі ГА ТБМ стаў кіраўнік слуцкай арганізацыі сп. Курыльчык. Намеснікам старшыні абраны сп. Шаравар з Салігорска. Абраны пяць дэлегатаў на з'езд ТБМ.

**21 верасня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў у гарвыканкам г. Менска ліст, у якім выказаў неразуменне дзеянняў менскіх уладаў, іх моўнай палітыкі (адсутнасці, самапавагі).

Вось тэкст яго ліста (даслоўна):

*Сп. М.А.Ладуцьку,*
*старшыні Мінскага гарвыканкама*
*220030, г. Мінск,*
*Пр. Незалежнасці, 8.*

*Паважаны Мікалай Аляксандравіч!*

*У грамадскім аб'яднанні "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" паступаюць скаргі ад грамадзян Беларусі на адсутнасць беларускамоўнага афармлення будынка новага Мінскага аўтавакзала. Звычайна ў любой краіне міжнародныя аўтавакзалы маюць наглядную інфармацыю на некалькіх мовах, прычым, пераважае мова тытульнай нацыі... Просім Вас як мага хутчэй увесці дзяржаўную беларускую мову ў інфармацыйнае афармленне новага аўтавакзала на належным узроўні.*

*З павагай, старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы*
*імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў.*

Неўзабаве ў ТБМ на гэты ліст прыйшоў афіцыйны адказ з Менскага гарадскога выканаўчага камітэта за подпісам намесніка старшыні У.В. Калтовіча.

У ім завяраецца, што Менскі гарадскі выканаўчы камітэт падтрымлівае зацікаўленасць грамадзян Беларусі ў беларускамоўным

інфармацыйным афармленні будынка Мінскага аўтавакзала.

Але чаму зроблена іначай? Проста інфармацыйнае забеспячэнне будынка аўтавакзала не завершана. Плануецца выканаць афармленне інфармацыйных табло на беларускай і рускай мовах (для міжнародных рэйсаў - на рускай і англійскай), афармленне інфармацыйных паказальнікаў - на беларускай і рускай; інфармацыя на электронных табло на пероне - на беларускай і англійскай мовах.

**22 верасня** ў Менску адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай гарадской арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

На канферэнцыі старшынёй Менскай гарадской арганізацыі ГА ТБМ на наступны тэрмін выбралі Алену Анісім. Былі абраныя таксама 20 дэлегатаў на чарговы з'езд ТБМ, які адбудзецца 28 кастрычніка.

**30 верасня** свой 80-гадовы юбілей адзначыў першы старшыня Таварыства беларускай мовы, Народны паэт Беларусі Ніл Сымонавіч Гілевіч. Газета "Наша слова" прысвяціла гэтай падзеі 2 вылікія публікацыі: артыкул Ганны Бутучак, метадыста аддзела бібліятэчнага маркетынгу Лідскай ЦРБ імя Янкі Купалы "Захавальнік і абаронца беларускасці", а таксама падборку водгукаў, выказванняў, вершаў, прысвечаных народнаму паэту і грамадскаму дзеячу "Вялікі дзякуй за тое, што Вы ёсць!"

**5 кастрычніка** ў Лідскім каледжы прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя арганізацыі ТБМ каледжа як складовай часткі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ. Дэлегаты канферэнцыі заслухалі справаздачу намесніка старшыні арганізацыі Наталлі Курсевіч, дзейнасць арганізацыі прызналі станоўчай.

Была абрана рада арганізацыі ТБМ Лідскага каледжа ў складзе 4-х чалавек. Старшынёй стала Наталля Курсевіч.

**12 кастрычніка** ў канферэнц-зале Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы прайшлі справаздачна-выбарчыя канферэнцыі Лідскай гарадской і Лідскай арганізацый ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Былі заслуханы справаздачныя даклады старшыні Лідскай гарадской арганізацыі Станіслава Судніка і старшыні Лідскай арганізацыі Лявона Анацкі, даклады рэвізійнай камісіі. Дзейнасць арганізацый прызнана станоўчай.

Абрана рада Лідскай гарадской арганізацыі, старшыня яе -

Станіслаў Суднік, рада Лідскай арганізацыі, якую ўзначаліў у якасці старшыні Лявон Анацка.

Былі абраны дэлегаты на з'езд ТБМ. Гэта - Станіслаў Суднік, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі, рэдактар газеты "Наша слова"; Наталля Курсевіч, намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі, старшыня арганізацыі ТБМ Лідскага каледжа; Сяргей Сідарэнка, сябар рады Лідскай гарадской арганізацыі; Арцём Маліноўскі, сябар рады арганізацыі ТБМ Лідскага каледжа. Ад Лідскай арганізацыі абраныя Лявон Анацка, старшыня арганізацыі, і Юрась Дзяшук, рэвізор арганізацыі.

**19 кастрычніка** ў газеце "Наша слова" змешчана віншаванне Сакратарыяту ТБМ калектыву газеты "Культура" з 20-годдзем. Адзначана, што першым рэдактарам газеты "Культура" з кастрычніка 1991 года была Вольга Іпатава, сябра Рады ТБМ. І пры Іпатавай, і пазней газета вельмі шмат рабіла для культуры Беларусі. Зробленае за гэтыя 20 гадоў знаходзіць самую высокую ацэнку як ў кіраўніцтва краіны, так і ў грамадства.

**19 кастрычніка** ў газеце "Наша слова" апублікавана справаздача Наваполацкай гарадской арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", суполкі "Рубон" Наваполацкай гарадской арганізацыі ТБМ аб дзейнасці за 2011 г.

**23 кастрычніка** ў канферэнц-зале Чырвонага касцёла ў Менску адбыўся чарговы XI з'езд Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

На з'езд прыбылі каля 120 дэлегатаў, ганаровыя госці, прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі - народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, паэт Анатоль Вярцінскі, мастак Аляксей Марачкін, перакладчык Лявон Баршчэўскі ды іншыя. У прэзідыуме - Алег Трусаў, Радзім Гарэцкі, Алена Анісім.

Са справаздачным дакладам пра зробленае за апошнія 3 гады выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў.

З кароткімі паведамленнямі выступілі кіраўнікі абласных філіялаў ТБМ, дэлегаты з'езду.

Праведзены выбары новага кіраўніцтва ТБМ. Старшынём ТБМ зноў абраны Алег Трусаў, першым намеснікам абрана Алена Анісім - старшыня Менскай гарадской арганізацыі.

Рэдактарам газеты "Наша слова" на чарговыя тры гады абраны Станіслаў Суднік.

**Зварот удзельнікаў XI з'езду ТБМ да ўладаў Беларусі.**

Удзельнікі XI з'езду ТБМ прапануюць абвясціць наступны, 2012 год "Годам беларускай мовы" ў гонар юбілеяў класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, а ўраду Беларусі распрацаваць і ажыццявіць канкрэтную праграму падтрымкі беларускай мовы ў розных сферах грамадскага жыцця нашай краіны.

**Зварот удзельнікаў XI з'езду ТБМ да заканадаўчых органаў улады Беларусі.**

Дэлегаты XI з'езду ТБМ звяртаюцца да прадстаўнікоў органаў заканадаўчай улады РБ з прапановай распрацаваць і прыняць у бліжэйшы час закон "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы".

**Пастанова XI з'езду ТБМ.**

З'езд ТБМ заклікае Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь вярнуцца да практыкі выкладання прадметаў "Гісторыя Беларусі" і "Геаграфія Беларусі" ва ўстановах сярэдняй адукацыі на беларускай мове.

**Пастанова XI з'езду ТБМ.**

З'езд звяртаецца да Міністэрства культуры, кіраўніцтва Белдзяржрадыёкампаніі з прапановай стварыць на тэлебачанні цалкам беларускамоўны канал, а на ўсіх астатніх каналах устанавіць абавязковае 50 % вяшчанне праграм на дзяржаўнай беларускай мове.

**Рэспубліканская Рада ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", абраная на XI з'ездзе ТБМ:**

1. Аксак Валянціна Іванаўна, г. Менск
2. Акулін Эдуард Аляксандравіч, г. Менск
3. Анісім Алена Мікалаеўна, г. Менск
4. Арлоў Уладзімір Аляксеевіч, г. Менск
5. Бабіч Юрый Міхайлавіч, г. Віцебск
6. Багданкевіч Святлана Мікалаеўна, г. Менск
7. Баравік Марыя Якаўлеўна, в. Падсвілле, Глыбоцкі раён
8. Бароўскі Анатоль Мікалаевіч, г. Гомель
9. Баршчэўскі Леанід Пятровіч, г. Менск
10. Барэль Таццяна Уладзіміраўна, г. Асіповічы
11. Бураўкін Генадзь Мікалаевіч, г. Менск
12. Вярцінскі Анатоль Ілліч, г. Менск
13. Вячорка Вінцук Рыгоравіч, г. Менск
14. Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч, г. Менск

15. Гілевіч Ніл Сымонавіч, г. Менск
16. Дзіцэвіч Людміла Мікалаеўна, г. Менск
17. Дзьячкоў Алег Уладзіміравіч, г. Магілёў
18. Завальнюк Уладзіслаў Мацвеевіч, г. Менск
19. Запрудскі Сяргей Мікалаевіч, г. Менск
20. Зуёнак Васіль Васільевіч, г. Менск
21. Іванова Бярнарда Пятроўна, в. Прылукі, Менскі раён
22. Каласоўскі Юрась, г. Магілёў
23. Колас Уладзімір Георгіевіч, г. Менск
24. Красоўская Тацяна Мікалаеўна, г. Магілёў
25. Крой Аляксандр Ільіч, г. Гародня
26. Крук Валянціна Іосіфаўна, г. Полацк
27. Кручкоў Сяргей Мікалаевіч, г. Менск
28. Лукашэнка Любоў Якаўлеўна, г. Віцебск
29. Мальдзіс Адам Восіпавіч, г. Менск
30. Марачкін Аляксей Антонавіч, г. Менск
31. Марачкіна Ірына Сяргееўна, г. Менск
32. Навумчык Іосіф Адамавіч, г. Віцебск
33. Новік Максім Мікалаевіч, г. Гомель
34. Панізнік Сяргей Сцяпанавіч, г. Менск
35. Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч, г. Гародня
36. Райчонак Ада Эльеўна, в. Германавічы, Шаркаўшч. раён
37. Раманцэвіч Валянціна Карлаўна, г. Менск
38. Родзік Анатольк Леанідавіч, г. Віцебск
39. Рымша Алесь Георгіевіч, г. Наваполацк
40. Савіцкі Мікалай Іванавіч, г. Менск
41. Санько Зміцер Хведаравіч, г. Менск
42. Содаль Уладзімір Ільіч, г. Менск
43. Стэпановіч Язэп Міхайлавіч, г. Менск
44. Суднік Станіслаў Вацлававіч, г. Ліда
45. Сырыца Віктар Антонавіч, г. Баранавічы
46. Трусаў Алег Анатольевіч, г. Менск
47. Тушынскі Дзяніс Міхайлавіч, г. Менск
48. Цыхун Генадзь Апанасавіч, г. Менск
49. Чэчат Алесь Віктаравіч, г. Менск
50. Шыдлоўская Ніна Анатольеўна, г. Менск
51. Якавенка Яўген Яўгенавіч, г. Гомель

**Рэвізійная камісія ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны":**

Ялугін Эрнест Васільевіч

Качаноўская Наталля Георгіеўна
Лавіцкі Мікалай Емяльянавіч
Канкаловіч Вера Генадзеўна, старшыня камісіі
Мускі Барыс Георгіевіч

**Пастанова Рады ГА ТБМ ад 23 кастрычніка 2011 г. "Аб памеры складак сяброў ТБМ".**

Рада ТБМ пастанаўляе: увесці з 1 студзеня 2012 г. наступныя памеры складак для сяброў арганізацыі (за год).

1. Працоўныя - 25 тыс. рублёў.
2. Пенсіянеры - 10 тыс. рублёў.
3. Беспрацоўныя - 7 тыс. рублёў.
4. Студэнты - 5 тыс. рублёў.
5. Школьнікі - 3 тыс. рублёў.
6. Грамадзяне Расіі - 250 рас. рублёў.
7. Грамадзяне Украіны - 30 грыўнаў.
8. Грамадзяне Еўразвязу - 5 еўра.
9. Грамадзяне іншых краін - 7 даляраў ЗША.

**23 кастрычніка** ў канферэнц-зале Чырвонага касцёла ў Менску адбылося першае паседжанне Рады грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", абранай XI з'ездам ТБМ.

Рада абрала Сакратарыят Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і рэдакцыйную калегію газеты "Наша слова". У яе ўвайшлі: Алена Анісім, Юрась Бабіч, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

**Сакратарыят ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", зацверджаны Радай ТБМ 23.10. 2011 г.:**

Трусаў Алег Анатольевіч
Вярцейка Алесь Віктаравіч
Багданкевіч Святлана Мікалаеўна
Тыгрыцкая Вольга Аляксандраўна
Кручкоў Сяргей Мікалаевіч
Стэпановіч Язэп Міхайлавіч
Анісім Алена Мікалаеўна
Акулін Эдуард Аляксандравіч
Тушынскі Дзяніс Міхайлавіч

Кошчанка Ўладзімір Аляксандравіч
Бажок Юля
Чэчат Алесь Віктаравіч

**Кастрычнік 2011 г.** Па запрашэнні суполкі "Рубон" Наваполацкай гарадской арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" адбылася сустрэча аматараў беларускай мовы і літаратуры з бардам Алесем Камоцкім, старшынём Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесем Пашкевічам і рэдактарам літаратурна-мастацкага часопіса "Дзеяслоў" Барысам Пятровічам. Вядомыя беларускія творцы выступілі перад аўдыторыямі гімназіі № 2 г. Полацка і гімназіі № 2 г. Наваполацка. Выступоўцы распавядалі пра стан сучаснай беларускай літаратуры, адказвалі на пытанні слухачоў і самі задавалі пытанні. Алесь Камоцкі спяваў песні са сваіх альбомаў.

**У кастрычніку** Старшыня ТБМ Алег Трусаў даслаў ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. Макею У.У. Ён выказвае ў ім заклапочанасць лёсам дзіцячай газеты "Раніца", прапануе канструктыўнае рашэнне праблемы.

"Са сродкаў масавай інфармацыі мы даведаліся аб фактычнай ліквідацыі адзінай дзіцячай беларускамоўнай газеты "Раніца", якая мае 80-гадовую гісторыю. Газету хочуць ператварыць у сціплы дадатак да "Настаўніцкай газеты", што азначае яе фактычнае знішчэнне". "Дастаткова, - піша ён, - успомніць трагічны лёс моладзевай беларускамоўнай газеты "Чырвоная змена". Чыноўнікі спасылаюцца на фінансавыя цяжкасці". Мы прапануем два варыянты станоўчага вырашэння гэтай праблемы.

1. Закрыць газету "Знамя юности" , ператварыўшы яе ў дадатак папулярнай "Советской Белоруссии", а сэканомленыя грошы перадаць на выданне "Раніцы".

2. Перадаць газету ў выдавецкі холдынг "Літаратура і мастацтва" з адзіным апаратам кіравання, захаваўшы "Раніцу" у якасці асобнага выдання.

На гэты ліст прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь за подпісам Міністра У.У. Матусевіча.

Растлумачыўшы, якія ў газеты крыніцы фінансавання, ён піша: "Нягледзячы на меры, якія прымаюцца ў апошні час, фінансава-эканамічныя паказчыкі дзейнасці ўстановы па выпуску газеты "Раніца" вельмі нізкія, тыраж газеты на 1 кастрычніка 2011 года - усяго 1674 экз."

У сувязі з гэтым заснавальнікамі прынята рашэнне аб далейшым выпуску газеты "Раніца" ў новым фармаце - у выглядзе штомесячнага ўкладыша ў газеце "Переходный возраст" - на 8 палосах.

Старшыня Таварыства беларускай школы сп. Алесь Лозка таксама б'е трывогу па газеце "Раніца". Пісаў у Міністэрства адукацыі.

На зварот ТБШ у Міністэрства адукацыі аб выяўленні прычынаў закрыцця газеты "Раніца" атрымалі адказ, з якога вынікае, што "Газеты "Раніца" і "Переходный возраст" з 01.01.2010 г. не ўключаны ў пералік выданняў, рэдакцыям якіх выдзяляюцца субсідыі з рэспубліканскага бюджэту на пакрыццё страт ад іх выпуску".

Калі ў нас канстытуцыйнае двухмоўе, то чаму субсідый больш выдзяляецца не на родную мову? Пустаслоўе, падман.

Пытанні, пытанні. А хто будзе на іх адказваць?

У газеце "Наша слова" за **2 лістапада** пад загалоўкам "Калі мы дачакаемся "Года беларускай мовы?" Старшыня ТБМ Алег Трусаў адказвае на пытанні карэспандэнта газеты "Звязда" Ларысы Цімошык.

- ТБМ чарговы раз выступае з ініцыятывай "Года беларускай мовы". Колькі гадоў вы яе прапаноўваеце? І што трэба, каб яе ўсё ж замацаваць?

- Звычайна наша ініцыятыва рэалізоўваецца праз пяць-шэсць гадоў. Трэба некалькі гадоў весці перапіску з рознымі структурамі. Тады яны саспяваюць да вырашэння нейкага пытання. Тым больш што налета ў нас тры юбілеі: Янкі Купалы, Якуба Коласа і 100-годдзе Максіма Танка.

- Вы збіраецеся стварыць беларускамоўны інтэрнэт-партал. Для каго ці чаго знойдзецца ў ім месца?

- Там і "Звяздзе" будзе месца!.. Мы хочам сабраць любыя беларускамоўныя выданні, каб на нашым партале можна было знайсці інфармацыю пра любое беларускамоўнае выданне - раённае ці рэспубліканскае.

- ТБМ дагэтуль большы ўпор рабіла на культурна-асветніцкай дзейнасці... Гэтаму будзе спрыяць наш праект "Ахова гістарычна-культурнай спадчыны" праз краязнаўчую і валанцёрскую дзейнасць. Гэта вялікі праект, будуць канферэнцыі, выданні, календары, паштоўкі.

- Такія акцыі могуць дапамагчы мове стаць больш запатрабаванай у людзей?

- Вядома. Любая акцыя на карысць мовы ёй дапамагае. Любая шыльда на беларускай мове, буклецік, памятны знак, паштовая марка

- гэта ўсё ідзе ў "плюс". Гэта шматгадовая праца, якую трэба рабіць штодзённа, кожную хвіліну.

З газеты "Звязда", № 203 (27067), 25 кастрычніка 2011 г.

На Гарадзеншчыне запрацавала 20 новых беларускіх класаў (169 чалавек).

Падводзячы вынікі карпатлівай работы па адкрыцці беларускіх класаў у сённяшніх варунках, найперш трэба сказаць вялікі дзякуй бацькам, якія ведаюць, адкуль іх род, настаўнікам і адміністрацыі школ, якія зацікаўлены ў павелічэнні колькасці навучальных гадзін. Усё гэта разам і дало, хай невялікі, але плён.

Усяго ў 20 першых беларускіх класах вучыцца 169 чалавек. У раёнах, цэнтрах і гарадах, дзе актыўна працавалі адміністрацыя і настаўнікі школ, а аддзелы адукацыі не пусцілі справу на самацёк па папулярызацыі навучання па-беларуску, дзе грамадскія актывісты супрацоўнічалі са школамі, бацькамі, аддзеламі адукацыі - там ёсць і вынікі.

Асабліва трэба адзначыць пераможную тройку - адміністрацыю, настаўнікаў і бацькоў у СШ № 3, СШ № 8 г. Слоніма; СШ № 2, СШ № 3 г. Ашмяны; гімназія № 1, СШ № 4 г. Ваўкавыска.

**10 лістапада** па запрашэнні суполкі "Рубон" Наваполацкай гарадской арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" завіталі ў Наваполацк журналіст Глеб Лабадзенка, паэт Сяргей Панізьнік і бард Таццяна Беланогая. Выступоўцы з цудоўным пачуццём гумару забаўлялі, смяшылі, расказвалі цікавыя гісторыі навучэнцам гімназіі № 2 і Наваполацкага дзяржаўнага ліцэя. Полацкая зямля гасцінна ўсіх прывячае, сустракае і чакае новых выступаў.

**11 лістапада** ў сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма" адбылася прэзентацыя кнігі З. Санько "Асобы, якія тварылі гісторыю. Кароткі праваднік", "Вільня", "Наша будучыня".

"Кожны цывізаваны чалавек абавязаны ведаць гісторыю сваёй Айчыны, ведаць яе герояў". Каб зрабіць гэтыя веды максімальна даступнымі кожнаму, і рабілася гэтая кніжка. Празмерная лаканічнасць, вядома ж, спрашчае карціну, але адначасна дае магчымасць ахапіць поглядам шырокую панараму, адчуць непарыўнасць гістарычнага працэсу. Хацелася б, каб зразумелі маладыя, што гісторыю твораць людзі, ад нас залежыць будучыня зямлі. Як мы парупімся, такі і будзе плён, - сказаў аўтар прадстаўляючы сваю кніжку публіцы.

**18 лістапада** Сакратарыят ТБМ прыняў Заяву ў абарону часопіса "Бярозка".

Захаваем беларускамоўны дзіцячы часопіс "Бярозка". Гэтае выданне на працягу дзесяткаў гадоў несла беларускае слова нашым дзецям, у беларускую школу, выхоўвала патрыятызм і любоў да беларускай мовы.

У сувязі з гэтым мы заклікаем грамадзян Беларусі патрабаваць ад урада захаваць выхад часопіса і аб'явіць падпіску на гэтае выданне на наступны год, год юбілеяў класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы, Я. Коласа і М. Танка.

По запрашэнні Баранавіцкай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны **20 лістапада** горад наведаў пан Скіргайла, каб сустрэцца з аматарамі шляхетнай беларускай мовы і культуры. Імпрэза ладзілася ў прыватнай кватэры на вул. Міцкевіча. Кіраўнік творчай групы Алесь Стральцоў распавёў пра неабходнасць адмаўлення ад разумовай ляноты і папулярызаваць не мужыцка-сярмяжна-савецкую, а шляхецкую беларускую культуру. Затым выступіў пан Скіргайла, які бачыць сваё прызначэнне ў рэканструкцыяванні і прапагандаванні мовы Ф. Багушэвіча і Я. Купалы. Скіргайла пераканаўча паказаў, што шляхетнасць трэба выхоўваць найперш у сям'і. Гаварылі не толькі пра адраджэнне мовы і шляхетнасці, але і прагледзелі фрагменты батлейкі беларускага народнага лялечнага тэатра.

**28-30 лістапада** ў Познані (Польшча) адбыўся трэці штогадовы форум грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства. Форум праходзіў пад лозунгам "Партнёрства дзеля дэмакратычных рэформаў і еўрапейскай інтэграцыі" і сабраў каля 300 дэлегатаў Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Грузіі, Малдовы, Украіны і Еўрапейскага Саюза. У форуме браў удзел намеснік старшыні ТБМ Дзяніс Тушынскі.

Сярод выступоўцаў на Форуме у гэтым годзе прымалі ўдзел Еўракамісар па пашырэнні і палітыцы добрасуседства Штэфан Фюле, міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі.

З падачы прадстаўніка ТБМ пытанне парушэння моўных правоў і развіцця беларускай мовы былі шырока абмеркаваны на сустрэчы. У перспектыве гэта можа прывесці да канкрэтнай падтрымкі нашых прапаноў.

"Дзякуючы падачы намі інфармацыі аб парушэнні моўных правоў у Беларусі ў агульныя справаздачы па правах чалавека ў краінах УП, адпаведныя еўрапейскія структуры будуць у курсе нашых праблем".

**30 лістапада** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ прайшлі літаратурныя сустрэчы з Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько-Майсюком у Ганчарскай СШ і Лідскім каледжы;

**Лістапад 2011 г.** У Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь за подпісам намесніка Міністра В.В. Якжыка на зварот Старшыні ТБМ Алега Трусава.

Прыводзім фрагменты ягонага адказу:

*"Міністэрства адукацыі разгледзела Ваш зварот, які паступіў з Адміністрацыі Прэзідэнта РБ. Паведамляем наступнае:*

*У сітуацыі двухмоўя асаблівую важнасць набывае праблема заканадаўчага ўрэгулявання моўнага жыцця грамадства.*

*Сёння дзяржаўнымі мовамі ў нашай краіне з'яўляюцца беларуская мова як мова тытульнай нацыі (руская мова як найбольш пашыраная ў камунікатыўных адносінах мова). Сведчаннем дзяржаўнага рэгулявання ў сферы моўнай палітыкі і практыкі з'яўляецца ўвядзенне ў дзеянне з 1 верасня 2010 г. Закона РБ ад 23 ліпеня 2008 г. "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі".*

*Указам Прэзідэнта РБ ад 25 кастрычніка 2011 г. № 487 зацверджаны План мерапрыемстваў, прысвечаных 130-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. Пастановай ад 17 верасня 2011 г. № 1245 зацверджаны План мерапрыемстваў, прысвячаемых 100-годдзю з дня нараджэння М. Танка.*

*З мэтай пацвярджэння аднолькавага статусу беларускай і рускіх моў ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі адводзіцца аднолькавая колькасць гадзін на вывучэнне прадметаў "Беларуская мова", "Беларуская літаратура", "Руская мова", "Руская літаратура".*

*У сістэме адукацыі створаны адпаведныя ўмовы для рэалізацыі права выбару мовы навучання і выхавання.*

*Падрыхтаваны метадычныя рэкамендацыі для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры V - XI класаў, настаўнікаў I - IV класаў.*

*Адноўлена выданне кніг серыі "Школьная бібліятэка".*

*Белтэлерадыёкампанія вядзе пастаянную працу, накіраваную на папулярызацыю ўжывання беларускай мовы.*

*Асноўнымі задачамі Міністэрства культуры з'яўляюцца захаванне культурных традыцый і стварэнне належных ўмоў для іх далейшага развіцця.*

*Штогод 21 лютага адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы.*

*Святы - Дзень беларускага пісьменства, Міжнародны дзень роднай мовы - з'яўляюцца значнымі падзеямі ў культурным жыцці нашай краіны і спрыяюць захаванню нашай моўнай спадчыны".*

*Намеснік Міністра В.В. Якжык.*

**4 снежня** ў Баранавічах на сядзібе ТБМ (вёска Русіны, вуліца Сасновая, д. 5) адбылася прэзентацыя дыска "Барды Свабоды".

Арганізатарам мерапрыемства стала Анжэла Камбалава. Удзельнікі мерапрыемства з задавальненнем паслухалі песні вядомага беларускага барда Зміцера Бартосіка і атрымалі ў падарунак дыск беларускіх песень "Сто бардаў свабоды".

"Прыслухайцеся, прыглядзіцеся - Беларушчына побач" (або як мы адзначаем 120-годдзе Максіма Багдановіча).

Прыслухайцеся... З **9 снежня** ў магілёўскіх тралейбусах гучаць песні на словы класіка беларускай літаратуры М. Багдановіча. Гэта "Зорка Венера", "Па-над белым пухам вішняў" і "Слуцкія ткачыхі". Як заўважыў кіраўнік службы руху Аляксандр Мікалаевіч Кузін, гэта папулярызацыя як беларускай мовы, так і творчасці аднаго з выдатнейшых паэтаў нашай краіны.

Прыглядзіцеся... Актывісты ТБМ Алена Цумарава і Зміцер Кавалёў стварылі відэаролік з нагоды юбілею М. Багдановіча.

Газета "Наша слова" № 51 за **21 снежня** надрукавала артыкул, які рэкламуе клуб "ПраМова". Клуб прапануе прыемны, цікавы, крэатыўны спосаб авалодання беларускай мовай і актыўнага, свабоднага ў ёй існавання.

"Клуб красамоўства "ПраМова" пры ТБМ існуе з сакавіка 2011 года. Асноўнай мэтай клуба з'яўляецца развіццё свайго асобаснага патэнцыялу праз практыку. Клуб дапамагае стаць больш упэўненым у сабе, трымацца на публіцы, аналізаваць, слухаць, і як вынік, сябра клуба лёгка можа перайсці на беларускую мову.

За час існавання клуба нас наведала больш, чым паўсотні чалавек. Кожная сустрэча мае план працы, вылучаюцца людзі, якія сочаць за чысцінёй гаворкі. У нас у гасцях пабывала беларуская музычнная зорка Зміцер Вайцюшкевіч. У кожнага ёсць магчымасць прадэманстраваць свае таленты: праспяваць песню, сыграць на музычным інструменце, прадэкламаваць верш. Ствараем планы на будучыню. Чакаем таксама і Вас у нашым клубе!"

Сустрэчы праходзяць кожную сераду ў сядзібе ТБМ (Румянцава, 13), 18-45.

**17 снежня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ прайшлі канцэрты паводле песень філаматаў у Крупаўскай школе Лідскага раёна і Доміку Таўлая.

**18 і 19 снежня** ў Нацыянальным гістарычным музеі РБ праходзілі два мерапрыемствы, зладжаныя ТБМ у межах праекта "Захаванне культурнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці".

**18 снежня** адбылося ўрачыстае падвядзенне вынікаў Рэспубліканскага конкурсу па мікратапаніміцы "Ведаем свой край". Усяго паступіла 15 работ з розных рэгіёнаў Беларусі. Было вызначана 5 пераможцаў. Імі сталі: сп. Ганна Бародзіч з м. Дараганава Аіповіцкага раёна, Валянціна Валяўка з Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці, Яўген Ігнатовіч з Менска, Уладзіслаў Ляскоўскі з Шаркаўшчыны, Яніна Асіпцова з Магілёва. Ім былі ўручаны дыпломы, флэшкі і кнігі.

Дзя ўдзельнікаў конкурсу была арганізавана экскурсія па выставах музея.

Назаўтра, **19 снежня** адбыўся семінар па навучанні валанцёраў, у якім бралі ўдзел студэнты сталічных навучальных установў.

Вышэй названы праект быў падтрыманы Праграмай малых грантаў Амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі. Афіцыйным партнёрам ТБМ па выкананні гэтага праекту з'яўляецца Міністэрства культуры РБ і Нацыянальны гістарычны музей РБ.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць калектыў "Краязнаўчай газеты" з выхадам 400-га нумара. Калісьці Ларыса Геніюш казала, што куфры ў нас яшчэ не поўныя; у сваю чаргу скажам, што нівы краязнаўства ў нас яшчэ слаба-слаба ўзараныя. Таму мы зычым "Краязнаўчай газеце" сілаў і імпэту, каб на ўзараных ёю нівах рупілі ўсходы ведаў пра мінуўшчыну, і каб менш было агрэхаў.

**Увечары 23 снежня** на сядзібу ТБМ у Менску завіталі калядоўшчыкі: сябры студэнцкага этнаграфічнага таварыства, студэнты БДУКІМ, БДУ. Хлопцы і дзяўчаты ў калядных апранахах стварылі сапраўдны калядны настрой. Танцамі, песнямі і варажбой наведвальнікаў сядзібы павесялілі за сімвалічную плату: прысмакі і ласункі. Такім прыемным паваротам скончыўся вечар.

**У снежні** выйшаў з друку Краязнаўчы каляндар на матэрыяле Гарадзеншчыне на 2012 год. Укладальнік А. Пяткевіч, рэдактар С. Суднік.

# *2012 год*

У пачатку студзеня ў адрас Таварыства паступіў адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на зварот старшыні Алега Трусава аб выданні часопіса "Бярозка". Згодна з дакументам Міністэрства ў 2012 годзе часопіс "Бярозка" пачаў выпускацца ў новым фармаце - у якасці штотыднёвага дадатка да часопіса "Маладосць", што абумоўлена фінансава-эканамічнай сітуацыяй.

**4 студзеня** газета "Наша слова" змясціла на сваіх старонках канцэпцыю праекту Закона Рэспублікі Беларусь "Аб падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь".

**6 студзеня** было адзначана святкаваннем 120-годдзя з нараджэння Адама Станкевіча, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, выдаўца, гісторыка, публіцыста, літаратуразнаўца, каталіцкага святара.

**11 студзеня** было адзначана святкаваннем 75-годдзя Міхася Вераціла, калекцыянера, краязнаўцы, мастака, паэта.

**13 студзеня** на сядзібе ТБМ у рамках кампаніі "Будзьма" з нагоды юбілею вядомага гісторыка беларускага мастацтва Майі Яніцкай адбылося адкрыццё выставы.

**14 студзеня** Пастаўская раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы выдала першы нумар бюлетэня ТБМ "Шыпшына".

**16 студзеня** ў Палацы мастацтваў у межах кампаніі "Будзьма" адбылася презентацыя беларускамоўных насценных календароў выдадзеных ТБМ на 2012 год. Найперш, гэта каляндар, прысвечаны 120-годдзю Максіма Багдановіча, а таксама некалькі дзесяткаў насценных календароў з выявамі шэдэўраў беларускага дойлідства, выдадзеных у межах праекту "Захаванне культурнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці". У прэзентацыі прынялі ўдзел мастак-дызайнер, аўтар календароў Ігар Марачкін, старшыня ТБМ Алег Трусаў і намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім.

**20 студзеня** адбылося святкаванне 120 гадоў з дня нараджэння Рыгора Шырмы, выдатнага беларускага дырыжора, фальклярыста,

грамадскага і музычнага дзеяча, публіцыста, літуратуразнаўца.

**22 студзеня** ў сядзібе ТБМ адбылося паседжанне рэспубліканскай Рады ТБМ. Пад час сустрэчы былі разгледжаны прапановы пра заснаванне ўзнагароды ТБМ за пашырэнне ўжывання беларускай мовы ў грамадстве. Таксама на паседжанне была ўнесена прапанова аб распрацоўцы стандарту (на аснове агульнаеўрапейскага) на веданне беларускай мовы для замежнікаў. Было паднятае пытанне аб адзначэнні Еўрапейскага дня моваў. Сябрамі Рады ТБМ была прынята заява "Аб захаванні жылога дома ў г. Горкі Магілёўскай вобласці, дзе жыў і працаваў класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі".

**28 студзеня** было адзначана святкаваннем двух прыкметных датаў: 300 гадоў з дня нараджэння Удальрыка Радзівіла, дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, паэта, гісторыка. Таксама ў гэты дзень адбылося святкаванне 90 гадоў з дня нараджэння Янкі Жамойціна - беларускага пісьменніка-публіцыста, літаратурнага крытыка і грамадскага дзеяча.

**Напрыканцы студзеня 2012 года** Старшыня ТБМ Алег Трусаў (у адпаведнасці з рашэннем апошняга з'езду ТБМ) даслаў Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. Макею № 1 за 2012 год газеты "Наша слова", у якім надрукавана канцэпцыя праекта Закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь".

*"Просім Вас азнаёміцца з тэкстам канцэпцыі і пры магчымасці ініцыяваць распрацоўку адпаведнага ўказа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраванага на зябеспячэнне і абарону канстытуцыйных правоў беларускамоўных грамадзян нашай краіны"*, - гаворыцца ў лісце.

**У студзені** на сядзібе ТБМ была размешчана філатэлістычная выстава Лявона Карповіча "Мне сняцца сны аб Беларусі", пад час правядзення якой было выстаўлена 157 картмаксімумаў, прысвечаных гістарычным падзеям, гістарычным асобам і архітэктурным помнікам Беларусі.

**15 лютага** Дзень усіх закаханых Магілёўская ТБМ адзначыла канцэртам вядомага беларускага музыкі і выканаўца Зміцера Вайцюшкевіча. У Магілёў музыка прывёз самыя любімыя песні беларускай публікі "Я нарадзіўся тут", "Дарога", "Вясновы дзень" і іншыя. Па заканчэнні канцэртнай праграмы меламаны атрымалі памятныя паш-

тоўкі ад спевака і яго аўтограф.

**18, 19, 21 лютага** з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы па ўсёй краіне суполкамі ТБМ была праведзена 5-я Агульнанацыянальная дыктоўка. У бібліятэках, чытальных залах, а таксама ў школьных класах удзельнікі дыктоўкі пісалі верш Максіма Танка "Родная мова". Па выніках мерапрыемстваў былі адзначаны пераможцы, якія атрымалі памятныя падарункі.

**18 лютага** 5-я Агульнанацыянальная дыктоўка прайшла ў Бярозаўцы Лідскага раёна. Дыктоўку арганізоўвалі Лідская і Бярозаўская гарадскія арганізацыі ТБМ.

**19 лютага** 5-я Агульнанацыянальная дыктоўка прайшла ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. Пераможцам стаў Алесь Хітрун. У красавіку 2012 г. Алесь Хітрун за перамогу ў напісанні Агульнанацыянальнай дыктоўкі атрымаў спадарожнікавую талерку ад тэлеканала “Белсат”.

**22 лютага** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ прайшла прэзентацыя кнігі “Вінцук Адважны” з удзелам укладальніцы Ірыны Багдановіч у Лідскім каледжы і Доміку Таўлая.

**26 лютага** прайшло святкаванне 100 гадоў з дня нараджэння выбітнага беларускага пісьменніка і крытыка Ўладзіміра Караткевіча. З нагоды гэтай даты быў праведзены шэраг мерапрыемстваў і сустрэч па ўсёй краіне.

**29 лютага** споўнілася 140 гадоў з дня нараджэння Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, беларускага жывапісца-пейзажыста, які запачаткаваў развіццё стылю “лірычны пейзаж”.

**У лютым** з мэтай падрыхтоўкі навукова-практычнай канферэнцыі "Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух" у Віцебску адбылася сустрэча старшыні ТБМ Алега Трусава з краязнаўцамі з Віцебска, Гарадка, Докшыц, Бешанковічаў. Падчас сустрэчы прагучалі тэматычныя выступы Іосіфа Навумчыка і Ніны Сулецкай.

**У лютым** на імя Старшыні Таварыства беларускай мовы прыйшлі афіцыйныя адказы з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Бела-

русь і з Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь. Сутнасць гэтых адказаў у асноўным супадае: "Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь замацоўваецца роўнасць правоў і свабод", "у адпаведнасці з артыкуламі 17 і 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы, і кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання". Маўляў, існым "...Законам урэгуляваны пытанні развіцця і ўжывання беларускай, рускай і іншых моў". З мовамі ў нас усё ў парадку, чаго яшчэ хацець? (На гэтым аргуменце грунтуецца большасць афіцыйных адпісак). Да таго ж , у прапанаванай канцэпцыі праекта закона "...адсутнічае абгрунтаванне, у тым ліку эканамічнае, стварэння дадатковых структур дзяржаўнага кіравання". Заканадаўчы ж орган спасылаецца на працэдуру, парадак, план, якія ў падобнай сітуацыі служаць тымі рагаткамі, праз якія няпроста прабіцца новай, жывой ініцыятыве.

Нейкае выйсце з "зачараванага кола" прапануе матэрыял, змешчаны тут жа ў "Нашым слове" (№ 10 за 7 сакавіка) пад назвай "...але Беларуская Дзяржава абавязана падтрымліваць беларускую мову і будзе гэта рабіць, калі мы яе прымусім" (Паводле пазіцыі Рады ТБМ).

Арганізацыі ТБМ павінны прыняць самы актыўны ўдзел у выбарах, і кожны кандыдат у дэпутаты, ад каго б ён не вылучаўся, павінен атрымаць ад мясцовай арганізацыі ТБМ або проста ад групы выбаршчыкаў ці нават ад аднаго выбаршчыка праект закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь" і наказ вынесці гэты праект на разгляд Палаты Прадстаўнікоў у выпадку, калі ён будзе абраны.

**4 сакавіка** Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ арганізавала сустрэчу з віцебскім краязнаўцам М. Піваварам, аўтарам кнігі "Краязнаўцы Віцебшчыны".

**6 сакавіка** ў Лідскім каледжы прайшла імпрэза, якая аб'яднала ў сабе этнаграфічную вандроўку і Агульнанацыянальную дыктоўку. Арганізацыя ТБМ каледжа сумесна з цыклавой камісіяй філалагічных дысцыплін былі ініцыятарамі мерапрыемства. У часе этнаграфічнай вандроўкі па музеі "Беларуская хатка" ўспаміналі назвы розных рэчаў, якія некалі прымяняліся ў беларускім побыце. Пасля напісалі дыктоўку-верш Максіма Танка "Родная мова". Прысутны пры гэтым

Старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік правёў з дзецьмі невялікую віктарыну па назвах розных дэталяў печы.

У якасці падарункаў удзельнікі атрымалі календары з выявай Лідскага замка, выдадзеныя ТБМ.

Газета "Наша слова" за **14 сакавіка** надрукавала перапіску Старшыні ТБМ з Начальнікам Беларускай чыгункі А.А. Сіваком аб выкарыстанні дзяржаўнай беларускай мовы ў электрацягніках "Гарадскіх ліній":

Старшыня ТБМ Алег Трусаў звяртае ўвагу начальніка чыгункі на тое, што ў новых электрацягніках, закупленых у Швейцарыі і задзейнічаных у новай структуры "Гарадскіх ліній", дзяржаўная беларуская мова цалкам адсутнічае. У афіцыйным адказе (за подпісам намесніка начальніка Беларускай чыгункі У.Б. Міхайлюка) гэтая сітуацыя тлумачыцца тым, што "беларуская мова не ўваходзіць у моўны пакет праграмнага забеспячэння". І праязны дакумент "на адну паездку" распрацаваны ў адпаведнасці з "дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь".

**15 сакавіка** ў менскай сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны адбыўся другі этап Агульнанацыянальнай дыктоўкі. Ужо пяты год такім чынам адзначаецца гэтая дата, бо 15 сакавіка 1994 года была прынята першая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, у якой адзінай дзярдаўнай мовай была абвешчана беларуская мова.

Праводзілася дыктоўка па хрэстаматыйным вершы Максіма Танка "Родная мова". У зале сабралася пераважна моладзь.

**18 сакавіка** імпрэза да Сусветнага дня паэзіі прайшла ў Лідскім памежным атрадзе з удзелам старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслава Судніка.

**21 сакавіка** газета "Наша слова" надрукавала афіцыйны адказ Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь на ліст Старшыні ТБМ Алега Трусава, у якім падымалася пытанне аб пашырэнні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы ў галіне медыцынскай адукацыі. Першы намеснік Міністра аховы здароўя Д.Д. Піневіч дае на гэты запыт падрабязны і грунтоўны адказ.

Ва ўсіх установах адукацыі вядзецца работа па папулярызацыі беларускай мовы. Ва ўсіх універсітэтах выкладаецца курс "Беларуская мова. Прафесійная лексіка".

Ранейшымі намаганнямі тэрміналагічнай камісіі распрацаваны

і выдадзены цэлы шэраг дапаможнікаў і падручнікаў на беларускай мове (даецца пералік шасці такіх кніг). У 2011 годзе быў выдадзены першы ў гісторыі беларускай лексікаграфіі "Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў", які змяшчае больш за 3 тысячы медыцынскіх тэрмінаў. І яшчэ рыхтуецца другі. Такім чынам, медыцынская вышэйшая адукацыя па-беларуску - рэальнасць. Трэба толькі падрыхтаваць выкладчыкаў і вучэбна-метадычныя матэрыялы.

Другі афіцыйны адказ, у гэтай жа газеце змешчаны - з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь - наконт ліквідацыі аддзелаў беларускай кнігі ў Віцебскай абласной бібліятэцы імя У.І. Леніна. Намеснік Міністра В.У. Кураш, не шкадуючы часу, цярпення і газетнай плошчы падрабязна тлумачыць, куды падзеліся гэтыя кнігі. Проста тут аб'яднанне (беларускамоўнай кнігі і краязнаўчай літаратуры), перафармаванне аддзелаў, размеркаванне беларускіх кніг па ўсіх структурных падраздзяленнях бібліятэкі (з мэтай набліжэння да чытача), а масавае спісанне беларускай літаратуры мае на мэце не злачыннае яе знішчэнне, а абнаўленне, паляпшэнне якасці гэтых фондаў. Спісваюцца няякасныя, састарэлыя, незапатрабаваныя асобнікі і замяняюцца на навейшыя і цікавейшыя... Карацей, нікуды гэтыя беларускія кнігі не зніклі; сучасныя магчымасці электронных каталогаў дазваляюць іх знайсці ў новых месцах.

Нарэшце, трэці, змешчаны ў гэтым нумары "Нашага слова" адказ прыйшоў з Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь, у якім паведамляецца, што "ў тэматычны план выдання дзяржаўных знакаў паштовай аплаты на 2013 год прынята рашэнне ўключыць выпуск паштовага блока з выявамі Святых Кірыла і Мяфодзія.

**24 сакавіка** ў Горадні адбылася агульнанацыянальная дыктоўка, якую пісалі каля 200 чалавек. Верш Ларысы Геніюш "Мы - народ" чытаў паэт Генадзь Бураўкін. Арганізатарамі выступілі "Гарадзенская бібдіятэка" і Таварыства беларускай школы ў супрацоўніцтве з ТБМ імя Ф. Скарыны, з Радыё "Рацыя" і незалежным тэлебачаннем Белсат. Дыктоўка - адно з мерапрыемстваў, прымеркаваных да Дня Волі.

Пасля дыктоўкі адбылася прэзентацыя кніг, якія падрыхтавалі да друку госці з Менска - Сяргей Шапран (з гарадзенакага архіва Васіля Быкава) і Міхась Скобла (Лісты Ларысы Геніюш). Удзельнічалі ў прэзентацыі Генадзь Бураўкін, Данута Бічэль, прафесар Аляксей Пяткевіч. Выдала кнігі "Гарадзенская бібліятэка".

У гэты ж этап правядзення дыктоўкі ўклалася суполка "Рубон"

Наваполацкай гарадской арганізацыі ТБМ. Тут пасля дыктоўкі глядзелі беларускае відэа, арганізавалі салодкі стол, за якім добра абмеркаваць вынікі, падзяліцца ўражаннямі, займець новых знаёмых.

**25 сакавіка** сябры Лідскай і Бярозаўскай арганізацый ТБМ адзначылі Дзень Волі ў Лідзе і Воранаве.

Агульнанацыянальную дыктоўку, якая пачалася 21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы, падтрымаў канал "Белсат". Арганізоўвала сёлетнюю дыктоўку традыцыйна Таварыства беларускай мовы, а "Белсат" забяспечыў яе фірмовымі бланкамі, асадкамі з партрэтамі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка, а пераможцы дыктоўкі ў гарадах Гародня, Магілёў, Віцебск, Баранавічы і Ліда атрымалі ад незалежнага тэлеканала каштоўныя прызы - спадарожнікавыя антэны.

Трэці, заключны этап 5-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі адбыўся **25 сакавіка**, у Дзень волі ў сядзібе ТБМ у Менску па вул. Румянцава, 13. Пісалі верш Максіма Танка "Родная мова", чытала дыктоўку Юля Бажок.

Гэтая дыктоўка і дыктоўка ў Гародні 25 сакавіка завяршылі месячны цыкл напісання 5-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі.

На жаль, палітычныя падзеі не далі магчымасці шырока прыцягнуць да дыктоўкі дыпламатычныя колы сяброўскіх краін, толькі тры амбасадары паспелі напісаць дыктоўку 21 лютага, не былі надта актыўнымі дыяспары ў Еўропе і Новым свеце, але ў краіне пісалі ва ўсіх абласных гарадах, у многіх раённых, пісалі ў вёсках. Усё больш рэгіёнаў краіны пішуць дыктоўку не толькі з дазволу ўладаў, а і пры наўпроставай падтрымцы. Дыктоўка стала з'явай у грамадскім жыцці Беларусі. У многіх месцах у дыктоўцы бяруць удзел настаўнікі школаў, выкладчыкі каледжаў і ВНУ. Трэба спадзявацца, гэтая ініцыятыва будзе мець працяг і развіццё.

**25 сакавіка** на Дзень Волі Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ зладзіла сяброўскую вечарыну. Прысутныя праслухалі даклады Т. Храпавіцкай і Н. Пракаповіча. Да гэтага свята быў прымеркаваны выхад бюлетэня Пастаўскай арганізацыі ТБМ "Шыпшына", № 3.

**26 сакавіка** старшыня ТБМ Алег Трусаў наведаў Магілёў у межах выканання праекту "Захаванне культурнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці". З дапамогай Магілёўскай гарадской аргані-

зацыі ТБМ і Магілёўскага абласнога музея імя Раманава ў памяшканні музея адбылася сустрэча, прысвечаная 100-м угодкам з дня нараджэння магілёўскага краязнаўца Іераніма Філіповіча. Выступілі кандыдаты гістарычных навук Ігар Пушкін і Аляксандр Агееў, якія расказалі пра гісторыю краязнаўчага руху ў Магілёве. Сп. Агееў паказаў унікальныя дакументы, звязаныя з магілёўскім рухам у падтрымку БНР, знойдзеныя ў архівах. Напрыканцы сустрэчы быў паказаны фільм, прысвечаны гісторыі рэстаўрацыі беларускіх помнікаў архітэктуры. Раздадзены прысутным календары з выявамі выбітных помнікаў архітэктуры Магілёва і нумары "Нашага слова".

Пружанская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны кожны год удзельнічае ў Агульнанацыянальнай дыктоўцы. У 2012 годзе дыктоўка тут праходзіла ў тры этапы: 21 лютага, 17 сакавіка і 25 сакавіка. Кожны з гэтых этапаў быў асаблівы, бо пасля напісання прысутныя мелі магчымасць не толькі абмеркаваць нейкія важныя тэмы, але і паспяваць усе разам беларускія песні, паслухаць вершы ў добрым, выразным выкананні вучняў і настаўніка, нарэшце, адсвяткаваць разам Дзень Волі, сабраўшыся, як заўсёды ў гэты дзень, каля помніка Рыгору Шырму з кветкамі.

**29 сакавіка** Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь ліст, у якім ад імя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказаў адабрэнне ягонаму рашэнню вярнуць з першага верасня гэтага года выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі ў рускамоўных школах і некаторых ВНУ на дзяржаўную беларускую мову. Аднак не ўсё так добра з беларускай мовай у тых жа школах.

У ТБМ назбіраліся звароты грамадзян, якія скардзяцца на праявы дыскрымінацыі беларускамоўных вучняў і настаўнікаў у сферы адукацыі, на якія аўтар ліста просіць звярнуць увагу аднесціся да іх сур'ёзна і, па магчымасці, выправіць да пачатку навучальнага года.

Алег Трусаў заўважае, што прадстаўнікі Міністэрства неаднаразова і на высокім узроўні рабілі публічныя заявы, што ў нашай сістэме адукацыі беларуская мова мае тыя самыя правы, што і руская. Але на справе бачым іншае: да гэтай пары не выдадзены беларускамоўныя версіі новых падручнікаў або вучэбных дапаможнікаў па інфарматыцы для 6 класа, французскай, іспанскай і кітайскай мовах для ўсіх класаў СШ; у продажы няма беларускамоўных атласаў па геаграфіі, сусветнай гісторыі, астраноміі, біялогіі (для 9, 10, 11 класаў), рабочых сшыткаў па замежных мовах (існуюць яны выключна ў руска-

моўных версіях, хоць іх лёгка было б рабіць трохмоўнымі). У серыі "Школьная бібліятэка" праграмныя творы замежнай класікі ў апошнія гады выдаюцца таксама амаль выключна на рускай мове, хоць беларуская школа мастацкага перакладу мае прызнанне не толькі ў нашай краіне.

Немагчыма набыць у гандлёвай сетцы ні атласа па геаграфіі, ні "Контурных карт па геаграфіі Беларусі", якія былі б выдадзеныя на беларускай мове. Але і геаграфічная тэрміналогія, і беларускія геаграфічныя назвы маюць абсалютна спецыфічны характар і адметнае беларускае гучанне. А тут усё толькі ў перакладзе. Недарэчна і несправядліва, калі гэтае натуральнае гучанне замяняецца, і так у іншамоўным афармленні дзеці мусяць іх запамінаць.

**2 красавіка** баранавіцкія сябры ТБМ арганізавалі калектыўны прагляд музычнай драмы "На Купалле". У гарадскім доме культуры мясцовы народны тэатр "Эксперымент" прэзентаваў свой новы музычны спектакль для дарослых "Ніхто не бачыў, як Купала плача" паводле драмы Міхася Чарота "На Купалле". Рэжысёр-пастаноўшчык - Яўген Рэкеш, музычны кіраўнік - вядомы ў горадзе музыкант Фёдар Жыляк.

Гледачы былі ўражаны каляровымі дэкарацыямі, прафесійнай ігрой актораў, цудоўнай музыкай і беларускай мовай. "Сапраўды ніхто не бачыў, як Купала плача, але папраўдзе даўно ўжо таксама ніхто не бачыў у Баранавічах такога выдатнейшага тэатральнага фэсту", - напісаў пра гэта старшыня Баранавіцкай рады ТБМ Віктар Сырыца.

**3 красавіка** пайшла з жыцця Ірына Сяргееўна Марачкіна, адданая і самаахвярная працаўніца на ніве беларушчыны, якая апошнія гады жыцця аддала працы ў ТБМ на пасадзе сакратара і першага намесніка Старшыні Таварыства; сябра рэдкалегіі газеты "Наша слова", аўтарка шматлікіх артыкулаў.

**У пачатку красавіка** ў Таварыства беларускай мовы прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на прапанову старшыні ТБМ Алега Трусава выпусціць паштовыя маркі з выявамі замкаў Беларусі. Намеснік Міністра сп. Струкаў М.М. паведаміў, што ўлічана прапанова ТБМ і прынята рашэнне тры паштовыя маркі з серыі, прысвечанай помнікам архітэктуры, прысвяціць замкам Беларусі - Мірскаму, Нясвіжскаму і Лідскаму. У пацверджанне - і маркі прыслалі.

У рэдакцыйным каментары да ліста Старшыні ТБМ, змешча-

ным у "Нашым слове" (№ 14 за **4 красавіка**), прапануецца чытачам напісаць самім пра падобныя гэтым праблемы, з якімі сутыкаюцца тыя з іх, чые дзеці вучацца ў школе. Пісаць можна Міністру і паралельна накіроўваць лісты ў ТБМ.

ТБМ таксама не збіраецца абмяжоўвацца ў сваёй дзейнасці пытаннямі выкладання гісторыі і геаграфіі Беларусі ва ўсіх школах па-беларуску. Наступны блок дысцыплін, выкладанне якіх мусіць быць беларускамоўным, гэта прыродазнаўчыя прадметы і дысцыпліны: прыродазнаўства, батаніка, заалогія, біялогія, анатомія, і прыкладныя дысцыпліны: аграномія, ахова раслін і інш.

Паколькі ў Беларусі шмат гадоў усё гэта выкладаецца па-руску, нашы людзі не ведаюць назваў раслін і жывёл на роднай мове і робяцца нібыта чужынцамі на сваёй зямлі, адсюль усё тое дзікунства і дурнота, з якой сутыкаемся на кожным кроку (непісьменнасць, розныя непаразуменні на моўнай глебе).

**11 красавіка** Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь С.І. Крыжэвіч прыслаў адказ на зварот старшыні Асіповіцкай раённай рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" С.Дз. Бародзіча ў дачыненні праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь". Канцэпцыя праекта Закона накіравана для разгляду ва ўстаноўленым парадку Палатай прадстаўнікоў, для чаго неабходна ажыццявіць унясенне зменаў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.

І далей: "Згодна з часткай першай артыкула 97 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь праекты законаў аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Палата прадстаўнікоў разглядае толькі па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь або па ініцыятыве не менш як 150 тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія валодаюць выбарчым правам".

Акрамя таго "згодна з палажэннямі праекта спатрэбіцца ўнясенне змяненняў і дапаўненняў амаль што ва ўсе заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь. У сувязі з гэтым праекты законаў, вынікам прыняцця якіх можа быць скарачэнне дзяржаўных сродкаў, стварэнне або павелічэнне расходаў, могуць на аснове часткі другой артыкула 99 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь уносіцца ў Палату прадстаўнікоў толькі са згоды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь..."

**16 красавіка** ў межах выканання праекта "Захаванне гістарычнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці" ў памяшканні

Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух".

Канферэнцыю праводзіла ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь у асобе Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.

Канферэнцыя праходзіла напярэдадні Міжнароднага дня помнікаў і гістарычных мясцін і ў значнай меры мела на сабе адбітак гэтай даты.

У ходзе канферэнцыі ішла гаворка пра тое, як выкарыстоўваецца для аховы гістарычна-культурнай спадчыны тая новая сітуацыя, якая запанавала з набыццём Беларуссю незалежнасці. Складаецца новая заканадаўчая база, новыя законы ўносяцца ў залежнасці ад тых пытанняў, якія прапануе час. Ажыццяўляецца супрацоўніцтва Міністэрства культуры з мясцовымі ўладамі і з краязнаўцамі, наладжана сістэма пастаяннага абнаўлення спісу гістарычна-культурных каштоўнасцей. Падыходы да захавання гістарычнай спадчыны значна адрозніваюцца ад тых, якія былі ў Савецкім Саюзе. Грамадскасць сёння можа вельмі шмат. Адстойваюцца ад знішчэння будынкі, грамадства кантралюе работы па рэстаўрацыі, дапамагае ў аднаўленні канкрэтных аб'ектаў.

Першая і самая галоўная змена, што адбылася з разбурэннем савецкай імперыі і здабыцця незалежнасці - гэта адмаўленне ад ваяўнічага атэізму. Пра гэта распавядаў Старшыня ТБМ, кандыдат гістарычных навук, сябар грамадскай рады пры Міністэрстве культуры сп. Алег Трусаў. Культавая архітэктура пачала аднаўляцца і будавацца новая. Паўсталі новыя праблемы - якасць абнаўлення, недапушчэнне псеўдарэстаўрацыі . Дзякуючы грамадскасці, можна спыніць такія дзеянні. Іншая праблема - стан нашых могілак. Вёскі вымiраюць, могілкі церпяць ад п'яніц і вандалаў. Гэта таксама праблема, якую можа вырашаць грамадскасць, валанцёры - прыбіраць, сачыць за парадкам. Некаторыя, як Кальварыя ці Вайсковыя могілкі ў Менску, трэба ўключаць у спіс аховы помнікаў.

На канферэнцыі шырока былі прадстаўлены рэгіёны, усе вобласці. Развіваецца, пашыраецца краязнаўства, з новымі ведамі аднаўляюцца старыя экскурсійныя маршруты, распрацоўваюцца новыя. Шмат з'яўляецца энтузіястаў, неабыякавых людзей, якія гатовы праводзіць экскурсіі бясплатна і ў большасці па-беларуску.

**19 красавіка** ў Менску адбылася прэзентацыя новага інтэрнэт-парталу tbm-mova.by Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў расказаў, што ад ідэі новага парталу да ўвасаблення прайшло досыць часу, але высілкі былі таго вартыя. Непасрэдна на сайце задзейнічана валанцёрская група з пяці чалавек. Арганізацыя не можа існаваць без нармальнага парталу, і вось нарэшце ТБМ яго прэзентуе.

Партал даступны ў дзвюх моўных версіях: па-беларуску і па-ангельску. Асноўную перакладчыцкую працу ўзяў на сябе кіраўнік спраў ТБМ Дзяніс Тушынксі. Чаму ўзнікла ідэя паставіць англамоўную версію? Хутчэй за ўсё, яна прыйшла з гістарычнай сферы. Калі нашыя гісторыкі абмяжоўваюцца тым, што пішуць толькі ў беларускамоўных часопісах, то пра іх пазіцыю проста ніхто не ведае. Вялікая актуальнасць якраз англамоўнай версіі. Яна не будзе поўным адпаведнікам беларускай, бо ёсць шмат такога, што замежнікам наўрад ці будзе цікава. Таму перакладацца будзе не ўсё запар.

З дапамогай новага сайту аб'яднанне збіраецца істотна пашырыць рамкі сваёй дзейнасці, выйшаўшы, у тым ліку, на міжнародны ўзровень.

**19 красавіка** ў Таварыстве беларускай мовы атрымалі афіцыйны адказ з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь за подпісам намесніка Міністра сп. К.С. Фарыно на ліст Старшыні ТБМ Алега Трусава, у якім уздымалася пытанне пра беларускамоўныя падручнікі для школ.

Сутнасць адказу ў тым, што ў адпаведнасці з планам выпуску падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для ўстаноў агульнай сярэдняй і спецыяльнай адукацыі ў 2011 г. было выдадзена 31 найменне падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для ўстаноў адыкацыі з беларускай мовай навучання.

У адпаведнасці з Перспектыўным планам падрыхтоўкі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для агульнаадукацыйных устаноў на 2009 - 2015 гады ўсе вучэбныя дапаможнікі выдаюцца на дзвюх дзяржаўных мовах, у тым ліку:

"Англійская мова. X клас" (выдадзена ў 2011 годзе), "Інфарматыка. VI клас" (перавыданне ў 2014 годзе), па нямецкай, англійскай, французскай, іспанскай і атлас па астраноміі для XI класа - у 2012 годзе. Білеты для правядзення выпускных экзаменаў ... па прадмеце "Грамадазнаўства" выдаюцца ... на рускай і беларускай мовах. Што датычыць літаратурных праграмных твораў замежных аўтараў, то ў 2010 годзе выдадзены ў перакладзе на беларускую мову: Ч. Дзікенс "Прыгоды Олівера Твіста", А. Міцкевіч "Гражына", Ф. Петрарка "Санеты", Я. Райніс "Вершы", Д. Кіплінг "Маўглі", "Бэмбі", Э. Хэмінгуэй

"Стары і мора".

**25 красавіка** Баранавіцкая рада "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" змясціла ў газеце "Наша слова" пытанні віктарыны, датычныя жыцця і дзейнасці першага народнага артыста БССР Уладзіслава Галубка. Віктарына праводзіцца з нагоды 130-х угодкаў з дня народзінаў знакамітага актора і рэжысёра, кіраўніка Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатра.

**У красавіку 2012 г.** Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. У.У. Макея з прапановай годнага ўшанавання памяці знакамітага архітэктара Іосіфа Лангбарда. Сёлета адзначаюцца 130-я ўгодкі з дня яго народзінаў. Менавіта ён зрабіў нашу сталіцу еўрапейскай, збудаваўшы ў 30-я гады ў Менску Дом Ураду, Дом афіцэраў, галоўны будынак НАН Беларусі і будынак Тэатра оперы і балета. У 1937 годзе за свае шэдэўры ў стылі канструктывізму ён атрымаў гран-пры на сусветнай выставе навукі і архітэктуры ў Парыжы.

Старшыня ТБМ прапанаваў:

- адкрыць на будынках, пабудаваных Лангбардам, мемарыяльныя дошкі;
- надаць імя Лангбарда адной з вуліц ці плошчаў Менска;
- выдаць мастацкі канверт ці паштовую марку ў яго гонар.

Афіцыйны адказ прыйшоў ад намесніка старшыні Менскага гарадскога выканаўчага камітэта І.В. Карпенкі.

Ён паведаміў, што зварот Старшыні ТБМ Алега Трусава разгледжаны Менскім гарадскім выканаўчым камітэтам сумесна з Міністэрствам культуры і Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь. Па прапановах Старшыні ТБМ рашэнні наступныя:

- на сённяшні дзень на ўсіх згаданых будынках размешчаны дошкі з інфармацыяй, што архітэктар гэтых будынкаў - І.Р. Лангбард;
- у 2007 годзе Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі быў выпушчаны канверт з арыгінальнай маркай у серыі "Выбітныя дойліды Беларусі", прысвечаны Іосіфу Рыгоравічу Лангбарду, што ж датычыць гэтага ягонага юбілею, то ён не падыходзіць для ўвекаве-чання на дзяржаўных знаках паштовай аплаты, бо па Інструкцыі, зацверджанай пастановай Міністэрства, гэта робіцца да юбілеяў з дня нараджэння, кратных 25.
- прапанова аб прысваенні імя Іосіфа Лангбарда вуліцы ці плошчы будзе разгледжана камісіяй па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў.

Надрукаваны ў "Нашым слове" № 18 за **2 траўня** адказ дэпутата С.І. Крыжэвіча на зварот сябра ТБМ і ягонага выбаршчыка Бародзіча С.Дз. з прапановай разгледзець у Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь праект закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь" дапоўнены рэдакцыйным каментаром. У ім адзначаецца, што адказ дэпутата Палаты прадстаўнікоў ... С.І. Крыжэвіча не ёсць юрыдычна бездакорным. Канцэпцыя праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь" створана ў развіццё "Закона аб мовах..." і ніякіх змен у Канстытуцыю, на погляд распрацоўшчыкаў, рэальна не патрабуе. Патрабуе толькі адвагі і жадання..."

**4 траўня** ў Лідскім літаратурным музеі адкрылася выстава, прысвечаная памяці выбітнага Лідскага журналіста, краязнаўца, сябра Лідскага ТБМ ад устаноўчай канферэнцыі Алеся Жалкоўскага.

На выставе паказана мноства дакументаў, публікацый, асабістыя рэчы Аляксандра Васільевіча. Падрыхтавалі выставу супрацоўнікі Лідскага музея (у тым ліку малады кіраўнік літаб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце" Алесь Хітрун) пры актыўнай дапамозе сям'і Алеся Жалкоўскага. На адкрыццё выставы сабраліся сябры Жалкоўскага, сябры "Суквецця" і ТБМ, журналісты Лідскага тэлебачання, "Лідскай газеты", радыё "Рацыі".

Вялі імпрэзу дырэктар музея Ганна Драб і Алесь Хітрун, выступалі родныя, блізкія, сябры Алеся Жалкоўскага. Прагучала прапанова назваць адну з новых вуліц Ліды імем А. Жалкоўскага і ўстанавіць памятную дошку.

**4 траўня** Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ арганізавала сустрэчу з кіраўніком тэлеканала Паставы-ТБ Л. Шык. Сябры Таварыства перадалі выкладзеныя пісьмова прапановы па пашырэнні беларускай мовы ў праграмах мясцовага тэлебачання.

**5 траўня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ канцэрт па песнях філаматаў адбыўся ў Беліцкай СШ Лідскага раёна.

**11 траўня** адбылося выступленне сяброў ТБМ у Варапаеўскай і Ваўкоўскай школах.

**16 траўня** ў Лідскім музеі прайшла прэзентацыя кнігі сябра ТБМ Леаніда Лаўрэша "Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква на Лід-

чыне".

**18 траўня** сябры Пастаўскай раённай арганізацыі сустрэліся з намеснікам старшыні райваканкама Ю. Кісялёвым па пытаннях развіцця беларускай мовы на Пастаўшчыне.

**18 траўня** адбылося выступленне сяброў ТБМ у Ляхаўшчынскай і Дунілавіцкай школах.

**23 траўня** газета "Наша слова" № 21 на першай паласе змясціла (услед за газетай "Звязда" за 16 траўня) Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь".

У артыкуле 14, прысвечаным нематэрыяльным гісторыка-культурным каштоўнасцям, сказана наступнае: "Да нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей адносяцца звычаі, традыцыі, абрады, фальклор (вусная народная творчасць), мова, яе дыялекты, змест геральдычных, тапанімічных аб'ектаў і твораў народнага мастацтва (народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва), іншыя нематэрыяльныя праяўленні творчасці чалавека".

Гэта дае падставу больш актыўна пашыраць нашу родную мову ва ўсіх сферах грамадскага жыцця краіны.

Публікацыя і каментар Старшыні ТБМ Алега Трусава.

У Бабруйску сябры мясцовай суполкі Таварыства беларускай мовы пачалі збіраць подпісы пад зваротам да гарвыканкама за пашырэнне выкарыстання беларускай мовы. Кіраўнік арганізацыі Віктар Маліноўскі патлумачыў карэспандэнту "Нашага слова", чаго яны дабіваюцца гэтай акцыяй. У Бабруйску няма ніводнай шыльды з беларускамоўнай назвай вуліцы, за дваццаць гадоў існавання незалежнай Беларусі так ніводнай і не з'явілася. Тры разы сябры ТБМ пісалі звароты і збіралі подпісы, шмат подпісаў, але не ўдалося пераканаць трох папярэднікаў цяперашняй улады. Камунальнікі абсалютна ігнаруюць беларускую мову. Вось закончыўся рамонт цэнтральнага ЗАГСу і аформілі яго па-расійску. Калі запыталіся: чаму? - дырэктарка адказала: мы і не падумалі...

У 2008 годзе напярэдадні 200-годдзя В. Дуніна-Марцінкевіча сябрам Таварыства беларускай мовы ўдалося пераканаць улады; усё, што было прапанвана імі ў пісьмовым звароце, было зроблена: пастаўлены помнік Дуніну-Марцінкевічу, названа яго імем вуліца, аздабленне вуліц было беларускае. Лядовы палац "Бабруйск-арэна" пасля прапа-

новы ТБМ таксама афармілі па-беларуску...

Баранавіцкая Рада "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" падвяла вынікі віктарыны, прысвечанай 130-м угодкам з дня нарадзінаў бацькі беларускага вандроўнага тэатра, першага народнага артыста БССР Уладзіслава Галубка. Пераможцам віктарыны стаў жыхар Баранавічаў Андрэй Арцыменя (часова не працуе), другое месца - у гісторыка з Менска Аляксея Шалахоўскага. Трэцяе месца падзялілі Кірыл Баравік і Паліна Лашкоўская (вучні Дварэцкай СШ Дзятлаўскага раёна). Пераможцы атрымалі грашовыя ўзнагароды, каштоўныя падарункі і цікавыя кнігі, выдадзеныя ў выдавецтве "Наша ніва".

**31 траўня** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот да вучняў рускамоўных школ і іх бацькоў "Пашырым нашу мову ў нашых школах".

*"Давайце сёлета, у юбілейны год класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка пашырым выкарыстанне беларускай мовы ў нашых школах і падтрымаем прапанову Міністра адукацыі Беларусі, каб ва ўсіх школах нашай краіны з верасня гэтага года вярнуцца да выкладання гісторыі і геаграфіі Беларусі на дзяржаўнай беларускай мове"*, - гаворыцца ў заяве.

Таварыства беларускай мовы заклікае бацькоў і дзяцей звяртацца да дырэктараў школ з пісьмовымі заявамі аб пераходзе з 1 верасня на вывучэнне гісторыі і геаграфіі Беларусі па-беларуску і аб забеспячэнні вучняў неабходнымі падручнікамі і іншымі вучэбнымі дапаможнікамі.

**Напрыканцы траўня 2012 года** Таварыства беларускай мовы атрымала другі ўжо ліст намесніка Міністра адукацыі сп. К.С. Фарыно. Ён прысвечаны той жа праблеме адсутнасці ў гандлёвай сетцы беларускамоўных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для сярэдніх навучальных установаў. У гэтым лісце сп. Фарыно распавядае, як і калі выдаваліся альбо будуць выдавацца падручнікі і вучэбныя дапаможнікі у адпаведнасці з Планам выпуску. У дадатку да ліста ён падае спіс з дзесяці пазіцый-атласаў, у якіх пазначаны гады выпуску кніг, мова выдання і тыража. Уся гэтая інфармацыя прызваная пераканаць каго заўгодна, што для навучання дзяцей на дзяржаўнай беларускай мове робіцца ўсё неабходнае, што на самай справе "вучні ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі забяспечаны нацыянальнымі падручнікамі на беларускай мове", як ён гэта кажа ў сваім лісце.

Але тут жа ў рэдакцыйным каментары чытаем: "Аналіз кожны

можа зрабіць сам, але і без навукі ясна, што калі выдаць пяць гадоў назад атлас накладам каля 20000, то дзе ж ён будзе ў тым продажы. Даўно разышоўся, але як добра выглядае ў табліцы. Выдаваўся ж, аднак".

**1 чэрвеня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. У.У. Макею.

*"Таварыства беларускай мовы,* - гаворыцца ў лісце, - *вельмі непакоіць той факт, што згодна з пастановай прэзідыума НАН Беларусі ад 28 красавіка 2012 г., акадэмічны Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы далучаецца да акадэмічнага Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (ІМЭФ), а потым на іх базе будзе створаны Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры."*

Айчынныя і замежныя моваведы і літаратуразнаўцы занепакоены тым, што акадэмічны Інстытут мовы і літаратуры можа знікнуць як асобная навуковая ўстанова, паколькі ён займаецца фундаментальнымі даследаваннямі ў галіне мовазнаўства і літаратуразнаўства, ім выдадзена шмат грунтоўных знакавых прац. Інстытут вырашае многія грамадска значныя пытанні, выступае ў якасці кампетэнтнага кансультанта для многіх дзяржаўных арганізацый, для ўсіх грамадзянаў у розных сродках масавай інфармацыі. *"Хацелася б ведаць, каму прыйшла ў галаву думка ліквідаваць адзіную ў нашай краіне навуковую ўстанову, якая аказвае сур'ёзную навуковую падтрымку шматлікім установам культуры і адукацыі. Да прыкладу, у суседніх краінах Расіі і Украіне дзейнічаюць па некалькі ўстаноў такога кірунку. Нават у цяжкія пасляваенныя гады ў нас існавалі асобныя інстытуты мовы і літаратуры ў складзе АН БССР. Не выпадкова віцэ-прэзідэнтам АН БССР быў класік беларускай літаратуры Якуб Колас, чарговы юбілей якога наша краіна святкуе сёлета!"* - непакоіцца аўтар ліста і спадзяецца, што Кіраўнік краіны азнаёміцца з тэкстам ліста, і ўсё ж будзе знойдзена магчымасць захаваць акадэмічны Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы як асобную структуру НАН Беларусі.

Сакратарыят ТБМ заклікаў грамадзян і грамадскія арганізацыі Беларусі звяртацца з аналагічнымі лістамі па тым жа адрасе.

**4 чэрвеня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў чарговы ліст Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь Маскевічу С.А.

Прывёўшы ў пачатку ліста словы кіраўніка нашай дзяржавы аб праве кожнага вучня вывучаць гісторыю па-беларуску, нават калі

ён вучыцца ў рускамоўнай школе (такое выказванне прагучала падчас нядаўняга візіту ў Полацк), Старшыня Таварыства беларускай мовы перайшоў да сутнасці справы, нагадаў пра тую нявырашаную праблему, якая была ўзнята ў папярэднім лісце: "Мы паставілі пытанне аб фактах дыскрымінацыйнага стаўлення да вучняў беларускамоўных сярэдніх навучальных устаноў у справе забеспячэння гэтых вучняў падручнікамі".

Адказ, які прыйшоў нам за подпісам Вашага намесніка К.С. Фарыно, толькі часткова высветліў сітуацыю, але ні ў якім разе не паказаў шляху вырашэння пастаўленых у нашых папярэдніх лістах праблем".

Напрыклад, сп. Фарыно абяцаў, што падручнік па інфарматыцы для 6 класа СШ на беларускай мове будзе выдадзены "згодна з планам" у 2014 годзе, але дзе ўзяць такі падручнік тым вучням, што прыйдуць у 6 клас у гэтым ды наступным годзе?

Або вось серыя "Школьная бібліятэка". Абяцаюць, што будуць выходзіць творы замежных аўтараў у перакладзе на беларускую мову - штогод па кнізе... А ў праграме - больш за сорак твораў трыццаці васьмі замежных аўтараў. Выданне гэтых кніг расцягнецца на сорак гадоў! А вось выданне рускай літаратуры або замежнай у перакладзе на рускую ідзе хуткімі тэмпамі, хоць у беларускіх кнігарнях гэтай літаратуры хапае, а ў букіністычных крамах цудоўныя выданні можна набыць па вельмі нізкіх коштах.

Сп. Трусаў прыводзіць яшчэ колькі прыкладаў нядбайнасці, абыякавасці, недапрацовак у адносінах да беларускамоўнай адукацыі, якія нібыта не бачыць кіраўніцтва, і заключае: "На жаль, атрымаўшы два лісты ад Вашага намесніка па сутнасці пастаўленай намі праблемы, мы можам паведаміць бацькам дзяцей беларускамоўных школ і класаў вельмі мала канкрэтнай інфармацыі, дзе і калі яны змогуць набыць вучэбныя дапаможнікі, якіх патрабуюць адказныя педагогі ад іхніх дзяцей".

У сувязі з гэтым, Старшыня ТБМ прапанаваў сустрэцца ў зручны для спадара Міністра час, каб абмеркаваць усе гэтыя наспелыя пытанні.

**11 чэрвеня** ў Магілёве адбылася вечарына цыклу "Моўныя сустрэчы", на якую завіталі вядомыя філолагі і палітыкі Вінцук Вячорка і Пётр Садоўскі. Асноўныя тэмы зацікаўленай размовы - тапаніміка і транслітарацыя.

**У сярэдзіне чэрвеня** старшыня ТБМ Алег Трусаў атрымаў ліст

з Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі за подпісам Вучонага сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі А.І. Літвінюка.

Аўтар выказаў шчырую падзяку старшыні Таварыства за адказную грамадзянскую пазіцыю па пытанні захавання навуковых установ сацыяльна-гуманітарнага профілю ў структуры НАН Беларусі.

**17 чэрвеня** Рада ТБМ імя Т. Касцюшкі Кастрычніцкага раёна Менска правяла ў рамках года Я. Купалы і Я. Коласа (года беларускай кнігі) пашыранае паседжанне Рады з вольным наведваннем усіх ахвотных. Паколькі заўсёды бываюць праблемы з арэндай памяшкання, было вырашана правесці паседжанне на вольным паветры каля лецішча спадара Яна Грыба, ганаровага Старшыні Рады. Прысутнічала 70 чалавек. Былі запрошаны сп. Ю. Хадыка, П. Краўчанка, паэты М. Скобла і С. Адамовіч, дэпутат ВС 13-га склікання П. Знавец, Л. Баршчэўскі, мастак А. Марачкін.

Пачалі паседжанне з сумеснага спеву гімна "Магутны Божа". Першым выступіў Лявон Баршчэўскі, які выказаў думку, што трэба аднаўляць рух за адраджэнне беларускай гісторыі і культуры. Юрый Хадыка адзначыў, што размежаванне інтэлігенцыі прыводзіць да сумных вынікаў, і нам тэрмінова патрэбны асобы, якія б гуртавалі ўсіх на адзінай платформе.

Пётр Краўчанка намаляваў шырокую панараму дзеянняў па ўсіх кірунках нацыянальнай культуры.

Вядомы мастак Аляксей Марачкін заклікаў кожнага ўзмацняць намаганні за вяртанне належнага стану беларускай мовы.

Міхась Скобла закрануў пытанне далейшага развіцця беларускай літаратуры. Ён правёў прэзентацыю кнігі Ларысы Геніюш, дзе змешчаныя ўсе яе лісты, якія яна пісала на працягу свайго жыцця. Прачытаў некалькі яе цудоўных вершаў.

Потым ён вітаў сп. Яна Грыба з нагоды прыняцця яго ў Саюз беларускіх пісьменнікаў і ўручыў яму пасведчанне. Сп. Яна жартоўна віталі сябры Рады прозай і вершамі, жадалі яму далейшых поспехаў.

Паэт Славамір Адамовіч правёў прэзентацыю сваіх кніг, чытаў вершы.

Спявалі пад гітару В. Равінскі, Зміцер Марчук і Павел Знавец. Да іх далучыліся астатнія. Усё паседжанне прайшло на высокім уздыме пры актыўнасці ўсіх прысутных і добрым надвор'і.

**24 чэрвеня** па замове Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у Лідскім Фарным касцёле была адслужана імша па ксендзу Адаму

Фалькоўскаму, герою паўстання 1863 года.

**28 чэрвеня** сябры Салігорскай суполкі "ТБМ імя Ф. Скарыны" вырашалі адзначыць юбілей беларускага пісьменніка, крытыка і літаратуразнаўцы Івана Фёдаравіча Кудраўцава, якому сёлета споўнілася б 90 гадоў з дня нараджэння. Для гэтага звярнуліся ў Салігорскі выканкам дазволіць правесці ў адным з залаў клуба ці бібліятэкі горада Салігорска і ў школе, у якой вучыўся пісьменнік, сустрэчы з яго землякамі, павесці гаворку аб яго творчасці.

Аднак Салігорскі выканаўчы камітэт не дазволіў ніякіх сустрэч, і гэта ўжо чацвёртая запар адмова Салігорскага выканкама на правядзенне сябрамі ТБМ памятных сустрэч у гонар знакамітых асоб з нагоды іх юбілеяў.

Тым не менш сустрэчу з землякамі пісьменніка І.Ф. Кудраўцава сябры ТБМ правялі на яго малой радзіме ў вёсцы Сіцянец каля яго былой сядзібы. Тут пра пісьменніка апавядалі яго стрыечная сястра Наталля Пятровіч, а таксама ягоныя суседзі, якія добра яго памяталі і маглі шмат цікавага расказаць.

**Чэрвень 2012 года.** У працяг перапіскі Старшыні ТБМ Алега Трусава з Міністэрствам адукацыі па праблеме забеспячэння вучняў школ беларускамоўнымі падручнікамі і дапаможнікамі, з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у Таварыства беларускай мовы прыйшоў ліст ад новага намесніка Міністра адукацыі Якжыка В.В.

Новы намеснік, як і яго папярэднік, першым чынам нагадвае, што ў нас нібыта ўсё вызначае права выбару мовы навучання. Так, ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання прадметы "Гісторыя Беларусі" і "Геаграфія Беларусі" вывучаюцца на рускай мове (як і ў беларускамоўных - на беларускай).

*"Пераход на выкладанне гэтых прадметаў на беларускай мове з 2012 года немагчымы ў сувязі з адсутнасцю неабходнай колькасці падручнікаў. Для іх перавыдання патрэбна 8,7 млрд. рублёў. Выкарыстанне падручнікаў разлічана на 6 гадоў, іх планавае перавыданне прадугледжана ў 2015 -2020 гадах"*, - катэгарычна тлумачыць аўтар ліста, і тым зачыняе тэму размовы.

**3-15 ліпеня** Пастаўская раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы прыняла ўдзел у здымках відэафільма пра Янку Купалу на тэлекампаніі "Пастáвы-ТБ".

**7 ліпеня** ў Магілёве на Замкавай гары сябры Таварыства бела-

рускай  мовы адзначылі 130-годдзе Янкі Купалы. Імпрэза адбылася ля знака, усталяванага ў гонар галоўнага героя паэмы "Магіла льва" - легендарнага Машэкі.

Да знака актывісты паставілі партрэт Янкі Купалы, усклалі кветкі. Чыталі вершы і ўрыўкі з паэмы "Магіла льва" ды фрагменты ўспамінаў беларускіх пісьменнікаў пра Купалу. Спявалі песні на Купалавы вершы.

**12 ліпеня** па запрашэнні Баранавіцкай Рады ТБМ у Баранавічы прыехаў знаны гісторык і пісьменнік Уладзімір Арлоў. Напачатку Арлову паказалі гістарычныя мясціны баранавіцкай зямлі. Затым у Баранавічах адбылася прэзентацыя кнігі Арлова "Пакуль ляціць страла" - у прыватным садзе. Творчая сустрэча адбылася ў форме дыскусіі аўтара кнігі і чытачоў. Старшыня Баранавіцкай Рады ТБМ Віктар Сырыца падараваў Арлову стралу, якую вырабіў мясцовы каваль, сябар рыцарскага клубу "Шляхецкая застава" Зміцер Шышкоў. На вастрыі стралы гравіроўкай пазначана "Уладзімір Арлоў", на яе стрыжні: "Страла гістарычнай праўды".

**25 ліпеня** ў межах кампаніі "Будзьма" ў сядзібе ТБМ адбылася сустрэча з былым старшынём Таварыства беларускай мовы, пісьменнікам і актыўным грамадскім дзеячом Генадзем Бураўкіным пад агульнай тэмай "Да Дня незалежнасці". На сустрэчу завіталі такія вядомыя людзі, як Анатоль Вярцінскі, Яўген Гучок, Леанід Лыч, Уладзімір Содаль і іншыя цікавыя асобы. На сустрэчы абмяркоўваліся аспекты абвяшчэння Незалежнасці нашай краіны (Дзень незалежнасці святкаваўся 27 ліпеня, бо ў гэты дзень у 1990 годзе была абвешчана Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі). Госці задавалі пытанні, дыскутавалі і палемізавалі пра значнасць і ролю Дня незалежнасці для Беларусі. Падчас імпрэзы можна было набыць кнігу Генадзя Бураўкіна "Лісты да запатрабавання" і атрымаць аўтограф аўтара.

**26 ліпеня** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот да беларускіх студэнтаў-першакурснікаў.

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"  павіншавала ўсіх, хто паступіў у ВНУ краіны.

"Мы выказваем асаблівую падзяку тым, хто падчас здачы тэстаў абраў беларускую мову. Ганарымся тымі, хто здолеў выканаць тэставыя заданні на 100 балаў. Гэта сапраўдны грамадзянскі ўчынак і значны асабісты ўклад у святкаванне 130-гадовага юбілею класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа", - гаворыцца ў

звароце. ТБМ напамінае, што ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам усе маюць магчымасць навучацца на беларускай мове. Для гэтага неабходна напісаць адпаведную заяву на імя дэкана. Тады навучальны год для тых, хто жадае, пачнецца на беларускай мове. Да звароту прыкладзены ўзор заявы студэнта-першакурсніка з просьбай беларускамоўнага навучання.

**26 ліпеня** Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ арганізавала прэзентацыю відэафільма пра Янку Купалу ў дзіцячай бібліятэцы.

**29 ліпеня** адбылася ўрачыстая імпрэза ў памяць паўстанцаў 1863 года ва ўрочышчы “Крыжы” паміж Мохавічамі і Малым Ольжавам. Арганізатары - Лідская і Бярозаўская гарадскія арганізацыі ТБМ.

**Ліпень 2012 г.** У менскай сядзібе ТБМ імя Ф. Скарыны адбылася летняя творчая сустрэча з заснавальнікам беларускага фолькмадэрну, лідэрам легендарнага гурта "Палац" Алегам Хаменкам пад дэвізам "Дзяжурны па краіне".

Алег Хаменка выканаў народныя песні ў сваёй апрацоўцы. Яго моцны голас гучыць мужна і пранікнёна, з мноствам адценняў. Спевы перапляталіся з разважаннямі аб нашым культурным кантэксце, якому ўласцівы білінгвізм і талерантнасць. Спявак выказаў думку, што ў культуры і ў грамадскім жыцці варта ставіць мэты са стваральнай скіраванасцю. У шчырай гутарцы са слухачамі гаворка ішла пра каштоўнасці, якія яднаюць народ. Радзіма, мова, кніга, помнік.

**Ліпень 2012 г.** "Паважаныя бацькі будучых ганаровых грамадзян нашага горада!" - з такімі незвычайнымі словамі сябры Гарадзенскай абласной рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" звярнуліся да бацькоў, якія жадаюць вучыць сваіх дзетак у школе і ў дзіцячым садку па-беларуску, - каб падтрымаць іх у гэтым рашэнні, пацвердзіць яго слушнасць. Так нестандартна даводзіцца перакананне, што роднамоўная адукацыя і выхаванне мусіць станоўча паўплываць на іх развіццё і натуру, так што ў выніку яны стануць праслаўленымі людзьмі. Гэта слушны выбар, тут добрая перспектыва! - кажуць яны клапатлівым бацькам. А як выбраць канкрэтную школу, садок, куды несці заявы, можна даведацца з гэтага рэкламнага тэксту. Тут усё, што трэба - і адрасы, і тэлефоны, і электронныя адрасы - педагогаў, чыноўнікаў, дзяржаўных службоўцаў, усіх, да каго можна звярнуцца.

"Павага да роднай мовы - гэта і павага да сябе! Далучайцеся,

калі ласка!" У мінулым годзе ў Гародні працавала 20 школ з беларускай мовай навучання (169 чал.). А ўсё таму, што Гарадзенская абласная арганізацыя ТБМ не пускае справу на самацёк, рупіцца пра беларускамоўную адукацыю; актывісты ТБМ працуюць у звязку са школамі, бацькамі, аддзеламі адукацыі. Вось і вынік ёсць.

**У пачатку жніўня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў напісаў ліст Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Г.Б. Давыдзьку.

Ён паведаміў, што ў ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" звяртаюцца людзі са скаргамі на тое, што спынілася трансляцыя спартыўных перадач з Лонданскай Алімпіяды на беларускай мове, якая вялася на тэлеканале "Беларусь-2". Сп. Давыдзька ў свой час абяцаў, што тэлеканал "Беларусь-2" пяройдзе цалкам на вяшчанне на дзяржаўнай беларускай мове, была ўжо трансляцыя спартыўных перадач розных кірункаў па-беларуску. І зараз мы бачым чарговую праяву русіфікацыі нацыянальнага тэлебачання. Асабліва прыкра, што гэта робіцца ў год юбілею нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Застаецца чакаць выпраўлення такой недарэчнасці і выканання абяцанняў.

**1 жніўня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да Міністра культуры Рэспублікі Беларусь сп. П.П.Латушкі з паведамленнем пра адзін з апошніх у Расіі помнік беларускага драўлянага культавага дойлідства - Пакроўскую царкву ў в. Стайкі Невельскага раёна Пскоўскай вобласці, якая гіне, разбураецца. Пра гэта яму паведаміў навуковы супрацоўнік аддзела архітэктурнай археалогіі Эрмітажа Аляксандр Гордзін. Прыслаў здымкі.

Каб яе ўратаваць, Старшыня ТБМ просіць сп. Латушку звярнуцца да Міністра культуры Расіі, каб распарадзіўся правесці меры па кансервацыі і захаванні ўнікальнага помніка.

У афіцыйным адказе за подпісам Намесніка Міністра культуры Т.І. Стружэцкага - абяцанне прыняць меры па ўратаванні ўнікальнага помніка дойлідства, прыцягнуўшы да гэтага праграмы і фінансаванне Саюзнай дзяржавы. Пытанне разгледжана Міністэрствам культуры, зроблена прапанова аб правядзенні рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ ў Міністэрстве культуры Расійскай Федэрацыі.

**4 жніўня** ў Менску ў сядзібе ТБМ у рамках кампаніі "Будзьма беларусамі" адбылася сустрэча чытачоў газеты "Наша слова" з рэдак-

тарам газеты Станіславам Суднікам. Сабралася поўная зала зацікаўленых слухачоў, хоць і лета, і субота. Няпростая сітуацыя з беларускай мовай, стаўленне дзяржаўных структур да яе, стаўленне грамадства, становішча мовы ў адукацыі, так званы "прагматызм" у адносінах да мовы - пра ўсё гэта вялася гаворка. Асобная тэма - падпіска на газету "Наша слова" ў інтэрнэце і інш.

**8 жніўня** адбыліся чарговыя заняткі гуртка беларускай мовы пры магілёўскім ТБМ і не ў душным памяшканні, а на Замкавай гары (Магіле льва), у зацені паркавых дрэваў. Тэма гуртка - жыццё і творчы шлях доктара філалогіі, прафесара, старшыні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адама Мальдзіса, які 7 жніўня адзначыў сваё 80-годдзе.

Прысутнічала на занятках блізу 20 чалавек. Разглядалі фотаздымкі з тома серыі "Беларускі кнігазбор, распавялі пра цікавыя навуковыя і літаратурныя творы спадара Адама, Усе ўдзельнічалі, кожны меў, што сказаць. Шмат увагі надаецца ў працах навукоўца Магілёву і Магілёўшчыне, Мальдзіс грунтоўна займаўся пошукам зніклых з Магілёва каштоўнасцей.

**15 жніўня** Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ правяла ўрачыстую імпрэзу, прымеркаваную да 200-годдзя Юзафа Крашэўскага. На вечарыну, якая адбылася ў Доме польскім, прыйшло больш за 30 магілёўцаў.

Пісьменнік і выкладчык Віталь Еўмянькоў падрыхтаваў цікавую фотапрэзентацыю, прысвечаную жыццю і творчасці выбіт-нага юбіляра. Працягваў аповяд вядомы магілёўскі гісторык Ігар Пушкін. Настаўніца польскай мовы Магдалена Памочак прачытала ўрывак верша пісьменніка "Вежа" на польскай мове. На заканчэнне - анімацыйны фільм пра гісторыю Польшчы.

Незвычайная постаць Юзафа Крашэўскага, знітаваная з гісторыяй Беларусі і Польшчы, для многіх з магілёўцаў стала адкрыццём.

**У жніўні 2012 года** Старшыня ТБМ Алег Трусаў даслаў зварот на імя Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. Макея У.У., у якім чарговы раз падняў пытанне стварэння Беларускага гандлёвага марскога флоту. Гэтая ідэя сёння падтрыманая на дзяржаўным узроўні, пытанне ўключана ў Праграму развіцця воднага і марскога транспарту Беларусі на 2011-2015 гады, падпісаны ўказ Прэзідэнта, які можа паспрыяць вырашэнню гэтага пытання. Тым не менш, "Усе планы і прапановы па стварэнні флоту пад нацыянальным бела-

рускім сцягам застаюцца на паперы", і беларускі бюджэт па-ранейшаму не атрымлівае прыбыткаў ад выкарыстання Нацыянальнага флоту.

У афіцыйным адказе, дасланым з Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь за подпісам Намесніка Міністра А.А. Шышко гэтае становішча тлумачыцца немагчымасцю ажыццяўлення кіравання і кантролю за караблямі афшорнай рэгістрацыі пад нацыянальным сцягам, які ў лісце іранічна-з'едліва называецца "зручным сцягам". Менавіта тут прычына тармажэння ў вырашэнні гэтага пытання.

**У жніўні 2012 года** Гомельскае ТБМ даслала ў гарвыканкам Гомеля ліст, у якім прасіла даць канкрэтныя звесткі аб стане беларускай мовы ў сістэме дашкольнай адукацыі г. Гомеля. З першага разу атрымаць поўныя звесткі не ўдалося, ТБМ працягвала перапіску, у якой тыя ж пытанні паўтараліся, але былі і новыя. Сярод іх галоўныя наступныя:

1. Колькі садкоў (груп у садках) з поўным працэсам навучання на беларускай мове існуе ў Гомелі?

2. Ці могуць бацькі знайсці інфармацыю аб колькасці і месцазнаходжанні беларускамоўных садкоў (груп у садках) у вольным доступе?

3. Што неабходна, каб у канкрэтным садку ўзнікла беларускамоўная група?

4. Што робіцца для папулярызацыі беларускай мовы сярод бацькоў дзяцей узросту дашкольнай адукацыі?

Нарэшце атрымалі адказ на 1-е пытанне: "*Да 1 верасня 2012 г. садкоў і груп у садках з поўным працэсам навучання на беларускай мове ў Гомелі не было. 31 верасня 2012 г. на базе дзяржаўнай установы адукацыі "Яслі- сад № 160 г. Гомеля" пачала працаваць 1 група для дзяцей з 3 да 4 гадоў з поўным працэсам навучання на беларускай мове"*. І гэта ў горадзе з амаль 500-тысячнай колькасцю насельніцтва!

Па 3 пытанні: *"навучанне будзе адбывацца ў адпаведнасці з выбарам бацькоў, якія падкрэсліваюць у заяве мову, на якой будзе выхоўвацца і навучацца дзіцё"*. На практыцы аднак бацькі, якія выбіраюць беларускамоўнае навучанне, атрымліваць адмову, бо "выхавальнікі не валодаюць належным чынам беларускай мовай".

Адказ на апошняе пытанне пацвярджае, што гарадскія ўлады нічога не робяць для папулярызацыі беларускай мовы сярод бацькоў дзяцей, таму тыя і не задумваюцца пра перспектывы беларускамоўнай адукацыі. У выніку - адна беларускамоўная група на ўвесь Гомель! -

катастрафічная сітуацыя для беларускай мовы ў дашкольным навучанні. Амаль такая ж сітуацыя і са школьнай адукацыяй.

**З 1 верасня 2012 года** ў Лідзе з'явіліся 3 новыя беларускамоўныя першыя класы.

- у 12-й школе - 5 чалавек;
- у 16-й школе - 8 чалавек;
- у 17-й школе - 11 чалавек.

**У верасні 2012 г.** Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст Міністру замежных спраў Рэспублікі Беларусь сп. У.У. Макею, у якім паведаміў, што ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ініцыюе стварэнне Рабочай групы, якая зоймецца распрацоўкай сертыфіката беларускай мовы як замежнай. Несумненна, што наяўнасць сертыфіката, які адпавядае міжнародным стандартам валодання моваю, паспрыяе павышэнню як міжнароднага статусу самой дзяржаўнай беларускай мовы, так і іміджу нашай краіны. Усё гэта вымагае распрацаваць сістэму ўзроўняў валодання беларускай мовай у адпаведнасці з рэкамендацыямі "Modern Languges: Learning, Teaching, Assesment. A Common European Framework of reference. Council for Cultural cooperation, Educational committee, Strasbourg, 1996", а таксама з улікам указанняў ALTE (асацыяцыя лінгвістычнага тэставання ў Еўропе). Такія сертыфікаты згодна з узроўнямі валодання мовою распрацаваныя для шэрагу славянскіх моў - рускай, чэшскай, польскай, славацкай і інш.

ТБМ просіць МЗС падтрымаць гэтую прапанову па падрыхтоўцы Міжнароднага сертыфіката беларускай мовы і дэлегаваць прадстаўніка Міністэрства ў Рабочую групу.

У афіцыйным адказе Міністэрства замежных спраў за подпісам намесніка Міністра А.М. Купчынай паведаміла, што Міністэрства падтрымлівае ідэю і прапанову ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" аб падрыхтоўцы міжнароднага сертыфікату беларускай мовы для тых, хто вывучае яе як замежную.

Падкрэсліваецца, што гэтая праца павінна праводзіцца дзяржаўнымі ўстановамі (Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры) з абавязковым удзелам ВНУ і пры магчымай падтрымцы грамадскіх арганізацый, паколькі фінальная мэта - гэта дзяржаўныя стандарты і дзяржаўнае прызнанне.

Са свайго боку Міністэрства абяцала накіраваць прапанову ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ў адрас заці-

каўленых дзяржаўных устаноў.

**4 кастрычніка** з ініцыятывы лідскіх арганізацый ТБМ у Лідскім бібліятэчным філіяле № 3 у мікрараёне “Маладзёжны” быў адкрыты памятны куток Ларысы Геніюш з устаноўкай бюста паэткі. Пастамент зрабіў сваімі рукамі старшыня Лідскай арганізацыі ТБМ Лявон Анацка.

**17 кастрычніка** Старшыня ТБМ Алег Трусаў атрымаў афіцыйны адказ з ГА "Беларуская чыгунка" за подпісам Першага намесніка Начальніка Беларускай чыгункі У.Б. Міхайлюка. Паведамляюць, што разгледзелі зварот Старшыні ТБМ адносна ўжывання беларускай мовы ў працэсе інфармавання пасажыраў цягнікоў. У лісце даводзіцца, што інфармацыйнае абслугоўванне на беларускай чыгунцы вядзецца адпаведна Законам і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ("на той або іншай мове"). 01.03.2012 г. уступіў у сілу Закон Рэспублікі Беларусь "Аб назвах геаграфічных аб'ектаў". Па гэтым законе назвы геаграфічным аб'ектам прысвойваюцца на беларускай мове, з якой спосабам транслітарацыі перадаюцца на рускую мову.

**17 кастрычніка** адбылося чарговае паседжанне гуртка беларускай мовы, арганізаванае магілёўскай суполкаю ТБМ і прысвечанае сотым угодкам Максіма Танка (Яўгена Скурко). Быў прагледжаны дакументальны фільм пра паэта, слухалі творы легендарных "Песняроў" на словы Максіма Танка.

**18 кастрычніка** Міністэрства сувязі і інфармацыі выпусціла канверт, прысвечаны 200-м угодкам з дня народзінаў Паўлюка Багрыма. Мастак - М. Рыжы. Канверт быў выпушчаны ў Бабруйскай друкарні А.Ц. Непагодзіна. Як вядома, у жніўні 2012 года баранавіцкія сябры ТБМ звярнуліся да Міністра сувязі і інфармацыі Мікалая Панцялея з такой просьбай - выпусціць памятны канверт да 200-годдзя паэта Паўлюка Багрыма. І вось цяпер Баранавіцкая ТБМ у асобе старшыні Віктара Сырыцы шчыра падзякавала кіраўніцтву Міністэрства сувязі і інфармацыі за добрае ўшанаванне памяці сялянскага паэта XIX ст. Паўлюка Багрыма.

**19 кастрычніка** Старшыня ТБМ Алег Трусаў чарговы раз падняў пытанне аб візуальным афармленні Берасцейскага чыгуначнага вакзала. Гэтым разам у лісце на імя старшыні Брэсцкага аблвыканкама сп. Сумара К.А. Старшыня ТБМ паведамляе, што ў праекце

рэканструкцыі Берасцейскага чыгуначнага вакзала цалкам праігнаравана беларуская мова, чым вельмі заклапочана Таварыства. Пісалі лісты, выказвалі прапановы. *"Мы атрымалі адказ ад галоўнага інжынера Брэсцкага аддзялення чыгункі У.А. Расіча, у якім адмятаюцца ўсе нашыя прапановы. Складваецца ўражанне, што мы атрымалі адказ не з Брэсцкага, а з Бранскага аддзялення чыгункі",* - гаворыцца ў лісце. У сувязі з гэтым выказваецца просьба да абласных уладаў, магчыма, праз службу галоўнага архітэктара паўплываць на візуальнае афармленне новых інтэр'ераў і фасадаў вакзала, які з'яўляецца заходнімі варотамі нашай краіны, яе візітнай карткай.

Далей ідуць канкрэтныя прапановы, якія ўжо выказваліся ў папярэдніх лістах.

**24 кастрычніка** чарговы гурток беларускай мовы ў Магілёве быў прысвечаны беларускім ручнікам. Спасцігалі сімволіку беларускага арнамента, вывучалі звычаі, звязаныя з выкарыстаннем ручнікоў, адкрывалі для сябе псіхалагічны партрэт нашых продкаў.

**24 кастрычніка** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у Лідскім каледжы прайшла імпрэза да 100-годдзя з дня нараджэння Пятра Бітэля.

**26 кастрычніка** ў сядзібе ТБМ адбыўся сход Фрунзенскай раённай арганізацыі г. Менска. Прынялі ўдзел у сходзе 12 чалавек, сярод іх такія актывісты арганізацыі, як Валянціна Раманцэвіч, Барыс Мускі, Аляксей Лапенка, Генадзь Кажамякін, Павел Чайкоўскі, Мікола Васільчанка і інш.

У выступах сяброў Фрунзенскай раённай арганізацыі была адзначана станоўчая і адмоўная дзейнасць сяброў арганізацыі, а таксама акрэсленыя тыя праблемы, з якімі прыходзіцца сутыкацца. Вядомы скульптар Генік Лойка распавёў пра сітуацыю ў беларускамоўнай гімназіі № 4, дзе вучацца ягоныя дзеці. На самай справе навучанне там вядзецца на розных мовах.

Старшыня Фрунзенскай арганізацыі Алесь Чэгат адзначыў, што на ўліку ў арганізацыі стаіць 580 чалавек, але не ўсе плацяць складкі і падпісваюцца на штотыднёвік "Наша слова". Ён напомніў сябрам арганізацыі памеры складак, якія ўстаноўлены з 1 студзеня 2012 года.

Станоўча адзначана дзейнасць суполкі ТБМ бібліятэкі імя Ф. Багушэвіча, якая налічвае 4 чалавекі. Тут адбываюцца цікавыя сустрэчы, творчыя мерапрыемствы. Гасцямі сустрэч з'яўляюцца мастакі, літаратары, іншыя творчыя асобы.

Іншая ацэнка дадзена сітуацыі ў лінгвагуманітарным каледжы, дзе на ўліку 29 сяброў ТБМ. У бібліятэцы навучальнай установы толькі 8 % беларускамоўных кніг, не выпісваюцца такія выданні, як часопіс "Роднае слова", "ЛіМ", "Полымя", "Маладосць", незалежныя выданні "Наша слова", "Наша ніва", "Краязнаўчая газета" і інш. Адзінае выданне на мове - "Настаўніцкая газета", што не спрыяе паспяховаму засваенню навучэнцамі беларускай мовы і літаратуры.

Адмоўная з'ява - самаліквідацыя суполкі ТБМ у 193 СШ, станоўчая - прыход у ТБМ новых сяброў у Менскую гарадскую арганізацыю, трэцюю частку якіх складаюць тыя, хто папаўняе Фрунзенскую арганізацыю ТБМ.

Алесь Віктаравіч яшчэ раз закрануў пытанне складак і ахвяраванняў, акрэсліўшы праблемы арганізацыі, выкліканыя ўтрыманнем сядзібы, асабліва ў зімовыя месяцы. Падзякаваў ахвярадаўцам, але каб арганізацыя існавала і надалей, патрэбна сістэмнасць у зборы сяброўскіх складак.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў атрымаў адказ Белпошты за подпісам Генеральнага дырэктара І.І. Саксонавай на сваю прапанову адзначыць 100-годдзе Лідскага аэрадрома. Белпошта даслала арыгінал-макет мастацкай немаркіраванай паштоўкі "Лідскі аэрадром - найстарэйшы аэрадром Беларусі", створанай на аснове прадстаўленых Таварыствам беларускай мовы матэрыялаў.

**У канцы кастрычніка** Таварыства беларускай мовы атрымала афіцыйныя адказы з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і з Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на прапановы па ўшанаванні стваральнікаў кірылічнага алфавіту і пісьмовасці да 1150-годдзя існавання кірылічнага алфавіту. Усе ідэі Таварыства падтрыманыя. Помнік Сімяону Полацкаму будзе ўстаноўлены ў Маскве за кошт сродкаў Саюзнай дзяржавы, пасля гэтага будзе разгледжана пытанне аб стварэнні помнікаў Роўнаапостальным Мяфодзію і Кірылу ў Менску і Іллі Капіевічу ў Слуцку. Што да выпуску паштовых марак і канвертаў, Міністэрства сувязі і інфарматызацыі паведаміла, што "тэматычнымі планамі выдання паштовых марак, канвертаў Першага дня і вырабу спецыяльных паштовых штэмпеляў на 2013 год прадугледжаны выпуск паштовага блока, канверта Першага дня і спецыяльнага паштовага штэмпеля, прысвечаных 1150-годдзю з моманту стварэння Святымі Кірылам і Мяфодзіем славян-скай азбукі.

Што датычыцца беларускай кірылічнай літары Ў, то гэтая тэма будзе адлюстравана на немаркіраванай паштоўцы".

**У кастрычніку 2012 г.** Старшыня ТБМ Алег Трусаў даслаў ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. А.У. Кабякову, каб звярнуць увагу на мову назваў прадукцыі кандытарскіх фабрык. Паколькі ў беларускай кандытарскай галіне, у прыватнасці, на фабрыках "Камунарка" і "Спартак" праходзяць рэформы, то было б добра, каб яны закранулі мову ўпаковак кандытарскіх вырабаў.

Пакуль яны ў пераважнай большасці па-старому рускамоўныя. Паводле СМІ, на "Камунарцы" з 500 найменняў вырабаў па-беларуску падпісана не больш за 20, на "Спартаку" з 800 найменняў па-беларуску знойдзеш хіба 4. Самы час пераназваць ўсе цукеркі па-беларуску, бо гэта прывядзе да павышэння попыту на іх. "Даўно вядома і ў нас, і за мяжой: беларускае - гэта якаснае". Калі пакупнік здалёк будзе бачыць беларускую назву, ён зробіць выбар на карысць якаснага беларускага прадукта і ў Расіі, і ў Казахстане, і ва Ўкраіне", - упэўнены аўтар ліста.

У афіцыйным адказе, дасланым Беларускім дзяржаўным канцэрнам харчовай прамысловасці "Белдзяржхарчпромам" за подпісам старшыні канцэрна А.Л. Забелы, паведамляецца, што зварот Старшыні ТБМ разгледжаны, прапановы ўлічваюцца. Можна зразумець, што новыя назвы, у тым ліку і на беларускай мове, надаюцца новай прадукцыі; так у апошні час на фабрыках "Спартак" і "Камунарка" зарэгістравана 19 таварных знакаў на беларускай мове, сярод іх такія назвы, як "Белая вежа", "Галінка", "Крыжачок", "Крамбабуля", "Лявоніха", "Знічка", "Малочны глячок", "Несцерка", "Папараць-кветка", "Паўлінка" і інш. Разам з тым, яны ў канцэрне падтрымліваюць меркаванне аб неабходнасці больш шырокага выкарыстання беларускамоўных брэндаў для павышэння пазнавальнасці кандытарскіх вырабаў тутэйшай вытворчасці - і дома, і за мяжой.

**У пачатку лістапада 2012 г.** з Беларускай чыгункі пайшлі аднатыпныя адказы на масавыя звароты грамадзян Беларусі да кіраўніцтва гэтага дзяржаўнага аб'яднання. У гэтых зваротах адзначаліся наступныя акалічнасці: змена назваў станцый і вакзалаў з беларускай мовы на рускую, адсутнасць беларускамоўнага візуальнага афармлення электрычак некаторых ліній; прыняцце рашэння аб візуальным афармленні Брэсцкага чыгуначнага вакзала толькі на рускай і англійскай мовах; афармленне праязных дакументаў Беларускай чыгункай на рускай мове.

У адказах даецца інфармацыя аб прынятых захадах па паляпшэнні сітуацыі ў згаданых выпадках (абвяшчэнне прыпынкаў у салонах цягнікоў - па-беларуску, аб'явы на станцыях і вакзалах - на

дзвюх мовах, надпісы на галаўных вагонах электрацягнікоў - на трох мовах, у тым ліку - па-беларуску; на станцыі Брэст-Цэнтральны назва будзе выканана на беларускай мове, візуальная інфармацыя - на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай).

Акрамя таго, тут даюцца тлумачэнні норм заканадаўства аб мовах. Напрыклад, падкрэсліваецца, што заканадаўства Рэспублікі Беларусь дазваляе карыстацца як беларускай, так і рускай мовай, пры гэтым *"недапушчальна прымушаць да карыстання адной з дзяржаўных моваў"*, супрацоўнікі чыгуначнага транспарту не абавязаныя адказваць кліентам, якія звяртаюцца да іх па-беларуску, на іх мове, і *"выкарыстанне адной з дзяржаўных моў не ўшчамляе права на выкарыстанне іншай*".

Юрыст ТБМ прааналізаваў сутнасць гэтага адказу з пункту гледжання адпаведнасці дзейнаму заканадаўству ("Наша слова", № 48 за 28 лістапада 2012 г.). Ён адзначыў, што такія выказванні з боку кіраўніцтва Беларускай чыгункі з'яўляюцца некарэктнымі. Законам Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян: юрыдычных асоб" вылучаюцца тры віды зваротаў паводле формы: пісьмовыя, вусныя і электронныя. Адным з патрабаванняў да пісьмовых адказаў на пісьмовыя звароты з'яўляецца іх выкананне на мове звароту. Тым жа патрабаванням павінны адпавядаць і адказы, што накіроўваюцца на адрас электроннай пошты заяўніка. Адпаведна, і на адказы на вусныя звароты распаўсюджваецца гэтае патрабаванне, хоць асобнага артыкула ці пункта артыкула, які гэта рэгламентаваў бы, няма. Валоданне беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання супрацоўнікамі чыгункі сваіх службовых абавязкаў, з'яўляецца патрабаваннем закона, і няма прычын абмяжоўваць адказы па-беларуску толькі на пісьмовыя звароты.

**На Дзяды** ў Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны адбылася вечарына памяці галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", першага старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, доктара гістарычных навук прафесара Міхася Ткачова. Адкрыла вечарыну першая намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім. З успамінамі выступілі Алег Трусаў (Старшыня ТБМ, ветэран Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, кандыдат гістарычных навук), Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII скліканя, былы намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Мікалай Крыжаноўскі, галоўны рэдактар штотыднёвіка "Новы час", былы намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады), кандыдат гістарычных навук Аляксей Кароль;

археолаг, кандыдат гістарычных навук Эдвард Зайкоўскі. Напрыканцы, закрываючы вечарыну, старшыня Менскай гарадской арганізацыі БСДГ Анатоль Сідарэвіч падзякаваў усім, хто прыйшоў ушанаваць памяць Міхася Ткачова, выдатнага гісторыка, энцыклапедыста і палітычнага дзеяча.

**2 лістапада** пры актыўным удзеле сяброў Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ прайшлі тры сустрэчы (у Лідскім каледжы, у клубе "Актыўнае даўгалецце" і ў Цэнтральнай бібліятэцы) з віцебскай паэткай Ірынай Лобан (Грумандзь).

**7 лістапада** адбылася талака ТБМ імя Ф. Скарыны г. Магілёва ў Багацькаўцы на радзіме братоў Гарэцкіх. Удзельнічала 9 магілёўцаў. Разам з супрацоўнікамі краязнаўчага музея з Мсціслава яны пасадзілі ружы ў кветніку, які залажылі летась каля хаты Гарэцкіх, адрамантавалі памятны знак; наведалі мясцовыя могілкі, дзе пахаваныя Ахрасіння і Іван Гарэцкія, агледзелі і паправілі агароджу, вызначылі аб'ём працы на вясну. Пасля завіталі ў Мсціслаў, праз яго - на Смаленшчыну, дзе наведалі вёску Пятровічы, радзіму пісьменніка-фантаста Айзека Азімава. Але ўсё там парасло быльнягом, а шыльда з памятнага знака - скрадзена. Вырашылі, што ў наступнае наведванне выправяць сітуацыю.

**13 лістапада** ў Магілёве адбылася прэзентацыя кнігі "Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае" з удзелам аўтараў - пісьменніка Ўладзіміра Арлова і мастака Зміцера Герасімовіча. Арганізатары сустрэчы - Магілёўскі гарадскі цэнтр культуры і адпачынку і гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны. Прысутнічала на сустрэчы больш за 120 магілёўцаў. Гэта была фактычна другая пасля менскай прэзентацыя кнігі, прысвечанай 400-годдзю заснавання друкарні Мамонічаў у Вільні - першай друкарні на этнічнай беларускай тэрыторыі. Гэтая кніга - ілюстраваная гісторыя нашай сярэднявечнай дзяржавы. Разам з тым, у новым выданні храналогія гістарычных падзей працягваецца фактычна да нашых дзён. Мастак Зміцер Герасімовіч адзначыў, што новае выданне змяшчае больш за 2000 фотаздымкаў і ілюстрацый, якія аўтары адабралі з больш чым 10000! Да таго ж у ім змешчаны бліскучыя мастацкія рэканструкцыі сярэднявечных гарадоў і замкаў. У. Арлоў звярнуў увагу на тое, што ў кнізе згадваецца шмат гістарычных падзей і фактаў, малавядомых шырокаму колу чытачоў.

Напрыканцы размовы Ўладзімір Арлоў зрабіў выснову, што

беларусы - еўрапейскі народ, а наша еўрапейская гісторыя - гэта пропуск у нашу еўрапейскую будучыню.

Многія госці прыйшлі з загадзя набытымі кнігамі і цяпер мелі магчымасць атрымаць аўтографы аўтараў.

**16 лістапада** ў сядзібе ТБМ адбылася прэзентацыя календароў, выдадзеных арганізацыяй на працягу 2012 года. У імпрэзе браў удзел мастак, дызайнер Ігар Марачкін, аўтар згаданых календароў. Да гэтага мерапрыемства была аформлена насценная экспазіцыя, у якую ўвайшлі ўзоры календароў розных гадоў і match фармату. Пры распрацоўцы сюжэтаў былі скарыстаныя працы вядомых беларускіх мастакоў Аляксея Марачкіна і Уладзіміра Басалыгі. Акрамя насценных календароў, прэзентаваліся кішэнныя, настольныя і перакідныя календары. Апошнія ўжо тры гады выпускае Гарадзенская абласная арганізацыя ТБМ. Ініцыятарам задумы і распрацоўшчыкам гэтых календароў з'яўляецца кіраўнік ТБМ Гарадзеншчыны Аляксей Пяткевіч.

**20 лістапада** ў Таварыства беларускай мовы прыйшоў афіцыйны адказ Берасцейскага абласнога выканаўчага камітэта за подпісам намесніка старшыні аблвыканкама В.Я. Сакоўскага.

У лісце паведамляецца, што ў аблвыканкаме зварот Старшыні ТБМ Алега Трусава разгледжаны, і што аблвыканкам падзяляе пазіцыю "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" аб неабходнасці інфармавання пасажыраў на беларускай мове, як дзяржаўнай. І далей - *"па інфармацыі РУП "Брэсцкае аддзяленне Беларускай чыгункі", падмацаванай пісьмом 29.10.2012 № 20-02-17/17765, у ходзе рэканструкцыі вакзала станцыі Брэст-Цэнтральны візуальную інфармацыю для пасажыраў, размешчаную ў будынку вакзала, на пасажырскіх платформах і інш., плануецца выканаць на трох мовах: беларускай - вялікім шрыфтам, рускай і англійскай. Назва вакзала на фасадзе будынка таксама будзе выканана на беларускай мове".*

Прапанова зрабіць усе надпісы на пяці мовах не можа быць выканана, бо прывядзе да нагрувашчвання інфармацыі, што да ўладкавання магазінаў - кніжнага і сувеніраў - то гэтыя пытанні вырашацца пры будаўніцтве канкорса, калі з'явяцца новыя плошчы пад іх.

**23 лістапада** ў Магілёве адбылася творчая сустрэча з мастацтвазнаўцай Тамарай Габрусь. Арганізатары вечарыны - Магілёўскі абласны краязнаўчы музей імя Еўдакіма Раманава і Магілёўская гарадская арганізацыя ГА "Таварыства беларускай мовы імя Фран-

цішка Скарыны".

Тамара Габрусь - доктар мастацтвазнаўства, гісторык архітэктуры, аўтар звыш 400 публікацый па гісторыі беларускага дойлідства. Імпрэза была прымеркавана да 120-годдзя Пятра Бараноўскага, беларускага архітэктара-рэстаўратара, археолага, пра якога Тамара Габрусь напісала ў сваёй новай кнізе "Паэзія архітэктуры".

Адмыслова да вечарыны супрацоўнікі музея падрыхтавалі выставу кніг Тамары Габрусь, сярод якіх вядомыя "Страчаная спадчына", "Саборы помняць усё", "Мураваныя харалы".

**У лістападзе 2012 г.** на імя Старшыні ТБМ Алега Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь за подпісам Намесніка старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы М.Г. Жылінскага, на зварот Старшыні ТБМ з прапановамі ўключыць у парадак дня бягучай сесіі Палаты Прадстаўнікоў пытанне аб унясенні зменаў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", а таксама пачаць распрацоўку Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы" і прыняць яго.

У лісце выказаны адносіны да гэтай ідэі: *"На наш погляд, удасканаленне Закона аб мовах у гэтым кірунку будзе спрыяць забеспячэнню фактычнай роўнасці дзяржаўных моў у Рэспубліцы Беларусь, аднак можа быць рэалізавана пры ўмове адначасовай карэкціроўкі адпаведных палажэнняў іншых законаў, якія рэгламентуюць пытанні, звязаныя з ужываннем дзяржаўных моў у розных галінах грамадскіх адносін. У той жа час, абавязковае адначасовае ўжыванне дзвюх дзяржаўных моў ва ўсіх сферах грамадскіх адносін, на нашу думку, прывядзе да значнага павелічэння дзяржаўных расходаў і дакументаабароту. У сувязі з гэтым узнікае пытанне аб мэтазгоднасці падрыхтоўкі закона аб унясенні змяненняў у "Закон аб мовах" і Закон Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы".*

Далей у лісце тлумачыцца, у якім парадку праекты законаў могуць быць унесены ў парадак дня сесіі да разгляду. Іх неабходна ўключыць у штогадовы план, які зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Заканадаўчай ініцыятывай валодаюць дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь асабіста.

*"Такім чынам, у выпадку ўнясення адным з суб'ектаў права заканадаўчай ініцыятывы, у Палату Прадстаўнікоў адпаведнага законапраекта, ён будзе разгледжаны ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам"*, - завярае сп. М.Г. Жылінскі.

У дадатку да гэтага ліста, надрукаванага ў 49 нумары "Нашага

слова", -  заклік да ўсіх сяброў ТБМ - звяртацца на месцах да сваіх дэпутатаў з патрабаваннем да кожнага выступіць з заканадаўчай ініцыятывай аб распрацоўцы і прыняцці Палатай Прадстаўнікоў Закона "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы".

**У лістападзе 2012 г.** з ініцыятывы ТБМ “Белпошта” выдала паштоўку да 100-годдзя Лідскага аэрадрома.

**У лістападзе-снежні 2012 года** сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ прынялі ўдзел у рэспубліканскай акцыі па вяртанні дзяржаўнай беларускай мовы ва ўсе сферы дзейнасці нашай дзяржаўнай беларускай чыгункі. Сабралі 570 подпісаў грамадзян горада Баранавічы за беларусізацыю чыгункі. 7 снежня 2012 года гэтыя подпісы былі накіраваны начальніку беларускай чыгункі сп. Уладзіміру Марозаву. Найбольшую колькасць подпісаў сабрала актывістка ТБМ Аніскевіч Ганна.

**8 снежня** ў Музеі гісторыі Магілёва адбылася сустрэча з гісторыкам Алегам Дзярновічам, які наведаў горад на Дняпры з лекцыяй, прысвечанай 500-годдзю ваеннага, палітычнага, рэлігійнага і грамадскага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, канцлера і вялікага гетмана літоўскага Мікалая Радзівіла Рудога. Гасцямі вечарыны сталі каля 50 магілёўцаў.

Арганізавала сустрэчу Магілёўская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны, старшыня якой Алег Дзьячкоў вёў вечарыну, казаў уступнае слова. У сваёй лекцыі, прысвечанай асобе Мікалая Радзівіла Рудога, сп. Дзярновіч закрануў таксама іншую тэму - распавёў пра паэму польскага гісторыка і пісьменніка Мацея Стрыйкоўскага "Бітва пад Улай" (пра перамогу войска ВКЛ над маскоўскім войскам пад Улай у 1564 годзе). Наступныя тэмы, закранутыя гісторыкам - раскопкі ў Крэўскім замку, унікальныя знаходкі і, напрыканцы - пра нядаўняе ўрачыстае перапахаванне парэшткаў Мікалая Радзівіла Рудога і яго брата Мікалая Радзівіла Чорнага ў Дубінках пад Вільняй.

**10 снежня** першы незалежны тэлеканал у Беларусі "Белсат" адзначыў сваё 5-годдзе. Канал быў задуманы Таварыствам беларускай мовы падчас распрацоўкі Стратэгіі развіцця беларускай мовы. Рэалізаваць ідэю непасрэдна ў Беларусі было немагчыма, таму рэалізацыя ідэі была перанесена на тэрыторыю Польшчы.

Трансляцыя канала пачалася з Варшавы 10 снежня 2007 года, у Сусветны дзень правоў чалавека. Праект падрыхтаваны Польскім

тэлебачаннем пад кіраўніцтвам Агнешкі Рамашэўскай-Гузы.

У будынку польскага Сойму адкрылася выстава, прысвечаная пяцігадовай працы "Белсата", адбылася імрэза.

Сакратарыят ТБМ павіншаваў супрацоўнікаў тэлеканала "Белсат" з 5-годдзем і выказаў глыбокую падзяку за папулярызацыю беларускай мовы.

**12 снежня** старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны атрымаў адказ з Міністэрства Унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, падпісаны намеснікам Міністра А.А. Курыльцом, на прапанову арганізацыі курсаў беларускай мовы для супрацоўнікаў органаў унутраных спраў.

У лісце адзначана, што ў МУС Рэспублікі Беларусь створаны ўсе неабходныя ўмовы для павышэння ўзроўню валодання і выкарыстання супрацоўнікамі органаў унутраных спраў беларускай мовы ў службовай дзейнасці.

Газета "Наша слова" (№ 50 за **12 снежня**) надрукавала перапіску беларускага грамадзяніна з горада Рэчыцы Андрэя Мядзведзева з ДА "Беларуская чыгунка" аб парушэнні яго моўных правоў ва ўмовах нашага так званага двухмоўя. Пры тым, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і "Закон аб мовах Рэспублікі Беларусь" гарантуюць кожнаму грамадзяніну нашай краіны магчымасць карыстацца любой, якой ён жадае, мовай з дзвюх дзяржаўных, якія ў нас раўнапраўныя на паперы і на словах начальства, на практыцы часта бывае ўсё не так (прыгожа-справядліва).

Сп. Мядзведзеў, звярнуўшыся па даведку да ДА "Беларуская чыгунка" праз яго сайт, сутыкнуўся з тым, што не можа атрымаць яе на сваёй роднай, зручнай для яго беларускай мове. Так, напрыклад, пры спробе даведацца расклад руху прыгарадных цягнікоў ад станцыі Калінкавічы да станцыі Рэчыца, ён атрымаў ад гэтага сайта адказ наступнага зместу: "Ошибка проверки значений: Прежде, чем продолжать, Вам следует исправить следующие ошибки: станции отправления с названием Калінкавічы не существует. Пожалуйста, исправьте либо введите только первую(ые) букву(ы) нужной станции и попробуйте снова".

У сувязі з гэтым сп. Мядзведзеў просіць ДА "Беларуская чыгунка" выправіць становішча з дзяржаўнымі мовамі, *"разгледзець пытанне стварэння магчымасці карыстацца ўсімі сэрвісамі сайта ДА "Беларуская чыгунка" на абедзвюх дзяржаўных мовах"*. Паколькі з першага разу адрасат (ДА "Беларуская чыгунка") не зразумеў, пра што гаворка (збіўся на работу сэрвіса па продажы білетаў праз Інтэр-

нэт) сп. Мядзведзеў напісаў ім другі ліст, у якім яшчэ больш падрабязна і даходліва растлумачыў, чаму парушаны ягоныя правы, і тады ўжо атрымаў больш уцямны адказ, дзе былі такія словы: *"У цяперашні час вядуцца работы па стварэнні беларускамоўнай версіі сайта чыгункі".*

**19 снежня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у Лідскім каледжы прайшла імпрэза, прысвечаная Адаму Міцкевічу і Ўладзіміру Караткевічу.

**19 снежня** ў магілёўскай ратушы адбылася вечарына, прымеркаваная да 480-годдзя Стэфана Баторыя, якую сумесна зладзілі музей гісторыі Магілёва і ТБМ імя Ф. Скарыны. З гэтай нагоды ў Магілёў завітаў вядомы пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў, які прэзентаваў свае выданні "Краіна Беларусь" і "Вялікае Княства Літоўскае". Ён распавёў пра вялізны ўнёсак караля польскага і вялікага князя літоўскага ў гісторыю Беларусі, адзначыўшы, што постаць гэтага выбітнага дзеяча для магілёўцаў асабліва значная, бо менавіта Баторый надаў гэтаму гораду ў 1577 годзе магдэбургскае права.

**21 снежня** стала вядома, што ўсе праязныя квіткі на студзень надыходзячага 2013 года, якія прапануюць сталічным пасажырам, надрукаваныя ўжо не на беларускай, як звычайна, а на рускай мове. Беларускае грамадства адрэагавала імгненна. Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" адразу 21 снежня на сваім паседжанні прыняў адпаведны зварот - да грамадзян Беларусі, а найперш да жыхароў Менска. У ім ТБМ нагадала, што з 1990 года ўсе праязныя білеты ў горадзе Менску афармляліся на дзяржаўнай беларускай мове, і гэты факт станоўча ўспрымаўся грамадзянамі нашай краіны.

Заканчваецца зварот заклікам да ўсіх неабыякавых людзей "у год юбілею класікаў беларускай літаратуры Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка засведчыць сваю адданасць роднай мове і пісьмова звярнуцца ў "Мінсктранс" з патрабаваннем вярнуць дзяржаўную беларускую мову на праязныя білеты".

Аднак найбольш аператыўнай аказалася Інтэрнэт-супольнасць Беларусі. Дзясяткі, сотні, тысячы (партал TUT.BY) пратэстаў, абурэнняў, патрабаванняў пасыпаліся ў адрас "Мінсктранс". Загулі ўсе сайты Беларусі. Пайшлі электронныя лісты ў "Мінсктранс". І ўжо 22 снежня парталу TUT.BY паведамілі, што была дапушчана памылка, і за нізкі кантроль і паніжаную патрабавальнасць дырэктар "Агенцтва Мінсктранс" прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці, а квіткі ўжо ў

лютым будуць друкавацца па-беларуску.

**Снежань 2012 г.** Кіраўніцтва ТБМ звярнулася да сяброў і прыхільнікаў роднага слова з просьбай падтрымаць ужыванне ў візуальным афармленні нашых гарадоў (у прыватнасці, у напісанні назваў вуліц, станцый метро і інш.) беларускай лацінкі. Навукоўцы выкарысталі традыцыйную беларускую лацінку падчас стварэння адпаведнага даведніка, які мае статус нарматыўнага, - у назвах населеных пунктаў. Кіраўніцтва метрапалітэна, грунтуючыся на афіцыйна прынятай і зацверджанай лацінцы, пачало афармляць назвы станцый метрапалітэна.

Знайшліся, аднак, нядобразычліўцы беларушчыны, што выступаюць супраць ужывання традыцыйнай беларускай лацінкі і разгарнулі шырокую кампанію ў інтэрнэце з мэтай яе зганьбавання. Таму кіраўніцтва ТБМ просіць напісаць словы падзякі і падтрымкі кіраўніцтву метрапалітэна г. Менска і іншых дзяржаўных установ, якія ў сваёй практыцы выкарыстоўваюць беларускую лацінку.

З ініцыятывы ТБМ РУП "Белпошта" прыняло рашэнне выпусціць канверт да 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка Сяргея Грахоўскага, якое адзначалася 25.09.2013 года.

У Магілёве **ў гэты год** юбілеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка прайшло шмат вечарын і творчых сустрэч. Цяпер жа, **у снежні**, адбылася асаблівая сустрэча - з унучкай Якуба Коласа Марыяй Міцкевіч і яго сваячніцай (жонкай унука) Соф'яй Пятроўнай Міцкевіч. Прайшла яна ў актавай зале Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу пры ўдзеле Магілёўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Цэнтральная гарадская бібліятэка імя Карла Маркса падрыхтавала кніжную выставу, змясціўшы на ёй старыя, добра вядомыя і найноўшыя выданні твораў Якуба Коласа.

Марыя Міхайлаўна скончыла матэматычны факультэт БДУ, але ўсё жыццё займаецца літаратурнай дзейнасцю: піша артыкулы пра знакамітага дзядулю і яго творчасць, з'яўляецца даследчыцай яго жыццёвага шляху.

Соф'я Пятроўна - супрацоўнік музея Якуба Коласа на Стаўбцоўшчыне. Яна добра знаёмая ўсім, хто бывае ў Акінчыцах, Смольні, Мікалаеўшчыне і Альбуці - родных мясцінах паэта. Спадарыня Соф'я праводзіць экскурсіі ў сядзібах музея, арганізуе літаратурныя чытанні, сама вельмі пранікнёна дэкламуе вершы знакамітага сваяка.

Дарагія госці былі на вечарыне апавядальніцамі і слухачамі, бо магілёўцы з нагоды сустрэчы падрыхтавалі цэлы канцэрт:ігралі,

спявалі народныя песні, у якіх Якуб Колас чэрпаў натхненне, жыццёвую сілу і мудрасць, чыталі ягоныя вершы, выконвалі песні на словы паэта.

**У канцы 2012 г.** у Гародні выйшаў "Беларускі настольны перакідны каляндар на 2013 год (на матэрыяле Гродзеншчыны)".

Укладальнік - старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ, сябар Рады ТБМ, прафесар Аляксей Пяткевіч. Рэдактар - Станіслаў Суднік.

Гэта чацвёрты выпуск Гарадзенскага каляндара. Ён утрымлівае ўсе найважнейшыя даты з гісторыі Беларусі і Гарадзеншчыны, масу фактычнага матэрыялу для краязнаўцаў.

Полацкая гарадская арганізацыя ТБМ выдала кішэнны каляндарык на 2013 год. У якасці ілюстрацыі скарыстаная вокладка кнігі Уладзіміра Арлова "Краіна Беларусь".

# *2013 год*

**3 студзеня** Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны быў атрыманы адказ з Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь на зварот ад 12 снежня 2012 г., накіраваны ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які тычыўся абавязковага выкарыстання англійскай мовы аб'ектамі прыдарожнага сэрвісу.

У сваім адказе Мінгандлю абгрунтавала неабходнасць наяўнасці ў аб'ектах грамадскага харчавання меню на замежнай мове правядзеннем у 2014 годзе Чэмпіянату свету па хакеі ў г. Менску. Для гэтага дастаткова нарматыўнага акта Мінгандлю, у той час як такое ж патрабаванне ў адносінах да беларускай мовы нібыта пацягне парушэнне канстытуцыйнай нормы аб яе дзяржаўнасці. Пры фармальна-юрыдычным раўнапраўі беларускай і рускай моў на практыцы баланс іх выкарыстання не вытрымліваецца, і Мінгандлю сваёй пазіцыяй не спрыяе балансу ў практычным выкарыстанні дзяржаўных моў, стварае перакос на карысць замежнай мовы, якая не з'яўляецца дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь.

Менскі гарадскі выканаўчы камітэт - у адрозненне ад Мінгандлю - тыя самыя артыкулы беларускіх законаў і іншых прававых актаў трактуе зусім па-іншаму і абяцае беларускай мове яе законнае месца. У гэтым пераконвае ліст намесніка старшыні Менскага

гарвыканкама І.В. Карпенкі, дасланы ў пачатку студзеня 2013 г. старшыні ТБМ Трусаву А.А.

**16 студзеня** ў Магілёве адбылося "Беларускае пяціборства - XII", у якім прынялі ўдзел 23 навучэнцы 8-11 класаў з гарадоў і вёсак Магілёўшчыны.

І прыз атрымала вучаніца 8 класа гімназіі № 3 з Бабруйска Ангеліна Жыркевіч (таксама адмысловы прыз за лепшыя адказы на пытанні з прыродазнаўства).

ІІ прыз - Настасся Жыркевіч з Бабруйскай гімназіі № 3. Настассю можна назваць легендай беларускага пяціборства, бо яна ўдзельнічала ў гэтым спаборніцтве чатыры разы і кожны раз займала прызавое месца.

ІІІ прыз атрымала васьмікласніца Магілёўскай гімназіі № 1 Пілецкая Марыя (адмысловы прыз за лепшы адказ на пытанне па літаратуры). Прыз за лепшы развязак матэматычных задач - у Лаўрэнава Ягора з в. Пудаўня Дрыбінскага раёна, прыз па літаратуры - у Зміцера Юркова (Магілёўская гімназія № 1), па прыродазнаўстве - у Алеся Гаўрыленкі.

**20 студзеня** ў сядзібе ТБМ у Менску адбылася чарговая Рада ТБМ.

Паседжанне пачалося з хвіліны маўчання ў памяць Міхася Чарняўскага, які быў адным з заснавальнікаў ТБМ.

Са справаздачным дакладам аб працы арганізацыі за 2012 год выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў. Пра культурніцкую, асветніцкую і выдавецкую дзейнасць ТБМ зрабіла справаздачу першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім.

Рада разгледзела і прыняла план дзейнасці ТБМ на 2013 год, а таксама пастановы аб памеры сяброўскіх складак на 2013 год, аб зменах у складзе Сакратарыяту ТБМ, аб перарэгістрацыі сяброў ТБМ і іншых пытаннях дзейнасці арганізацыі.

**26 студзеня** старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь сп. А.У. Конюку па пытанні знішчэння толькі што ўстаноўленых бігбордаў з тэкстам на беларускай мове (найчасцей з надпісам: "Мама = мова. Любіш маму?"), заказаных і аплочаных Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. Пра гэта паведамляюць абураныя грамадзяне ў сваіх зваротах у ТБМ. Пры тым ніхто не ведае, хто іх здымае, на чый загад і па якой прычыне.

ТБМ просіць правесці пракурорскае расследаванне па факце

наўмыснага знішчэння дзяржаўнай маёмасці.

Кіраўніцтва ТБМ раіць жыхарам гарадоў, дзе такое адбываецца, звяртацца ў пракуратуру сваіх гарадоў і раёнаў з аналагічнымі лістамі, каб мясцовыя пракуроры прычыніліся да навядзення парадку ў краіне, недапушчэння дрымучай беларусафобіі.

**30 студзеня** ў памяшканні Менскай сядзібы ТБМ адбылася прэзентацыя кнігі гісторыка Анатоля Грыцкевіча "Выбранае", выдадзенай у серыі "Беларускі кнігазбор".

**У студзені 2013 г.** ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала адказ Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэту, падпісаны старшынёй раённага выканкаму В.У. Віцюновым, па пытанні ўшанавання памяці  Лявона Іванавіча Вітан-Дубейкаўскага, беларускага архітэктара, будаўніка, педагога, паэта і фалькларыста (20-я - 30-я гады). У лісце паведамляецца, што Мсціслаўскім раённым гістарычна-археалагічным музеем падрыхтаваны і аформлены інфармацыйны стэнд, прысвечаны жыццю і дзейнасці Л.І. Вітан-Дубейскаўскага.

Менская фабрыка "Слодыч" адгукнулася на прапановы ТБМ і пачала выпуск печыва пад назвай "Да падвячорка". Афармленне пачка беларускае.

У Наваполацку ў бібліятэцы імя Якуба Коласа адбылася сустрэча з пісьменнікам Уладзімірам Арловым, арганізаваная наваполацкай суполкай ТБМ і работнікамі бібліятэкі. Выступ пісьменніка, адказы на пытанні чытачоў выклікалі вялікую цікавасць публікі, зала была перапоўненая. Прысутныя мелі магчымасць не толькі набыць кнігі і атрымаць аўтографы аўтара, але і займець аўдыёзапісы з ягонымі творамі.

**1 лютага** ў дзень абвяшчэння 150 гадоў таму назад акту паўстання 1863-64 г. у Вільні лідскія актывісты ТБМ запалілі знічы на магіле ўдзельніцы паўстання Валерыі Цехановіч на Лідскіх гарадскіх могілках і ксендза Адама Фалькоўскага ў гарадскім парку.

**3 лютага** баранавіцкія аматары роднага слова прынялі ўдзел у VI Усеагульнай беларускай дыктоўцы, прысвечанай 175-м угодкам з дня народзінаў правадыра паўстання 1863 года Кастуся Каліноўскага. У мерапрыемстве прынялі ўдзел 18 чалавек. Тэкст дыктоўкі - адзін з

"Лістоў з-пад шыбеніцы" Кастуся Каліноўскага, дыктавала сп. Анжаліка Камбалава. Усе ўдзельнікі не толькі праверылі свае веды па беларускай мове, але і атрымалі ў падарунак паштоўку з выяваю Кастуся Каліноўскага.

**3 лютага** Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква прыняла ўдзел у напісанні Агульнанацыянальнай дыктоўкі. Вернікі прыходу пісалі адрывак з "Ліста з-пад шыбеніцы" Кастуся Каліноўскага. Дыктоўку правёў протаіерэй Леанід Акаловіч. Пасля вернікі адказвалі на пытанні, якія тычыліся жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага і паўстання 1863-64 гг. у Беларусі, Літве і Польшчы.

**8 лютага** ў Менску ў сядзібе ТБМ Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі сябры ТБМ Заводскага раёна г. Менска. У дыктоўцы ўзялі ўдзел 20 чалавек. Пісалі тэкст з "Мужыцкай праўды", прапанаваны ТБМ. Чытала тэкст дыктоўкі першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім.

**8 лютага** беларускую дыктоўку правёў Менскі культурна-асветніцкі клуб "Спадчына" на сядзібе ТБМ. Чытала тэкст дыктоўкі намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім. Пасля напісання дыктоўкі сябры клуба "Спадчына" выказвалі свае меркаванні, дзяліліся думкамі, адказваючы на пытанне "Хто для вас Кастусь Каліноўскі?"

Баранавіцкая рада Таварыства беларускай мовы і Польскі дом наладзілі святочную імпрэзу, прысвечаную 175-м угодкам з дня народзінаў Кастуся Каліноўскага. Кандыдаты гістарычных навук Ніна Стужынская і Андрэй Кіштымаў распавялі пра асобу Кастуся Каліноўскага і асаблівасці паўстання 1863 г. на Беларусі. Першая дырэктарка Польскага дома ў Баранавічах Альжбета Даленга Ужосэк выказала сваё бачанне ролі Кастуся Каліноўскага ў развіцці беларускай мовы і дзяржаўнасці. Грамадская актывістка Анжэла Камбалава паказала, як вобраз Каліноўскага асвятляўся ў кіно, літаратуры, мастацтве. Паэт Аляксей Белы прачытаў свае вершы, прысвечаныя касінерам Кастуся Каліноўскага. Старшыня Баранавіцкай рады ТБМ Віктар Сырыца правёў гістарычную віктарыну, прысвечаную падзеям паўстання 1863 г. Менскія барды і выканаўцы песень Раман Яраш, Віктар Сямашка і Юльяна Літвінава спявалі народныя песні, спявак Алесь Грыцавец выканаў патрыятычную песню Сокалава-Воюша, прысвечаную змагарам за свабоду, Галіна Ярашэвіч і Таццяна Малашчанка праспявалі песню "Бэз Мілавідаў". У імпрэзе прынялі ўдзел каля 80 чалавек.

**20 лютага** Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі ў Лідзе навучэнцы гуманітарнага крыла Лідскага каледжа. Удзельнічала 30 чалавек лепшых знаўцаў беларускай мовы з малодшых курсаў. Дыктоўку пісалі па "Слове пра чалавека і пра нябесныя сілы, нашто быў створаны чалавек на зямлі" Кірылы Тураўскага.

**20 лютага** ў Лідскай школе мастацтваў прайшоў канцэрт слыннага беларускага барда Андрэя Мельнікава, прысвечаны Міжнароднаму дню роднай мовы. Канцэрт арганізавала Лідская гарадская арганізацыя ТБМ.

**21 лютага**, у Міжнародны дзень роднай мовы ў сталічнай сядзібе ТБМ прайшла VI Агульнанацыянальная дыктоўка. Гэтым разам Алена Анісім чытала тэкст "Максімава зязюля", падрыхтаваны доктарам філалагічных навук Міхасём Тычынам паводле класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, 120-годдзе з дня нараджэння якога адзначалася 18 лютага.

**21 лютага** прайшла VI Агульнанацыянальная дыктоўка ў Віцебску, прычым, на працягу дня ў розных месцах горада - у "Еўрапейскім клубе", у студэнцкім інтэрнаце, чытальнай зале бібліятэкі, нават у кватэрах актывістаў. Напісаннем справа не абмяжоўвалася, бо была добрая магчымасць абмяняцца думкамі пра сучасны стан беларускай мовы, падзяліцца досведам беларускамоўнага камунікавання.

**21 лютага** ў канцэртнай зале школы мастацтваў у Паставах сабраліся прыхільнікі беларускай мовы, каб разам адзначыць Міжнародны дзень роднай мовы. З невялікай прамовай да ўдзельнікаў свята звярнуўся старшыня раённай суполкі ТБМ, пісьменнік і настаўнік Ігар Пракаповіч.

**21 лютага** сябры Салігорскай суполкі ТБМ адзначылі Міжнародны дзень роднай мовы напісаннем дыктоўкі, якая праходзіла пад знакам сакральнага духу Апостала Свабоды Кастуся Каліноўскага.

Баранавіцкія сябры ТБМ **21 лютага** павіншавалі адзіны ў горадзе беларускамоўны клас СШ № 14 з Міжнародным днём роднай мовы.

У Гомелі агульнанацыянальная дыктоўка прайшла пры

аншлагу, прынялі ўдзел актывісты грамадскіх арганізацый і палітычных партый. Дыктоўку зачытваў пісьменнік Уладзімір Арлоў - у відэазапісе. Сябар ТБМ Яўген Якавенка расказаў, як узнікла ідэя правядзення дыктоўкі.

Сама ідэя дыктоўкі была прыдумана ў Францыі - для яднання нацыі. Людзі па ўсёй краіне пісалі адначасова адзін і той жа тэкст. Гэта быў такі кансалідуючы факт, як спяванне гімна. Вось і ў нас такая дыктоўка дапамагае беларусам усвядоміць сябе беларусамі.

**23 лютага** VI Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі ў Бярозаўскай гарадской бібліятэцы Лідскага раёна. Дыктоўку па тэксце з "Мужыцкай праўды" - "Адкуль узялася паншчына" - пісалі 12 чалавек. Чытаў старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.

**24 лютага** дыктоўку пісалі ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. Пісалі тэкст "Адкуль узялася паншчына", чытаў Станіслаў Суднік.

**27 лютага** у сядзібе ТБМ адбылася ўрачыстая вечарына: адкрыццё выставы твораў жывапісу мастакоў суполкі "Пагоня" Алеся Цыркунова, Генадзя Драздова ды Міхася Карпука. Выстава прысвечана 150-годдзю паўстання і 175-гадоваму юбілею правадыра гэтага паўстання ў Беларусі і Жамойці Кастуся Каліноўскага.

**27 лютага** газета "Наша слова" змясціла "Адкрыты ліст галоўнаму рэдактару газеты "Вечерний Минск" сп. Пятроўскаму С.П. "Ці варта ездзіць на бясплатным "траянскім кані", ад старшыні ТБМ Алега Трусава.

У лісце сп. Трусаў распавёў, як ён шукаў і не знайшоў у газеце "Вечерний Минск" за 21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы, на яго 32 старонках, хоць якога матэрыялу па-беларуску.

*"У чым справа шаноўны Сяргей Пятровіч? Чаму Вы так пагарджаеце беларускім словам, нашай мовай, якая мае тысячагадовую гісторыю, нават у дзень, спецыяльна ёй прысвечаны?*

*Хачу Вам нагадаць, што нават у савецкія часы, калі ў Менску не было ніводнай беларускай школы, "Вечерний Минск" меў цалкам беларускамоўную версію, якая свабодна прадавалася і была ў каталогу падпісных выданняў. Праўда, у метро яе бясплатна не раздавалі, і мела яна сціплы выгляд. Можа, справа якраз у гэтым? Можа, сярод Вашых спонсараў, якія не шкадуюць вялізных грошай на бясплатную*

*раздачу чарговага "траянскага каня" русіфікацыі жыхароў беларускай сталіцы, ёсць тыя, хто марыць аб ліквідацыі незалежнасці Беларусі і аб далучэнні яе да суседняй краіны "шасцю губернямі?"*, - пытаецца старшыня ТБМ.

**5 сакавіка** памёр сябар Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", шматгадовы нязменны кіраўнік Пецярбуржскай суполкі ТБМ Валянцін Грыцкевіч. У канцы сакавіка яму мусіла споўніцца 80 гадоў... Ад нас сышоў выбітны і варты пашаны чалавек. Рай светлы яго душы!

**6 сакавіка** ў Смаленску прайшоў арганізацыйны сход з нагоды адкрыцця ў горадзе рэгіянальнага прадстаўніцтва ТБМ імя Ф. Скарыны. У мерапрыемстве прынялі ўдзел дэлегаты з г. Смаленска, Віцебска і Оршы.

**7 сакавіка** Беларусь павінна была адзначаць 75-годдзе Міхася Міхайлавіча Чарняўскага, але колькі дзён таму назад адзначыла 40 дзён з дня смерці.

Усё сваё свядомае жыццё М.Чарняўскі быў актыўным абаронцам і прапагандыстам роднай мовы. Ён быў у ліку сяброў камітэта БНФ, ТБМ і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.

Сакратарыят ТБМ павіншаваў жанчын Беларусі з Днём **8 сакавіка.**

*Дарагія жанчыны, чароўныя кветкі нашай краіны.*

*ТБМ віншуе Вас з прыгожым і светлым святам Вясны! "Наша гісторыя багатая на славутых, знакамітых жанчын, захавальніц роднага слова: Рагнеда, Ефрасіння Полацкая, Сафія Слуцкая, Уршуля Радзівіл, Саламея Русецкая, Эмілія Плятар, Эліза Ажэшка, Цётка, Палута Бадунова, Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш, Стэфанія Станюта і многія іншыя", - зазначаецца ў тэксце віншавання.*

*Мы жадаем усім жанчынам нашай краіны моцнага здароўя, бадзёрасці, духоўнай натхнёнасці.*

**20 сакавіка** Старшыня ТБМ Алег Трусаў даслаў прывітанне галоўнаму рэдактару газеты "Народная воля".

*"Шаноўны Іосіф Паўлавіч!*

*Мы вітаем Вашую ініцыятыву аб пераходзе "Народнай волі" на дзяржаўную беларускую мову, мову тытульнай нацыі Беларусі. Калі гэта адбудзецца, сябры ТБМ будуць актыўна спрыяць Вам у*

*пашырэнні падпіскі і накладу газеты"*, - абяцае рэдактару "Народнай волі" старшыня ТБМ.

**Віншаванне Сакратарыяту ТБМ да 95-х угодкаў БНР.**

*95 гадоў назад беларуская нацыя абудзілася і заявіла ўсяму свету пра свае права на самастойную дзяржаву.*

*Дык няхай жа нязгасныя светлыя ідэалы 25 сакавіка натхняюць усіх нас на стваральную працу дзеля вольнай Бацькаўшчыны.*

*Сакратарыят ТБМ, 22 сакавіка 2013 г.*

**25 сакавік**а ў сядзібе ТБМ у Менску прайшоў 3-ці, заключны этап VI беларускай Агульнанацыянальнай дыктоўкі, які па сутнасці завяршыў дыктоўку ў краіне і дыяспарах. Дыктоўку чыталі відныя людзі Беларусі. Можна спадзявацца, што гэтая акцыя яднання нацыі будзе набіраць размах.

**25 сакавіка** сябры ТБМ з Ліды і Бярозаўкі ўшанавалі памяць дзеячоў Беларускай незалежніцкай партыі ў Лідзе і міністра БНР Кіпрыяна Кандратовіча ў Воранаве.

Баранавіцкія сябры ТБМ сабралі 156 подпісаў за тэрміновы рамонт помнікаў у гонар паўстанцаў 1863 года.

Сябры ТБМ просяць Мілавідскі сельскі савет арганізаваць працу па рамонту помнікаў і добраўпарадкаванні тэрыторыі з нагоды 150-х угодкаў Мілавідскай бітвы 1863 г. Мы не толькі просім, але і самі прымем удзел у добраўпарадкаванні.

**Сактаратарыят ТБМ павіншаваў часопіс "Маладосць" з 60-годдзем.**

*"Маладосць" - беларускі літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс. Друкуе творы беларускіх пісьменнікаў, артыкулы, рэцэнзіі. Выдаецца з красавіка 1953 г.*

*Сябры ТБМ шчыра віншуюць вас з юбілеем! Жадаем творчых поспехаў і доўгіх гадоў працвітання!*

**8 красавіка** мінулага года мы праводзілі ў незваротны шлях патрыярха слуцкай журналістыкі, сябра ТБМ Міхася Адамавіча Тычыну.

Менская абласная арганізацыя з нагоды гадавіны памяці выдатнага слуцкага ветэрана-журналіста М.А. Тычыны і ў сувязі з абвяшчэннем 2013 г. "Годам К. Каліноўскага" прапануе правесці 3 траўня

Агульнанацыянальную дыктоўку, прысвечаную М.А.Тычыну.

**10 красавіка** суполка імя Адама Станкевіча пры ТБМ адзначыла 130-я ўгодкі "бацькі беларускага тэатра" Францішка Аляхновіча. Ён быў тэатральным дзеячам і драматургам, ствараў беларускі тэатр.

**17 красавіка** лепшы настаўнік Магілёўскай вобласці, які выкладае беларускую мову і літаратуру, Юрый Каласоўскі з Магілёўскай гарадской гімназіі № 1 стаў пераможцам рэгіянальнага конкурсу прафесійнага майстэрства "Настаўнік года - 2013".

Сакратарыят ТБМ павіншаваў лепшага настаўніка 2013 г. Ю. Каласоўскага.

**25 красавіка** на паседжанні Сакратарыяту ТБМ прыняты зварот да ўсіх прыхільнікаў беларускай мовы з просьбаю аб дапамозе.

Выклікана гэта тым, што паводле новага Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь кошт арэнды за сядзібу ТБМ павысіўся на 60%. Нягледзячы на шматлікія звароты грамадзян Беларусі ў Адміністрацыю Кіраўніцтва спраў Прэзідэнта з просьбай пакінуць для ТБМ ільготны кошт арэнды, улада не пайшла насустрач некамерцыйнай грамадскай арганізацыі. Каб утрымліваць сядзібу арганізацыі ў Менску ў гэтых новых умовах неабходна штомесяц збіраць 10 мільёнаў беларускіх рублёў у выглядзе ахвяранняў і складак сяброў і прыхільнікаў ТБМ. Уратаваць сядзібу і, адпаведна, нашу арганізацыю могуць самі грамадзяне, прыхільнікі беларускай мовы сваімі ахвяраваннямі. "Калі пяць тысяч прыхільнікаў роднай мовы ахвяруюць штомесяц усяго дзве тысячы рублёў, арганізацыя не загіне", - гаворыцца ў звароце.

Зварот надрукаваны ў "Нашым слове" № 19 за 8 траўня, у ім змешчаны рахунак ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" ў Белінвестбанку.

**8 траўня** сябры Гарадзенскай абласной і гарадской ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" звярнуліся да бацькоў дзяцей, якія ў 2013 г. пойдуць у першы клас, з прапановай падаваць заявы на беларускамоўнае навучанне. "Калі Вы сапраўды хочаце, каб Вашыя дзеткі ведалі нароўні з рускай і беларускую мову - вы маеце рэальную магчымасць гэтаму паспрыяць, напісаўшы заяву ў першы беларускі клас. Выдатнае валоданне грамадзянамі, як мінімум, дзвюма дзяржаўнымі мовамі - гэта паказчык талерантнасці грамадства, а павага да роднай мовы -

гэта павага і да сябе!" - гаворыцца ў звароце. Адзначаецца, што ў мінулым навучальным годзе ў Гарадзенскай вобласці агульнымі намаганнямі бацькоў, аддзелаў адукацыі і грамадскіх аб'яднанняў было створана 30 новых беларускіх класаў. Годам раней - 20.

Паведамляецца, што працягваецца падача заяў і ў трэція класы з беларускай мовай выкладання, базавымі школамі з'яўляюцца СШ № 32 і СШ № 34.

Падаюцца прозвішчы і тэлефоны тых людзей, да каго трэба звяртацца з заявамі.

**15 траўня** газета "Наша слова" надрукавала допіс сп. Яраслава Грынкевіча "Па-беларуску можна ўсё". На пачатку аўтар прыводзіць выказванне "аднаго лідскага чыноўніка": *"Сорамна нам радавацца кожнаму беларускамоўнаму фанціку ў краіне, дзе ўсё павінна быць па-беларуску"*. Тым не менш, у краіне татальнай русіфікацыі радуе кожная праява беларушчыны. Аўтар прыводзіць факты нечаканага ўвасаблення гэтай самай беларушчыны, праілюстраваўшы іх фотаздымкамі. "Вось камень - знак з нагоды 90-годдзя заснавання Беларускага чырвонага крыжа, пастаўлены ў Лідскім мікраараёне Новы паўднёвы гарадок. Усе надпісы зроблены выключна па-беларуску".

"Вось камень каля будынка Лідскага радыё. Слоў там няшмат, але яны па-беларуску..."

"Вось камень перад комплексам Лідскіх электрасетак, таксама па-беларуску". Дарэчы, там "усё ўнутранае аздабленне" і фатаграфіі перадавікоў вытворчасці ... напісаны па-беларуску, і селектарныя нарады ... праходзяць на беларускай мове".

"Вось інфармацыйны стэнд храмавага комплекса Святога Аляксандра Неўскага ... аформлены па-беларуску".

"А вось альбом-казка "Як зайкі лес падпалілі ... на супрацьпажарную тэматыку з малюнкамі дзетак і вершаваным тэкстам Станіслава і Рымы Суднікаў..."

Аўтар кажа: "Згаданыя тут фрагменты - гэта далёка не ўсе, што можна сустрэць і знайсці ў Лідзе, але яны сведчаць, што беларуская мова не пакінута Лідскай грамадзянскай супольнасцю, што яна натуральна бытуе... На справаздачных сходах Лідскіх арганізацый ТБМ гучаць словы то пра 750, то пра 350 сяброў ТБМ, дык недзе ж тыя сябры ёсць, на нейкіх прадпрыемствах і нейкіх установах працуюць і, мабыць, могуць сяды-тады паўплываць ... на тое, каб грамадства "было завострана" на беларускасць. Калі яна будзе праяўляцца паўсюдна, то мова натуральна будзе займаць свае пазіцыі, матэрыялізавацца беларуская нацыянальная ідэя.”

Баранавіцкія сябры ТБМ зрабілі і надрукавалі каляровую паштоўку у гонар 75-х угодкаў з дня народзінаў кіраўніка паўстання 1863 года Кастуся Каліноўскага. На бела-чырвона-белым фоне змешчана выява правадыра паўстання Кастуся Каліноўскага і яго радавы герб "Калінова". Паштоўку ўпрыгожвае заклік паўстанцаў 1863 года, пра які пісаў Уладзімір Караткевіч у рамане "Каласы пад сярпом тваім": "Каго любіш? - Люблю Беларусь! - То ўзаемна!"

- Зрабіўшы такую прыгожую паштоўку, цяпер мы маем магчымасць павіншаваць не толькі сяброў ТБМ і грамадскіх актывістаў, але і шырокае кола грамадзян са слаўнай і гераічнай датай у нашай гісторыі, - адзначыў старшыня Баранавіцкай рады ТБМ Віктар Сырыца.

**16 траўня** ў Магілёве актывісты ТБМ зладзілі талаку на магіле літаратара, грамадскага дзеяча Цішкі Гартнага.

Памятны знак яму ўсталяваны ў Пячэрскім лесапарку, непадалёк ад псіхіятрычнай лякарні, у якой, паводле даследнікаў, Зміцер Жылуновіч скончыў жыццё самагубствам у 1937 годзе.

Актывісты прыбралі смецце, правялі свой штотыднёвы гурток беларускай мовы, які прысвяцілі творчасці Цішкі Гартнага. Чыталіся ягоныя творы і творы, прысвечаныя яму, гаварылі пра жыццёвы шлях першага кіраўніка ўрада Савецкай Беларусі, які гвалтоўна абарваўся ў вар'ятні.

Месца пахавання Змітра Жылуновіча адшукаў старшыня магілёўскага аддзялення таварыства "Мартыралог Беларусі" магілёўскі акцёр Валянцін Ермаловіч.

Да Дня славянскага пісьменства і культуры, які адзначаецца ў свеце **24 траўня**, з ініцыятывы ТБМ імя Ф. Скарыны "Белпошта" выпусціла блок з адной маркі, і 24 траўня на Менскім паштамце правяла гашэнне маркі і канверта Першага дня. Мастак - Іван Лукін.

**24 траўня** старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.У. Кабякова з інфармацыяй аб тым, што ў арганізацыю паступаюць звароты беларускіх грамадзян, якія абураны тым, што візуальнае афармленне фасада новага будынка рэзідэнцыі Прэзідэнта Беларусі ("Палаца Незалежнасці") праводзіцца не на дзяржаўнай беларускай мове, мове тытульнай нацыі краіны, а на мове суседняй дзяржавы. Беспадстаўна адхілены праект афармлення інтэр'ераў Палаца Незалежнасці, які мастацкімі сродкамі распавядаў пра тысячагадовую гісторыю краіны.

У сувязі з гэтым Старшыня ТБМ прапанаваў правесці грамадскае абмеркаванне праекта афармлення інтэр'ераў і фасадаў вышэйназванага будынка, а таксама зрабіць усю візуальную інфармацыю на беларускай мове.

**24 траўня** старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст начальніку Беларускай чыгункі сп. У.М. Марозаву, прысвечаны мове інфармацыі і візуальнага афармлення беларускай чыгункі. Адбыва-ецца перавод назваў чыгуначных станцый і прыпынкаў з беларускай на рускую мову, пра гэта паступаюць заявы ў ТБМ ад абураных грамадзян. Так, напрыклад, на баранавіцкім кірунку нядаўна зніклі беларускамоўныя назвы чыгуначных станцый і прыпынкаў "Сталічны", "Воўкавічы", "Памыслішча", "Бярэжа" і інш. Новыя электрацягнікі "Гарадскіх ліній" і афармленне, і праязны білеты - па-руску.

Не можа не турбаваць ігнараванне дзяржаўнай беларускай мовы і замена яе мовай суседняй дзяржавы, кіраўнік якой даўно марыць аб аншлюсе Беларусі шасцю губернямі. Сп. Трусаў заўважае, звяртаючыся да начальніка беларускай чыгункі: Складваецца ўражанне, што Вашы падначаленыя не падзяляюць думку Кіраўніка нашай дзяржавы, выказаную на IV Усебеларускім народным сходзе: "Беларуская мова з'яўляецца важнейшым нацыянальным культурным здабыткам".

Аўтар допісу прапануе тэрмінова вярнуць беларускамоўныя назвы чыгуначных станцый на Баранавіцкім і іншых кірунках, а таксама зрабіць інфармацыю на білетах "Гарадскіх ліній" БЧ на дзяржаўнай беларускай мове.

Сакратарыят ТБМ звярнуўся да грамадзянаў Беларусі з заклікам самастойна і масава звяртацца ў адпаведныя органы ўлады, заўважыўшы праявы русіфікацыі хоць у якой вобласці жыццядзейнасці краіны. Паводле Канстытуцыі, воля народа - гэта аснова жыццядзейнасці дзяржавы.

**30 траўня** старшыня ТБМ Алег Трусаў даслаў ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.У. Кабякову з прапановай стварыць уласнанацыянальны тэлепраект на ўзор "Еўрабачання", а ў наступным годзе на "Еўрабачанні" выканаць песню на беларускай мове "і такім чынам, засведчыць ва ўсім свеце існаванне адметнай культуры ў цэнтры Еўропы", нагадаўшы, як некалі "Песняры" праславіліся ў тагачасным СССР і за яго межамі, дзякуючы беларускай песні.

На гэта ліст прыйшоў адказ ад намесніка старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь М.С. Маркава. "Мы цалкам падзяляем Вашу думку аб несумнеўных перавагах выступу на роднай мове прадстаўніка Беларусі перш за ўсё ў мэтах папулярызацыі беларускай мовы і ўзняцця прэстыжу нашай нацыянальнай культуры ў Еўропе. Таму Белтэлерадыёкампанія гатова вынесці Вашу прапанову на разгляд журы конкурсу і ўлічваць выказаныя Вамі пажаданні пры адборы песні для прадстаўніка Рэспублікі Беларусь на Міжнародным конкурсе песні "Еўрабачанне - 2014", - завярае аўтар ліста.

**31 траўня** на сядзібе ТБМ адбылося ўрачыстае ўганараванне міжнароднай прэміяй імя Міколы Ганька паэта, барда, галоўнага рэдактара моладзевага часопіса "Верасень" Эдуарда Акуліна. Як паведаміў Алег Трусаў, прэмія была заснавана ў 2009 годзе Марыяй Ганько ў гонар свайго мужа вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча, старшыні Згуртавання беларусаў Канады Міколы Ганька.

Сёлета прэмія ўручалася ў пяты раз. Папярэднімі лаўрэатамі прэміі станавіліся: Вольга Іпатава, Віялета Кавалёва, Зінаіда Крупская і Ніна Сакава, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Эдуард Акулін сказаў, што гэтую прэмію ўспрымае як узнагароду ўсім маладым беларускім літаратарам, якія згуртаваліся вакол часопіса "Верасень".

**2 чэрвеня** сябры і прыхільнікі ТБМ арганізавалі і прынялі ўдзел у гістарычна-культурным фэсце памяці паўстанцаў 1863 года ля Мілавідаў (Баранавіцкі раён).

Аматары беларускай гісторыі і культуры з Баранавічаў, Менска, Берасця, Слоніма і Івацэвічаў запалілі зьнічы і ўсклалі кветкі да помнікаў у гонар паўстанцаў 1863 года.

Затым прысутныя праспявалі гімн-малітву "Магутны Божа" у гонар загінулых паўстанцаў і накіраваліся ў вёску Русіны на сядзібу Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ, дзе і прайшла ўрачыстая імпрэза, прысвечаная 150-годдзю гераічнай бітвы паўстанцаў.

**3 чэрвеня** з сядзібе ТБМ адбыліся першыя заняткі летняй гістарычнай школы з Алегам Трусавым.

Тэма першых заняткаў была прысвечана Лівонскай вайне і яе наступствам у беларускай гісторыі.

Былі прадэманстраваны два гістарычныя фільмы, у якіх вялася гаворка пра Мацея Стрыйкоўскага і Юзафата Кунцэвіча. На занятках

прысутныя таксама даведаліся аб выхадзе ў свет новай кнігі доктара гістарычных навук Валянціна Голубева.

**6 чэрвеня** ў Лідзе ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы прайшлі 1-я Лідскія чытанні да 150-х угодкаў паўстання 1863 года з актыўным удзелам сяброў ТБМ.

**11 чэрвеня** Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны прыняў Зварот да грамадзян Беларусі "Беларуская мова пад пагрозай".

Сябры Сакратарыяту выказалі занепакоенасць колькасцю ўдзельнікаў цэнтральнага тэставання па беларускай мове. Калі на пачатку 2000 гадоў ЦТ па беларускай і рускай мовах пісала прыблізна роўная колькасць абітурыентаў, то сёлета ахвоччых здаваць ЦТ па беларускай мове амаль у два з паловай разы менш, чым тых, хто будзе здаваць экзаменацыйны тэст па рускай мове.

Адна з прычын - пераход выкладання гісторыі Беларусі і геаграфіі ў школах з рознымі мовамі навучання з беларускай на рускую. Пасля адпаведных намаганняў ТБМ Міністэрства адукацыі "дазволіла" выкладаць гэтыя прадметы па-беларуску з улікам пажадання навучэнцаў, законных прадстаўнікоў непаўнагадовых.

Таму Сакратарыят заклікае бацькоў, якія маюць дзяцей-школьнікаў загадзя паклапаціцца пра тое, каб даць сваім дзецям беларускамоўнае выхаванне і навучанне - звярнуцца ва ўстановы адукацыі з адпаведнымі заявамі своечасова.

Акрамя таго, накіроўваць свае лісты ў Міністэрства адукацыі з патрабаваннем зрабіць у наступным годзе абавязковай здачу ЦТ адначасова на абедзвюх дзяржаўных мовах.

"Толькі захаваўшы сваю мову, мы можам захаваць сваю незалежнасць", - напамінае Сакратарыят ТБМ грамадзянам Беларусі.

**12 чэрвеня** газета "Наша слова" надрукавала справаздачу Гарадзенскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны аб рабоце за 2012 год.

Адзначана, што ў справаздачны перыяд работа Гарадзенскай гарадской рады вялася ў цесным кантакце з абласной радай ТБМ, з абласной бібліятэкай, музеем М. Багдановіча і іншымі ўстановамі культуры Гародні. Прыняты ўдзел у Агульнанацыянальнай дыктоўцы, праведзены шматлікія прэзентацыі новых беларускіх кніг, праведзена вялікая гарадская вечарына, прысвечаная 120-годдзю Зоські Верас, вечарына памяці Максіма Багдановіча, круглы стол з удзелам шматлікіх навукоўцаў, прысвечаны 130-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа,

удзел сяброў ТБМ у 7-х гарадскіх чытаннях, прысвечаных "Мужыцкай праўдзе". Вялася работа з бацькамі патэнцыяльных першакласнікаў, рыхтаваўся чарговы, на 2013 год, Гарадзенскі краязнаўчы каляндар. Арганізавана праводзілася падпіска на "Наша слова", рэгулярна збіраліся і пералічваліся сяброўскія складкі.

**12 чэрвеня** ў "Нашым слове" з'явілася і справаздача аб дзейнасці Шклоўскай раённай арганізацыі ТБМ за 2012 год.

У ёй пералічаныя наступныя мерапрыемствы:

1. Сабраны і пералічаны фінінсавыя ахвяраванні на дзейнасць ТБМ імя Ф.Скарыны.

2. Сябры таварыства Аляксандр Грудзіна і Пётр Мігурскі прынялі ўдзел у навукова-практычнай канферэнцыі "Магдэбургскае права на Магілёўшчыне: учора, сёння, заўтра". У кнізе змешчана праца А. Грудзіны і П. Мігурскага "Гістарычны брэнд Шклова і прывабнасць інвестыцый".

Выступленні сяброў Шклоўскай раённай арганізацыі ТБМ на рэспубліканскім і раённым радыё, на навуковай канферэнцыі "Археалогія, этнаграфія і гісторыя Магілёўшчыны і Верхняга Падняпроўя", публікацыі матэрыялаў грамадска-палітычнага, літаратурнага, гістарычна-краязнаўчага кірунку, выхад аўтарскіх кніг А. Грудзіны.

**27 чэрвеня** па просьбе старшыні ТБМ Алега Трусава праведзена абследаванне вуліцы Вялікая Садовая (Ленінская) г. Магілёва на прадмет моўнай сітуацыі пры размяшчэнні вонкавай рэкламы і складзены акт. У выніку абследавання выяўлена 290 рэкламных аб'ектаў і інфармацыйных шыльдаў прадпрыемстваў, з якіх 247 (85,2 %) на рускай мове, 25 (8,6 %) на англійскай ці змешанай руска-англійскай мовах, 18 (6.2 %) - на беларускай ці змешанай беларуска-рускай мовах, і з іх толькі 6 (2 %) на адной беларускай мове. З 15 банераў толькі адзін беларускамоўны, астатнія 14 - на рускай. Назва вуліцы Ленінская - усе 46 аншлагаў па-руску, толькі там, дзе ўказваецца гістарычная назва "Вялікая Садовая" - 5 беларускамоўных аншлагаў. 5 інфармацыйных дошак на гістарычныя тэмы выкананы па-беларуску.

Камісія: дацэнт МДУ А.А. Куляшова Аляксандр Агееў, дацэнт Магілёўскага ўніверсітэта харчавання Ігар Пушкін, аспірантка МДУ імя А.А. Куляшова Алена Цумарава.

**У чэрвені 2013 года** старшыня ТБМ Алег Трусаў даслаў ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.У. Кабя-

кову з прапановай звярнуць увагу на мову тых 75 % твораў мясцовых аўтараў і выканаўцаў, якія, адпаведна прынятага на дзяржаўным узроўні рашэння, гучаць у беларускім радыёэфіры. Пры тым, што беларускай музыкі дастаткова, здавалася б, дастаткова, беларускамоўную песню не так часта можна пачуць, на што часта скардзяцца грамадзяне. Алег Трусаў прапануе прыняць адпаведнае рашэнне, каб не менш, як палова гэтых твораў мясцовых аўтараў і выканаўцаў былі на дзяржаўнай беларускай мове.

Адказ прыйшоў з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, падпісаны самім Міністрам А.В. Праляскоўскім. У ім была выказана наступная думка: "На падставе артыкула 7 Закона аб СМІ не дапускаецца незаконнае абмежаванне свабоды сродкаў масавай інфармацыі..."

**4 ліпеня** Сакратарыят ТБМ праз газету "Наша слова" выказаў падзяку старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі сп. Л.П. Козіку за падтрымку распаўсюду беларускамоўнага друку ў краіне. На падставе дагавора дабрачыннай (спонсарскай) дапамогі, заключанага на падставе рашэння выканкаму Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ад 27.05.2013 № 35, Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала ад Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі грашовыя сродкі ў памеры 1 520 000 беларускіх рублёў. Яны былі выкарыстаны на падпіску шэрагу цэнтральных раённых бібліятэк краіны, музеяў, гімназій горада Менска на беларускамоўныя перыядычныя выданні Рэспублікі Беларусь і ў першую чаргу на газету ТБМ "Наша слова".

**4 ліпеня** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі Беларусі: паэтаў, кампазітараў, выканаўцаў, музыкаў.

Звяртаецца ўвага творчых людзей на тое, што апошнім часам ігнаруецца беларуская мова ў творах, якія ўдзельнічаюць у адборы на конкурс "Еўрабачанне". ТБМ заклікае іх выкарыстоўваць мілагучную беларускую мову ў сваёй творчасці. "Мы лічым, што песня на беларускай мове надасць нацыянальны каларыт і паспрыяе перамозе прадстаўніка нашай краіны на "Еўрабачанні", - сцвярджаецца ў "Звароце".

Сакратарыят ТБМ выказаў шчырую падзяку ўсім грамадзянам Беларусі і замежнікам, якія адгукнуліся на просьбу аб дапамозе і ахвяравалі свае сродкі на аплату арэнды, камунальных паслугаў, тэле-

фона і інтэрнэта за травень і чэрвень гэтага года. "Дзякуючы Вам, сядзіба ТБМ можа спакойна функцыянаваць да кастрычніка" - адзначае Сакратарыят ТБМ.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў атрымаў адказ на свой ліст ад 6 чэрвеня 2013 года, дасланы Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабякову А.У., з прапановай увядзення абавязковай здачы ЦТ адразу па дзвюх дзяржаўных мовах - па меркаванні Старшыні ТБМ А. Трусава. Гэта знішчыла б перакос на карысць рускай мовы ў працэсе цэнтральнага тэставання і забяс-печыла б рэальную роўнасць у выкладанні і веданні абедзвюх дзяржаўных моў грама-дзянамі нашай краіны.

Адказ прыйшоў з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад першага намесніка Міністра А.І. Жука.

Сутнасць адказу ў тым, што, паколькі згодна з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адукацыі для абедзвюх дзяржаўных моў створаны роўныя спрыяльныя ўмовы, а таксама забяспечана права выбару навучання і выхавання на адной з дзяржаўных моў, "Міністэрства адукацыі лічыць немэтазгодным увядзенне абавязковага тэставання на дзвюх дзяржаўных мовах".

**5 ліпеня** старшыня ТБМ Алег Трусаў даслаў ліст з прапановай Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. А.У.Кабякову. Прапанова з'явілася па аналогіі з нядаўняй падзеяй - XV Сусветным кангрэсам рускай прэсы, які адбыўся ў чэрвені гэтага года ў Беларусі (з удзелам Кіраўніка нашай краіны). Гэта прапанова ў наступным годзе склікаць I Сусветны кангрэс беларускай (беларускамоўнай) прэсы і іншых СМІ, паколькі наша краіна адзіная, дзе беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай.

Адказ прыйшоў з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь ад намесніка Міністра У.У. Матусевіча. Ён тлумачыць, што арганізатарам кангрэса рускай прэсы з'яўляецца грамадская арганізацыя Сусветная асацыяцыя рускай прэсы. На жаль, падобнай арганізацыі беларускамоўнай прэсы не існуе. Адначасова намеснік міністра інфармуе, што Міністэрствам інфармацыі ажыццяўляецца падтрымка сродкаў масавай інфармацыі суайчыннікаў за мяжой.

**10 ліпеня** ў музеі гісторыі горада Магілёва адбылася сустрэча сяброў Магілёўскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы з археолагам, старшынёй ТБМ Алегам Трусавым.

Гутарка вялася пра мінулае Магілёва, далёкае і не вельмі - як

пра побыт, эканоміку і культуру 17 стагоддзя, так і пра стан горада напрыканцы савецкай эпохі. Былі прэзентаваны матэрыяльныя рэчы, знойдзеныя пры раскопках на тэрыторыі горада.

У Маладзечне адроджана раённая арганізацыя "Таварыства беларускай мовы". Такое рашэнне было прынята на канферэнцыі рэгіянальнай структуры ТБМ. У яе рабоце ўдзельнічалі мясцовыя грамадскія актывісты, а таксама вядомы грамадскі дзеяч, сябра рэспубліканскай Рады ТБМ, філолаг Вінцук Вячорка.

**25 ліпеня** ў Лідзе прайшло Скарынаўскае свята, прымеркаванае да 20-годдзя ўстаноўкі ў горадзе помніка Францішку Скарыну. Тады, 25 ліпеня 1993 года падчас працы 1-га з'езду беларусаў свету тут у Лідзе быў адкрыты першы помнік незалежнасці Беларусі, помнік першадрукару. Праводзіла ідэю ў жыццё Лідская арганізацыя ТБМ, якую ў той час узначальваў Міхась Мельнік. Аўтар помніка - скульптар Валяр'ян Янушкевіч, архітэктар - Рычард Груша. Усё свята было зладжана на мове Скарыны - на беларускай мове.

**28 ліпеня** лідзяне ў 19-ты раз сабраліся каля магіл паўстанцаў 1863 г. ў мемарыяле "Крыжы" паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна, каб скласці ахвяру падзякі і малітвы тым, хто 150 гадоў таму назад пайшоў паміраць за тое, каб мы сёння жылі ў незалежнай краіне.

Перад імшой чыталіся спісы паўстанцаў Лідскага павету. У спісе паўстанцаў 388 імёнаў. Сярод іх Людовік Нарбут - галоўнакамандуючы войск ВКЛ у паўстанні, Валеры Урублеўскі - будучы генерал Парыжскай камуны, Францішак Багушэвіч, які сфармуляваў беларускую нацыянальную ідэю.

На завяршэнне ўдзельнікі ўрачыстасцяў праехалі па паўстанцкіх мясцінах Ліды.

Арганізавала святкаванне Лідская гарадская арганізацыя ТБМ пры падтрымцы руху "За свабоду".

У Менску ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выйшла 2-е, выпраўленае і дапоўненае выданне кнігі кандыдата гістарычных навук Алега Трусава "Невядомая нам краіна. Беларусь у яе этнаграфічных межах". Наклад 500 асобнікаў. Кніга выйшла на беларускай і англійскай мовах і была прадстаўлена на шостым з'ездзе беларусаў свету.

**У ліпені-жніўні 2013 года** працягнулася перапіска старшыні

ТБМ Алега Трусава з Міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь С.А. Маскевічам па праблеме выдання беларускамоўнага падручніка па інфарматыцы для 6-га класа. Міністэрства адукацыі абяцала, а яго няма.

У адказе, падпісаным намеснікам Міністра С.В. Рудым, утрымліваецца абяцанне, што падручнік будзе, праца над ім ідзе, тэрмін фундавання вучэбнага дапаможніка "Інфарматыка" для шостага класа працягнуты да 2015 года.

**1 жніўня** ў Магілёве гарадская арганізацыя ТБМ правяла гэтак званы "Гурток беларускай мовы", прысвечаны вершам маладых паэтаў-пачаткоўцаў Магілёўшчыны. Ацэньвалі творчасць маладых прафесіяналы ў вершаскладанні Міхась Булавацкі і Мікола Яцкоў. Задачай гуртка было не толькі падзяліцца вершамі аднаму з адным, але выбраць найбольш прыдатныя для другога этапу магілёўскай акцыі "Паэзія ў метро".

**3 жніўня** адбылася прэзентацыя турыстычнай аграсядзібы "Ліцвінаў кут", гаспадаром якой з'яўляецца сябар ТБМ Віктар Мезяк. Сядзіба месціцца ў самым сэрцы старажытнай Літвы паміж Завоссем і Наваградкам, паблізу маляўнічага возера Свіцязь. Гаспадар сардэчна запрашае на адпачынак усіх ахвотных, а таксама тых, хто хоча вывучаць родную мову.

**8 жніўня** "Гурток беларускай мовы" ў Магілёве быў праведзены каля старадаўняга млына, які мае назву "Млын Папекгута". Была магчымасць не толькі ўбачыць сам млын, які многія бачылі ўпершыню, але і палепшыць узровень валодання беларускай мовай, перакладаючы расейскі тэкст на нашу мову.

**15 жніўня** ў Магілёве, у капліцы на Віленскіх могілках, адбыўся чарговы “Гурток беларускай мовы”, арганізаваны гарадской арганізацыяй ТБМ. Гурток быў прысвечаны дзейнасці ордэна дамініканцаў на Беларусі.

**19 жніўня** Сакратарыят ТБМ направіў прывітанне ўдзельнікам XV Міжнароднага з'езда славістаў. "Грамадскае аб'яднанне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" вітае вас на гэтым важным Міжнародным форуме. Для нас асабліва важна, што гэтая падзея ўпершыню адбываецца ў Беларусі, бо беларуская мова - мова тытульнай нацыі нашай краіны - важная складовая частка агульнасла-

вянскай культуры, а гісторыя нашага народа цесна ўпісана ў гісторыю славянскага свету праз жыццё і дзейнасць многіх славутых асобаў - Францішка Скарыны, Тадэуша Касцюшкі, Адама Міцкевіча, Кастуся Каліноўскага, Вацлава Ластоўскага і шэрагу іншых", - гаворыцца ў пасланні з'езду.

**19 жніўня** Сакратарыят ТБМ прыняў зварот да грамадзян Беларусі "1 верасня нацыянальнаму святу "Дзень беларускага пісьменства" - 20 гадоў". У "звароце" гаварыцца: "1 верасня 2013 г нацыянальнаму святу "Дзень беларускага пісьменства" - 20 гадоў. Адзначаецца яно з 1994 года ў першую нядзелю верасня. Праводзіцца з мэтай ушанавання гісторыі нацыянальнай культуры і друкаванага слова, цяснейшага далучэння беларусаў да сваіх духоўных святыняў". Сакратарыят ТБМ прапануе ва ўсіх беларускіх гарадах, дзе раней адбылося свята, з верасня гэтага года адкрыць беларускамоўныя першыя класы і на іх базе з часам стварыць беларускія гімназіі - асяродкі нацыянальнай мовы і культуры.

**20 жніўня** ў сядзібе ТБМ адбылася сустрэча з вядомым даследчыкам беларускай мовы Міраславам Янкавяком на тэму: "Дыялекты беларускай мовы ў Латгаліі і на Смаленшчыне".

Наведвальнікі з цікавасцю слухалі расповеды пра моўную сітуацыю. Спадар Міраслаў ілюстраваў сваю лекцыю адмысловымі слайдамі, прапанаваў стварыць міжнародную даследчую групу і выправіцца на даследзіны ўнікальных гаворак.

**21 жніўня** старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст старшыні Быхаўскага райвыканкаму, у якім павіншаваў яго з надыходзячым "Днём беларускага пісьменства", разам з тым прыклаў да ліста зварот Сакратарыяту ТБМ з просьбай паспрыяць адкрыццю ў горадзе Быхаве беларускамоўнай гімназіі.

У адказе на гэты ліст намеснік старшыні райвыканкама Н.У. Шунькіна спаслалася на анкетаванне бацькоў і вучняў школ, размешчаных у гарадской мясцовасці, якое "паказала", што 89 % ад апытаных не жадаюць, каб іх навучанне агульнаадукацыйным прадметам ажыццяўлялася на беларускай мове. Таму лічым немэтазгодным адкрыццё беларускмоўнай гімназіі на тэрыторыі Быхава".

**23 жніўня** Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабякову А.У. быў дасланы ліст ад Старшыні ТБМ Алега Трусава. Павіншаваўшы сп. Кабякова з 20-мі ўгодкамі святкавання

Дня беларускага пісьменства, старшыня ТБМ звярнуўся да яго з просьбай паспрыяць, каб Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 верасня 2013 г. прыняў пастанову аб адкрыцці ў тых 17 гарадах, дзе адбывалася гэтае свята, а таксама ў г. Быхаве, дзе яно мела адбыцца гэтым разам, беларускамоўных школ і гімназій (адпаведна Звароту Сакратарыяту ТБМ, дасланага разам з лістом). Такое рашэнне магло б быць агучана 1 верасня ў Быхаве і цалкам адпавядала б пазіцыі Кіраўніка нашай дзяржавы, выказанай на IV Усебеларускім народным сходзе: "Беларуская мова з'яўляецца важнейшым нацыянальным культурным здабыткам".

Адказ на гэты ліст прыйшоў з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, ад намесніка Міністра В.А.Будкевіча. Ён напамінае, што "дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мова" і "дзяржава гарантуе свабоду выбару мовы выхавання і навучання". Вызначэнне ж статусу школ па мове навучання здзяйсняецца згодна з рашэннем мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў і ў адпаведнасці з заявамі законных прадстаўнікоў дзяцей.

На завяршэнне свайго допісу аўтар паведамляе, што ў 2012/2013 навучальным годзе з агульнай колькасці 3313 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі ў 1650 установах - адукацыйны працэс здзяйсняўся на беларускай мове.

**24 жніўня** пачалася двухдзённая вандроўка магілёўскіх сяброў ТБМ па мясцінах, звязаных з жыццём Мацея Бурачка.

**Напрыканцы жніўня** на імя старшыні ТБМ Алега Трусава прыйшоў адказ на ягоны запыт аб становішчы беларускай мовы ў Магілёўскай вобласці і горадзе Магілёве з Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэта, падпісаны намеснікам старшыні М.У. Міхаленем. У лісце змешчаны вельмі доўгі і падрабязны пералік мерапрыемстваў, якія спрыяюць захаванню і развіццю беларускай мовы, пашырэнню яе ўжывання ў паўсядзённым жыцці, запланаваных і праводзімых аддзелам культуры Магілёўскага гарвыканкама. Гарвыканкам пагадзіўся разглядзець канструктыўныя грамадскія ініцыятывы і прапановы, накіраваныя на пашырэнне выкарыстання і папулярызацыі роднай мовы. Што ж да рускамоўнай рэкламы на вуліцах Магілёва, то тут даецца тлумачэнне, што "гарвыканкам не ўпаўнаважаны загадваць уладальнікам рэкламных банераў і інфармацыйных шыльдаў, на якой з дзяржаўных моў рэкламаваць свае паслугі, таму прыняць меры да таго, каб вуліцы Магілёва ў адзіны момант набылі беларускамоўнае гучанне, не з'яўляецца магчымым".

**У жніўні 2013 года** прыйшоў адказ на звароты старшыні ТБМ ад 24 чэрвеня (па праблеме найменняў геаграфічных аб'ектаў) з Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь. Старшыня камітэта Г.У. Кузняцоў запэўнівае, што "Дзяржкаммаёмасць з мэтай здзяйснення адзінай дзяржаўнай палітыкі ў галіне найменняў геаграфічных аб'ектаў вядзе работы з мясцовымі органамі ўлады па тлумачэнні норм заканадаўства. Зараз сумесна з Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь распрацоўваецца рэкамендацыйнае пісьмо аб правільнай рэдакцыі рашэнняў аб найменнях. Акрамя таго, мясцовым органам улады былі адпраўлены лісты з рэкамендацыямі Тапанімічнай камісіі пры Савеце міністраў Рэспублікі Беларусь..."

**У жніўні 2013 г.** вялася перапіска старшыні ТБМ Алега Трусава з Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам культуры і Магілёўскім выканаўчым камітэтам аб кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры ў г. Мсціславе. Прывядзем тут вытрымку з адказу на запыт А. Трусава Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, за подпісам намеснікам міністра В.І. Курдаша.

"У разглядаемым звароце пералічаны аб'екты камунальнай уласнасці, якім нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці катэгорыі "3", што не дазваляе ў поўнай меры ажыццявіць выдаткаванне сродкаў рэспубліканскага бюджэту для выканання на іх прац. У адпаведнасці з артыкуламі 53, 58 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь" забеспячэнне захаванасці і фінансаванне работ з'яўляецца абавязкам уласніка гістарычна-культурнай каштоўнасці.

З улікам неабходнасці завяршэння рэстаўрацыйных работ на помніках архітэктуры, распачатых у папярэднія гады, забеспячэнне фінансавымі сродкамі рэспубліканскага бюджэту ў 2014 годзе новых аб'ектаў не ўяўляецца магчымым. Улічваючы верагоднае ўключэнне названых каштоўнасцей у турыстычныя маршруты, мяркуем найбольш мэтазгодным прыцягненне сродкаў уласнікаў, а таксама пазабюджэтных асігнаванняў з улікам вызначэння новага функцыянальнага выкарыстання будынкаў".

**1 верасня** сябры магілёўскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны зладзілі паездку на Дзень беларускага пісьменства ў Быхаве. Там наведалі Быхаўскі замак і сінагогу, якія ўсё яшчэ знаходзіліся на рэканструкцыі, паглядзелі новыя скульптуры, пастаўленыя ў горадзе адмыслова да свята. Наведалі кніжны кірмаш, дзе адбылася творчая сустрэча з бардам Юрыем Несцярэнкам і пісьменнікам Анатолем Бутэвічам.

На завяршэнне вандроўкі сябрам магілёўскай суполкі ТБМ удалося трапіць на канцэрт славутых фолк-гуртоў "Палац" і "Стары Ольса".

**У пачатку верасня** пачаліся курсы беларускай мовы ў Паставах. Каля трыццаці чалавек прыйшло ў Пастаўскую бібліятэку на прэзентацыю курсаў па вывучэнні беларускай мовы. Іх мясцовая суполка ТБМ. Галоўная мэта гэтых курсаў вярнуць у Беларусь сваю мову. Курсы ладзяцца для ўсіх ахвотных любога ўзросту.

**5 верасня** ў Магілёве адбылася арганізаваная ТБМ прэзентацыя кнігі гісторыка Алеся Белага "Хроніка Белай Русі: Імалогія Беларусі XII - XVIII ст." На прэзентацыі прысутнічалі рэдактары часопіса "ARCHE" Валер Булгакаў і Алесь Пашкевіч. Аўтар распавёў пра сваю працу, створаную цягам 20 гадоў. Пытанні слухачоў датычыліся часцей за ўсё сучасных праблем беларускай ідэнтычнасці.

**7 верасня** ў сядзібе ТБМ у Менску прайшла прэзентацыя 2-га выдання кнігі старшыні ТБМ, кандыдата гістарычных навук Алега Трусава "Невядомая нам краіна. Беларусь у яе этнаграфічных межах".

Кніга распавядае пра землі этнічна беларускія, але якія зараз належаць іншым дзяржавам - Польшчы, Літве, Украіне, Латвіі ды Расіі.

Гэтая кніга - наш выхад на міжнародную арэну не проста як людзей без роду і племені, а як народа з вялікай і багатай гісторыяй. Дзякуючы кнізе А. Трусава, беларуская ідэя яшчэ крыху пашырыла межы свайго бытавання.

Сябры ТБМ правялі ў школах Гародні больш за 50 сустрэч, агітуючы бацькоў, каб тыя аддавалі сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы. Але вынікі нязначныя. У СШ № 37 Гародні адкрыўся беларускамоўны клас з 5 вучнямі; у 3-цім класе - тры вучні. Прычына ў тым, што людзі нашы - не беларусы, і хутка стаць імі не могуць. У Лідзе сёлета адкрыўся адзін беларускамоўны клас - у СШ № 16, у ім 10 чалавек. Да таго ж, гэта клас з вывучэннем польскай мовы як прадмета, яго называюць беларуска-польскім.

**11 верасня** ў Віцебску адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя гарадской арганізацыі ТБМ. З выніковым дакладам выступіла старшыня гарадской рады Любоў Лукашэнка. Яна расказала пра зробленае мясцовымі актывістамі ТБМ, спынілася на праблемах, акрэсліла перспектывы.

У спрэчках выступіў старшыня абласной арганізацыі Іосіф Навумчык. Ён адзначыў, што ў горадзе склалася неспрыяльная сітуацыя з новым моўным афармленнем не толькі прыватных аб'ектаў, але і дзяржаўных установаў. Таму сябры ТБМ мусяць актыўней працаваць з гарадскімі ўладамі.

Новую раду гарадской арганізацыі ўзначаліла паэтка і журналістка Ірына Лобан.

**25 верасня** адбылася сустрэча сяброў магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ у складзе Ганны Бандарэнкі, Лявона Сугакі і Алега Дзячкова з намеснікам старшыні аблвыканкама Валерыем Анатольевічам Малашкам.

Спрабавалі вырашыць наступныя пытанні:

Сітуацыя са старадаўнім будынкам 18-19 стст. на вул. Вароўскага, 9. Папулярызацыя нацыянальнай беларускай культуры ў рэгіёне.

Будынак па Вароўскага, 9, нягледзячы на ўсе намаганні, вырашана знесці ў сувязі з яго аварыйным станам і адмовай навукова-метадычнай рады пры Мінкультуры надаць яму статус гістарычна-матэрыяльнай каштоўнасці.

Запланавана ў 2014 годзе ўсталяваць памятны знак у Горках на месцы дома, дзе жыў Максім Гарэцкі, знесенага ў мінулым годзе падчас святкавання "Дажынак".

Абяцана ў бліжэйшым будучым усталяваць у горадзе Магілёве банеры з адрыўкамі твораў класікаў беларускай літаратуры аб Магілёве: "Магіла льва" Янкі Купалы і "Ладдзя роспачы" У. Караткевіча.

Звернута ўвага чыноўнікаў на недапушчальнасць змены беларускамоўных назваў на рускамоўныя на дарожных знаках пры ўездзе ў гарады і мястэчкі вобласці, як гэта адбылося пры рэкан-струкцыі шашы Менск - Магілёў.

**25 верасня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у Лідзе прайшоў Еўрапейскі дзень моў з удзелам Міхася Скоблы і Лявона Баршчэўскага.

**26 верасня** Магілёўская гарадская суполка ТБМ прысвяціла чарговыя заняткі гуртка беларускай мовы Дню народзінаў Народнага паэта Беларусі, першага старшыні Таварыства беларускай мовы Ніла Сымонавіча Гілевіча. Прысутныя ўзгадалі ўлюбёныя вершы паэта, адзначылі ягоную ролю ў нацыянальным руху і зацвярджанні дзяржаўнага статусу беларускай мовы, слухалі ды спявалі песні на ягоныя вершы. А 6 кастрычніка сябры Магілёўскай гарадской суполкі ТБМ

завіталі да Ніла Сымонавіча ў госці. Зацікаўленая і шчырая размова доўжылася не адну гадзіну, у ёй закраналіся многія праблемы, што стаяць сёння перад беларусамі. Ніл Сымонавіч згадаў сваіх сяброў і знаёмых, аднадумцаў з Магілёўшчыны, дзе ў свой час з'явілася і першая абласная арганізацыя ТБМ. Госці падзякавалі народнаму паэту за сардэчны прыём, пажадалі сілаў і здароўя, плёну ў творчасці.

**20 і 27 верасня** сябры Пастаўскай суполкі Таварыства беларускай мовы сумесна з краязнаўцамі здзейснілі аўтавандроўкі па вёсках Пастаўшчыны з наведваннем школ, дзе праводзіліся прэзентацыі краязнаўчай літаратуры, творчых праектаў Пастаўскай суполкі ТБМ, адбылося знаёмства з відэаматэрыяламі, зацікаўленыя размовы з настаўнікамі і вучнямі. Такія сустрэчы адбыліся ў СШ вёскі Палессе, у Лынтупскай, Андронаўскай, Навадруцкай школах. Наведалі цікавыя для краязнаўцаў мясціны, у прыватнасці Апідамскую стараверскую царкву, агледзеўшы яе знешнюю пабудову і спецыфічнае ўбранне храма.

**30 верасня** старшыня "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў накіраваў ліст сп. Ладуцьку, старшыні Менскага гарвыканкама, у якім паведаміў, што 24 верасня ў сядзібе ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" адбыўся круглы стол, прысвечаны пытанню дашкольнага навучання на беларускай мове. Па яго выніках удзельнікі круглага стала выказалі шэраг прапановаў, якія і дасылаюцца на адрас Упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама.

У адказе на зварот, атрыманым ад старшыні Камітэта па адукацыі Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта М.У.Міронччыка, паведамляецца, што пытанне беларускамоўнага навучання і выхавання ў горадзе Менску паспяхова вырашаецца амаль ва ўсім так, як прапанавалі ўдзельнікі круглага стала ("ва ўстановах дашкольнай адукацыі функцыянуюць 128 груп з беларускай мовай выхавання і навучання, працуюць два беларускамоўныя садкі"). Вядзецца апытанне, інфармаванне, улічваюцца пажаданні. Адзінае, што "пытанне распрацоўкі сучасных метадычных дапаможнікаў для дашкольных устаноў з беларускай мовай навучання і выхавання не знаходзіцца ў кампетэнцыі камітэта па адукацыі Менгарвыканкама".

**3-га кастрычніка** Магілёўская суполка ТБМ імя Ф. Скарыны правяла гурток беларускай мовы, прысвечаны памяці паэта, празаіка і перакладчыка Сяргея Грахоўскага, аўтара трылогіі "Такія сінія снягі",

"Зона маўчання", "З воўчым білетам". Расповяд вёў Міхась Булавацкі, удзел у асвятленні тэмы прынялі таксама Ніна Осіпава, Тацяна Барысік, Аляксандр Сабалеўскі ды інш. Чыталіся вершы і проза, узгадвалася трагедыя народа ў эпоху сталінскіх рэпрэсій.

**7 кастрычніка** старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з лістом у Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь да яе кіраўніка А.У. Кабякова, у якім выказаўся ў падтрымку музея Максіма Багдановіча, які Міністэрства культуры Беларусі вырашыла ліквідаваць як самастойную юрыдычную і фінансавую адзінку. "Складваецца ўражанне, - піша ён, - што ўдзельнікі калегіі Міністэрства культуры ад 25 верасня, што прыняла рашэнне № 189 аб скарачэнні штатаў беларускіх літаратурна-мемарыяльных музеяў на 25%, "не падзяляюць думку Кіраўніка нашай дзяржавы, выказаную на IV Усебеларускім народным сходзе: "Беларуская мова з'яўляецца важнейшым нацыянальным культурным здабыткам".

У адказе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, падпісаным першым намеснікам Міністра У.М. Карачэўскім, адзначаецца, што скарачэнне штатаў некаторых дзяржаўных музеяў (і пазбаўлення музея Максіма Багдановіча статуса юрыдычнай асобы) ніякім чынам "не адлюстроўваецца на якасці работы музейных устаноў. "Рэарганізацыя і скарачэнне штатаў ... стане перш за ўсё адным са сродкаў садзеяння далейшаму якаснаму і эфектыўнаму іх развіццю, пашырыць спектр аказваемых імі паслуг..." Загадчыкі філіялаў "будуць вызвалены ад вырашэння пытанняў матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння..., што дазволіць ім засярodзіць увагу на навуковай, экспазіцыйна-выставачнай і культурна-адукацыйнай дзейнасці..."

**10 кастрычніка** старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з чарговай прапановай да Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабякова А.У. У лісце паведамляецца, што 28 кастрычніка 2014 года спаўняецца 230 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага гісторыка 19 стагоддзя Тодара Нарбута, аўтара 9-томнай "Гісторыі літоўскага народа", дзе асвятлялася гісторыя беларускага народа "яшчэ да шырокага распаўсюду тэрміну "Беларусь". "Годнае ўшанаванне Тодара Нарбута - гэта дзяржаўная справа", - лічыць аўтар ліста і выказвае свае прапановы, як гэта належыць зрабіць (выдаць па-беларуску 9-томную "Гісторыю" Тодара Нарбута, паставіць у Лідзе помнік, назваць вуліцы ў Лідзе, Воранаве і іншых месцах, аднавіць сядзібу Нарбутаў у Шаўрах Воранаўскага раёна, выдаць марку і мастацкі канверт).

У адказе намесніка Міністра культуры А.А. Яцко паведамляецца, што зварот старшыні ТБМ А. Трусава разгледжаны сумесна з Міністэрствам інфармацыі, Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі, Гродзенскім абласным выканаўчым камітэтам, і па выніках разгляду даецца адказ канкрэтна па кожнай прапанове.

Дзеля вызначэння месцазнаходжання і кампазіцыйнай структуры сядзібы Т. Нарбута зроблены захады для арганізацыі раскопак у в. Шаўры Воранаўскага раёна.

Выраб і ўсталяванне помніка Т. Нарбуту ў 2014 годзе не запланаваны. Да таго ж, насупраць Лідскага гістарычна-мастацкага музея да 690-годдзя Ліды ў 2013 годзе была адкрыта скульптура "Гонар Лідчыны".

Выданне 9-томнай "Гісторыі" Т. Нарбута патрабуе глыбокай дадатковай прапрацоўкі з Акадэміяй навук Беларусі, вывучэння попыту, толькі пасля гэтага названая энцыклапедыя можа быць прапанавана для ўключэння ў выдавецкі план.

Што да канверта і маркі, то ў 2009 годзе да 225 год з дня нараджэння Т. Нарбута быў выпушчаны мастацкі маркіраваны канверт, а на 2014 год такое выданне не запланавана.

Пытанне аб наданні вуліцам у Лідзе і Воранаве імя Нарбута на бліжэйшых паседжаннях райвыканкамаў у гэтых населеных пунктах будзе разгледжана.

Міністэрства культуры ў Гродзенскі абласны выканкам накіравала ліст з прапановай правядзення ў 2014 годзе шэрагу культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў у гонар 230-годдзя з дня нараджэння Т. Нарбута.

**14-га кастрычніка** адбыўся візіт у Магілёў папулярызатара беларускай гісторыі, стваральніка арганізацыі "Інстытут беларускай гісторыі і культуры" Анатоля Тараса. Гаворка вялася пра выданні на гістарычную тэматыку і, у прыватнасці пра тое, што з часам доля беларускамоўных выданняў інстытута становіцца ўсё большай і такая тэндэнцыя назіраецца ў планах на будучыню.

**24-га кастрычніка** ў Віцебску адбылася творчая сустрэча са знакамітым паэтам, грамадскім дзеячам Генадзем Бураўкіным, арганізаваная Віцебскай абласной арганізацыяй ТБМ пры непасрэдным удзеле супрацоўнікаў абласной бібліятэкі. Старшыня арганізацыі Іосіф Навумчык прадставіў публіцы госця, ахарактарызаваўшы яго не толькі як выдатнага паэта, але і як чалавека, які доўгі час узначальваў Белтэлерадыёкампанію, быў прадстаўніком Беларусі ў ААН, пэў-

ны час быў старшынёй Таварыства беларускай мовы. Прысутнічала на сустрэчы больш за 170 аматараў прыгожага беларускага слова. Генадзь Мікалаевіч чытаў свае вершы, адказваў на шматлікія пытанні, у канцы сустрэчы падпісаў усім ахвотным свае кнігі.

**28 кастрычніка** Сакратарыят ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" прыняў заяву "Існаванне Літаратурнага музея Максіма Багдановіча знаходзіцца пад пагрозай".

Ліквідацыя Літаратурнага музея Максіма Багдановіча як юрыдычнай асобы расцэньваецца ў заяве яе непрадуманае. Ставіцца пад удар многае напрацаванае, наладжанае, тым больш, што музей мае два філіялы, склаліся трывалыя стасункі з музеямі іншых краін. "Мы заяўляем, - гаворыцца ў дакуменце, - што ліквідацыя Літаратурнага музея Максіма Багдановіча - прамы ўдар па беларускай культуры".

Сакратарыят ТБМ заклікаў грамадзян Беларусі актыўна выступіць у абарону Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

"Таварыства беларускай мовы" ініцыявала збор подпісаў у абарону музея Максіма Багдановіча. У газеце "Наша слова" за 13 лістапада надрукаваны ўзор падпіснога ліста на імя Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Святлова Б.У. за захаванне музея Максіма Багдановіча.

**31 кастрычніка** ў Магілёве гарадской суполкай ТБМ быў праведзены гурток беларускай мовы, прысвечаны памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Была ўшанавана памяць ахвяр той эпохі, сярод якіх было многа таленавітых і адданых сыноў і дачок Беларусі. У пошуку сведчанняў пра іх дапамаглі працы Леаніда Маракова.

**Кастрычнік 2013 г.** Старшыня ТБМ Алег Трусаў атрымаў адказ ад намесніка старшыні Магілёўскага гарвыканкама С.У. Дзядовіча на чарговы свой ліст з прапановай напамінаць уладальнікам інфармацыйных шыльдаў і рэкламных банераў, якія афармляюць іх на англійскай мове (8,6%), больш выкарыстоўваць у афармленні дзяржаўную беларускую мову, каб вуліцы горада набывалі сваё беларускае аблічча.

У адказе сп. Дзядовіча адзначана: "Выбар беларускай або рускай мовы пры распрацоўцы вонкавай рэкламы з'яўляецца выключным правам рэкламараспасюджвальніка".

**13 лістапада** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ праведзены літаратурныя сустрэчы ў в. Дварышча, Лідскім каледжы і Палацы творчасці дзяцей і моладзі з паэтамі Эдуардам Акуліным і

Леанідам Дранько-Майсюком.

**17 лістапада** Магілёўская суполка ТБМ у колькасці 45 чалавек выправілася ў чарговую краязнаўчую вандроўку, прымеркаваную да 125-годдзя славутага беларускага мастака Язэпа Драздовіча, - па маршруце: Магілёў - Порплішча - Глыбокае - Лужкі - Германавічы. Паведамленні аб цікавых мясцінах, архітэктурных і мастацкмх помніках рыхтавалі самі магілёўцы. У Порплішчы наведалі старадаў-нюю драўляную царкву. Экскурсію тут правяла краязнаўца бібліятэкі Ірына Сомава, па дарозе да Глыбокага сп. Ніна Осіпава распявядала пра Ігната Буйніцкага. У Глыбокім гасцей сустрэў сп. Юрый і распавёў вельмі грунтоўна і змястоўна пра лёс кармеліцкага касцёла 17-18 ст., а зараз сабора Раства Прасвятой Багародзіцы. Па алеі выбітных ураджэнцаў Глыбоччыны Вацлава Ластоўскага і Паўла Сухога да Траецкага касцёла. Вёска Лужкі - радзіма сусветна вядомага дзеяча беларускага і габрэйскага народаў Бен Іегуды. Наведалі тут незвычайны, узнёслы касцёл. Напрыканцы вандроўкі, у Германавічах сустрэліся са спн. Адай Райчонак, якая правяла па музеі Язэпа Драздовіча і Міхася Райчонка.

**20 лістапада** пры актыўным удзеле ТБМ у Лідзе адноўлены “Лідскія літаратурна-музычныя зазімкі”. Брала ўдзел капэля А. Лася.

**У лістападзе 2013 года** старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў звярнуўся да кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабякова А.У. з чарговым лістом у падтрымку музея Максіма Багдановіча, да якога прыклаў копію адказу Міністэрства культуры на яго папярэдні ліст "Аб скарачэнні штатаў літаратурна-мемарыяльных музеяў". Адказ Міністэрства культуры не задаволіў сяброў ТБМ, не пераканаў у слушнасці такой рэарганізацыі, якая запланавана ў адносінах да музея Максіма Багдановіча. Сп. Трусаў выклаў у сваім лісце шэраг аргументаў, якія не дазваляюць пагадзіцца са слушнасцю такога рашэння. Так, аўтар ліста адзначае багацце калекцый аўтографаў Максіма Багдановіча прыжыццёваых выданняў яго твораў і рукапісаў твораў мастацтва, дакументаў даследавання жыцця і творчасці паэта, рукапісных архіваў дзеячаў культуры і літаратуры, асоб з акружэння паэта (усяго больш за 17 адзінак захоўвання), падкрэсліўшы, што камплектаванне ўнікальнага збора такога ўзроўню стала магчымым дзякуючы шматгадовай працы музея як самастойнай юрыдычнай адзінкі, якая мела магчымасць на месцы вырашаць працоўныя пытанні, аператыўна рэалізоўваць планы і творчыя

праекты. Скасаванне юрыдычнай самастойнасці абарочваецца многімі праблемамі, што ўзнікнуць з-за непазбежнай бюракратызацыі, ускладненне, дубляванне справаводства, несамастойнасці ў дзейнасці супрацоўнікаў, неабходнасці узгаднення кожнага рашэння, фармалізацыі і скарачэння мерапрыемстваў, паніжэння іх узроўню і да т.п. Ліквідацыя музея выклікае не толькі маральныя страты, але і патрабуе значных фінансавых выдаткаў. "Мы спадзяемся, што музей класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча з Вашай непасрэднай дапамогай застанецца самастойнай музейнай адзінкай...", - заключае аўтар.

Адказ прыйшоў з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за подпісам намесніка Міністра В.М. Чэрніка. Аўтар ліста завярае, што задуманая кіраўніцтвам краіны змена статусу дзяржаўнай установы "Літаратурны музей М. Багдановіча" і рэарганізацыя "Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры" не запатрабуе фінансавых выдаткаў, а наадварот, прывядзе да эканоміі, а ўсе праблемы, звязаныя з рэарганізацыяй лёгка вырашаюцца. І ўвогуле, на думку сп. Чэрніка В.М., яна "не адлюструецца негатыўна на захаванні і папулярызацыі творчай спадчыны класіка беларускай літаратуры М. Багдановіча"

Старшыня Баранавіцкай рады ТБМ Віктар Сырыца атрымаў ліст за подпісам в.а. старшыні Мілавідскага выканаўчага камітэта Давідовіч Н.В. у адказ на калектыўны зварот грамадзян (214 подпісаў) з просьбаю вярнуць памятную шыльду ў гонар кіраўніка Мілавідскай бітвы 1863 года Аляксандра Лянкевіча на будынак сельскай школы. У лісце з сельскага выканкама ўтрымлівалася адмова вярнуць шыльду (і імя Аляксандра Лянкевіча Мілавідскай СШ) як нібыта не дазволеную мясцовымі ўладамі, што не адпавядае сапраўднасці. Грамадскія актывісты маюць намер у далейшым дзейнічаць праз суд.

На падставе дагавора дабрачыннай (спонсарскай) дапамогі, заключанага на падставе рашэння выканкама Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ад 28.10.2013 № 419, Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала ад Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі грашовыя сродкі ў памеры 1950000 бел. рублёў. Яны выкарыстаныя на падпіску шэрагу цэнтральных раённых бібліятэк краіны, музеяў, гімназій гор. Менска, а таксама ГА ТБМ імя Ф. Скарыны на беларускамоўныя перыядычныя выданні Рэспублікі Беларусь.

**1 снежня** ў Менску ў сядзібе ТБМ прайшла чарговая Рада ТБМ. На парадак дня былі вынесены наступныя пытанні:

1. Інфармацыя кіраўніцтва ТБМ аб працы арганізацыі за 2013 год і ўручэнне падзякаў актывістам ТБМ і грамадзянам, якія актыўна працуюць на карысць беларушчыны.

2. Абмеркаванне праекту плана работы ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на 2014 год.

3. Прыняцце Пастановы ТБМ аб памеры сяброўскіх складак на 2014 год.

4. Аб зменах у Сакратарыяце ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

5. Рознае.

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выказала падзяку дырэктару ТАА "Новы паварот" Алегу Куніцкаму, заснавальніку і праграмісту ТАА "Новы паварот" Андрэю Амельчанку за стварэнне ўнікальнага праграмнага прадукта на беларускай мове для навучання кіроўцаў.

ТБМ выказала падзяку Завальнюку Уладзіславу, Раманцэвіч Валянціне, Дзячкову Алегу, Дымкову Сяргею, Азёму Уладзіміру, Малаковіч Надзеі, Купаву Міколу, Судніку Станіславу, Пяткевічу Аляксею, Каралю Аляксею, Акуліну Эдуарду за шматгадовую самаадданую працу на ніве беларушчыны.

ТБМ выказала падзяку Арлову Уладзіміру, Аксак Валянціне, Дзіцэвіч Людміле, Чэчату Алесю, Навумчыку Іосіфу, Сырыцу Віктару, Рымшу Алесю за шматгадовую самаадданую працу на ніве беларушчыны і ў сувязі з юбілеем.

ТБМ выказала падзяку Лемцюговай Валянціне за шматгадовую працу па ўпарадкаванні беларускай нацыянальнай тапаніміі, Капылову Ігару за вялікую працу ў захаванні спрадвечнага аблічча беларускай анамастыкі; Марачкіну Ігару за шматгадовую самаадданую працу на ніве беларушчыны і стварэнне адмысловай серыі календароў і паштовак; Алене Анісім за ажыццяўленне шэрагу праектаў, накіраваных на пашырэнне ўжывання беларускай мовы ў грамадстве.

Рада высока ацаніла дзейнасць Тапанімічнай камісіі ТБМ на чале з Вінцуком Вячоркам.

Разгледзеўшы праект плана дзейнасці ТБМ на 2014 год, Рада прыняла некаторыя дапаўненні, рэкамендавала сябрам Рады грунтоўна вывучыць праект і да наступнай Рады (26 студзеня 2014 года) унесці свае прапановы пісьмова разам з абгрунтаваннем спосабаў іх рэалізацыі, у тым ліку і фінансавання.

Рада зацвердзіла новыя памеры сяброўскіх склада. Рада вярнула ў склад Сакратарыяту ТБМ Вольгу Тыгрыцкую, якая пасля доўгатэрміновай замежнай камандзіроўкі вярнулася ў Беларусь.

**16 снежня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст Старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу сп. Г.У. Пальчыку, у якім выклаў сваё назіранне, якое прывяло яго да пераканання ў тым, што Міністэрства адукацыі на працягу апошніх гадоў праводзіць мэтанакіраваную палітыку па паступовым выцясненні дзяржаўнай беларускай мовы з усіх сфераў адукацыі на ўсіх узроўнях ад дзіцячага садка да ВНУ, пацвердзіў сваю думку канкрэтнымі прыкладамі забароны беларускай мовы у працэсе выкладання гісторыі і геаграфіі ў рускамоўных школах, у афармленні дакументацыі і ў вусным маўленні і інш.

...У сувязі з гэтым Старшыня ТБМ просіць замацаваць у Кодэксе аб адукацыі з мэтай пашырэння дзяржаўнай беларускай мовы: 1) абавязковае выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускай мове; 2) права выкладчыкам і вучням у рускамоўных школах выкарыстоўваць беларускую мову ў наглядным афармленні класаў..., а таксама пры запаўненні розных дакументаў, звязаных з працэсам навучання, дублявання ўсіх інструкцый для службовага карыстання на абедзвюх мовах. Прапануецца таксама ўключыць у Кодэкс некаторыя пункты з Плана мерапрыемстваў па папулярызацыі беларускай мовы, зацверджанага А.М. Радзьковым 12 сакавіка 2010 г. У адказе Старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Г.У. Пальчыка паведамляецца, што прапановы Старшыні ТБМ у камісіі разгледжаны, будуць дасканала вывучаны і пры неабходнасці ўключаны ў план удасканалення заканадаўчай базы сістэмы адукацыі, які якраз распрацоўваецца камісіяй.

**18 снежня** ў газеце "Наша слова" змешчана падзяка Старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі сп. Л.П. Козіку разам са справаздачай аб выкарыстанні грашовых сродкаў на падпіску (дадаюцца копіі плацёжных дакументаў) ад старшыні ТБМ А. Трусава.

**23 снежня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў павіншаваў Старшыню Белтэлерадыёкампаніі сп. Давыдзьку Г.Б. з Новым 2014 годам і Калядамі, а таксама з паспяховым дэбютам заснаванага ім 3-га канала БТ. Да гэтага свайго віншавання Старшыня Таварыства беларускай мовы дадаў пажаданне стварыць на беларускім тэлебачанні асобны "Беларускі гістарычны тэлеканал" накшталт "Viasat history" ці расейскага "365 дней". Аўтар ліста нагадвае, што за 22 гады незалежнасці беларусы стварылі многія тысячы друкаваных тэкстаў гістарычнай тэматыкі і тысячы відэаролікаў на тую ж тэму. Гэта паслужыць неабходнай базай для такога канала.

У канцы студзеня прыйшоў адказ з Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь за подпісам галоўнага дырэктара тэлеканала "Беларусь-3" В.У. Маючага. Ён выказаў падзяку за ўвагу да новага тэлеканала.

Што да ідэі стварэння асобнага "Беларускага гістарычнага тэлеканала", то, на яго думку, гэта немагчыма па эканамічных прычынах. Але ... у эфірнай сетцы тэлеканала "Беларусь-3" прадугледжана рубрыка "Гісторыя", дзе штотыдзень дэманструецца больш за дваццаць дакументальных фільмаў і праграм на гістарычную тэматыку.

**У канцы снежня** Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў паслаў новапрызначанаму Мітрапаліту Менскаму і Слуцкаму Паўлу віншаванне з прызначэннем на вельмі пачэсную і адказную пасаду. "Жадаем Вам моцы духу і Божай дапамогі ў Вашым адданым служэнні інтарэсам беларускага народа. Мы не сумняваемся, што Вы неўзабаве авалодаеце дзяржаўнай беларускай мовай, адной з самых старажытных і прыгожых славянскіх моў..." - гаворыцца ў віншавальным лісце.

У сваім адказе Мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Павел падзякаваў за віншаванне і выказаў Старшыні ТБМ "спадзяванне на ўзаемную зацікаўленасць у супрацоўніцтве на ніве культуры і духоўнага асветніцтва беларускага народа".

**У канцы снежня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ і Таварыства польскай культуры ў Лідзе прайшла выстава выданняў паэмы А. Міцкевіча “Пан Тадэвуш” на польскай і беларускай мовах і літаратурная імпрэза з паказам польскага даваеннага фільма “Пан Тадэвуш”.

**У снежні** выйшаў пяты выпуск Гарадзенскага абласнога краязнаўчага календара на 2014 год. Укладальнік календара прафесар Аляксей Пяткевіч, старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Прэзентацыя выдання, у якім прадстаўленыя каля паўтысячы важных датаў і падзеяў з гісторыі Гарадзеншчыны, адбылася 20 снежня ў галерэі "Крыга". У вітальнай прамове аўтар распавёў пра гісторыю выдання такога кшталту календароў у Беларусі, а таксама пра тыя цяжкасці, з якімі яму давялося сутыкнуцца, спрабуючы надрукаваць свой каляндар. Не ўдалося надрукаваць выданне ў дзяржаўных друкарнях, зварот у "Белкнігу" з просьбаю паспрыяць продажу яго ў кнігарнях краіны застаўся без адказу. Чыноўнікі праігнаравалі зварот чалавека, які ўсё сваё жыццё

аддаў навуцы, адукацыі, краязнаўству. У выніку каляндар выйшаў маленькім накладам, атрымалі яго прысутныя на прэзентацыі ды сябры і знаёмыя аўтара.

Сакратарыят ТБМ праз газету "Наша слова" павіншаваў сяброў Таварыства беларускай мовы і ўсіх прахільнікаў і рупліўцаў роднага слова з усімі зімовымі святамі: Днём нараджэння Хрыстова, Калядамі і Новым 2014 годам. Таварыства выказала ім падзяку "за тое, што былі з Таварыствам ў 2013 годзе, падтрымлівалі матэрыяльна і ідэйна, прымалі ўдзел у мерапрыемствах і самі актыўна распрацоўвалі разнастайныя праекты".

**У снежні 2013 года** сябры Салігорскай гарадской суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны ўшанавалі з нагоды 122 гадавіны з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Сябры суполкі на сходзе чыталі вершы Максіма Багдановіча, успаміналі факты яго біяграфіі. Усе ўдзельнікі сходу падпісаліся ў лістах аб захаванні юрыдычнага статусу Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, якія былі адпраўлены Міністру культуры Рэспублікі Беларусь.

Старшыня Салігорскай гарадской суполкі ТБМ Мікола Шаравар азнаёміў сяброў Таварыства з планам дзеяння ГА ТБМ імя Ф. Скарыны на 2014 год. Былі разгледжаны пытанні аб працы Салігорскай суполкі ў новым, 2014 годзе.

# *2014 год*

**У пачатку 2014 года** з ініцыятывы ТБМ “Белпошта” выдала мастацкі маркаваны канверт да 100-годдзя Валянціна Таўлая.

**12 студзеня**, напярэдні "Старога Новага года", у Магілёве адбылася святочная сустрэча сяброў ТБМ і прыхільнікаў беларушчыны. У грамадскі цэнтр "Кола" завітала каля сямідзесяці чалавек. Гасцей чакала святочная вячэра, а таксама віктарыны, танцы, спевы, выступы таленавітых творцаў Магілёўшчыны і, натуральна, калядоўшчыкі. Навагодні падарунак атрымала беларускамоўная вучаніца Ялінка Салаўёва, падзяку за сваю дзейнасць на карысць беларускай мовы - старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ Алег Дзьячкоў і Сяргей Дымкоў. Віншаваў прысутных са святам пісьменнік Віктар Арцем'еў, выступілі з чытаннем сваіх твораў Тацяна Барысік і Тамара Цыганкова, Валянціна Палынцава прачытала свае ўлюбёныя

байкі. Выступалі і самыя маленькія беларусікі - чыталі вершы, спявалі, танцавалі.

**13 студзеня** стартавалі абноўленыя курсы беларускай мовы "Мова ці кава", падзяліўшыся на дзве плыні. Першая, пад кіраўніцтвам Глеба Лабадзенкі і Алесі Літвіноўскай, засталася на старым месцы, у галерэі "Ў" пад пад назвай "Мова нанова", другая аднавіла дзейнасць ў творчай прасторы "Цэх", заняткі праводзяць літаратарка Валярына Кустава, журналісты Франак Вячорка і Алесь Залеўскі, літаратар і музыка Уладзь Лянкевіч, рэжысёр Васіль Дранько-Майсюк. Заняткі праходзяць пры поўным аншлагу, прысутнічае 150-300 чалавек.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў пажадаў поспеху абоім курсам і выказаў спадзяванне, што ў наступным годзе такія курсы будуць у кожным з дзесяці раёнаў Менска.

Таварыства беларускай мовы сумесна з Амбасадай Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь і Шведскім Інстытутам распрацавала "Беларуска-шведскі / шведска-беларускі размоўнік".

**З 14 па 16 студзеня** ў Гародні праходзіла Гарадзенская абласная алімпіяда па беларускай мове і літаратуры. Яна сабрала 66 школьнікаў з 17 раёнаў вобласці. Добрай традыцыяй алімпіяды стаў удзел у ёй прадстаўнікоў абласной арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". Старшыня абласной рады "Крой" Аляксандр Ільіч вітаў школьнікаў як сапраўдных патрыётаў роднай мовы і культуры і пажадаў новых дасягненняў на выбраным шляху, асабліва на наступнай рэспубліканскай алімпіядзе. Ад імя Таварыства ён уручыў прызёрам каштоўныя падарункі, якія падрыхтавалі шчырыя прыхільнікі беларускай мовы, культуры, гісторыі Аркадзь і Даніла Жукоўскія, В. Парфёненка, Э. Дмухоўскі, Г. Курбат.

**26 студзеня** на сядзібе ТБМ у Менску адбылося планавае паседжанне рэспубліканскай Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". На парадак дня былі вынесены наступныя пытанні:

1. Справаздача Старшыні ТБМ аб працы арганізацыі за 2013 г.
2. Зацвярджэнне плана працы ТБМ на 2014 год.
3. Прыняцце заявы адносна сітуацыі з Літаратурным музеем імя Максіма Багдановіча.
4. Падрыхтоўка да юбілею ТБМ.
5. Падрыхтоўка да чарговага з'езду ТБМ.
6. Зварот да выбаршчыкаў.

7. Зварот да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў.

8. Аб выданні летапісу ТБМ за 2009 - 2014 гг.

Рада заслухала справаздачу Старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны Алега Трусава аб працы арганізацыі за 2013 год. Рада ўнесла дапаўненні ў праект плана работы ТБМ на 2014 год і зацвердзіла план.

Рада пастанавіла размежаваць юбілей ТБМ (25 гадоў з моманту заснавання) і чарговы з'езд ТБМ. Юбілей ТБМ плануецца святкаваць у канцы чэрвеня 2014 года, а з'езд правесці 26 кастрычніка.

Рада пастанавіла выдаць "Летапіс ТБМ" за апошнія 5 гадоў. Укладальнікам летапісу прызначана сябра Рады Святлана Багданкевіч. Летапіс вырашана выдаць да з'езду. Рада звярнулася да кіраўнікоў усіх рэгіянальных структур ТБМ з просьбай дасылаць у сядзібу ТБМ інфармацыю пра дзейнасць сваіх арганізацый, пачынаючы з другой паловы 2009 года. Рада прапанавала сябрам ТБМ прыступіць да напісання гісторый сваіх арганізацый, паколькі следам за юбілеем ТБМ адзін за адным пойдуць юбілеі рэгіянальных арганізацый.

Сакратарыяту даручана стварыць аргкамітэт па святкаванні юбілею ТБМ.

Рада пастанавіла вынесці на Агульнанацыянальную дыктоўку тры тэксты па творах Васіля Быкава, 90 гадоў з дня нараджэння якога беларуская і сусветная грамадскасць будзе адзначаць сёлета. Тэксты будуць апублікаваныя ў "Нашым слове". Дыктоўку вырашана пачаць з 21 лютага.

Рада зацвердзіла вынесеныя на разгляд звароты і заявы.

Прыводзім тут тэксты Пастановы Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", Зваротаў Рады ТБМ да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў і да выбаршчыкаў 2014 г., а таксама Заявы Рады ў абарону Літаратурнага Музея Максіма Багдановіча.

**Пастанова Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**

*"Аб даце склікання чарговага XII з'езду ТБМ і аб працэдуры вылучэння дэлегатаў на з'езд"*

*Менск* *26 студзеня 2014 г.*

***Рада ТБМ пастанаўляе:***

*1. Склікаць чарговы XII з'езд ТБМ у г. Мінску 26 кастрычніка 2014 года.*

*2. Дэлегатаў на з'езд вылучаюць рэгіянальныя арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады па наступных квотах:*

*- Менская гарадская арганізацыя - 30 чалавек;*

*- абласныя арганізацыі - 5 чалавек ад кожнай;*

*- гарадскія і раённыя арганізацыі: да 50 чалавек - 1 дэлегат,*

*ад 51 да 100 чалавек - 2 дэлегаты, ад 101 чалавека і болей - 3 дэлегаты.*

*3. Суполкі і арганізацыі, якія не стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады могуць вылучаць па аднаму паўнамоцнаму прадстаўніку з правам дарадчага голасу.*

*4. Па-за квотай рэгіянальнымі структурамі вылучаюцца на з'езд у якасці дэлегатаў сябры Рады ТБМ і Рэвізійнай камісіі.*

*5. Вылучэнне дэлегатаў на з'езд правесці за перыяд часу з 7 лютага па 20 верасня 2014 года.*

*6. Дакументы аб вылучэнні дэлегатаў даслаць ў Сакратарыят ТБМ не пазней за 1 кастрычніка 2014 года.*

*7. Рада ТБМ рэкамендуе вылучаць у якасці дэлегатаў сяброў ТБМ, якія маюць пасведчанне сябра ТБМ з фотаздымкам і аплачаныя складкі за 2014 год.*

**Зварот Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"
да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў на выбарах
2014 г.**

*Паважаныя сябры!*

*Наперадзе ў нас нялёгкая перадвыбарчая кампанія. Нашы людзі зняверыліся ў сваіх лепшых надзеях, шмат хто наогул не збіраецца ісці на выбары і спадзяецца толькі на самога сябе. Тым не меней, пад ляжачы камень вада не цячэ, і таму мы звяртаемся да Вас з прапановай браць удзел у выбарчай кампаніі па-беларуску, з пачуццём нацыянальнай годнасці.*

*Звяртайцеся да выбаршчыкаў на роднай беларускай мове, уключайце ў свае прадвыбарчыя платформы пункты аб адкрыцці ў Вашай мясцовасці беларускамоўных класаў, школ, гімназій, студэнцкіх групаў і плыняў, аформіце па-беларуску свае ўлёткі, лозунгі і плакаты - і Вы адразу адчуеце падтрымку тых, каму баліць душа за стан нашай мовы і культуры, хто хоча жыць у заможнай еўрапейскай дэмакратычнай краіне.*

*Поспеху Вам і перамогі!*

*Рада ТБМ.*

*Менск, 26 студзеня 2014 г.*

**Зварот Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" да выбаршчыкаў
2014 г.**

*Сёлета ў нашай краіне адбудуцца чарговыя выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў. Падчас агітацыйнай кампаніі, акрамя іншага, варта звяртаць увагу і на тое, наколькі кандыдат у дэпутаты адстойвае нацыянальныя інтарэсы сваёй краіны, як ставіцца да роднай*

*культуры і мовы - асноўных чыннікаў нацыі і незалежнай дзяржавы.*

*Таварыства беларускай мовы заклікае падтрымаць тых кандыдатаў, якія ведаюць і шануюць беларускую мову, карыстаюцца ёю і спрыяюць яе пашырэнню. Менавіта ад гэтага залежыць, наколькі ён будзе бараніць інтарэсы народа - носьбіта духоўнага скарбу, інтарэсы незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь.*

*Рада ТБМ.*

*Мінск, 26 студзеня 2014 г.*

**Заява Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**

*Менск* *26 студзеня 2014 г.*

*Міністэрства культуры Беларусі прыняло загад № 3 ад 4 студзе-ня 2014 года аб ліквідацыі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча як самастойнай юрыдычнай адзінкі і ператварэнні яго ў малазначны філіял, ствараючы гэтым небяспечны прэцэдэнт у айчыннай музейнай справе.*

*Кожны адукаваны грамадзянін Беларусі добра разумее, што Максім Багдановіч разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам - гэта тры зоркі беларускай паэзіі, тры асобы, якія аказалі вялікі ўплыў на станаўленне беларускай нацыі і нашай дзяржаўнасці, вызначылі галоўныя кірункі развіцця нашай літаратуры.*

*Мы выказваем вялікую ўдзячнасць усім грамадзянам нашай краіны, якія напрыканцы 2013 г. сваімі лістамі ў Міністэрства культуры і іншымі дзеяннямі спынілі гвалтоўную ліквідацыю добра вядомага ў свеце музея. Лісты даюць плён. Таму мы заклікаем усіх грамадзян Беларусі і суайчыннікаў за мяжой звяртацца непасрэдна да Прэм'ер-міністра нашай краіны М.У. Мясніковіча з настойлівай просьбай захаваць Літаратурны музей імя Максіма Багдановіча ў якасці самастойнай юрыдычнай асобы.*

*Рада ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*

*26 студзеня 2014 г.*

**У студзені 2014 года** ў Магілёве адбылося чарговае, трынаццатае "беларускае пяціборства". У гэтым годзе яно сабрала 19 удзельнікаў з Магілёўскай вобласці. Традыцыйна большасць з іх прадстаўляла Магілёў і Бабаруйск, але былі і вучні з невялікіх гарадоў і вёсак.

Перамога, як і год таму, у дзевяцікласніцы гімназіі № 3 Бабруйска Ангеліны Жыркевіч. Такім чынам, яна мае магчымасць паўта-

рыць, або нават пераўзысці легендарны вынік сваёй старэйшай сястры Настассі Жыркевіч, цяпер ужо студэнткі матэматычнага факультэта БДУ, якая чатыры разы ўдзельнічала ў пяціборстве і кожны раз заваёўвала дыпломы і прызы не ніжэй за другі.

На другім месцы - дзевяцікласнік магілёўскай гімназіі № 1 Алесь Баравікоў, на трэцім - адзінаццацікласніца Бабруйскай школы № 21 - Дар'я Куракса. Навучэнка 9 класа магілёўскай гімназіі № 1 Паліна Шарапава атрымала два адмысловыя прызы - за веды па беларускай мове і літаратуры. Варта адзначыць, што яе настаўніцай па гэтых прадметах з'яўляецца адна з лепшых настаўніц Беларусі Ганна Бандарэнка, прызнаная ў такой якасці па выніках першых дзесяці алімпіяд "Беларускага пяціборства".

Сябры ТБМ з Менска і Магілёва сустрэліся ў менскай бібліятэцы імя Адама Міцкевіча ў касцёле Сымона і Алены з паэтам Анатолем Вярцінскім. З яго творамі пазнаёміла прысутных артыстка тэатра "Зніч" Галіна Дзягілева, распавёўшы, што менавіта спектакль на вершы Анатоля Вярцінскага быў адным з першых пры стварэнні тэатра. "Мы заўсёды шукаем таго, хто пакліча нас да прыгажосці, да разумення сэнсу жыцця, да шчасця, каб "дарыць адзін аднаму зоры". У ім становіцца паэт", - сказала артыстка.

**5 лютага** Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабякову А.У.

Аўтар ліста звяртае ўвагу на назву новых па вызначэнні населеных пунктаў, якія цяпер прынята называць "аграгарадкамі". Ён кажа, што людзі не ўспрымаюць гэтае доўгае словазлучэнне і не ўжываюць яго, гавораць і пішуць па-старому: "Вёска", хаця яны перараслі па добраўпарадкаванасці звычайныя вёскі. Для назвы тыпу такіх населеных пунктаў прапануецца вярнуць да ўжытку спрадвечнае беларускае слова "мястэчка" як назву населенага пункта прамежкавага тыпу паміж вёскай і горадам (местам). Статус мястэчка лічыць сп. Трусаў, павінен быць вернуты ўсім населеным пунктам, якія гістарычна такі статус мелі, і нададзены ўсім аграгарадкам і гарадскім пасёлкам, што ўпарадкуе ўсю сістэму населеных пунктаў і будзе станоўча ўспрынята грамадствам, якое і без таго ўжывае гэтае цудоўнае слоўка.

У афіцыйным адказе паведамляецца, што прапанова Старшыні ТБМ Алега Трусава па змене назвы тыпу населеных пунктаў з "аграгарадкоў" на спрадвечныя "мястэчкі" будзе разгледжана на бліжэйшым паседжанні Тапанімічнай камісіі, запланаваным на пачатак сакавіка

2014 г. Заяўніку і Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пра рашэнне Тапанімічнай камісіі будзе своечасова паведамлена.

**5 лютага** Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабякова А.У. з прапановай годна ўшанаваць памяць пісьменніка і грамадскага дзеяча Алеся Адамовіча з нагоды 20-х угодкаў з дня яго смерці, назваўшы іменем А. Адамовіча вуліцы ў Менску і Бабруйску, а таксама адкрыўшы адпаведную экспазіцыю ў музеях Менска і Бабруйска, прысвечаную жыццю і творчасці знакамітага беларуса.

У канцы лютага прыйшоў афіцыйны адказ Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (за подпісам намесніка Міністра В.М. Чэрніка). У лісце пералічаныя мерапрыемствы, якія ўжо праведзены да Дня памяці Алеся Адамовіча ў Магілёве, Бабруйску, Глушы. Што да стварэння экспазіцыі, прысвечанай жыццю і дзейнасці А. Адамовіча, то, паводле інфармацыі Магілёўскага аблвыканкама, запланавана стварэнне музея А. Адамовіча ў будынку былой аптэкі ў п. Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Прапанова аб прысваенні імя А. Адамовіча адной з новых вуліц у Менску і ў Бабруйску будзе разгледжана адпаведнымі камісіямі.

**8 лютага** ў Лідзе прайшло шырокае святкаванне 100-годдзя Валянціна Таўлая. Лідская гарадская арганізацыя ТБМ падаравала бібліятэцы імя В. Таўлая (на вул. Фурманава) прыгожы банер.

**10 лютага** Старшыня ТБМ Алег Трусаў даслаў ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабякову А.У., у якім уздымаецца пытанне годнага ўшанавання памяці класіка беларускай літаратуры, Героя Сацыялістычнай Працы, франтавіка, народнага дэпутата СССР, Народнага пісьменніка Беларусі, прызнанага майстра сусветнага ўзроўню Васіля Быкава, якому сёлета спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння. Годнае адзначэнне беларускай дзяржавай 90-гадовага юбілею сусветна вядомага пісьменніка дзеля ўшанавання яго памяці спрыяла б падняццю прэстыжу Беларусі ў свеце, - упэўнены аўтар ліста.

На яго думку, асноўныя мерапрыемствы па ўшанаванні Васіля Быкава пройдуць на Віцебшчыне, дзе ён нарадзіўся, на Гарадзеншчыне, дзе расквітнеў яго талент, у Менску, дзе ён плённа працаваў і дзе завяршыў свой зямны шлях.

Аднак у апублікаванай праграме мерапрыемстваў "Гродна - культурная сталіца Беларусі" не запланавана ніякіх сур'ёзных мера-

прыемстваў па ўшанаванні памяці  Быкава, толькі невялікія чытанні ў верасні месяцы. У чэрвені да дня нараджэння пісьменніка - увогуле нічога! А ў Віцебску, - заўважае Старшыня ТБМ, - мерапрыемствы па ўшанаванні Васіля Быкава не даведзены да грамадскасці.

І гэта адбываецца ў 70-я ўгодкі вызвалення ад фашысцкіх акупантаў, як жа цяпер не ўшанаваць належным чынам памяць франтавіка-пісьменніка! "Мы задаём Вам пытанне, ці па-дзяржаўнаму гэта?" - звяртаецца аўтар ліста да кіраўніцтва Беларусі.

Ён пералічвае прапановы канкрэтных мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці славутага пісьменніка, што абавязкова трэба зрабіць, але не зроблена да гэтага часу (назваць яго імемем вуліцы, адчыніць музей, устанавіць мемарыяльныя дошкі, паставіць помнік і інш.).

**10 лютага** Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з лістом да першага намесніка Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. А.М. Радзькова з пытаннем аб выкананні плана мерапрыемстваў у сістэме Міністэрства адукацыі па папулярызацыі і пашырэнні сферы выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы. План гэты зацвердзіў у 2010 годзе сам Радзькоў, з'яўляючыся тады Міністрам адукацыі Беларусі. Тэрміны выканання асобных пунктаў скончыліся, іншыя фармальна дзейнічаюць і сёння. Найбольш пытанняў выклікаюць неадпаведнасці Закону і Канстытуцыі (ды не выконваецца згаданы план), на якія ніяк не рэагуюць улады (пункт 3). У шмат якіх установах зусім няма беларускіх бланкаў, усё толькі па-руску (пункт 29). З 2010 г. не створана ні адной беларускамоўнай школы ці гімназіі, толькі зачыняюцца (пункт 32). Адсутнічаюць электронныя сродкі на беларускай мове для навучання, падручнікі па інфарматыцы. Сп. Трусаў просіць адрасата праверыць выкананне плана і паінфармаваць аб гэтым грамадзян Беларусі.

Афіцыйны адказ прыйшоў з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, ад намесніка Міністра В.В. Якжыка.

Зварот Старшыні Таварыства беларускай мовы разгледжаны ў Міністэрстве адукацыі. Дык вось, што датычыць беларускамоўнай адукацыі, то тут усё ў парадку. Дзяржаўнымі мовамі ў Беларусі з'яўляюцца беларуская і руская мовы. У адпаведнасці з артыкулам 90 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі мовамі навучання і выхавання ў краіне з'яўляюцца адпаведна гэтыя мовы. Дзяржава гарантуе права выбару, бацькі выбіраюць. У 2013/2014 навучальным годзе з 3175 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі ў 1644 (51,8%) ажыццяўляецца на беларускай мове, у 1528 (48,1%) - на рускай.

Што да беларускамоўных падручнікаў па інфарматыцы, то

Міністэрства прызнае, што іх няма, пачынаючы з 6 класа, але над гэтым вядзецца работа, тое ж датычыць электронных сродкаў на беларускай мове.

Што да беларускамоўных бланкаў у падатковай інспекцыі, то гэтае пытанне знаходзіцца не ў кампетэнцыі Міністэрства адукацыі.

**12 лютага** "Наша слова" апублікавала справаздачу аб дзейнасці Шклоўскай раённай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" з верасня 2009 года па студзень 2014 года.

**13 лютага** Магілёў з нагоды 130-годдзя Антона Луцкевіча наведалі гісторык і палітолаг Анатоль Сідарэвіч і філолаг, выдавец часопіса ARCHE Валер Булгакаў. Гасцей прымала Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ і цікаўныя да айчыннай гісторыі магілёўцы. Прэзентаваліся гістарычныя выданні, вялася гаворка пра жыццёвы досвед, палітычную дзейнасць, бліскучыя аналітычныя здольнасці і трагічны лёс Антона Луцкевіча. Сустрэча прайшла вельмі змястоўна і цікава.

**14 лютага** на паседжанні Сакратарыяту ТБМ была прынята Заява з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы. У ёй сябры Сакратарыята звяртаюцца да грамадзян Беларусі, каб нагадаць, што 21 лютага сусветная супольнасць штогод адзначае Міжнародны дзень роднай мовы, а гэта добрая нагода выказаць сваю падтрымку жывому беларускаму слову. Сакратарыят ТБМ заклікае беларусаў прыняць удзел у VII Усебеларускай дыктоўцы.

*"Давайце ў гэты дзень публічна праявім сваё шанаванне да старажытнай, тысячагадовай беларускай мовы, дзяржаўнай мовы Вялікага Княства Літоўскага, мовы трох Статутаў ВКЛ, мовы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава"*, - гаворыцца ў заяве.

У гэтым годзе дыктоўку вырашана пісаць па творах народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ў сувязі з ягоным 90-гадовым юбілеем.

"Наша слова" прапануе тэксты для дыктоўкі, падабраныя з твораў Васіля Быкава "Сотнікаў", "Знак бяды", "Доўгая дарога дадому".

**14 лютага** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот да грамадзян Беларусі "Захаваем беларускія назвы!" "У 2010 г. пачаў дзейнічаць Закон аб назвах геаграфічных аб'ектаў, у якім артыкулам 17 была замацавана юрыдычна практыка прысваення назваў геаграфічным аб'ектам на

беларускай мове з наступнай перадачай іх на іншыя мовы. Гэты Закон адпавядае міжнародным стандартам і забяспечвае захаванасць беларускай тапаніміі. Аднак апошнім часам робяцца настойлівыя спробы ў абыход меркавання спецыялістаў і насуперак разумнаму дзяржаўнаму падыходу змяніць згаданы артыкул і ўвесці магчымасць называння геаграфічных аб'ектаў на рускай мове. Гэта прывядзе да ігнаравання беларускай мовы пры называнні геаграфічных аб'ектаў і распаўсюду каструбаватых назваў тыпу "Победа", "Землянічная", што ўжо мае месца ў асобных рэгіёнах", - гаворыцца ў Звароце.

Сакратарыят звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі з просьбай падтрымаць пазіцыю спецыялістаў і дапамагчы адстаяць спрадвечныя беларускія назвы.

**16 лютага** ў Віцебску адбыўся сход гарадской арганізацыі ТБМ. На парадку дня - змены ў складзе гарадской рады, абранне новага старшыні, прыём у шэрагі Таварыства новых сяброў, выбары дэлегатаў на абласную канферэнцыю, якая мае адбыцца 30 сакавіка і на з'езд ТБМ. Узначаліла гарадскую арганізацыю Ніна Андрэеўна Сулецкая.

На пачатку сходу сябры ТБМ і прысутныя госці напісалі Агульнанацыянальную дыктоўку, прысвечаную 90-годдзю Васіля Быкава. Пісалі тэкст ўспамінаў Васіля Уладзіміравіча "Доўгая дарога дадому".

**19 лютага** ў газеце "Наша слова" змешчана справаздача Полацкага гарадскога аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" за 2013 год.

**20 лютага** ў Бабруйску пачалі адзначаць Міжнародны дзень роднай мовы з напісання дыктоўкі. Пісалі ўрывак з апавядання Васіля Быкава "На чорных лядах". Прымалі ўдзел два дзесяткі чалавек, сярод якіх была і бабуля палітвязня Яўгена Васьковіча Тамара Уладзіміраўна. Арганізатаркай дыктоўкі была спн. Вольга Піманава. Пасля дыктоўкі яе ўдзельнікі хвілінай маўчання ўшанавалі памяць загінулых ва Украіне.

Шасцёра пераможцаў былі ўзнагароджаны граматамі і падарункамі. Пасля ўзнагароджання адбылася віктарына па творчасці Васіля Быкава.

**21 лютага** Беларусь, як ніколі, шырока адзначыла Міжнародны дзень роднай мовы. Самая шырокая геаграфія, самыя розныя мерапрыемствы. Шмат дзе асноўным мерапрыемствам стала правя-

дзенне 7-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі па творах Васіля Быкава, чыё 90-годдзе беларусы адзначаць 19 чэрвеня. Напярэдадні Сакратарыят ТБМ выступіў з адпаведнай заявай, апублікаваныя тры магчымыя тэксты дыктовак.

**21 лютага** адбыўся I этап 7-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі ў офісе ТБМ у Менску. Прыйшлі людзі рознага веку і ведаў, у тым ліку прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, але справіліся ўсе вельмі добра.

Быў выпушчаны плакат, прысвечаны 1-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы, ён змешчаны на сайце ТБМ.

Мерапрыемствы да Дня роднай мовы прайшлі на Магілёўшчыне, Віцебшчыне, Берасцейшчыне, Гарадзеншчыне, у дыяспарах, ва ўстановах адукацыі і культуры, праведзеныя грамадскімі і партыйнымі арганізацыямі.

**21 лютага** ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылося мерапрыемства, прымеркаванае да Міжнароднага дня роднай мовы. Арганізатарамі выступілі Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН імя Я. Коласа і Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.

У рамках мерапрыемства была праведзена сустрэча са Старшынём Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны сп. Алегам Трусавым. Сп. Трусаў вельмі змястоўна распавёў пра гісторыю ўтварэння, станаўлення і сучасны стан беларускай мовы, запрасіў усіх зацікаўленых на курсы дапамогі ў авалоданні беларускай мовай. Курсы праводзяцца бескаштоўна ў сядзібе ТБМ. У заключэнне ён звярнуўся да маладых дзяўчат, каб яны смела карысталіся беларускай мовай, бо менавіта жанчыны-маці з'яўляюцца захавальніцамі мовы, перадаючы яе сваім дзецям.

У Дварэцкай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна, самай беларускай школе краіны, прайшоў тыдзень беларускай мовы, прымеркаваны да Міжнароднага дня роднай мовы. Гэтае свята арганізавалі ў школе настаўніцы Наталля Ляўкевіч і Вікторыя Воўкава. Вучні з настаўнікамі прынялі ўдзел у падарожжы ў гісторыю разам з "Нашай нівай", у флэш-акцыі "Шануй роднае слова", у гульні "Моўная эстафета", у віктарыне, прысвечанай Валянціну Таўлаю, якую правялі сябры ТБМ з Баранавічаў, а таксама ў Агульнанацыянальнай дыктоўцы. Выйшаў спецыяльны выпуск школьнай насценгазеты. Вучні прынялі таксама ўдзел у беларускім посткросінгу. На працягу тыдня

вучні 6-7 класаў паспаборнічалі і ў школьнай алімпіядзе па беларускай мове. Па выніках Агульнанацыянальнай дыктоўкі вызначылі пераможцаў.

**21 і 22 лютага** магілёўцы адзначылі Міжнародны дзень роднай мовы. Студэнты і магістранты МДУ імя Куляшова Яўген Дудкін, Аляксей Карпенка, Арцём Булатоўскі і Генадзь Вараб'ёў прыняліся за беларусізацыю ўніверсітэцкай сталовай. Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ разам з кампаніяй Cukerki. by правялі "салодкі дзень роднай мовы" - раздавалі гараджанам цукеркі ў абмен на іх любімыя беларускія словы. Гучалі не толькі разнастайныя і рэдкія словы, але і вершы, а вулічныя музыкі выканалі "Тры чарапахі".

**22 лютага** ў абласным доме культуры адбылася агульнанацыянальная дыктоўка. Ганна Уладзіміраўна Бандарэнка прадыктавала ўрывак з твора Максіма Гарэцкага "На імперыялістычнай вайне". Міхась Булавацкі правёў традыцыйнае беларускае пяцібор'е. Выступіў пісьменнік Віктар Арцем'еў, юныя таленты спявалі беларускія песні і чыталі вершы выбітных паэтаў. Мерапрыемства скончылася дыскатэкай і вясёлымі скокамі.

На Бярозаўшчыне праведзены шэраг мерапрыемстваў з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы. У Бярозаўскай раённай дзіцячай бібліятэцы арганізавана выстава-вернісаж "Мова чыстых, адвечных славян" і літаратурна-музычная экспазіцыя "Мовы друкаванай чароўнае слова" сумесна з дзіцячай школай мастацтваў. Прайшла імрэза, якая прымусіла прысутных задумацца пра стан роднай мовы.

Аматары беларускай мовы ў Пружанах адзначылі Міжнародны дзень роднай мовы ў Доме культуры, дзе быў пастаўлены лялечны спектакль паводле казкі Зінаіды Дудзюк "Дудка-самагудка". Пастаноўка была падрыхтавана дзецьмі, якія наведваюць мясцовы касцёл.

Кіраўніца Пружанскай суполкі ТБМ спн. Тарэса Жыгалава нагадала ўдзельнікам свята пра суседнюю Украіну, пра тое змаганне, якое ідзе там за свабоду і дэмакратыю, пра значэнне роднай мовы.

Аднак любоў да беларускай мовы каштавала настаўніцы Тарэсе Жыгалавай датэрміновага выхаду на пенсію, а яе намесніцы Ларысе Жаўнярчук, якая выкладала мову ў Пружанскай гімназіі, пераводу ў вясковую школу.

**22 лютага** VII Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі ў

бібліятэцы Бярозаўкі. На дыктоўку сабраліся аматары беларускай мовы і сябры ТБМ горада. Пісалі ўрывак з твора Васіля Быкава "Трэцяя ракета". Тэкст чытаў старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.

**22 лютага** ў аг. Чаркасы Дзяржынскага раёна другі раз (пасля 2013 года) адзначылі "Свята беларускай мовы". Арганізатарам і рэжысёрам свята традыцыйна стаўся дырэктар Чаркаскага Дома культуры Кірыл Шык. Свята складалася з розных частак. Агульнанацыянальную дыктоўку перанеслі на чэрвень - да дня нараджэння Васіля Быкава. Правялі ўзнагароджанне людзей, якія папулярызуюць беларускую мову ў Дзяржынскім раёне, а таксама пераможцаў у конкурсе на лепшае чытанне вершаў. У фае Дома культуры пры дапамозе Чаркаскай бібліятэкі была разгорнута выстава кніг. Усе ахвотныя маглі сфатаграфавацца з жывымі скульптурамі Францішка Скарыны, Ефрасінні Полацкай, Сымона Буднага, ролі якіх выконвалі студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Усе ахвотныя паўдзельнічалі ў віктарыне па беларускай мове і атрымалі каштоўныя падарункі. Адбыўся вялікі канцэрт з удзелам розных музычных калектываў.

**23 лютага** VII Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі ў Лідскай цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы. Урывак з аповесці Васіля Быкава "Знак бяды" чытаў кіраўнік літаб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце", пераможац V Агульнанацыянальнай дыктоўкі Алесь Хітрун. Напрыканцы з маналогам пра беларускую мову паводле твораў Янкі Купалы выступіў Алег Лазоўскі.

У нядзелю, **23 лютага** ў Паставах, у касцёле Антонія Падуанскага была праведзена ўрачыстая імша, прысвечаная беларускай мове, а пасля яе ў дзіцячай бібліятэцы імя У. Дубоўкі адбылася Агульнанацыянальная беларуская дыктоўка. Дзеля гэтага ў бібліятэцы сабралася шмат людзей, не заставалася вольных месцаў. А ў суботу, 22 лютага ў ДК на вул. Чырвонаармейскай Пастаўская суполка ТБМ пры дапамозе ГА "Будзьма" і пастаўскага гурта "Скіфы" арганізавала феерычны рок-канцэрт. Удзельнічалі ветэраны пастаўскай рок-сцэны народны ансамбль "Скіфы", а таксама госці: полацкі гурт "Індра", сталічны "Верасень" і наваполацкі "Perfect life", сталічны гурт "Амарока" - сапраўдны марафон беларускамоўнай рок-музыкі. У перапынках паміж выступленнямі праводзіліся забаўляльныя віктарыны з салодкімі прызамі. Усе былі ў захапленні ад такога свята беларускай мовы.

**16 сакавіка** Баранавіцкая рада Таварыства беларускай мовы падвяла вынікі віктарыны, прысвечанай 100-годдзю з дня народзінаў беларускага паэта Валянціна Таўлая. Віктарына была надрукавана ў Баранавіцкай гарадской газеце "Intex press" 20 студзеня 2014 г. Адказы на 11 пытанняў віктарыны даслалі 23 чалавекі.

Пераможцамі гістарычна-літаратурнай віктарыны сталі вучаніцы Алена Жукоўская і Алена Лашкоўская (мястэчка Дварэц), Сяргей Раснянскі (Ляхавіцкая гімназія) і Уладзіслаў Дораш (Берасцейскае абласное кадэцкае вучылішча). Пераможцы віктарыны атрымалі грашовыя ўзнагароды і кнігі, прысвечаныя творчасці Максіма Багдановіча і зборнік вершаў Анатоля Сыса "ALAIZA". Уручэнне прызоў адбылося ў кавярні "Папараць кветка".

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны б'е трывогу ў пытанні ігнаравання дзяржаўнай беларускай мовы ў цягніках і электрацягніках, у тым ліку тых, што ідуць за мяжу. Старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў Мінмістру транспарту і камунікацый Сівакову А.А. некалькі лістоў, у якіх падымаецца (у чарговы раз) пытанне мовы інфармацыі, абвестак, афармлення. "У нашу арганізацыю звяртаюцца грамадзяне Беларусі і госці нашай краіны са скаргамі на тое, што ў новых электрацягніках гарадскіх ліній ... цалкам адсутнічае гукавая і візуальная інфармацыя на дзяржаўнай беларускай мове". Скардзяцца і на тое, што "ў міжнародных беларускіх цягніках у сістэме інфармацыі адсутнічае дзяржаўная беларуская мова". У новым электрацягніку Менск-Вільня яна "адсутнічае цалкам, што выклікае не толькі абурэнне нашых грамадзян, але і кпіны з боку грамадзян Літвы, якія пытаюцца, у якую краіну яны едуць і ці гэта, часам, не правінцыя Расіі?" Тое ж і ў літоўскім электрацягніку Вільня-Менск усё на літоўскай, рускай і англійскай, а дзяржаўная на нашай тэрыторыі беларуская мова наогул адсутнічае.

Старшыня ТБМ звярнуўся таксама да Старшыні Палаты прадстаўнікоў Андрэйчанкі У.П. з прапановай унесці ў заканадаўства на чыгуначным транспарце, у якое рыхтуюцца змены, такі пункт: "Уся візуальная і гукавая інфармацыя ў пасажырскіх цягніках міждзяржаўнага прызначэння абавязкова робіцца на дзвюх дзяржаўных мовах, беларускай і рускай. Праязныя дакументы на беларускім транспарце абавязкова афармляюцца на дзвюх дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь".

У афіцыйным адказе на звароты Старшыні ТБМ Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь за подпісам першага намесніка Міністра Я.В. Рагачова гаворыцца, што ўсе прапановы пры-

нятыя да ўвагі і будуць улічаныя ў далейшай працы. А прапанова заяўніка аб агучванні на беларускай мове інфармацыі ў цягніках Вільня-Менск накіравана ў адрас АТ "Літоўскія чыгункі".

У афіцыйным адказе "Пастаяннай камісіі па прамысловасці, паліўна-энергетычным комплексе, транспарту і сувязі" Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (за подпісам Старшыні Пастаяннай камісіі Д.І. Харытончыка) паведамляецца, што прапанова Старшыні ТБМ Алега Трусава ўважліва разгледжана і зроблена выснова, што дзейным заканадаўствам не вызначана неабходнасць дублявання інфармацыі на дзвюх дзяржаўных мовах (у Законе: беларускай або рускай). Выкарыстанне беларускай мовы ў квітках і абвестках пакуль даволі праблематычна, бо адсутнічае механізм транслітарацыі назваў станцый, размешчаных на тэрыторыі іншых дзяржаў, на беларускую мову; ёсць і іншыя цяжкасці ды нязручнасці. Але праца вядзецца, і пытанне гэтае будзе дадаткова разглядацца пры абмеркаванні адпаведнага артыкула законапраекта.

**20 сакавіка** прыйшоў афіцыйны адказ Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за подпісам намесніка Міністра В.М. Чэрніка.

У ім паведамлялася, што Міністэрства Культуры сумесна з установай "Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры" вядуць работу па стварэнні філіяла "Музей-дача Васіля Быкава" ў дачным пасёлку "Ждановічы-6". Урачыстае адкрыццё музея запланавана сумесна з грамадскім аб'яднаннем "Саюз пісьменнікаў Беларусі" правядзенне літаратурнай вечарыны да 90-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава ў Доме літаратара.

Віцебскі аблвыканкам плануе святочныя мерапрыемствы да 90-годдзя пісьменніка, інфармацыя пра якія будзе даведзена да грамадскасці праз СМІ. Так, напрыклад, Віцебскі абласны краязнаўчы музей рыхтуе адпаведную выставу, адкрыццё якой мае адбыцца ў чэрвені 2014 года.

**24 сакавіка** ў грамадскім цэнтры "Кола" магілёўцы адсвяткавалі чарговы Дзень Волі. Сустрэчу арганізавала Магілёўская гарадская суполка ТБМ на чале са старшынём Алегам Дзьячковым і Сяргеем Дымковым. Паэтычныя творы дэкламавалі Яўген Гарбачэўскі, Яўген Дудкін і Аляксей Карпенка, спяваў свае песні магілёўскі бард Васіль Аўраменка. Міхась Булавацкі і Ігар Пушкін выступілі з гістарычна-аналітычнымі развагамі, разгарэлася дыскусія. Праведзена эрудыт-віктарына.

**25 сакавіка** актывісты Таварыства беларускай мовы з Ліды і Бярозаўкі правялі традыцыйнае ўшанаванне памяці дзеячаў Беларускай незалежніцкай партыі на Лідскіх праваслаўных могілках па вуліцы Савецкай і памяці Міністра абароны Беларускай Народнай Рэспублікі Кіпрыяна Кандратовіча каля царквы ў Воранаве.

На зварот Старшыні ТБМ Алега Трусава аб годным ушанаванні памяці пісьменніка Васіля Быкава прыйшоў афіцыйны адказ з Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта за подпісам першага намесніка - начальніка А.А. Вярсоцкага. Сэнс адказу такі, што стварэнне Музея В.Быкава ў Гародні не плануецца, будзе пакой В. Быкава на базе літаратурнага аддзела ўстановы культуры "Гарадзенскі дзяржаўны гістарычна-археалагічны музей".

**30 сакавіка** ў Віцебску прайшла чарговая справаздачна-выбарчая канферэнцыя абласной арганізацыі ТБМ. На ёй прысутнічала 29 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Віцебшчыны, а таксама 5 запрошаных асобаў, сярод якіх былі прадстаўнікі дзяржаўнай улады. Са справаздачным дакладам выступіў сташыня Віцебскай абласной рады Іосіф Навумчык. У спрэчках па дакладзе і з паведамленнямі з мясцовых суполак выступілі больш за 20 чалавек.

Згодна са статутам, быў абраны новы склад абласной рады і рэвізійнай камісіі, вылучаны дэлегаты на з'езд ТБМ ад раённых і гарадскіх суполак, прыняты план дзейнасці абласной арганізацыі на 2 гады. Старшынём Віцебскай абласной рады на чарговы тэрмін абраны І.А. Навумчык.

Атрыманы афіцыйны адказ дырэкцыі па пасажырскіх перавозках АТ "Літоўскія чыгункі" адносна ўжывання дзяржаўнай беларускай мовы ў цягніках міжнароднага фармавання. Намеснік генеральнага дырэктара дырэкцыі па пасажырскізх перавозках Раймондас Буркоўскіс тлумачыць неўжыванне для інфармацыі ў цягніках беларускай мовы тым, што інфармацыя ў іх пасажырам падаецца паводле Дамовы паміж чыгуначнымі адміністрацыямі дзяржаў..., а таксама па прычыне "непрактычнасці" з-за частых зменаў аб'яў. Але, улічваючы пажаданні ТБМ і беларускіх пасажыраў, "вырашана на інфармацыйным табло вагона ўвесці дадатковую інфармацыю пра прыпынкі на беларускай мове".

**У канцы сакавіка** на сустрэчу з сябрамі магілёўскага ТБМ у

бібліятэку менскага касцёла св. Сымона і Алены завітаў паэт Васіль Зуёнак. Ён распавёў пра свой жыццёвы і творчы лёс, прачытаў вершы, адказаў на пытанні. Госці сустрэчы былі ўзрушаны энергетыкай, бадзёрасцю паэта пасляваеннага "філалагічнага" пакалення і ад усёй душы пажадалі яму здароўя і творчага плёну на доўгія гады.

**7 красавіка** Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да Старшыні Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь сп. Г.І. Кузняцова з лістом, у якім звярнуў увагу на факт парушэння Закона Рэспублікі Беларусь "Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў", паводле якога найменні населеных пунктаў даюцца на беларускай мове, з якой спосабам транслітарацыі перадаюцца на рускую мову. Рашэннем Менскага раённага Савета дэпутатаў ад 6 скавіка 2014 г. новаўтворанаму пасёлку Ждановіцкага сельсавета было нададзена найменне "Васток" (па-руску "Восток"). Аўтар ліста заклікае дзяржаўныя органы, якія ажыццяўляюць дзейнасць па наданні найменняў геаграфічным аб'ектам, на неабходнасць кіравацца згаданымі заканадаўчымі нормамі. У сваю чаргу, ТБМ гатова аказаць кваліфікаваную дапамогу (кансультацыі і інш.) згаданым дзяржаўным органам у дзейнасці, звязанай з наданнем найменняў геаграфічным аб'ектам на беларускай мове і іх транслітарацыі.

У сваім адказе Старшыня Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь Г.І. Кузняцоў паведаміў, што Дзяржмаёмасць разгледзела зварот Старшыні ТБМ і, растлумачыўшы, чаму ў выпадку з пасёлкам Васток Менскі раённы Савет дэпутатаў прыняў такое рашэнне (па просьбе забудоўшчыкаў пакінуць назву піянерскага лагера, які быў на гэтым месцы), паабяцаў, што "ў далейшым такі падыход практыкавацца не будзе", і падзякаваў Таварысту за абяцаную дапамогу.

**9 красавіка** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ прайшлі літаратурныя сустрэчы з паэтамі Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько-Майсюком у Мажэйкаве і Лідскай цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

**12 красавіка** рада Віцебскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" прыняла Пастанову аб абласным аглядзе-конкурсе ўжывання беларускай мовы мясцовым друкам "З беларускім словам", прымеркаванае да 90-годдзя Васіля Быкава.

Агляд-конкурс ужывання беларускай мовы мясцовым друкам

запланавана прывесці ў другой палове 2014 года, вынікі падвесці да канца снежня 2014 года, узнагароджанне намінантаў прымеркаваць да Міжнароднага дня роднай мовы. У Пастанове вызначаны парадак правядзення конкурсу, а таксама пададзены склад журы.

**16 красавіка** сябры Магілёўскай суполкі ТБМ дапамагалі аздабляць аблічча роднага горада - высадзілі ружоўнік каля сцен гарадской ратушы. Прынялі ўдзел у высадцы ружаў каля 15 чалавек на чале са старшынём абласной арганізацыі Алегам Дзьячковым.

**18 красавіка**, у Міжнародны дзень аховы помнікаў і памятных мясцін Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны, як і кожны год у гэты дзень, правяла бясплатную пешаходную экскурсію па гістарычным цэнтры Магілёва. Праводзіў экскурсію старшыня абласной арганізацыі Алег Дзьячкоў.

Баранавіцкія сябры "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" правялі занятак ў сярэдняй школе в. Русіны, прысвечаны экалогіі. Ён меў на мэце прыцягнуць увагу дзяцей да праблемаў экалогіі, паказаць іх важнасць, а таксама разам пашукаць шляхоў вырашэння гэтых праблем. На ўроку былі разгледжаны вынікі экспертызы вады з калодзежаў вёскі Русіны, зробленай у цэнтральнай лабараторыі навукова-вытворчага цэнтра па геалогіі г. Менска. Ваду, як высветлілася, піць нельга. Шукалі разам вырашэння гэтай праблемы. Былі расповяды дзяцей пра свой удзел у захаванні чысціні прыроды, былі гульні, на якіх дзеці вучацца вырашаць экалагічныя пытанні. Так у дзяцей выхоўваецца неабыякавасць да асяроддзя свайго існавання і патрэба ўдзелу ў захаванні чысціні сваёй жыццёвай прасторы, сваёй краіны.

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выказала падзяку грамадзянам Беларусі і іншых краін свету (праз газету "Наша слова" № 20 за 14 траўня) за матрэрыяльную падтрымку, дзякуючы якой яно мае магчымасць утрымліваць офіс ТБМ у цэнтры Менска ва ўмовах пастаяннага росту кошту арэнды памяшкання. Сярод ахвярадаўцаў Старшыня ТБМ Алег Трусаў адзначыў тых, хто пастаянна падтрымлівае арганізацыю сваімі ахвяраваннямі. Поўныя спісы ахвярадаўцаў пастаянна друкуюцца ў "Нашым слове". У канцы публікацыі ТБМ падае банкаўскі рахунак для тых, хто хоча яго падтрымаць.

**У пачатку траўня** рада Віцебскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", абмерка-

ваўшы вынікі IX абласной справаздачна-выбарчай канферэнцыі, на якой адбыўся крытычны аналіз дзейнасці арганізацыі і праблем функцыянавання беларускай мовы як першай дзяржаўнай звярнулася пісьмова да Старшыні Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта А.М. Косінца.

У лісце выкладзена многае з таго, што набалела, накіпела за апошнія гады ў сяброў Таварыства і вылілася вонкі у выступах, гнеўных выказваннях, скаргах, нараканнях. Тут, у лісце адзначаны неспрыяльныя ўмовы, у якіх працуюць сябры Таварыства, усюды перашкоды для сустрэч з людзьмі - пошукі месца, узгадненні, здабыванне дазволаў - для кожнага кроку, зняважлівыя адносіны да носьбітаў беларускай мовы, беларускіх творцаў, ігнараванне.

Многія дзяржаўныя службоўцы мовы не ведаюць, не могуць весці на ёй гутарку з беларускамоўнымі наведвальнікамі.

Асаблівую заклапочанасць выклікае стан навучання беларускай мове ў сістэме народнай адукацыі. У гарадах, раённых цэнтрах няма ніводнай гімназіі, ліцэя сярэдняй школы з беларускай мовай навучання.

Абласная тапаніміка - за рэдкім выключэннем - уся па-руску. Тым самым парушаецца Закон Рэспублікі Беларусь "Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў". Назвы чыгуначных станцый, якія былі беларускімі два гады таму, цяпер чамусьці ўсе сталі рускія.

Абласная рада лічыць, што кіраўніцтва вобласці можа, калі толькі захоча, станоўча паўплываць на стан нашай мовы, асабіста Старшыня аблвыканкама Аляксандр Мікалаевіч Косінец можа вельмі нават дапамагчы, даць неабходныя даручэнні, даручыць адпаведным упраўленням аблвыканкама падрыхтаваць і правесці нараду кіраўнікоў абласных ведамстваў, гарадскіх і раённых структур па пытанні моўнай сітуацыі ў вобласці.

І ў канцы ліста - просьба асабіста прыняць кіраўніцтва абласной рады ТБМ разам з кіраўніцтвам абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў для разгляду канкрэтных пытанняў адносна ўмоў дзейнасці гэтых грамадскіх аб'яднанняў.

Падпісаліся пад лістом - па даручэнні Віцебскай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны":

І. Навумчык - старшыня абласной рады;

Ю. Бабіч - намеснік старшыні, кандыдат філалагічных навук;

У. Папковіч - паэт, перакладчык, педагог;

Л. Лукашэнка - настаўнік вышэйшай катэгорыі;

Ф. Сіўко - пісьменнік.

Па даручэнні Віцебскага аблвыканкама зварот аб стане беларус-

кай мовы і дзейнасці грамадскіх арганізацый разгледжаны галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі.

У афіцыйным адказе гэтай установы няма канкрэтных адказаў на пастаўленыя пытанні, а выкарыстоўваецца стандартны набор аргументаў, якія нібыта даводзяць, што ўсё добра ў нас з мовай. Напачатку - Закон аб мовах - дзве мовы - у справаводстве выканаўчых камітэтаў выкарыстоўваюцца абедзве. Установы адукацыі праводзяць пазакласныя мерапрыемствы, накіраваныя на папулярызацыю беларускай мовы. Сустрэчы з пісьменнікамі, мастакамі і музыкантамі, кніжныя выставы, творчыя вечарыны, літаратурна-музычныя гасцёўні; праходзяць тыдні роднай мовы.

Далей - лічбы. У вобласці 500 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі, сярод іх у 255 - выкладанне на беларускай мове, сярод іх 142 сярэднія школы. І якасць выкладання беларускай мовы - добрая, нашы на рэспубліканскай алімпіядзе пабралі амаль усе дыпломы - 13 з 16 магчымых. І да т.п. Што да асабістага прыёму старшынём аблвыканкама, то акрэсленыя ў звароце пытанні датычацца кампетэнцыі намесніка старшыні У.У. Цярэнцьева. Вось і запісвайцеся да яго на прыём.

Подпіс: Намеснік начальніка Л.К. Аленская.

**3 траўня** ў в. Русіны, на сядзібе Баранавіцкай гарадской ТБМ адбылося прадстаўленне старадаўняга беларускага тэатра "Батлейка пана Скіргайлы". Прысутнічала 80 аматараў лялечнага тэатру. Спектаклю папярэднічала грунтоўная і працяглая лекцыя пана Скіргайлы на тэму батлейкі, яе традыцый, сімволікі і гісторыі, сувязі з містыкай, рэлігіяй, архітэктурай і інш. Яскравы, прыгожы і вельмі артыстычны выступ маладых артыстаў нікога не пакінуў абыякавым.

**12 траўня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся да Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Г.Б. Давыдзькі з вострым і актуальным пытаннем пра мову асвятлення хакейнага чэмпіянату. *"У нашу арганізацыю паступаюць скаргі ад прыхільнікаў і заўзятараў хакею на тое, што тэлетрансляцыі і аналітычныя спартовыя праграмы з хакейнага першынства свету вядуцца на мове суседняй дзяржавы, а мова краіны-гаспадара чэмпіянату свету - ігнаруецца. У размовах з замежнікамі, якіх гэта дзівіць, тлумачым, што журналісты недастаткова валодаюць мовай, што няслушна. Такое недарэчнае становішча,* - заўважае Старшыня ТБМ, - *моцна псуе міжнародны імідж Рэспублікі Беларусь як незалежнай краіны..."*

*"Просім Вас неадкладна выправіць гэтае становішча і даць указанне ўсім тэлекаментатарам весці тэлетрансляцыі на дзяржаўнай беларускай мове"*, - заклікае Старшыня ТБМ Алег Трусаў.

У Менскай сядзібе ТБМ на вуліцы Румянцава адбылася прэзентацыя кнігі Валера Санько "Грэх на іх нязмыўны". Кніга пра загадкавую смерць беларускага паэта Янкі Купалы. Пісьменнік і доктар народнай медыцыны В. Санько цяжка ішоў да асэнсавання, разгадкі трагічнай падзеі. "Напісаў, што ўбачылася і ўведалася", - прызнаўся аўтар. І жанр незвычайны - аповесць-уява. Персанажы - зашыфраваныя, нібыта маскі. Прэзентацыя прайшла надзвычай эмацыйна. Кнігі расхапалі, часу не хапіла, каб задаць усе пытанні і пачуць усе адказы.

**15 траўня** з ініцыятывы Бярозаўскай гарадской арганізацыі ТБМ праведзены паэтычныя сустрэчы з з паэтамі Эдуардам Акулíным і Леанідам Дранько-Майсюком у Ходараўцах і БярозаўцыЛідскага раёна.

**16 траўня** з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшла вечарына, прысвечаная памяці Рыгора Барадуліна з удзелам Зміцера Бартосіка;

**21 траўня** па запрашэнні Баранавіцкай рады "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ў Баранавічы прыехалі галоўны рэдактар часопіса ARCHE Валер Булгакаў і яго намеснік Аляксандр Пашкевіч. Сустрэча праходзіла ў прыватным садзе грэкакаталіцкага святара айца Яўгена Маліноўскага. Госці прэзентавалі розныя нумары часопіса ARCHE і кнігі знакамітых беларускіх аўтараў. Сустрэча запомнілася цікавымі разважаннямі не толькі аб гісторыі Беларусі, але і аб цяперашнім яе стане.

**24 траўня** ў сядзібе ТБМ адбылася нарада кіраўніцтва ТБМ з сябрамі Рады ТБМ, кіраўнікамі абласных і раённых арганізацый і шараговымі актывістамі. Былі разгледжаны пытанні падрыхтоўкі да святкавання 25-годдзя з дня заснаванння ТБМ, пытанні і пазіцыі, якія будуць выносіцца на з'езд ТБМ, тэрміны правядзення справаздачна-выбарчых сходаў і парадак вылучэння дэлегатаў на з'езд.

Была разгледжана сітуацыя з газетай "Наша слова", падпіска на якую апусцілася ніжэй за 1000 асобнікаў пры тым, што ў Таварыстве 6000 сяброў. Змястоўная і цікавая газета, танная па кошту (менш

за 45000 на паўгода) не варта такіх адносін да сябе з боку сяброў Таварыства. Яны шмат губляюць з-за сваёй пасіўнасці.

Разгледжана пытанне пра аднаўленне рэгістрацыі Берасцейскай абласной арганізацыі ТБМ.

Звернута ўвага на неабходнасць больш актыўнай пастаўкі інфармацыі на партал ТБМ з рэгіянальных арганізацый і пра фармаванне на партале старонак рэгіянальных арганізацый.

Разглядаліся іншыя пытанні.

**28 траўня** ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы пры актыўным удзеле сяброў ТБМ прайшлі 2-я Лідскія чытанні, прысвечаныя 100-годдзю 1-й Сусветнай вайны.

**30 траўня** паўшоў з жыцця Генадзь Мікалаевіч Бураўкін, вядомы беларускі паэт, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, сябар Рады СБП, сябар Рады ТБМ імя Францішка Скарыны. Ён узначальваў Таварыства беларускай мовы з 1997 па 1999 гады, у самы неспрыяльны для арганізацыі перыяд. Маючы вялікі досвед арганізацыйнай працы ў якасці Старшыні Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні (1972-1990 гг.) і аўтарытэт Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Беларусі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (1990-1994 гг.) сп. Генадзь належным чынам справіўся з роллю "крызіснага менеджара". ТБМ не толькі змагло выстаяць, але і значна актывізаваць сваю дзейнасць па ўсёй тэрыторыі нашай краіны і за яе межамі.

**6 чэрвеня** ў Лідзе ў Доміку Таўлая прайшла прэзентацыя кнігі сябра ТБМ Леаніда Лаўрэша “Ліда ўчора і сёння. Гісторыя горада ў выявах”.

Газета "Наша слова" за **11 чэрвеня** надрукавала адказ новапрызначанага рэктара Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка А.Л. Жука Старшыні ТБМ Алегу Трусаву на яго ліст з віншаваннем з прызначэннем на пасаду рэктара. Сп. Жук А.Л. падзякаваў за віншаванне і адказаў на пытанні аб стане беларускай мовы ва ўніверсітэце. У БДПУ на беларускай мове вядзецца справаводства, праходзяць паседжанні Савета ўніверсітэта, выкладаюцца шматлікія спецыяльныя дысцыпліны, публікуюцца вучэбна-метадычныя дапаможнікі, выдаецца газета "Настаўнік", рыхтуюцца разнастайныя матэрыялы рэкламнага характару. Усе выпускнікі ўніверсітэта вывучаюць дысцыпліну "Беларуская мова (прафесійная лексіка)" і

валодаюць мовай тытульнай нацыі ў аб'ёме, вызначаным дзяржаўнымі адукацыйнымі стандартамі...

БДПУ мае ўсе магчымасці да арганізацыі выкладання спецыяльных дысцыплін на беларускай мове пры наяўнасці зацікаўленасці ў гэтым з боку студэнтаў.

Баранавіцкі актывіст Таварыства беларускай мовы Сяргей Гоўша атрымаў ліст з адкрытага акцыянернага таварыства "Ашчадны банк "Беларусбанк" філіял № 802 за подпісам дырэктара А.Ф. Навіцкага, у якім паведамляецца, што банк разгледзеў яго зварот па пытанні плацяжоў і выкарыстання беларускай мовы пры абслугоўванні кліентаў. Ліст доўгі, апавядае пра асаблівасці працы "Беларусбанка". Што да выкарыстання беларускай мовы, то тут адразу спасылка на Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь": "...Банк мае права пры аказанні паслуг насельніцтву выкарыстоўваць адну з дзяржаўных моў РБ - беларускую ці рускую". І хаця артыкул 50 Канстытуцыі РБ абвяшчае, што кожны грамадзянін мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін - у розных жыццёвых сітуацыях, у тым ліку для аплаты паслуг у банку. А Закон кажа: можна выбіраць адну з моваў, і банк выбірае, вядома, рускую, не парушаючы Закона і не робячы сабе праблем. Так нязменна парушаюцца правы беларускамоўнага грамадзяніна, і нічога не можа ён дабіцца, атрымлівае на свае скаргі бяздушныя адпіскі.

**У канцы траўня** Старшыня ТБМ Алег Трусаў атрымаў афіцыйны адказ Упраўлення адукацыі Менскага абласнога выканаўчага камітэта за подпісам начальніка ўпраўлення Г.М. Казака пра лёс Камароўскай школы.

У ім паведамляецца, што Упраўленне адукацыі Менскага аблвыканкама сумесна з аддзелам адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама разгледзелі з выездам на месца зварот бацькоў ДУА "Камароўская сярэдняя школа" аб ліквідацыі ўстановы адукацыі.

У сувязі з тым, што змены дэмаграфічнай сітуацыі прыводзяць да таго, што кантынгент дзяцей школьнага ўзросту няўхільна змяншаецца, і ў Камароўскай сярэдняй школе сёлета вучацца 37 чалавек, а ў недалёкім часе дойдзе да 20-21. Утрымліваць яе эканамічна невыгадна, да таго ж яна размяшчаецца ў прыстасаваных будынках, якія належаць установе "Вілейскі дзяржаўны прафесіянальна-тэхнічны каледж", які з-за гэтага мае нязручнасці. З улікам пералічанага Мядзельскім раённым выканаўчым камітэтам было прынята рашэнне "Аб ліквідацыі дзяржаўнай установы адукацыі "Камароўская сярэдняя

школа".

Згодна з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адукацыі дзяржаўныя гарантыі правоў грамадзян у сферы адукацыі забяспечваюцца прадстаўленнем магчымасці выбару ўстановы адукацыі (арт. 3) і правам выбару навучання і выхавання на адной з дзяржаўных моў (арт. 90).

Навучэнцы Камароўскай школы змогуць працягваць навучанне ў адной з двух навучальных устаноў на выбар: у ДУА "Свірская сярэдняя школа" (з рускай мовай навучання, адлегласць ад Каморова 5 км) або ў ДУА "Старчынскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад - сярэдняя школа (з беларускай мовай навучання, адлегласць ад в. Камарова - 12 км).

Не прадстаўляецца магчымым адкрыць у 2014/2015 навучальным годзе ў ДУА "Свірская сярэдняя школа" паралельныя класы з беларускай мовай навучання ў сувязі з тым, што сярэдняя напаўняльнасць класаў складае не больш, як 15 вучняў.

**15 чэрвеня** ў Гародні адбыліся гарадзенскія абласная і гарадская справаздачна-выбарчыя канферэнцыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Былі заслуханы справаздачныя даклады старшынь Гарадзенскай абласной арганізацыі А. Кроя і Гарадзенскай гарадской арганізацыі А. Пяткевіча, а таксама старшынь рэвізійных камісій за мінулы перыяд.

Была абмеркавана моўная сітуацыя ў горадзе і вобласці. Выступілі цікавыя людзі, якія робяць усё магчымае для паляпшэння гэтай сітуацыі. Асноўны ж кірунак дзейнасці таварыства - гэта змаганне за беларускае навучанне. Больш за 4 гады ў Гародні ТБМ шмат увагі надае гэтай працы, ахопліваючы больш за 30 школ.

Рашэннем канферэнцыі прынялі пастанову аб юрыдычнай рэгістрацыі Скідзельскай гарадской арганізацыі ТБМ. Былі абраныя старынині рады і рэвізійныя камісіі на новы тэрмін. Старшынём Гарадзенскай абласной рады зноў абраны Аляксандр Крой. Старшынём Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ на новы тэрмін абраны Аляксей Пяткевіч. Абраныя сябры гарадской і абласной радаў, выказаны рэкамендацыі па кандыдатурах у склад рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны ад Гарадзеншчыны. Абраныя дэлегаты на чарговы з'езд ТБМ.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў атрымаў афіцыйны адказ ад генеральнага прадзюсера Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь С.Р. Булацкага на свой зварот з просьбай весці рэпартажы з чэмпіянату свету па хакеі на беларускай мове. Адказ

ягоны цалкам прадказальны: у нас дзве дзяржаўныя мовы, і "мы даём нашым тэлекаментатарам поўную свабоду выбару, на якой мове ім весці свае рэпартажы і аналітычныя праграмы". І далей: павінны з Вамі пагадзіцца, што сёння беларуская мова займае зусім не тое месца, якога заслугоўвае. Але пачынаць трэба не з тэлебачання, а са школы, з пачатковай адукацыі.

Усё ж адзначана, што пэўная колькасць спартыўных праграм выходзіць у эфір на беларускай мове. Гэта "Відэажурнал Лігі чэмпіёнаў УЕФА" і некаторыя выпускі "Агляд тура Англійскай футбольнай лігі", каментатар - Павел Баранаў. Таксама па-беларуску вядзе свае рэпартажы каментатар Дзмітрый Герчыкаў.

**19 чэрвеня** Беларусь адзначыла 90-годдзе з дня нараджэння Народнага пісьменніка і ўдзельніка вайны Васіля Уладзіміравіча Быкава. У дачным пасёлку Ждановічы-6 пад Менскам адкрыўся музей Васіля Быкава. Выйшла непадцэнзурнае выданне твораў пісьменніка "Мёртвым не баліць", "Ліквідацыя", у менскай галерэі "Ў" адбылася прэзентацыя 10 тома поўнага збору твораў Васіля Быкава.

**20 чэрвеня** З ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у цэнтральнай раённай бібліятэцы горада Ліды адбылася імпрэза, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Прысутнічалі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Лідчыны, а таксама вучні Ёдкаўскай сярэдняй школы.

**21 чэрвеня** на Быкаўскае свята ў вёсцы Бычкі прыехала некалькі сотняў чалавек з усіх куткоў Беларусі, было шмат сяброў ТБМ з Віцебска, Полацка і Наваполацка, Шаркаўшчыны, Паставаў, Магілёва і Шклова. Імпрэзу вёў старшыня Віцебскага ТБМ Іосіф Адамавіч Навумчык. У падзеі ўзялі ўдзел Аляксандр Мілінкевіч, Мечыслаў Грыб, Алег Трусаў, Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Уладзімір Някляеў, Барыс Пятровіч і іншыя грамадскія дзеячы. Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Алег Трусаў сказаў: *"У гэты ўрачысты дзень мы ўзгадваем, што спадар Быкаў быў найбуйнейшым палітыкам XX стагоддзя. 19 кастрычніка 1988 года ён удзельнічаў у стварэнні Беларускага народнага фронту ў будынку тагачаснага Дома кіно. Дзякуючы такім людзям, як Быкаў будзе беларуская мова, лепшая наша памяць аб ім, гэта калі мы будзем размяўляць 25 гадзін у суткі па-беларуску..."*

**21 чэрвеня** адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя

Менскай гарадской арганізацыі ТБМ. На ёй са справаздачным дакладам выступіла Алена Анісім, якая распавяла пра тое, што было зроблена за справаздачны перыяд. У прыватнасці, яна адзначыла, што паспяхова развіваецца газета "Новы час", заснаваная Менскім ТБМ. Правілы дарожнага руху на беларускай мове былі падрыхтаваны сябрамі сталічнай арганізацыі; шматлікія кампаніі ў падтрымку беларускай лацінкі, за прыярытэт беларускай мовы ў геаграфічных назвах таксама рабіліся пры актыўным удзеле менскіх сяброў Таварыства.

Пасля абмеркавання прысутныя аднагалосна ацанілі дзейнасць сталічнай арганізацыі ў справаздачны перыяд як здавальняльную.

Адбыліся выбары новага старшыні. Ім быў абраны кіраўнік клуба "Прамова" Алесь Давідовіч. Намеснікам старшыні абралі Тацяну Фадзееву.

**25 чэрвеня** газета "Наша слова" надрукавала распрацаваны Таварыствам беларускай мовы падпісны ліст з прапановай мерапрыемстваў дзеля ўшанавання памяці паэта Генадзя Бураўкіна:

1) назваць у гонар Бураўкіна вуліцы ў Менску і Ўшачах;

2) усталяваць у Менску на доме, дзе жыў паэт, мемарыяльную шыльду;

3) у 2016 годзе выдаць мастацкі канверт або паштоўку з выявай юбіляра.

Сабраныя за гэтыя прапановы подпісы грамадзян маюць быць дасланыя Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь М.У. Мясніковічу.

**26 чэрвеня** ў галерэі "Ў" Таварыства беларускай мовы ўрачыста адзначыла сваё 25-годдзе.

На імпрэзу з'ехаліся сябры грамадскага аб'яднання з усіх куткоў Беларусі.

Прысутнічалі ганаровыя госці - пасол Швецыі ў Беларусі Марцін Оберг, пасол Чэхіі Мілан Экерт, прэс-аташэ па культуры пасольства Польшчы Эльжбета Шчапанска-Дамброўска, дыпламаты з Украіны, Казахстана, творчая інтэлігенцыя.

Прывітальныя словы першага Старшыні Таварыства, Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча зачытала вядоўца імпрэзы, намесніца Старшыні ТБМ Алена Анісім, паколькі па стане здароўя ён сам не мог прысутнічаць на ўрачыстасці. Удзельнікі імпрэзы ўшанавалі памяць другога Старшыні ТБМ Генадзя Бураўкіна, які напрыканцы траўня пакінуў гэты свет.

З кароткай справаздачай пра дзейнасць ТБМ выступіў Старшыня грамадскага аб'яднання Алег Трусаў.

На сённяшні дзень у шэрагах "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" больш за 6 тысячаў сяброў, ТБМ выдае дзве газеты "Наша слова" і "Новы час", літаратурны часопіс "Верасень", краязнаўчы часопіс "Лідскі летапісец".

З цёплымі словамі выступіла першы сакратар пасольства Украіны ў Беларусі Марыя Гуцала, якая зачытала віншаванне Пасла Ураіны Міхаіла Ежаля. Яе віталі воклічамі: "Слава Украіне! Героям слава!"

Больш за 40 актыўных сяброў ТБМ былі ўганараваныя падзякамі ТБМ з нагоды 25 угодкаў Таварыства, сярод іх Ніл Гілевіч, Анатоль Грыцкевіч, Эдуард Акулін, Алесь Бяляцкі, Вольна Іпатава, Ніна Шыдлоўская, Іна Кулей, Эрнэст Ялугін, Людміла Дзіцэвіч ды іншыя. Людміла Дзіцэвіч адказала на падзяку сваім вершам "Як мы ратавалі мову і Беларусь".

Шэраг сяброў ТБМ за ўклад у беларускамоўную адукацыю ўзнагароджаны дыпломамі Таварыства беларускай школы, якія ўручыў Алесь Лозка.

10 чалавек атрымалі ў падарунак наборы кніг з бібліятэкі "Радыё Свабода".

Зала была аздоблена адмысловымі банэрамі з сімволікай ТБМ.

У другой частцы ўрачыстай імпрэзы з нагоды 25-годдзя ТБМ гасцей віталі музыкі - барды Алесь Камоцкі, Зміцер Бартосік, Эдуард Акулін, Тацяна Беланогая; гурт "Рэха" і яго саліст Андрусь Такінданг.

Свята юбілею ТБМ пакінула шмат станоўчых уражанняў і ў чарговы раз засведчыла: бедаруская мова жыве!

**27 чэрвеня** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоз Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь.

*"Цяпер амаль усе законы ў нашай краіне прымаюцца толькі на рускай мове, і не існуе афіцыйнага перакладу іх на дзяржаўную беларускую мову, што з'яўляецца парушэннем дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь",* - канстатуе Таварыства беларускай мовы і прапануе - *"... З 1 верасня 2014 г. усе законы і падзаконныя акты адразу прымаць на дзвюх дзяржаўных мовах, а таксама зрабіць афіцыйны пераклад папярэдніх законаў, якія былі прынятыя толькі на рускай мове, на дзяржаўную беларускую мову і змясціць іх на адпаведных сайтах".*

## Дадатак

***Леанід Лыч***
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар*

# Таварыству беларускай мовы - 25 гадоў

Дзень нараджэння гэтага таварыства прыпадае на 27 чэрвеня 1989 года. На той нечуванай нацыянальнай актыўнасці час падобнага роду таварыствы, зразумела, толькі іншых моваў ужо існавалі ва ўсіх саюзных рэспубліках. Беларусь ў развязванні гэтай лёсавызначальнай для яе тытульнай нацыі праблемы была ў аўтсайдарах. Ушчыльную заняцца ёю стала магчымым толькі ва ўмовах Гарбачоўскай перабудовы. Апошні ў бясслаўнай гісторыі бальшавізму Генеральны сакратар ЦК КПСС нарабіў шмат сур'ёзных, ракавых памылак, а вось яго погляды, практычныя крокі па ўдасканаленні крайне абвостраных міжнацыянальных дачыненняў у СССР насілі прагрэсіўны характар, былі скіраваны на спыненне далейшай русіфікацыі савецкіх нацый і народнасцяў.

Ад грубых памылак, злых намераў высокіх ідэолагаў нацыянальнай палітыкі КПСС вялікія страты панеслі нацыянальныя мовы ўсіх без выключэння, нярускіх народаў. Некаторыя самыя малыя з іх засталіся зусім без родных моваў, уяўляючы сабой безаблічную этнічную біямасу. Не жадаючы паўтарыць такі трагічны лёс, нацыянальнай арыентацыі палітыкі і інтэлектуальная эліта ўсіх саюзных рэспублік нібыта па камандзе зверху пачалі ствараць у сябе таварыствы па выратаванні, ахове іх родных моваў, што ў час Гарбачоўскай перабудовы не толькі не забаранялася, а наадварот, усяк заахвочвалася. На такі выратавальны крок, хоць і самымі апошнімі, нарэшце адважыліся і партыйныя, і савецкія органы Беларусі. На добры лад ім трэба было быць піянерамі гэтага абумоўленага часам прагрэсіўнага нацыянальнага руху, бо нідзе родная мова карэннага народа не мела такіх мізэрных сацыяльных функцыяў, як у БССР. Па мове, а гэта ж галоўны фактар вызначэння нацыянальнай прыналежнасці людзей, нашую рэспубліку ніяк нельга было назваць "Беларускай". Для гэтай мэты мелася патрэба ў зусім іншай дэфініцыі. На вялікае шчасце, абышліся без яе, бо кіраўніцтва БССР, бачачы велізарнае, шчырае, гістарычна апраўданае жаданне прагрэсіўных колаў беларускага грамадства застававацца з роднай мовай, з цягам часу не толькі пайшло ім насустрач, але і само пачало праяўляць непасрэдную зацікаўленасць, рабіць канкрэтныя практычныя крокі па пашырэнні сацыяльных функцый роднай мовы сваёй тытульнай нацыі.

З гэтай мэтай ідэалагічныя службы ЦК КПБ праводзяць у сябе сустрэчы з кампетэнтнымі ў моўным пытанні асобамі, дазваляюць, не ўтойваючы дапушчаных памылак, аб'ектыўна асвятляць яго ў сродках масавай інфармацыі. Апошнія з вялікім задавальненнем выкарыстоўвалі атрыманыя ад аўтараў матэрыялы па міжваеннай беларусізацыі, бо пад час яе справу нацыянальна-культурнага Адраджэння ўдалося трывала паставіць на дзяржаўныя рэйкі і атрымаць ад гэтага пазітыўныя вынікі.

Паўтарыць такое ва ўмовах Гарбачоўскай перабудовы было непараўнальна цяжэй: народ стаў куды больш зрусіфікаваным, у значнай ступені вёска страціла сваю спрадвечную здольнасць быць калыскаю беларускага культурна-моўнага жыцця. Надаць патрэбную моц нацыянальна-культурнаму адраджэнню перашкаджаў прафесійны склад такога важнага звяна партыйнага апарату, як райкамы КПБ. У 1989 годзе, напрыклад, ажно 96 працэнтаў іх першых сакратароў мелі тэхнічную адукацыю. Мала хто з іх як след разумеў выключную ролю беларускай мовы ў лёсе тытульнага народа рэспублікі, меў хоць самыя цмяныя ўяўленні пра яго дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае, пра магутны нацыянальны ўздым людзей пад час міжваеннай беларусізацыі. На дзве нагі кульгала нацыянальная свядомасць педагагічнай інтэлігенцыі, ад якой так многа залежыць у выхаванні маладых пакаленняў гатоўнасці, жадання да ўдзелу ў адраджэнцкім працэсе.

З прычыны самай моцнай буйнамаштабнай у параўнанні з іншымі рэспублікамі зрусіфікаванасці жыхарства Беларусі першыя два-тры гады перабудовы далі крайне мала для нацыянальнага адраджэння, а дзесьці яно нават зусім не назіралася. Болей за тое, не без удзелу зацікаўленых асоб яно давала нават задні ход. Датычыла гэта і гарадскіх агульнаадукацыйных школ: у іх агульнай колькасці ўдзельная вага беларускамоўных установ зменшылася з 32,0 % у 1987/88 н.г. да 20,6% у 1988/1989 н.г.

Узмацненне нацыянальна-культурнага руху ва ўсіх саюзных і аўтаномных рэспубліках СССР ніколькі не апраўдвала зайздроснай пасіўнасці ледзь не абсалютнай большасці беларускага грамадства. І ўсё ж нарэшце і ў яго асяроддзі пачалі з'яўляцца асобы, гатовыя на сапраўдныя патрыятычныя ўчынкі дзеля выратавання нацыі ад русіфікацыі.

Добра вядома, як на працягу пасляваенных гадоў нават айчынныя пісьменнікі з празмернай асцярожнасцю выказваліся на сваіх з'ездах, пленумах пра цяжкі лёс беларускай мовы. Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі рабілі ўсё, каб боль пісьменнікаў пра роднае слова не дайшоў да народа. Перабудова паклала канец такой шкоднай традыцыі, чаму досыць багата пераканаўчых доказаў можна знайсці ў тагачасным перыядычным друку, у тым ліку і ў змешчаным 13 студзеня 1989 года ў газеце "Літаратура і мастацтва" артыкуле старшыні праўлення саюза пісьменнікаў Беларусі, народнага паэта БССР Максіма Танка "Лёс мовы, лёс народа". Перагартай усе газеты БССР за 1994 - 1988 гг. і не знойдзеш у іх нічога падобнага на такі загаловак, а тым больш на яго змест, напрыклад, на такую вытрымку: беларуская мова *"за гады розных валюнтарысцкіх эксперыментаў выпала*

*з нармальнага кругазвароту жыцця, ужывання ва ўстановах, ВНУ, школах.*

*(...) найбольш дзейсным было б, каб беларуская мова заняла свой пачэсны дзяржаўны пасад."*

Гэта было вельмі смелае меркаванне паэта, бо ідэолагі камуністычнай партыі ад першых пасляваенных гадоў рабілі ўсё і дамагліся таго, што дзяржаўны пасад у БССР перайшоў да рускай мовы - мовы, як любілі заяўляць, не так ужо і далёкага для нас шчаслівага камуністычнага грамадства.

Пры поўнай згодзе, а здаралася і падтрымцы ідэалагічных службаў ЦК КПБ, пры іх непасрэным удзеле нацыянальна зарыентаваная частка інтэлігенцыі, пераважна пісьменнікі, мастакі, навукоўцы-гуманітарыі, педагогі пачалі на зыходзе 1988 года, як ніколі раней, усё больш катэгарычна выказвацца за стварэнне адмысловай грамадскай арганізацыі па абароне беларускай мовы, бо сацыяльная роля яе працягвала няўхільна зніжацца. З вялікай трывогай пісалі пра гэта многія заклапочаныя гаротным станам беларускай мовы людзі, пры чым не толькі прафесійна звязаныя з яе выкарыстаннем. Жаданыя перамены не прымусілі сябе доўга чакаць.

З 17 лютага 1989 года газета "Літаратура і мастацтва" пачала друкаваць грунтоўны артыкул першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэта Ніла Гілевіча "Між былым і наступным", у якім, асабліва ў "Сшытку другім" аўтар, думаецца, сказаў, калі не ўсё, дык амаль усё датычна прычын занядбання роднай мовы беларусаў, пра што дзесяцігоддзямі так упарта маўчалі бальшавіцкія ідэолагі. Аднак значэнне згаданага артыкула найбольш бачылася ў тым, што яго аўтар першы ў рэспубліцы публічна выказаў пільную патрэбу ў стварэнні Таварыства беларускай мовы ці Таварыства беларускага слова, вызначыўшы яго (Таварыства) асноўныя абавязкі.

Прадметная гаворка пра стварэнне ТБМ ішла таксама падчас правядзення супрацоўнікам рэкалегіі газеты "Літаратура і мастацтва" Уладзімірам Ягоўдзікам інтэрвію з Нілам Гілевічам (надрукавана 24 сакавіка 1989 года). Дазволю сабе прывесці больш падрабязную вытрымку з той размовы. *"Ідэя стварыць у рэспубліцы Таварыства беларускай мовы,* - прызнаўся Н. Гілевіч, - *жыве ў маёй душы даўно. Цяпер, ва ўмовах перабудовы, я адчуў, што прыйшла пара для яе ажыццяўлення. Шкадую, што не выйшаў з ёю "на людзі" гады тры ці два назад - сёння б ужо мелі, не сумняваюся, добрыя плёны з працы гэтага таварыства".* Яго галоўныя задачы справядліва бачыліся паэтам у прапагандзе *"ідэі захавання і развіцця беларускай мовы", садзейнічанні" вывучэнню яе і павышэнню яе статусу ў рэспубліцы"*, выхаванні *"павагі і любові да роднага слова. "Ячэйкі" таварыства могуць існаваць у школах і тэхнікумах, у інстытутах і ўніверсітэтах, на фабрыках і заводах, у дзяржаўных і грамадскіх установах і г.д."* У гэтым інтэрв'ю Н. Гілевіч паведаміў прыемную для многіх шчырых руплііўцаў роднага слова навіну, што Сакратарыят саюза пісьменнікаў Беларусі прыняў рашэнне аб стварэнні аргкамітэта, які зоймецца

распрацоўкай праграмы і статута ТБМ, падрыхтоўкай да правядзення Устаноўчай канферэнцыі.

І трэба зазначыць, што праца ў гэтым кірунку вялася даволі актыўна. Ужо да сярэдзіны красавіка 1989 года адбылося першае паседжанне аргкамітэта па ўтварэнні рэспубліканскага ТБМ. Наколькі сур'ёзна ставіліся ў рэспубліцы да лёсу беларускай мовы, добра можна меркаваць паводле персанальнага складу аргкамітэта. Прывяду ўсіх іх паіменна, бо народ павінен ведаць сваіх герояў: міністр народнай адукацыі БССР **Міхаіл Дзямчук**, загадчык сектара ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ **Анатоль Бутэвіч**, дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР **Віктар Каваленка**, дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР **Аляксандр Падлужны**, намеснік дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР **Анатоль Фядосік**, доктар філасофскіх навук **Уладзімір Конан**, прафесар **Фёдар Янкоўскі**, галоўны рэдактар часопіса "Беларуская мова і літаратура ў школе" **Міхась Шавыркін**, галоўны рэдактар "Настаўніцкай газеты" **Алег Куліцкі**, старшыня калгаса імя "40 год Кастрычніка" Іванаўскага раёна **Уладзімір Бялюк**, настаўнік Гудзевіцкай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы Мастоўскага раёна **Алесь Белакоз**, першы сакратар праўлення СП БССР **Ніл Гілевіч**, пісьменнікі **Янка Брыль, Анатоль Клышка, Барыс Сачанка**, а таксама прадстаўнікі іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый і ўстаноў. Гэтыя людзі выдатна разумелі ролю роднай мовы беларусаў і ведалі, што трэба рабіць, каб вярнуць ёй незаконна забраныя ў яе ў выніку грубых хібаў савецкай нацыянальнай палітыкі правы. Для ажыццяўлення падрыхтоўчай працы па правядзенні ўстаноўчага з'езду ТБМ абралі рабочую групу на чале з Н. Гілевічам.

У ходзе палемікі аб стане беларускай мовы ўсё больш выразна пачалі выказвацца цалкам абгрунтаваныя думкі пра неабходнасць надання ёй статусу адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы. Больш за ўсё такія матэрыялы друкавала газета "Літаратура і мастацтва", галоўным рэдактарам якой з'яўляўся паэт зайздроснай нацыянальнай арыентацыі **Анатоль Вярцінскі**. Такога роду палеміку яна адкрыла артыкулам аўтара гэтых радкоў "Беларускай мове - статус дзяржаўнай" (28 кастрычніка 1989 г.). Займаў ён больш за дзве газетныя старонкі.

Праблема беларускай мовы яшчэ ніколі так грунтоўна не абмяркоўвалася, як на праведзеным у траўні 1989 года пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яго старшыня, народны паэт Максім Танк сказаў такое, пра што на людзях дзесяцігоддзямі маўчалі ўсе: *"Агулам, планава праводзілася выжыванне беларускай мовы са школ і ўсіх устаноў, бо лічылі, што... нацыянальныя мовы і культуры з'яўляюцца амаль галоўнымі перашкодамі на шляху да камунізму"*. Ад прамоўцы пачулі і такія словы: *"... неабходна помніць аб тым, што знікненне нацыянальных моў і культур* (а гэта ж відавочная з'ява для пасляваеннай Беларусі. - *Л.Л.*) *нат найменшых народаў - гэта высыханне і адміранне тых крыніц і рэк, якімі напаўняюцца моры і акіяны"*. Ва ўнісон панаваўшым у той час ў рэспублі-

цы настроям Максім Танк выказаўся за вяртанне беларускай мове статусу дзяржаўнай, бо *"без заканадаўчага рашэння гэтага пытання, што бы ні рабілі ў сферы ўжывання беларускай мовы, яна няспынна будзе скарачацца".*

На гэтым жа пленуме ў якасці судакладчыка выступаў Н. Гілевіч, закрануўшы ход стварэння ў рэспубліцы ТБМ. Зацікаўленасць прысутных у зале да гэтай так наспелай праблемы была выяўлена ў дастаткова высокай ступені. Аналагічнае можна сказаць і пра выступ старшыні моўнай камісіі Беларускага фонду культуры Пятра Садоўскага. Усіх моцна ўсхвалявала, абурыла паведамленне, што распрацаваны год таму праект праграмы адраджэння беларускай мовы не пажадала змясціць ніводнае з рэспубліканскіх выданняў. Каб выправіць такое нічым неапраўданае недарэчнае стаўленне да мовы тытульнай нацыі, рэдакцыя газеты "ЛіМ" змясціла праект (заняў дзве старонкі) 26 траўня 1989 года.

У гэтым жа годзе 9 чэрвеня 1989 года быў надрукаваны праект Статута Таварыства беларускай мовы, што, несумненна, паспрыяла папулярызацыі, пры чым не толькі сярод творчай інтэлігенцыі, ідэі яго стварэння.

Устаноўчаму з'езду ТБМ папярэнічала вельмі важная для адраджэнцкага працэсу Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Народ. Культура. Перабудова" (Менск, 15 - 16 чэрвеня). На яе сабралася, без перабольшання, краса беларускай нацыянальнай інтэлігентыі. Бралі ўдзел і прагрэсіўнай нацыянальнай пазіцыі афіцыйныя асобы. У якасці яе арганізатараў выступілі Мінсітэрства культуры БССР, Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры, Акадэмія навук БССР. Адкрыў канферэнцыю яе віца-прэзідэнт, пісьменнік Іван Навуменка. Вялікую зацікаўленасць у прысутных выклікалі сваім канструктыўным характарам даклады міністраў культуры і адукацыі Яўгена Вайтовіча і Міхаіла Дземчука. Самых актуальных праблем беларускай мовы датычылі выступленні А. Анічэнкі (Гомель), У. Калесніка (Берасце), У. Конана, А. Лойкі, Л. Лыча, А. Падлужнага, П. Садоўскага (усе з Менска) і інш. Практычна ўсе выказаліся пра неабходнасць надання беларускай мове статусу дзяржаўнай.

Канструктыўны характар мелі прынятыя на канферэнцыі Рэкамендацыі. Яе ўдзельнікам прапаноўвалася далучыцца *"да рашэння Пастаяннай камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР аб усямерным паляпшэнні вывучэння і выкарыстання беларускай мовы, стварэнні неабходных умоў для таго, каб надаць ёй статус дзяржаўнай пры захаванні за рускай мовай статусу мовы міжнацыянальных зносін."*

Прапаноўвалася: *"З гэтай мэтай ... разгарнуць масавую растлумачальную і прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, фарміраваць грамадскую думку для хутчэйшага вырашэння данай праблемы.*

*(...) Пашыраць выкарыстанне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, на практыцы забяспечыць нацыянальнае двухмоўе.*

*Настойліва весці справу да таго, каб усе жыхары рэспублікі добра*

*валодалі рускай і беларускай мовамі, свабодна імі карысталіся."*

Удзельнікі канферэнцыі мелі добрую дасведчанасць пра ход падрыхтоўкі да правядзення з'езду з мэтай стварэння ТБМ, таму не маглі не выказаць свайго стаўлення да такой праблемы. У прынятых рэкамендацыях яны выказаліся ў падтрымку гэтай ідэі і заявілі, што органам культуры, народнай адукацыі, навуковым установам неабходна будзе аказаць усебаковую дапамогу дзейнасці такога таварыства.

Менш як праз дзесяць дзён пасля гэтай канферэнцыі 24 - 25 чэрвеня праходзіў у Вільні ўстаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту за перабудову "Адраджэньне". Адна з прынятых на ім рэзалюцый мела назву "Аб дзяржаўнасці беларускай мовы". Сваю шчырую прыхільнасць да яе дэлегаты і госці з'езду выказалі і тым, што частка іх прысутнічала на беларускамоўным набажэнстве ў віленскім касцёле святога Мікалая.

Не мінула і дваццаці дзён ад часу надрукавання Статута ТБМ, як 27 чэрвеня ў Доме літаратара ў Менску адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы, які прыняў з невялікімі папраўкамі і дапаўненнямі гэты Статут. На з'ездзе прысутнічала каля 300 чалавек самых розных прафесійных статусаў. Яго вітала намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Ніна Мазай, выказаўшы надзею, што з'езд *"стане прыкметнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі"*. У сваім прывітальным слове яна прыраўняла беларускую мову да *"таго вялікага скарбу, які мы павінны зберагчы, перадаць нашчадкам, без якога наша існаванне як народа немагчыма"*. Гаварылася пра неабходнасць *"пачаць сур'ёзную і канкрэтную практычную работу па пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы"*, у тым ліку і *"органамі дзяржаўнага кіравання"*. *"Патрабуе,* - гаварыла гэтая высокая дзяржаўная асоба, - *значна большай увагі асветніцкая, тлумачальная праца сярод насельніцтва рэспублікі, каб давесці да сэрца і розуму кожнага веліч роднай мовы, адказнасць за яе будучыню, пашану да яе"*. Зала бясконца радавалася пачутаму.

З асноўным дакладам на з'ездзе выступіў старшыня аргкамітэта па стварэнні Таварыства беларускай мовы Н. Гілевіч. Прамоўца справядліва зазначыў, што лёс беларускай культуры і мовы ў найвышэйшай ступені будзе залежаць ад рэальнасці самой палітычнай суверэннасці Беларусі, сапраўднага характару народаўладдзя. *"Калі намі сур'ёзна ўзяты курс на рэальнае, а не папяровае забеспячэнне суверэнных правоў Беларусі,* - гаварыў дакладчык, - *то павінен быць неадкладна ўзяты курс і на наданне беларускай мове статусу дзяржаўнай мовы БССР. Без такога статусу, г.зн. без канстытуцыйна зацверджанай прававой асновы, яна не зможа натуральна функцыянаваць ва ўсіх сферах жыццядзейнасці народа, без гэтага немагчыма будзе падняць яе аўтарытэт і прэстыж, яна будзе заставацца ў ролі другараднай, у становішчы падчаркі і папялушкі"*.

Прамоўца, як у ваду глядзеў, заявіўшы, што самыя вялікія цяжкасці пачнуцца тады, калі ўжо справа дойдзе да практычнага ўкаранення беларускай мовы ў грамадскае жыццё.

З наданнем беларускай мове статусу дзяржаўнай пагаджаліся ўсе выступоўцы, а Пётр Садоўскі пераканаўча давёў прысутным, што толькі яна адна павінна валодаць такімі правамі ў БССР. Зала з вялікай радасцю прыняла вестку ад сакратара Менскага гракама партыі Пятра Краўчанкі, што сталічны партыйны орган выступіў за наданне статусу дзяржаўнай беларускай мове. Слушнай была прапанова гэтага партыйнага дзеяча: *"рыхтаваць насельніцтва псіхалагічна да таго, што неўзабаве родная мова загучыць паўсюдна. Першы этап - выкладанне па-беларуску ў школах, потым - у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, вучылішчах. Беларуская мова павінна прыйсці ... у наш штодзённы побыт".* Гэтаму ніяк нельга запярэчыць.

Навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя А.М. Горкага Акадэміі навук СССР Аляксей Каўка, беларус па нацыянальнасці, ураджэнец Чэрвенскага раёна, назваў стварэнне Таварыства беларускай мовы гістарычнай падзеяй, што яно стане свайго роду помнікам усім тым, хто ў розныя часы змагаўся за правы сваёй роднай мовы на жыццё.

Лічу вартым увагі, што сярод выступоўцаў былі і тыя, праца каго непасрэдна не звязаная з прафесійным выкарыстаннем беларускай мовы, навучаннем у школе: ксяндзы В. Чарняўскі, Я. Матусевіч (в. Вішнева Валожынскага і в. Баруны Ашмянскага раёнаў), дыспетчар завода шасцерань У. Шушкевіч (Лепель), сакратар Менскага гаркама КПБ П. Краўчанка, загадчык аддзела інстытута "Белспецпраектрэстаўрацыя" А. Трусаў, прадстаўнік цэнтра беларускай культуры ў Літве В. Стэх (г. Вільня), рабочы Менскага аўтазавода П. Змітрук, мастак М. Купава (Менск). Шкода толькі, што сам даклад, выступленні былі пададзены ў газеце ў пераказе.

Сход надаў ТБМ імя Францішка Скарыны, прыняў Зварот да грамадзян Беларускай ССР, да беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі, да ўсіх прыхільнікаў беларускага слова. Усе яны заклікаліся *"з разуменнем і адчуваннем гістарычнай адказнасці паставіцца да катастрафічнага становішча беларускай мовы на Беларусі - падтрымаць шматлікія прапановы грамадскасці аб неадкладным наданні ёй дзяржаўнага статусу ў рэспубліцы".* У ім было сказана пра неабходнасць *"з пашанай ставіцца да культуры і мовы людзей усіх нацыянальнасцяў Беларусі".* Словам і чынам дапамагаць адраджэнню і развіццю беларускай мовы заклікаліся беларусы, што жывуць у іншых саюзных рэспубліках і за межамі СССР. Зварот заканчваўся такім сказам: *"Няхай жыве і квітнее беларуская мова - раўнапраўная сястра ў вялікай моўнай сям'і свету".*

Неўзабаве пасля ўстаноўчага з'езду ТБМ адбылося пасяджэнне яго рады, на якім быў абраны яе сакратарыят у складзе 11 чалавек: Н. Гілевіч (старшыня), А. Падлужны, П. Садоўскі, Я. Цумараў - намеснік, С. Вітушка, А. Клышка, А. Куліцкі, Л. Лыч, М. Міхноўскі, Б. Сачанка, Г. Тычка - сябры. На гэтым паседжанні былі ўтвораны наступныя камісіі: па арганізацыі навучання беларускай мове; па выпрацоўцы тэрміналогіі і ўдасканаленні алфавіту; па культуры мовы, па гукавым і зрокавым афармленні навакольнага асяроддзя; па захаванні моўных скарбаў; па тапаніміі; па сувязях з

беларусамі замежжа; арганізацыйна-прапагандысцкая.

Не марудзячы ні дня, ТБМ, яго першасныя суполкі з зайздроснай актыўнасцю ўключыліся ў так патрэбную для народа працу. Абсалютная большасць людзей паверыла ў рэальнасць адраджэння сваёй, такі працяглы час закабаленай уладамі, роднай мовы і ўсяляк дапамагала ёй стаць на ногі. Але ў сярэдзіне 1990-х гадоў знайшліся ў краіне сілы ў асобе самога дзяржаўнага чыноўніцкага апарату, якія вымусілі беларускае культурна-моўнае адраджэнне даць задні ход. Пачынаючы з травеньскага (1995 г.) рэферэндуму, па выніках якога ў Рэспубліцы Беларусь і рускай мове, насуперак сусветнай практыцы, надалі статус дзяржаўнай, яно і кроку не зрабіла наперад. Маштабы афіцыйнага выкарыстання беларускай мовы зведзены ўладамі амаль да нулявой адзнакі, што ледзь не цалкам вывела яе (мову) з міжасобаснага ўжытку і сучаснае становішча беларускай мовы ў грамадскім жыцці краіны іншым словам нельга назваць, як катастрафічнае. Для нашай дзяржавы родная мова тытульнай нацыі - пятае кола ў возе. Уся надзея на выратаванне беларускай мовы - сам народ, найперш яго нацыянальна-самасвядомая частка.

Але як гэта не цяжка прызнаць, мушу заўважыць, што сёння паводле ўздзеяння на адраджэнцкі працэс нацыянальнага гарту колы беларускага грамадства ў дзясяткі ра-зоў слабейшыя за тых, хто змагаўся за родную мову на рубяжы 1980 - 1990 гадоў. Дзяржава сваёй сістэмнай этнаруйнавальнай дзейнасцю вельмі аслабіла нацыянальна-патрыятычныя сілы народа, і як прамы вынік гэтага роля беларускай культуры і мовы проста зведзена да крытычнай мяжы. У духоўным жыцці Рэспублікі Беларусь вяршэнствуюць чужыя ёй руская культура і мова. Моцна залежныя ад Масквы беларускія ўлады ні за што не пагодзяцца нават на сімвалічнае змяненне такой катасрафічнай сітуацыі і надалей будуць праводзіць нацыяразбуральную, а не нацыястваральную палітыку. У такіх экстрэмальных варунках нам неабходна ўдзесяцярыць свае намаганні па за-хаванні і беларускай нацыянальнай культуры, і беларускай мовы. Думаю, дзеля гэтага творчы патэнцыял Таварыства беларускай мовы выкарыстоў-ваецца не на ўсе сто працэнтаў.

Грунтоўнае азнаямленне з матэрыяламі перыядычнага друку другой паловы 1980-х гадоў, набыты ў тыя гады ад удзелу ў адраджэнцкім руху ўласны досвед цвёрда пераканалі мяне ў тым, што ніхто не ўнёс такога вялізнага ўкладу ў стварэнне ТБМ, як адзін з самых любімых беларускім народам паэтаў Ніл Гілевіч. Ён, несумненна, заслужыў таго, каб грамадскай арганізацыі па абароне беларускай мовы ў сувязі з 25-гадовым юбілеем прысвоіць такую назву: "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Ніла Гілевіча". У сусветнай практыцы вядомыя рознага роду грамадскія арганізацыі з двума імёнамі. Чаму б тады і нам, беларусам, не далучыцца да іх?

*"Наша слова" № 33 (1184), 13 жніўня 2014 г.*

# ЗМЕСТ



**Летапіс Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". 2009 - 2014.** Інфармацыйна - даведачнае выданне. Мн., 2014. 168 с. Размножана на правах рукапісу. Папера афсетная. Фармат А-5. Гарнітура "Таймс". Наклад 240 асобнікаў.

## Сайт газеты “Новы час”




***novychas.info***

## Сайт газеты “Наша слова”




***naszaslowa.by***